УДК 811.161.1’(082)
ББК 81.2Беи-5
Б43



Р э ц э н з е н т ы:

кандыдаты філалагічных навук А. У. Андрэева, А. А. Акуленка

Б43 **Беларуская лінгвістыка.** Вып. 67 / НАН Беларусі, Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы; рэдкал.: А. А. Лукашанец (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Беларус. навука, 2011. – 205 с.

Часопіс уключае артыкулы айчынных даследчыкаў, прысвечаныя актуальным пытанням беларускага мовазнаўства. Праблемы функцыянавання беларускай мовы разглядаюцца на лексічным, марфалагічным, фанетычным, словаўтваральным і сінтаксічным узроўнях. Пэўнае месца ў выпуску займаюць артыкулы па пытаннях лексікаграфіі, арфаэпіі, пунктуацыі, фразеалогіі, дыялекталогіі, тэрміналогіі, этымалогіі, гісторыі мовы і супастаўляльнага даследавання. У часопісе змешчаны матэрыялы хронікі, нататкі па культуры мовы і этымалогіі, рэцэнзіі.

Разлічаны на мовазнаўцаў, настаўнікаў, студэнтаў, журналістаў.

**УДК 811.161.1’(082)**
**ББК 81.2Беи-5**

*УДК 811.161.1’374.822=161.3*

*В. М. НІКАЛАЕВА, Т. М. ТРУХАН*

# ДВУХМОЎНАЯ ЛЕКСІКАГРАФІЯ: ПРАБЛЕМЫ СКЛАДАННЯ РУСКА-БЕЛАРУСКІХ СЛОЎНІКАЎ

*Слоўнік жывой мовы менш за ўсё падобны на інвентарную кнігу, якая толькі рэгіструе наяўнасць тых ці іншых аб’ектаў, але зусім абыякавая да таго, як іх выкарыстаюць.*

А. М. Бабкін*

Будучы спецыфічным сродкам перапрацоўкі і захавання інфармацыі, а таксама важнейшай крыніцай яе атрымання, слоўнік як самы старажытны від лінгвістычнай прадукцыі [1] з’яўляецца адной з найбольш складаных і істотных форм моўнага апісання, асноўнай мэтай якога традыцыйна выступае задача кадыфікацыі і прадстаўлення слоўнікавага запасу мовы як «суматыўнай сістэмы лексічных адзінак» [2]: у слоўніку падаецца інфармацыя не толькі аб кожнай лексеме паасобку, але і аб мове ў цэлым.

Найбольш старажытным тыпам слоўніка лічыцца перакладны [3], які ўзнік з патрэбы разумець тэксты на іншай мове. Яго спецыфіка заключаецца ў апісанні лексікі адной мовы (зыходнай) пры дапамозе другой (выхадной), а інфармацыйная каштоўнасць такога роду лексікаграфічнай крыніцы вызначаецца яе прамым прызначэннем – забяспечыць разуменне іншамоўнага тэксту або «прыняцце» і «адпраўленне» тэкставай інфармацыі, інакш кажучы, дапамагчы перадаць зададзены сэнс сродкамі іншай мовы. Зразумела, што паспяховае выкананне гэтых задач прама залежыць ад якасці слоўнікавых артыкулаў, ад таго, у якой меры прадстаўлена інфармацыя аб слове ў двухмоўным слоўніку, г. зн., ад таго, штó ў іх прадстаўлена, як упарадкавана і раскрыта, нарэшце, наколькі дакладна і зразумела для карыстальніка адлюстраваны змест артыкула ў эквівалентах выхадной мовы [4]. Задачы аўтараў двухмоўнага слоўніка – у параўнанні з задачамі складальнікаў аднамоўнага лексікаграфічнага выдання – значна ўскладняюцца тым, што ў ім неабходна «сумясціць» сістэмы дзвюх розных моў, супадаючых звычайна на агульнасэнсавым узроўні (што абумоўлена агульнасцю чалавечага мыслення і агульнасцю свету), але не на лексічным, дзе ўсе яны (у тым ліку

* Бабкин, А. М. Слово в контексте и в словаре / А. М. Бабкин // Современная русская лексикография. 1976. – Л.: Ленингр. отд-ние., 1977. – С. 5.

і блізкароднасныя) маюць даволі значныя адрозненні [5]. Адметнае і агульнае зыходнай і выхадной частак перакладных слоўнікаў, асновай складання якіх, па сутнасці, з'яўляецца прынцып параўнання, вызначаецца на лексіка-семантычным узроўні самым непасрэдным чынам; гэта зусім справядліва дае падставу вучоным лічыць двухмоўныя слоўнікі адной з традыцыйных форм рэалізацыі кантрастыўнага вывучэння лексікі [6].

Для перакладной лексікаграфіі спецыфічнымі і разам з тым асноўнымі з'яўляюцца пытанні дакладнасці ўстанаўлення значэння слова зыходнай мовы і паўнацэннасці эквівалента як перакладу. На думку акад. Л. У. Шчэрбы, прынцыповая памылка двухмоўных слоўнікаў «заключаецца ў дапушчэнні адэкватнасці сістэм паняццяў любой пары моў» [7]. Складанне перакладных слоўнікаў аказваецца справай выключна цяжкай таму, што словы адной мовы ў большасці выпадкаў не проста адпавядаюць словам іншай мовы, а знаходзяцца з імі ў складаных, разнастайных адносінах. Як заўважае вучоны, гэтая акалічнасць «неяк да гэтага часу не дайшла не толькі да разумення шырокіх мас, але нават і да разумення саміх «складальнікаў слоўнікаў» [8]. Важна мець на ўвазе і тое, што якасць перакладных слоўнікаў у многім залежыць менавіта ад якасці распрацоўкі зыходнай слоўнікавай часткі, у прыватнасці, ад правільнай (згодна з сучаснымі моўнымі нормамі) арганізацыі яе структурных кампанентаў – загаловачнага слова з уласцівымі яму граматычнымі і функцыянальна-стылістычнымі характарыстыкамі, ад дакладнасці дэфініцый і навукова абгрунтаванай семантызацыі, а таксама ад метадычна мэтазгоднага забеспячэння адпаведных слоўнікавых артыкулаў, значэнняў і іх адценняў неабходным ілюстрацыйным матэрыялам для дэманстрацыі ўзаемадзеяння моўнай сістэмы і маўленчай дзейнасці [9]. Наяўнасць адзначанага апошняга кампанента ў структуры слоўнікавага артыкула ўяўляецца таксама вельмі важнай часткай грунтоўна распрацаванага лексікаграфічнага выдання, у тым ліку перакладнога. Дастатковая насычанасць слоўнікавых артыкулаў двухмоўным фактычным матэрыялам, які наглядна пацвярджае прапанаваныя слоўнікам рэкамендацыі семантычнага, стылістычнага і граматычнага плана, прадстаўляецца не лішняй, а проста неабходнай. Слоўнікі без ілюстрацыйнага матэрыялу аказваюцца ў пэўнай ступені абмежаванымі, у некаторых выпадках нават прыводзяць да блытаніны ва ўжыванні тых ці іншых эквівалентаў. У якасці ілюстрацый могуць выступаць не толькі традыцыйныя для слоўнікаў фразеалагізмы, прыслоўі, устойлівыя моўныя звароты і тэрміналагічныя словазлучэнні, але і прыклады жывога выкарыстання, так званыя міні-кантэксты. Да іх адносяцца кароткія свабодныя словазлучэнні, якія дэманструюць спалучальнасць з пэўнай лексемай (што рэгулюецца сістэмай і узусам), а таксама шырокаўжывальныя словазлучэнні – аднаўляльныя, у вядомай ступені клішыраваныя, фармальна і функцыянальна замацаваныя сучаснай моўнай практыкай, іншымі словамі, тыповыя, частотныя ў мове блокі спалучэнняў слоў і проста неідыяматычныя неаднаслоўныя найменні, што паказваюць

разнастайныя моўныя сувязі лексічных адзінак. Апошнія намінацыі ў перакладных слоўніках пакуль што выкарыстоўваюцца толькі ў невялікай колькасці.

Увесь гэты багаты ілюстрацыйны матэрыял у сукупнасці павінен, на наш погляд, з'яўляцца неад'емным кампанентам структуры двухмоўных (як поўных, так і кароткіх) лексікаграфічных крыніц. Хаця слоўнікавыя эквіваленты і экзэмпліфікацыі (прыклады словаўжывання) і не вычэрпваюць усіх выпадкаў выкарыстання лексемы ў кантэксце, без сумнення, такая падрабязная інфармацыя аб слове ў перакладным слоўніку неабходная, паколькі імкненне да ўсебаковай характарыстыкі яго магчымасцей дазволіць удакладніць прапанаваныя слоўнікам эквіваленты або дапаможа адшукаць іншыя, якія больш дакладна адпавядаюць канкрэтнай моўнай сітуацыі. Відавочна, што слоўнікавыя ілюстрацыі дапамагаюць зрабіць правільны выбар неабходнага эквівалента ў канкрэтным выпадку, асэнсаваць функцыянальна-стылістычную ролю лексемы, а ў канчатковым выніку садзейнічаюць пісьме́ннаму засваенню разнастайных сродкаў выхадной мовы. У гэтым кантэксце дарэчы прывесці словы А. М. Бабкіна аб тым, што «майстэрства ўдасканалення сваёй мовы выхоўваецца на прыкладах і ўзорах» [10].

Разам з тлумачальнымі перакладныя слоўнікі, акрамя асноўных функцый (міжмоўных зносін, навучання мове, навуковага вывучэння мовы), выконваюць яшчэ адну, не менш важную, – яны з'яўляюцца сродкам захавання моўнай нацыянальнай традыцыі, адлюстроўваюць развіццё самой нацыі і яе духоўнага складу, грамадскага ладу, навукі і мастацтва на канкрэтным гістарычным этапе. Зразумела, што ва ўмовах беларуска-рускага двухмоўя ў нашай краіне, якое на сучасным этапе вызначаецца як дзяржаўнае блізкароднаснае несбалансаванае і мнагакампанентнае [11], лексікаграфічныя выданні перакладнога характару – неабходная друкаваная навуковая і вучэбная прадукцыя. Зараз двухмоўныя слоўнікі вельмі запатрабаваныя, нягледзячы на пастаянна ўзрастаючую колькасць такога роду лексікаграфічных крыніц – самых розных па аб'ёме, накіраванасці і, трэба сказаць, якасці падачы моўнага матэрыялу. Безумоўна, новыя перакладныя слоўнікі будуць выдавацца і ў далейшым, паколькі гэтага аб'ектыўна патрабуюць сучаснае жыццё і культурныя запыты новага пакалення. Як слушна адзначае А. М. Бабкін, «зменлівасць запасу слоў у мове, непазбежнае і бесперапыннае змяненне значэнняў многіх з іх, калейдаскапічная здольнасць слоў у патоку маўлення па-новаму счапляцца і спалучацца адзін з адным, што вядзе да ўзнікнення новых сэнсавых адценняў і з'яўлення новых маўленчых зваротаў, – усё гэта прымушае лексікографаў і граматыстаў пільна сачыць за жыццём мовы, заўважаючы і рэгіструючы новыя з'явы» [12]. Стварэнне новых слоўнікаў і ўдасканаленне новых выданняў існуючых прац такога роду патрабуе абагульнення вынікаў у гэтай галіне лінгвістычнай навукі і далейшага развіцця айчыннай лексікаграфіі як тэорыі.

Да цяперашняга часу лінгвістамі ўжо назапашаны велізарны тэарэтычны і практычны вопыт складання перакладных слоўнікаў; тым не менш прыходзіцца канстатаваць, што і сучасныя выданні такога тыпу не пазбаўлены недакладнасцей. Як адзначае нямецкая даследчыца Р. Бяленчыкава, параўнальны аналіз двухмоўных лексікаграфічных крыніц нашага часу паказвае, што дасягненні супастаўляльнай лінгвістыкі адлюстроўваюцца ў іх у недастатковай ступені. Прычыны гэтага, на яе думку, заключаюцца ў першую чаргу ў самой ступені развіцця супастаўляльных даследаванняў адносна дадзенай пары моў, у наяўнасці лакун тэарэтычнага абгрунтавання складання слоўнікаў на сучасным этапе, а таксама ў абмежаванасці саміх слоўнікаў (іх аб’ёму і мэтанакіраванасці) [13]. Гэтыя заўвагі ў пэўнай ступені можна аднесці і да існуючых руска-беларускіх слоўнікаў – як мінулых гадоў, так і апошняга часу.

Папярэдняе азнаямленне з шэрагам айчынных перакладных лексікаграфічных крыніц і ўлік усяго дадатнага з вопыту іх складання, безумоўна, з’явіліся вельмі карыснымі для нашай працы над невялікай серыяй перакладных слоўнікаў актуальнай лексікі з зыходнай рускай мовай – «Современного русско-белорусского словаря для школьников» (2009), «Краткого современного русско-белорусского словаря для школьников» (2011) і «Современного русско-белорусского словаря» (2011), прызначанага для больш шырокага кола карыстальнікаў [14]. Назіранні над слоўнікавым матэрыялам дазволілі зрабіць пэўныя лексікаграфічныя вывады і вызначыць асобныя праблемы, якія, на нашу думку, варта вырашаць пры распрацоўцы артыкулаў двухмоўнага слоўніка з зыходным рэестрам рускіх слоў, а таксама выявіць пэўныя памылкі, тыповыя для сучасных перакладных лексікаграфічных выданняў. Праблемы складання артыкулаў такіх слоўнікаў, звязаныя з самымі рознымі інтра- і экстралінгвістычнымі прычынамі, шматлікія і разнастайныя, таму мы абмяжуемся разглядам толькі некаторых важных пытанняў сэнсавай эквівалентнасці.

Семантычны аспект артыкула перакладнога слоўніка з’яўляецца, бадай, адным з самых важных; ён заўсёды знаходзіцца ў цэнтры ўвагі складальнікаў, паколькі ў гэтым заключаецца ўся сутнасць і спецыфіка такой працы. Ад вызначэння дакладнага аб’ёму значэнняў рускага слова і правільнай распрацоўкі яго сэнсавай структуры залежыць дакладнасць прадстаўленага беларускага эквівалента (або эквівалентаў). Як вядома, складаныя праблемы семантычнай структуры слова, раздзялення слова на значэнні (філіяцыі), пытанні суадносін і сувязей яго значэнняў заўсёды выклікаюць вялікія цяжкасці ў практычнай лексікаграфіі. У гэтым аспекце варта прыгадаць словы В. С. Ахманавай, якія, думаецца, не з’яўляюцца перабольшаннем; згодная з думкай акад. Л. У. Шчэрбы аб тым, што семантычны аналіз слова пры складанні слоўніка патрабуе паглыбленага навуковага даследавання, яна падкрэслівае: «Кожны слоўнікавы артыкул – гэта невялікая навуковая манаграфія» [15]. Аб гэтым жа менавіта ў дачыненні да лексіка-

графічных праблем гаварыў у свой час і акад. В. У. Вінаградаў. Вядомы лінгвіст адзначаў неабходнасць прымянення ў лексікаграфіі вынікаў паглыбленых семасіялагічных даследаванняў, прысвечаных разгляду значэнняў і спосабаў ужывання асобных слоў, а таксама семантычна звязаных, суадносных груп слоў і гістарычна абумоўленага фразеалагічнага ўжывання слова; асобна ён звяртаў увагу на прыцягненне навукова-даследчага вопыту аналізу лексікі той ці іншай мовы ў я е р а з в і ц ц і (разрадка наша. – *В. Н.*, *Т. Т.*) і вывучэння заканамернасцей гісторыі семантычнага складу роднасных і няроднасных моў [16].

Пры непасрэдным аналізе сэнсавага боку слоўнікавых артыкулаў асобных руска-беларускіх слоўнікаў выяўляюцца недахопы і памылкі ў вызначэнні значэнняў слоў, прынцыпах іх размежавання, правілах іх фразеалагічнай спалучальнасці і інш.

1. Пытанне адэкватнасці перакладу з'яўляецца найбольш важным у падрыхтоўцы артыкулаў двухмоўнага слоўніка. Самая карэктная іх распрацоўка не можа з'яўляцца паказчыкам высокай якасці дадзенай лексікаграфічнай крыніцы, калі ў ёй не выконваецца крытэрый адэкватнасці перакладу, г. зн. сэнсавай раўнацэннасці лексічных адзінак зыходнай мовы і мовы-транслятара. Гаворачы словамі Г. Н. Клюсава, «пры адхіленні ад гэтага крытэрыю атрымліваецца не паўнацэнны пераклад, а толькі прыблізнае, збяднелае перакладанне (як у перакладаннях паліфанічных музыкальных твораў для аднаго простага інструмента)» [17]. Прынцыповым момантам у складанні двухмоўных прац з'яўляецца тое, што перакладны слоўнік павінен зыходзіць са значэнняў слова зыходнай мовы: разумець слова і размяжоўваць значэнні так, як гэта робіцца ў сучасным тлумачальным слоўніку рускай мовы, і пастаянна суадносіць з імі значэнні падабраных эквівалентаў выхадной мовы, зафіксаваныя ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы. Але на самай справе атрымліваецца, што складальнікі перакладных слоўнікаў нярэдка не ўлічваюць дакладны аб'ём значэнняў зыходнага слова. У выніку рус. **дублёнка** недакладна перакладаецца эквівалентам *кажух* (нягледзячы на тое, што ў беларускай мове існуе адпаведнік *дублёнка*), а рус. **кнопка** ў другім зн. 'застёжка' замест эквівалентнага беларускага *кнопка* памылкова передаецца сінонімамі *запанка* і *запінка*, якія маюць, як вядома, зусім іншае значэнне. Слоўнікавы артыкул **хлопья** традыцыйна ўтрымлівае два беларускія эквіваленты: *камякі* і *шматкі*, прычым размяжоўванне іх ва ўжыванні ў розных кантэкстах ілюструецца словазлучэннямі *камякі снегу* і *кукурузныя шматкі.* Але першы эквівалент не зусім дакладна передае сэнс рускага *хлопья* (пра снег); больш адпавядаюць па значэнні іншыя эквіваленты, якія існуюць у беларускай мове і здольныя паказаць неабходнае сэнсавае адценне – *сняжыны* і *пушыны.* Рус. **полынья** ў зн. 'растаявшее, размытое место во льду' перакладаецца ў руска-беларускіх слоўніках семантычна неадэкватнай беларускай лексічнай адзінкай *праталіна*, якое мае зусім іншае значэнне: 'месца, дзе растаў снег і агалілася зямля'

з адценнем ‘месца, якое растала (на замёрзлай шыбе)’. Між іншым, для назоўніка *полынья* ў беларускай мове ёсць ужо гатовы адпаведны эквівалент *палонка*, які ў неабходным аб’ёме перадае семантыку рускай лексемы. Памылкова ў перакладных слоўніках для рус. **лужайка** ў зн. ‘небольшой луг, обычно на опушке или посреди леса’ падаюцца семантычна неадэкватныя лексемы *поплаў* і *паплавец*, значэнне якіх відавочна адрозніваецца ад зыходнага рус.: ‘луг у пойме ракі’; дакладнымі беларускімі перакладамі адзначанага зыходнага слова з’яўляюцца *лугавіна* і памяншальна-ласкальнае *лугавінка*, якія перадаюць неабходны сэнс у поўным аб’ёме. Для рус. **сдоба** ў першым зн. ‘яйца, сахар, масло, добавляемые в тесто’ найбольш падыходзіць па сэнсе беларускі эквівалент *здоба* з такім жа значэннем (параўн. зафіксаваны ў названым слоўнікавым артыкуле эквівалент *прыправа*, які цяжка семантычна суаднесці з зыходнай адзінкай). Нагадаем яшчэ адзін артыкул, у якім таксама занатаваны неадэкватны беларускі эквівалент *пстрычка* для рус. **щелчок (щелчок выключателя** – пстрычка выключацеля), хаця ў беларускай мове існуе гатовы адпаведнік, які дакладна перадае неабходнае значэнне: *шчаўчок* (шчаўчок выключальніка).

2. Як вядома, у беларускай літаратурнай мове вельмі шмат сінонімаў, але яшчэ больш слоў, хаця і блізкіх па значэнні, але зусім не тоесных па ўжыванні. Часам дадатковае – звужанае ці проста спецыфічнае – семантычнае адценне прыводзіцца ў слоўнікавым артыкуле дарэмна, паколькі ніякага дачынення да яго не мае, што выяўляецца, як правіла, пры больш уважлівым параўнальным аналізе значэнняў так званых сінонімаў. На гэты важны момант яшчэ ў сярэдзіне XX ст. звяртаў увагу Л. В. Капецкі, справядліва лічачы пытанне аб эквівалентах у двухмоўным слоўніку самым істотным для яго мэт і прызначэння: «Пры падшукванні эквівалентаў мы зыходзім з семантычнай структуры мовы, якая перакладаецца, старанна пазбягаючы ўносіць далёкія ад яе адценні значэнняў…» [18]. Такія недакладнасці, асновай якіх з’яўляецца quasi-сінанімія, або памылковая сінанімія, у двухмоўных слоўніках асабліва частыя. Неабходна пазбягаць стварэння штучнай мнагазначнасці рускіх слоў і нагрувашчвання вялікай колькасці непатрэбных «сінонімаў»-эквівалентаў у перакладной частцы двухмоўнага слоўніка. Можна прывесці некалькі слоўнікавых артыкулаў, у якіх традыцыйна адзначаюцца лішнія эквіваленты-сінонімы. Так, для рус. **буря** ў зн. ‘сильный ветер большой разрушительной силы’ недакладным беларускім эквівалентам у двухмоўных слоўніках, а таму лішнім сярод прадстаўленых эквівалентаў выступае лексема *навальніца* ў зн. ‘атмасферная з’ява – непагода з маланкай, громам, дажджом або градам і моцным ветрам’, якая перадае не існуючае ў аб’ёме слова *буря* адценне ‘гроза’. У гэтым выпадку рускаму слову семантычна адпавядае беларускае *бура* ў зн. ‘вецер вялікай разбуральнай сілы, звычайна з дажджом або снегам’. Такім жа непатрэбным эквівалентам у перакладных слоўніках з’яўляецца беларускае слова *кветнік* для перадачы рус. **газон**, паколькі зыходнае слова

мае значэнне ‘площадка (в саду, в парке, на бульваре, около дома), засеянная травой, а также трава, посеянная на этой площадке’, якое не супадае са значэннем беларускага *кветнік*. Лішнім эквівалентам рус. адназначнага слова **косяк** I у зн. ‘косо срезанный брус дверной или оконной рамы’ з’яўляецца слоўнікавы эквівалент *касяк*, які падаецца для асобнага значэння, на самай справе не існуючага ў семантычным аб’ёме рускага слова (2. ‘расположенный косо предмет’). Абсалютна лішнім для рус. **локон** у зн. ‘**вьющаяся или завитая** прядь волос’ выступае ў перакладных слоўніках слова *пасма* ‘пучок валасоў’ (пры наяўнасці дакладнага адпаведніка *локан*). У рус. **ссадина** ў зн. ‘неглубокая ранка на теле; место, где оцарапана, содрана кожа’ традыцыйна ў слоўніках вылучаецца адценне значэння *синяк* (‘посиневшее место на теле, лице как след от удара’), якое перадаецца адпаведным *сіняк*. І адценне, і эквівалент з’яўляюцца лішнімі, паколькі такое значэнне не зафіксавана ў семантычным аб’ёме зыходнага слова.

3. Часам, наадварот, у артыкулах руска-беларускіх слоўнікаў прыводзіцца вельмі абмежаваная колькасць сінанімічных адпаведнікаў або наогул адзін эквівалент, хаця агульнаўжывальныя сінонімы пэўнай беларускай лексемы існуюць. Такая падача наўмысна «звужанай» эквівалентыкі, безумоўна, не садзейнічае адшукванню дакладнага адпаведніка для ўжывання ў канкрэтным моўным кантэксце, абмяжоўвае выбар найбольш ёмістага ў семантычных адносінах беларускага эквівалента. Нельга з катэгарычнасцю лічыць гэтую заўвагу памылкай слоўнікаў, але зразумела – багацце найбольш характэрных, разумна падабраных сінонімаў у эквівалентах толькі павышае перакладную каштоўнасць двухмоўнай лексікаграфічнай крыніцы, дае карыстальніку «шырокія магчымасці для больш тонкай нюансіроўкі іх думак» [19]. Так, напрыклад, можна было б дапоўніць многія артыкулы агульнаўжывальнымі сінонімамі-эквівалентамі: артыкул **роскошь** – эквівалентам *шык*, **рубанок** – *гэбель*, **младенец** – *немаўля*, **обрыв** – *строма*, **прошлогодний** – *мінулагодні*, **ущипнуть** – *ушчыкнуць*, **раздразнить** – *расцвяліць*, **половодье** – *разліў*, **бубенчики** – *бомы*, **болото** – *дрыгва*, **жарќое** – *смажанка*, **завтрак** – *сняданак*, **снежный** – *снегавы*, паколькі слоўнікавы эквівалент *снежны* ўжываецца не ва ўсіх словазлучэннях; напрыклад, рускае словазлучэнне *снежная баба* перакладаецца толькі з дапамогай слова *снегавы* (*снегавая баба*) і інш.

4. Даволі частая з’ява для перакладных руска-беларускіх слоўнікаў – адсутнасць філіяцыі, або раздзялення семантычнага аб’ёму зыходнага слова на ўласцівыя яму асобныя значэнні або адценні, якія павінны быць прыведзены ў слоўніку. У многіх выпадках не хапае канкрэтызацыі, дэталізацыі значэння рускага слова, якое ахоплівае шэраг паняццяў, што абазначаюцца рознымі словамі ў мове-транслятары. У выніку гэтай недыферэнцаванасці семантыкі зыходнага слова ў слоўніку падаецца толькі адзін эквівалент або без указанняў на адценні проста пералічваюцца два ці тры як сінонімы. Такое слоўнікавае неразмежаванне розных значэнняў рускай адзінкі нярэдка

вядзе да недакладнага выбару карыстальнікамі перакладных слоўнікаў беларускага эквівалента ў пэўным кантэксце.

Так, напрыклад, для рус. **резинка** падаюцца звычайна два эквіваленты (без дыферэнцыяцыі) *рызінка* і *гумка*, але ў семантычны аб'ём рускага слова ўваходзяць 4 значэнні, з якіх трэба зыходзіць і перадача якіх патрабуе ў кожным выпадку асобнага эквівалента: 1. (*для стирания*) сціркa; 2. (*тесёмка*) рызінка; 3. (*вид трикотажной вязки*) рызінка; 4. (*жевательная*) гумка. У слоўнікавым артыкуле **долька**, як правіла, падаецца толькі адно значэнне – з паметай *уменьш.* і два беларускія эквіваленты для яго перадачы – *долька* і *частачка.* А другое, не менш важнае, значэнне рускага слова 'часть плода цитрусовых растений', якое ніякім чынам не з'яўляецца памяншальным, не адзначаецца ў слоўніках, а разам з тым няма для яго і беларускага эквівалента. У рускім слове **роиться** звычайна вылучаюць два значэнні: першае '*образовывать рой*' і другое, якое мае паметы *прям.*, *перен.* (што азначае аднолькавае ўжыванне эквівалентаў у розных кантэкстах); для яго падаюцца два раўнацэнныя эквіваленты *лятаць роем*, *раіцца.* Але згодна з семантычным аб'ёмам рускага слова, трэба адзначаць тры значэнні і ўносіць карэкціроўку ў падбор эквівалентаў. Такім чынам, перапрацаваны артыкул павінен мець наступны выгляд: **роиться** – 1. (*скопляться вокруг матки, образуя новый рой*) раіцца; 2. (*кружиться в воздухе – о массе насекомых, снежинок*) лятаць роем, раіцца, кружыцца; 3. *перен.* (*скапливаться во множестве – о людях, мыслях, мечтах*) раіцца. У артыкул **хлеб** у адпаведнасці з яго семантычным аб'ёмам таксама неабходна ўнесці пэўныя карэкцівы: неабходна зняць значэнне 'каравай' (паколькі гэта слова мае самастойнае значэнне і, строга гаворачы, не адносіцца да семантычнага аб'ёму слова *хлеб*), акрамя таго, да першага значэння дадаць асобныя семантычныя адценні і іх адпаведныя эквіваленты: (*одна штука печёного изделия*) буханка; (*преим. круглой формы*) бохан; (*из пшеничной муки*) булка (хлеба); у трэцім значэнні 'хлебные злаки' варта падаць яшчэ адзін эквівалент-сінонім – *хлеб.* Варта вылучыць дадатковае значэнне, якога не хапае ў перакладных слоўніках, і для слова **снежок** – *только мн.* (*игра*) – з эквівалентам *снежкі.* Слоўнікавы артыкул «**табак** – тытунь; (*нюхательный*) табака» з'яўляецца малаінфарматыўным і недакладным, паколькі ў ім не ўлічваецца ўвесь аб'ём значэнняў рускага слова. Перапрацаваны на аснове ўліку дакладных значэнняў зыходнага слова і прыцягнення дадатковых беларускіх эквівалентаў артыкул выглядае наступным чынам: **табак** – 1. *бот.* (*травянистое и кустарниковое растение семейства паслёновых*) тытунь, тытун, *разг.* табака; 2. (*для курения*) тытунь, тытун; (*нюхательный*) табака; 3. *бот.* (*декоративное садовое растение*) табака. Такім жа чынам трэба распрацаваць па-іншаму артыкул «**створка –** створка, палавінка; (*дверей*) фортка»: калі зыходзіць з уласцівага рускаму слову семантычнаму аб'ёму і значэнняў беларускіх адзінак, аказваецца, што падбор слоўнікавых эквівалентаў недакладны і недастатковы. З улікам усіх значэнняў і эквіва-

лентаў гэты артыкул можа быць пабудаваны ў такім выглядзе: **створка** 1. (*часть ворот, окон и т. п.*) створка, фортка; (*дверей – ещё*) палавінка; 2. (*в раковине беспозвоночных*) створка; 3. *бот.* (*часть коробочки некоторых растений*) створка. У якасці яшчэ аднаго прыкладу можна прывесці недапрацаваны, на наш погляд, артыкул перакладных слоўнікаў «**косяк** II (*гурт животных, скопление рыбы, стая птиц*) касяк, чарада», які патрабуе ўдакладнення адносна падачы неабходных эквівалентаў зыходнага мнагазначнага слова, а таксама тлумачэнняў адценняў. Пры ўліку дадзеных сучасных тлумачальных слоўнікаў рускай і беларускай моў артыкул варта аформіць наступным чынам: **косяк** II (*гурт кобыл с одним жеребцом*) касяк; (*скопление движущейся рыбы*) касяк; (*стая птиц, летящих* ***углом***) касяк, ключ, клін. Слоўнікавы эквівалент *чарада* ў дадзеным артыкуле з'яўляецца лішнім, паколькі ён семантычна не адпавядае ні аднаму з адценняў значэння зыходнага слова, параўн. яго значэнне: 'рад аднародных прадметаў ці жывых істот, якія размяшчаюцца або рухаюцца ***адно за адным***'.

5. Нагадаем яшчэ адзін від недакладнасцей, якія выяўляюцца пры аналізе артыкулаў існуючых руска-беларускіх слоўнікаў. Размова ідзе пра падбор у многіх выпадках некарэктных з пункту погляду семантыкі беларускіх эквівалентаў. Так, напрыклад, гэта датычыць артыкула «**поманить** 1. пазваць, паклікаць; 2. (*голосом или приманкой*) павабіць, панадзіць». Удакладненне семантыкі прапанаваных слоўнікавых эквівалентаў і вызначэнне дакладных значэнняў, уласцівых рускаму слову, дазволіла ўнесці карэктывы ў гэты артыкул і адшукаць неабходныя адпаведнікі, параўн.: **поманить** 1. (*подозвать кого-л., делая знаки* ***рукой, взглядом***) павабіць; 2. (***подозвать,*** *привлекая чем-л.;* приманить – *о животных*) прынадзіць, падазваць. У другім слоўнікавым артыкуле «**сражение** 1. бітва; (*бой*) бой; 2. *перен.* (*борьба, спор и т. п.*) гульня, змаганне, бітва» таксама можна адзначыць асобныя некарэктныя эквіваленты, якія падаюцца для перадачы другога значэння; перапрацаваны на аснове дадзеных тлумачальных слоўнікаў абедзвюх моў артыкул дэманструе іншы падбор адпаведнікаў: **сражение** 1. бітва; (*бой*) бой; 2. *перен.* (*борьба, схватка, состязание*) змаганне, схватка, барацьба.

6. Уключэнне ў якасці ілюстрацый да слова фразеалагізмаў, у тым ліку і нацыянальных, як вядома, значна павялічвае перакладную кампетэнцыю і пазнавальную каштоўнасць перакладнога слоўніка, паколькі на прыкладзе фразеалагізма паказваецца яшчэ адзін аспект ужывання слова, да якога прыводзіцца такая ілюстрацыя. Але сама распрацоўка ў слоўніку фразеалагічнага матэрыялу патрабуе асаблівай увагі. Адзначаюцца шматразовыя выпадкі, калі пэўныя спалучэнні слоў падаюцца аўтарамі слоўнікаў як фразеалагізмы, аднак на самай справе такімі не з'яўляюцца, і наадварот, многія прадстаўленыя ў слоўнікавых артыкулах фразеалагізмы не пазначаны сімвалам ◊. Напрыклад, фразеалагічнымі адзінкамі ў шэрагу руска-беларускіх слоўнікаў лічацца спалучэнні, якія ў сапраўднасці не маюць да іх ніякага дачынення; гэта проста ўстойлівыя выражэнні нефразеалагічнага характару,

словазлучэнні ў ролі прыслоўяў, злучнікаў, прыназоўнікаў, уводныя словы, састаўныя назвы, тэрміны і г. д. Такія адзінкі павінны змяшчацца ў філіяцыі неідыяматычных спалучэнняў, напрыклад: *на открытом воздухе – на вольным паветры*, *ноль-ноль – нуль-нуль*, *не суть важно – не так важна*, *в сущности – па сутнасці*, *по существу – па сутнасці*, *в ущерб – на шкоду*, *некоторым образом – нейкім чынам*, *без всякого стеснения – без усякага сораму*, *в общих чертах – у агульных рысах.* У сваю чаргу, ромбам у слоўніках не маркіруюцца сапраўдныя фразеалагізмы тыпу: *ноль внимания – нуль увагі*, *с открытыми глазами – з расплюшчанымі вачамі*, *во цвете лет – у росквіце гадоў*, *в честь (кого-чего) – у гонар (каго-чаго)*, *на распутье – на раздарожжы (на ростанях)*; некаторыя з іх наогул памылкова аднесены да прымавак: *семь пятниц на неделе – сем пятніц на тыдні*, *хоть шаром покати – хоць шаром пакаці*, *(пуста) як вымецена* і інш.

Варта дадаць, што пры гэтым і форма фразеалагізма можа падавацца з памылкамі, недакладна, у не зафіксаваным фразеалагічнымі слоўнікамі выглядзе (маюцца на ўвазе недакладныя межы фразеалагізма або няправільная форма яго кампанента), напрыклад, замест *идти в открытую / ісці ў адкрытую* трэба *в открытую / у адкрытую*, замест *ходить на цыпочках / хадзіць на пальчыках (на дыбачках) – на цыпочках / на пальчыках (на дыбачках)*, замест *сорвалось с языка / сарвалася з языка – сорваться с языка / сарвацца з языка*, замест *жить в своё удовольствие / жыць як душа жадае – в своё удовольствие / як душа жадае*, замест *в знак памяти / у знак памяці – в знак (чего) / у знак (чаго)*, замест *швырять деньги на ветер /кідаць грошы на вецер – швырять на ветер / кідаць на вецер*, замест рус. *язык не ворочается – язык не поворачивается*, замест рус. *острый на язык – остёр на язык*, замест *измерить взглядом – смерить взглядом* і г. д.

Часам у перакладных слоўніках назіраецца змяшэнне, неадрозненне розных тыпаў значэнняў лексемы: фразеалагічна замкнёныя ўжыванні слова памылкова ўключаюцца ў сістэму яго асноўных значэнняў. Так, напрыклад, у якасці другога значэння слова **обычный** выступае ўстойлівы выраз *обычное право / звычаёвае права*, але яно не з'яўляецца асобным, самастойным значэннем рускага слова; тут размова можа ісці толькі пра замкнутыя спалучэнні і сэнсавыя своеасаблівасці ўжывання слова *обычный* у гэтай абмежаванай сферы ўстойлівых выразаў.

Такая блытаніна з падачай у двухмоўным слоўніку фразеалагічнага матэрыялу можа быць ліквідавана шляхам удакладнення фразеалагічнасці кожнага (!) словаспалучэння згодна з данымі сучасных аўтарытэтных слоўнікаў фразеалагізмаў рускай і беларускай літаратурных моў.

Існуюць і іншыя пытанні лексікаграфічнага характару, якія патрабуюць больш падрабязнага аналізу; гэта пытанні падбору эквівалентаў да новых сэнсавых адценняў, стылістычнай кваліфікацыі, увядзення ў перакладны слоўнік новых лексічных адзінак і знаходжання адпаведных эквівалентаў мовы-транслятара і інш. Варта ўзгадаць і нявырашанае пакуль, як нам зда-

ецца, пытанне аб адшукванні семантычна дакладных адпаведных эквівалентаў для асобных рускіх лексічных адзінак; слоўнікавыя эквіваленты зыходных слоў, што прапанаваны складальнікамі папярэдніх перакладных слоўнікаў, на нашу думку, зусім недастатковыя ў семантычных адносінах, параўн.: **трость** (*для опоры при ходьбе*) – *палка*, **откровение** – *адкрыццё*, **серёжки** (*на дереве*) – *катахі* і інш.

Вынікі нават такога кароткага аналізу канкрэтнага матэрыялу артыкулаў перакладных лексікаграфічных крыніц пераконваюць у неабходнасці ўдумлівага падыходу да іх распрацоўкі. Няведанне складальнікамі слоўнікаў дакладнага значэння або поўнага аб'ёму значэнняў з іх адценнямі зыходнага слова, вылучэнне самастойнага значэння (або адцення), якое адсутнічае ў семантычным аб'ёме рускай адзінкі, падача неадэкватнага, семантычна недакладнага, няўдалага ці проста лішняга эквівалента – усё гэта прыводзіць да розных моўных і маўленчых памылак у пэўных кантэкстах пры перадачы семантыкі рускай лексемы беларускімі сродкамі. Пры ўмове дэтальнай, тэарэтычна абгрунтаванай распрацоўкі і ўліку дакладнай семантычнай структуры рускага слова, дэманстрацыі яго разнастайных сувязей і рознага роду экзэмпліфікацый, старанна прадуманай пабудовы слоўнікавага артыкула, а таксама найбольш поўнага выкарыстання магчымасцей эквівалентнага выражэння аб'ёму значэнняў выхадной лексемы ў мове-транслятары можна пазбегнуць тых семантычных і іншых неадпаведнасцей, якія існуюць на сённяшні дзень у некаторых руска-беларускіх слоўніках. Як адзначаў вядомы беларускі даследчык Г. Н. Клюсаў, «рускі лексікон… надзвычай цяжкі для перакладу на любую мову з прычыны сваёй магутнай поліфанічнасці. Тым больш захапляючай уяўляецца мэта – уступіць у спаборніцтва з ім, разумна выкарыстоўваючы ўласныя здольнасці і задаткі, але разам з тым і ўдумліва пераймаючы прыёмы нарошчвання моцы, гнуткасці і прыгажосці, уласцівыя рускай мове» [20].

Відавочна, што сучасны агульнафілалагічны двухмоўны (у тым ліку і руска-беларускі) слоўнік, будучы навуковым і навучальным дапаможнікам, павінен быць інфарматыўна насычаным; ён прадугледжвае ўключэнне актуальнай часткі лексічнага запасу абедзвюх моў і падачу дакладнага семантычнага аб'ёму рэестравых слоў, а самае галоўнае – у такой лексікаграфічнай крыніцы павінен вытрымлівацца крытэрый адэкватнасці перакладу.

### Літаратура

1. Городецкий, Б. Ю. Проблемы и методы современной лексикографии (вступительная статья) / Б. Ю. Городецкий // Новое в зарубежной лингвистике. – М.: Прогресс, 1983. – Вып. XIV: Проблемы и методы лексикографии. – С. 5.

2. Уфимцева, А. А. К вопросу о так называемом дефиниционном методе описания лексического значения слова / А. А. Уфимцева // Слово в грамматике и словаре. – М.: Наука, 1984. – С. 134.

3. Денисов, П. Н. Об универсальной структуре словарной статьи // Актуальные проблемы учебной лексикографии. – М.: Рус. яз., 1977. – С. 212.

4. Копецкий, Л. В. О статье двуязычного славянского словаря / Л. В. Копецкий // Вопросы исторической лексикологии и лексикографии восточнославянских языков: сб. к 80-летию чл.-корр. АН СССР С. Г. Бархударова. – М.: Наука, 1974. – С. 15.

5. Леэметс, Х. Д. Отражение семантики слова в двуязычном словаре (на материале «Русско-эстонского словаря» АН СССР) / Х. Д. Леэметс // Слово в грамматике и словаре. – М.: Наука, 1984. – С. 200.

6. Ярцева, В. Н. Предисловие / В. Н. Ярцева // Методы сопоставительного изучения языков / отв. ред. В. Н. Ярцева. – М.: Наука, 1988. – С. 4.

7. Щерба, Л. В. Опыт общей теории лексикографии / Л. В. Щерба // Языковая система и речевая деятельность / Л. В. Щерба. – Л.: Наука, Ленингр. отд-ние, 1974. – С. 298.

8. Щерба, Л. В. Предисловие к Русско-французскому словарю / Л. В. Щерба // Языковая система и речевая деятельность. – С. 305.

9. Ким, С. С. Грамматический аппарат в академических русско-национальных словарях / С. С. Ким // Слово в грамматике и словаре. – М.: Наука, 1984. – С. 205.

10. Бабкин, А. М. Словарь языка и язык словаря / А. М. Бабкин // Современная русская лексикография. 1976. – Л.: Ленингр. отд-ние, 1977. – С. 5.

11. Лукашанец, А. А. Русский язык в условиях государственного белорусско-русского двуязычия: статус и проблемы исследования / А. А. Лукашанец // Тыпалогія ўзаемасувязей беларускай і рускай моў і праблемы нацыянальнай самаідэнтыфікацыі: матэрыялы Міжнар. навук. канф., Мінск, 19–20 крас. 2011 г. – Мінск: Права і эканоміка, 2011. – С. 202.

12. Бабкин, А. М. Словарь языка и язык словаря (Совершенствование замысла и исполнения нового Академического словаря русского языка) / А. М. Бабкин // Современная русская лексикография. – Л.: Ленингр. отд-ние, 1975. – С. 3–4.

13. Беленчиков, Р. Конфронтативная лингвистика и двуязычный словарь (О проекте Академического русско-немецкого словаря) / Р. Беленчиков // Состояние и перспективы сопоставительных исследований русского и других языков: докл. V Междунар. симп., Белград – Ниш, 30 мая – 1 июня 2000 г. / ред. Б. Станкович. – Белград, 2000. – С. 283.

14. Николаева, О. М., Трухан, Т. Н. Современный русско-белорусский словарь для школьников / О. М. Николаева, Т. Н. Трухан; под ред. А. А. Лукашанца. – Минск: Літ. і мастацтва, 2009. – 560 с.; Они же. Краткий русско-белорусский словарь для школьников / под ред. А. А. Лукашанца. – Минск: Ассоциация «Конкурс», 2011. – 464 с.; Они же. Современный русско-белорусский словарь / под ред. А. А. Лукашанца. – Минск: ТетраСистемс, 2011. – 575 с.

15. Ахманова, О. С. Очерки по общей и русской лексикологии / О. С. Ахманова. – М.: Гос. уч.-пед. изд-во Мин-ва просвещ. РСФСР, 1957. – С. 91.

16. Виноградов, В. В. Избранные труды. Лексикология и лексикография / О. С. Виноградов. – М.: Наука, 1977. – С. 244.

17. Клюсов, Г. Н. Двуязычный переводной словарь: замечания и размышления / Г. Н. Клюсов // Русский язык: межвед. сб. – 1986. – Вып. 6. – С. 62.

18. Копецкий, Л. В. Двуязычный словарь славянских языков (на материале русско-чешского и чешско-русского словарей) / Л. В. Копецкий // Вопр. языкознания. – 1958. – № 3. – С. 85.

19. Щерба, Л. В. Опыт общей теории лексикографии. – С. 277.

20. Клюсов, Г. Н. Двуязычный переводной словарь: замечания и размышления. – С. 62.

## Summary

The article is devoted to the question of the specific distinctions of bilingual dictionary. The authors present the results of analysis of the semantic mistakes in modern bilingual Russian-Belarusian dictionaries and research problems of the constituting of translation dictionary.

*Інстытут мовы і літаратуры*
*імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*7.09.2011 г.*

*УДК 811.161.1’367*

*Т. Я. ШЭМЕТ*

# СПОСАБЫ ВЫРАЖЭННЯ ПАРАЎНАЛЬНАГА І КОЛЬКАСНАГА ЗНАЧЭННЯЎ У СІНТАКСІЧНЫХ КАНСТРУКЦЫЯХ З КАМПАРАТЫВАМ

У беларускай мове ў пачатку XXI ст. звяртае на сябе ўвагу наяўнасць розных спосабаў выражэння параўнальнага (кампаратыўнага) і колькаснага (квантытатыўнага) значэнняў у сінтаксічных канструкцыях з кампаратывам – формай вышэйшай ступені параўнання прыметніка або прыслоўя.

**1. Спосабы выражэння параўнальнага значэння.** Варыянтныя спосабы выражэння параўнальнага значэння ілюструюць наступныя сказы: ***Маладзейшая за брата*** *на пяць гадоў, яна [Міхаліна] добра памятала Костуся падлеткам і юнаком* (ЛіМ. 2007. № 15. С. 3). ***Разумнейшы ад астатніх****, Торба гэтаксама падпарадкоўваецца інстынкту самазахавання…* (belsoch.org/ – 19.10.2010). *Колькасць насельніцтва ў працаздольным узросце на момант перапісу склала 5 млн. 853 тыс. чалавек – гэта амаль на 2 працэнты* ***больш*** *(больш як на 100 тыс. чалавек)* ***у параўнанні з данымі*** *перапісу насельніцтва 1999 года* (Звязда. 2010. № 176. С. 2). *Хочацца, каб і ў нас было калі* ***не лепш****, дык* ***не горш, як у іншых*** (ЛіМ. 2007. № 18. С. 10). *Для конкурсаў прыгажосці можа быць зацверджаная дзяўчына і з* ***меншым, чым у мадэлі,*** *ростам* (Звязда. 2010. № 176. С. 6). *Я лічу, што* ***лепшага*** *накірунку,* ***чым рэалізм****, у мастацтве не прыдумана* (ЛіМ. 2007. № 15. С. 5). *Шмат каму ў свеце значна* ***горш, чым яму*** (Полымя. 2008. № 2. С. 65).

Канструкцыі з параўнальнымі адносінамі ў названых прыкладах пабудаваныя паводле структурных схем, прадстаўленых ніжэй:

1) $Adj_{comp}$ + ***за*** + $N_{В.\ скл.}$;
2) $Adj_{comp}$ + ***ад*** + $N_{Р.\ скл.}$;
3) $Adv_{comp}$ + ***у параўнанні з*** + $N_{Т.\ скл.}$;
4) $Adv_{comp}$ + ***як*** + $P_{Р.\ скл.}$;
5) $Adj_{comp}$ + ***чым*** + $N_{Р.\ скл.}$;
6) $Adj_{comp}$ + ***чым*** + $N_{Н.\ скл.}$;
7) $Adv_{comp}$ + ***чым*** + $P_{Д.\ скл.}$

Абстрагаванне ад канкрэтных граматычных форм выражэння кампанентаў структуры дазваляе прадставіць гэтыя схемы ў больш абагульненым выглядзе:

1) *кампаратыў* + ***за*** + *аб’ект параўнання*;
2) *кампаратыў* + ***ад*** + *аб’ект параўнання*;

3) *кампаратыў* + ***у параўнанні з*** + *аб'ект параўнання*;

4) *кампаратыў* + ***як*** + *аб'ект параўнання*;

5) *кампаратыў* + ***чым*** + *аб'ект параўнання.*

Разнастайнасць сінтаксічных канструкцый абумоўлена выбарам таго ці іншага прыназоўніка (*за, ад, у параўнанні з*[*]) або злучніка (*як, чым*). Прыназоўнікавыя мадэлі па структуры адпавядаюць словазлучэнням, а злучнікавыя – сінтаксічным канструкцыям з параўнальнымі зваротамі. Ніводнай беспрыназоўнікавай ці бяззлучнікавай мадэлі (у тэксце артыкула тэрміны *мадэль* і *структурная схема* з'яўляюцца ўзаемазамяняльнымі) сярод пералічаных няма.

Словазлучэнні з параўнальнымі адносінамі часцей за ўсё будуюцца паводле мадэлі з прыназоўнікам *за*, і гэта з'яўляецца нормай літаратурнай мовы. Дадзены факт адзначаны ў розных мовазнаўчых крыніцах [2–4]. Аб прадуктыўнасці мадэлі з прыназоўнікам *за* ў беларускай мове ў пачатку XXI ст. сведчыць значная колькасць прыкладаў: *Ідзе за мной **дужэйшы за мяне*** (Мк. 1:7)[**]. *Калі ўжо выходзіць манаграфія, слоўнік або энцыклапедыя па беларускім фальклоры, навуковы ўзровень яе вельмі высокі. Але зноў жа – адсутнасць або мінімум ілюстрацый, ніякай рэкламы, «раскруткі», і папера значна **горшая за тую**, на якой выдаюцца опусы авесаломаў падводных* (ЛіМ. 2007. № 18. С. 6). *Думаю, што пасля заканчэння ўсіх работ Жылічы пачнуць выглядаць **не горш за Нясвіж*** (ЛіМ. 2007. № 18. С. 4). *«Зброя масавага ўздзеяння» становіцца **не менш эфектыўнай за** звычайную ваенную **зброю*** (Звязда. 2007. № 71. С. 1). *Гэтую мянушку козачка атрымала з-за сваёй белізны шэрсці на фоне астатніх козачак, якія былі **чарнейшыя за ноч*** (Маладосць. 2009. № 12. С. 43). *Караханава жонка падышла бліжэй і, упэўніўшыся, што дрэва распусціла лісткі, як і ўсе астатнія, усцешылася **не меней за мужа*** (Маладосць. 2009. № 12. С. 47). ***Не менш за ўладарку** Дубалекаў быў здзіўлены і старэйшы брат* (Полымя. 2008. № 2. С. 45). *Сёлетняя праграма кінафестывалю «Лістапад» **не горшая за Канскую**!* (Звязда. 2010. № 214. С. 7). *Легенда пра Паўлюка Багрыма доўгі час засланяла **цікавейшую за** любую **легенду** гісторыю пра лёс самога Ігнацыя Яцкоўскага* (НН. 2011. № 2. С. 12).

У манаграфіі «Прыназоўнік у беларускай мове» (1971) П. П. Шуба адзначаў, што ў адзін сінанімічны рад з прыназоўнікам *за* ўваходзяць прыназоўнікі *ад* і *над*. Дамінантай у гэтым радзе з'яўляецца менавіта прыназоўнік *за*. Прыназоўнік *ад*, па словах даследчыка, у літаратурнай мове кваліфікуецца як дыялектны. Памета *абл.* (абласное слова) даецца да гэтага прыназоўніка ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы», дзе прыводзіцца наступнае азначэнне: «13. *Абл.* Ужываецца ў значэнні прыназоўніка «за» (звычайна пры вышэйшай і найвышэйшай ступені) пры ўказанні на прадмет, з якім у нейкіх адносінах параўноўваецца другі прадмет» [5].

[*] П. П. Шуба называў *у параўнанні з* канструкцыяй з прыназоўнікавай функцыяй [1].

[**] Новы запавет / пер. на бел. мову У. Чарняўскага; навук. рэд. Ж. Некрашэвіч-Кароткая; літ. апрац. тэксту А. Бокуна. – Мінск: Біблейскае тав-ва ў РБ, 2003. – 304 с.

У «Граматыцы беларускай мовы» (1966) канструкцыі з прыназоўнікам *ад* характарызуюцца як мала пашыраныя, выпадкі ўжывання якіх «назіраюцца пераважна ў першай палавіне XX ст.» [6].

Назіранні паказваюць, што канструкцыі з прыназоўнікам *ад* і сёння ўласцівыя жывому дыялектнаму маўленню. Так, прыклад дыялектнага ўжывання выпадкова трапіўся на сайце «Рэгіянальнай газеты»: *Дык яны яшчэ што вельмі мяне на шчату там лепшым у сябе шчыталі, што я там* ***разумнейшы ад усіх*** (rh.by/ – 19.10.2010). Арфаграфія і пунктуацыя пададзеныя гэтак жа, як у першакрыніцы.

У сучасным перыядычным друку мадэль з прыназоўнікам *ад* ужываецца рэдка. Сабраны фактычны матэрыял утрымлівае адзінкавы прыклад рэалізацыі дадзенай мадэлі на старонках перыёдыкі: *Што можа быць* ***прыгажэй ад*** *гэтай* ***казкі****!* (БЛГ. 2007. № 27. С. 6). Паводле назіранняў П. Жаўняровіча, «беларускія тэксты апошняга часу пацвярджаюць амаль поўную адсутнасць прыназоўніка **ад** у канструкцыях з кампаратывам прыметніка…» [7].

Спарадычнасць ужывання можа быць звязана з уплывам нарматыўных граматык, якія характарызуюць гэту мадэль як дыялектную, неўласцівую для літаратурнай мовы. Беларускамоўныя інтэрнэт-рэсурсы ў меншай ступені падпарадкоўваюцца правілам кадыфікаванай мовы, чым друкаваныя выданні, і гэта, у першую чаргу, абумоўлена адсутнасцю жорсткай рэдактуры. Інтэрнэт-прастора адкрытая для размоўных лексічных і граматычных форм, а значыць, выразна адлюстроўвае жывыя маўленчыя працэсы. Менавіта ў інтэрнэце было знойдзена нямала выпадкаў ужывання мадэлі з прыназоўнікам *ад*: *Хто ж гэта любіць* ***разумнейшага ад сябе****, ды яшчэ калі ў таго «нядрэмны і турботлівы розум»?* (iuzhyk.livejournal.com/ – 19.10.2010). *Не трэба прасіць, асабліва ў тых, хто* ***мацнейшы ад вас****…* (forums.tut.by/ – 19.10.2010). *Сам па сабе* ***разумнейшы ад усіх і ад кожнага,*** *а ў гэтае іхняе гісторыі, як і ўсе, – паўдурак* (www.kamunikat.org/ – 19.10.2010). *Ах, якія мы слабыя, як наша вера павінна ўзрастаць, пашырацца, узмацняцца, станавіцца* ***мацнейшай ад*** *нашых* ***аргументаў****...* (sviatar-by.livejournal.com/ – 19.10.2010). ***Прыгажэй ад яе*** *няма больш на свеце* (www.litru.ru/ – 19.10.2010). *Ходзіць гэткі бэйбус па праспекце Ад паштамта да кафэ «Вясна»,* ***Разумнейшы ад усіх*** *на свеце, Ён глядзіць з пагардаю на нас* (dyatlovo.info/avtory/ – 19.10.2010).

Адназначна адказаць на пытанне, з чым звязана актывізацыя мадэлі ў сучасным беларускім маўленні, наўрад ці магчыма. Гэта можа быць абумоўлена ўплывам польскай мовы, дзе канструкцыя з прыназоўнікам *od* з'яўляецца нормай літаратурнай мовы: ***on jest wyższy od ciebie*** *ён вышэйшы за (ад) цябе;* ***ty to robisz lepiej ode mnie*** *ты гэта робіш лепш за (ад) мяне* [8]. Верагодным падаецца і ўплыў размоўна-дыялектнага маўлення, у якім працягвае функцыянаваць гэта сінтаксічная мадэль. Акрамя таго, пашырэнне ўжывальнасці канструкцыі з прыназоўнікам *ад* можа быць выклікана вяртаннем да тых норм, якія былі выпрацаваныя ў першай палове XX ст.,

у перыяд да пачатку правядзення палітыкі беларусізацыі. Нарматыўнай дадзеную сінтаксічную мадэль лічыў, напрыклад, Я. Лёсік. У артыкуле «Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы» (1924), разглядаючы асаблівасці ўжывання роднага склону, ён адзначаў, што «ў беларускай мове параўнальнасьць выражаецца родным склонам з прыназоўнікамі «за», «ад», «над» [9].

Спарадычнасцю ўжыванняў характарызуецца канструкцыя з параўнальным зваротам, які далучаецца да кампаратыва пры дапамозе падпарадкавальнага злучніка *як*. У сабраным фактычным матэрыяле прысутнічаюць толькі два прыклады рэалізацыі дадзенай мадэлі (акрамя згаданага вышэй *Хочацца, каб і ў нас было калі* ***не лепш****, дык* ***не горш, як у іншых***): *У гатэлі ціха, нават* ***цішэй, як учора*** (Ф. Сіўко. Дзень бубна. С. 140). *Людзі тады працавалі сапраўды цяжка і шмат, але суседнічалі і сябравалі паміж сабою шчыра і* ***мацней, як цяпер*** (Звязда. 2010. № 191. С. 3).

Адна з прычын невялікай актыўнасці мадэлі можа быць звязана са спецыфікай ужывання злучніка *як*. Дадзеная лексічная адзінка прадстаўлена ў мове як назоўнік (адно значэнне), злучнік (шэсць значэнняў), часціца (чатыры значэнні), уваходзіць у склад вялікай колькасці ўстойлівых выразаў. Названыя характарыстыкі, відавочна, забяспечваюць высокую частотнасць ужыванняў лексемы *як* у мове, прычым у складзе розных сінтаксічных канструкцый. Гэта можа прыводзіць да развіцця аманімічных і сінанімічных адносін і тым самым ускладняць успрыманне маўленчай плыні. Акрамя таго, злучнік *як* шырока ўжываецца для выражэння **колькаснага** значэння ў канструкцыях з кампаратывам. У такіх умовах наяўнасць канкурэнцыі з боку іншай лексемы можа мець вызначальнае значэнне.

Для выражэння **параўнальнага** значэння ў канструкцыях з кампаратывам значна часцей выкарыстоўваецца альтэрнатыўны злучнік *чым*, семантыка якога абмяжоўваецца толькі трыма значэннямі, асноўнае з якіх – параўнальнае: «1. Ужываецца для сувязі параўнальных сказаў і членаў сказа са значэннем параўнання, супастаўлення, якія паясняюць у галоўным сказе прыслоўе ці прыметнік у форме вышэйшай ступені параўнання» [10]. Згодна з назіраннямі Л. І. Бурака, выбар злучніка ў складзе параўнальных зваротаў абумоўлены разнавіднасцю параўнальных адносін, сярод якіх вылучаюцца ўласнае параўнанне, градацыйнае параўнанне, азначальная рэпрэзентацыя і ўраўноўванне. Канструкцыі з кампаратывам адносяцца да ліку канструкцый з **градацыйным параўнаннем**, для выражэння якога якраз і ўжываецца злучнік *чым* [11].

Пра распаўсюджанасць у сучаснай беларускай мове мадэлі са злучнікам *чым* яскрава сведчаць прыклады: *Гэта ідэя, відаць, яшчэ* ***больш нерэальная, чым*** *адначасовы рамонт усіх дарог, замена ліўневых стокаў і кіраванне надвор'ем па жаданню чалавецтва* (Звязда. 2007. № 71. С. 3). *Але такога кшталту кнігі запатрабаваныя чытачом, і гэта факт. Яны запатрабаваныя* ***не менш****, а, можа, і* ***больш, чым працы У. Пропа, А. Афанасьева,***

***Я. Карскага*** (ЛіМ. 2007. № 18. С. 6). *Паказальны прыклад дзейнічае на жаўнераў* ***лепей, чым розгі*** (Полымя. 2008. № 2. С. 50). *Ён, сваяк самога князя Тышкевіча, абараніў бы пані Хрысціну* ***не горш, чым Касцюшка!*** (Полымя. 2008. № 2. С. 51). *Палкоўнік Радзівілавага войска –* ***болей авантажная*** *партыя,* ***чым экс-генерал*** *амерыканскай арміі* (Полымя. 2008. № 2. С. 58). *Каралеўскае слова зараз важыць* ***болей, чым прыхамаць*** *Радзівіла* (Полымя. 2008. № 2. С. 60). *Прычыны дзівоснага ўчынку хвалявалі яго* ***мацней, чым боль*** (Полымя. 2008. № 2. С. 69). *Пенсіі растуць* ***хутчэй, чым зарплаты*** (Звязда. 2000. № 194. С. 2). *Ён адзначыў, што фінансы лекуюцца* ***хутчэй, чым беспрацоўе*** (www.svaboda.org/ – 12.11.2010).

**2. Спосабы выражэння колькаснага значэння.** Ад канструкцый з параўнальнымі адносінамі трэба адрозніваць канструкцыі з колькаснымі адносінамі, якія маюць падобную структуру. Кампаратыў, які ўваходзіць у склад канструкцый з колькаснымі адносінамі, утвораны ад прыслоўя *многа* або ад прыслоўя *мала*: ***больш (болей), менш (меней)***. У такіх спалучэннях найбольш актыўна выкарыстоўваецца злучнік *як*: *У рэспубліканскім прафсаюзе работнікаў культуры аб'яднаныя зараз ужо* ***больш як 100 тысяч чалавек*** (ЛіМ. 2007. № 18. С. 4). ***Больш як 70 гадоў таму*** *ў Маскве адбыўся ўсесаюзны музычны конкурс* (ЛіМ. 2007. № 18. С. 11). *Вельмі прыгожа інкруставаная самая старажытная дуда на Беларусі, выраблена* ***больш як 130 гадоў таму*** (ЛіМ. 2007. № 18. С. 11). *Артыстку амаль не бачна, але яна працягвае выступленне. Яно доўжыцца даволі доўга –* ***болей як гадзіну****, а бывае ў ясную ночку – пакуль месяц не выключыць свой пражэктар* (ЛіМ. 2007. № 18. С. 9). *Так, у параўнанні з 1999 годам колькасць кітайцаў, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Беларусі, вырасла* ***больш як у 20 разоў*** (Звязда. 2010. № 176. С. 1). *Улічваючы, што толькі за апошнія паўгода фізічныя асобы завезлі ў Беларусь* ***больш як 110 тыс. аўтамабіляў****, рынак патрыманых аўтамабіляў сёння перапоўнены* (Звязда. 2010. № 176. С. 1). *Кожнаму шостаму жыхару Мінска* ***менш як 17 гадоў*** (belapan.com/ – 03.12.2010). *Мінсельгасхарч прадставіць на інвестфоруме ў Германіі* ***не менш як чатыры праекты*** (news.belta.by/ – 03.12.2010).

Дастаткова пашыранымі з'яўляюцца сінтаксічныя канструкцыі з прыназоўнікам *за*, напрыклад: *У Мінску крыху* ***больш за год*** *таму адкрылася невялічкая епархіяльная кнігарня «Духоўная кніга»* (ЛіМ. 2007. № 15. С. 4). *Аказалася, што вось ужо* ***больш за дваццаць гадоў*** *Леанід Галавач з сястрой і дзецьмі прыходзіць у музей у дзень смерці свайго бацькі* (НН. 2010. № 19. С. 12). *Статыстыка сведчыць, што* ***больш за 70 працэнтаў беспрацоўных*** *на Вілейшчыне – жанчыны* (Звязда. 2010. № 176. С. 2). *Яны былі знаёмыя* ***больш за паўстагоддзя****, і пасля смерці Быкава Бураўкін уклаў кнігу ўспамінаў сяброў і знаёмых «Наш Быкаў»* (news.tut.by/ – 03.12.2010).

Для выражэння колькаснага значэння ўжываецца таксама злучнік *чым*. Большасць прыкладаў з гэтым злучнікам былі знойдзены ў інтэрнэце: *А вось кошт пуцёвак не павінен вырасці* ***больш чым на 9 працэнтаў***

(mgazeta.by – 03.12.2010). *У Беларусі з лістапада* ***больш чым у 1,3 раза*** *павялічваюцца дзяржстыпендыі* (www.tvr.by/ – 03.12.2010). *Паводле інфармацыі Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя, у Беларусі купанне забаронена* ***больш чым у 50 вадаёмах*** (zaslavl.by/ – 03.12.2010). *Урачыстая цырымонія перапахавання астанкаў* ***больш чым 300 яўрэяў****, расстраляных фашыстамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, адбылася 26 лістапада на могілках «Паўночныя» ў Брэсце* (euroradio.by/ – 3.12.2010).

Беспрыназоўнікавым і бяззлучнікавым канструкцыям з кампаратывам у навуковай літаратуры звычайна адмаўляюць у праве на нарматыўнае ўжыванне. Такія сінтаксічныя ўтварэнні прынята лічыць русізмамі [12], [13]. Аднак, як сведчыць фактычны матэрыял, канструкцыі з колькаснымі адносінамі, у якіх назіраецца пропуск прыназоўніка або злучніка, з'яўляюцца даволі распаўсюджанымі ў маўленчай практыцы. Напрыклад: *Іх таварышы тым часам перазараджалі зброю – на гэта патрабавалася* ***не менш пяці хвілін*** (Полымя. 2008. № 2. С. 56). *Прыбытак з яе гаспадаркі штогод складаў* ***не больш двухсот тысяч*** (Полымя. 2008. № 2. С. 53). *Дакумент падпісалі* ***больш 70 прадстаўнікоў*** *беларускай грамадскасці* (НЧ. 2010. № 3. С. 10). *У Брэсцкай вобласці Генпракуратура знайшла* ***больш 100 чыноўнікаў-злачынцаў*** (www.perspektyva.org/ – 03.12.2010). *Гарады абласнога падпарадкавання – населеныя пункты з колькасцю насельніцтва* ***не менш 50 тысяч чалавек*** (be.wikipedia.org/ – 03.12.2010). *Я проста зразумеў, што* ***больш сутак*** *мне не дадуць у любым выпадку* (nn.by/ – 03.12.2010).

Паколькі ў апрацаваным матэрыяле не было выяўлена ніводнага прыкладу беспрыназоўнікавых/бяззлучнікавых сінтаксічных канструкцый з параўнальнымі адносінамі, можна выказаць меркаванне, што дадзеная мадэль ужываецца для выражэння менавіта колькаснага значэння. Выпадкі яе рэалізацыі ў такім значэнні можна знайсці ў перыядычных выданнях пачатку XX ст., у прыватнасці на старонках «Нашай Нівы»: *На сабраньне прышло* ***болей 140 чл.*** *і на прадседацеля сабраньня быў выбран Фендзявіцкі слабодзкі* (НН. 1913. № 7. С. 3) [14].

Такім чынам, структура канструкцый з колькаснымі адносінамі ў вышэйпрыведзеных прыкладах адпавядае наступным сінтаксічным мадэлям:

1) *больш (менш) +* ***як*** *+ колькасны назоўнік (назоўнікавае злучэнне)*;
2) *больш (менш) +* ***за*** *+ колькасны назоўнік (назоўнікавае злучэнне)*;
3) *больш (менш) +* ***чым*** *+ колькасны назоўнік (назоўнікавае злучэнне)*;
4) *больш (менш) + колькасны назоўнік (назоўнікавае злучэнне).*

**3. Вывады.** Вынікі назіранняў за адметнасцямі функцыянавання ў беларускай мове ў пачатку XXI ст. канструкцый з кампаратывам дазваляюць канстатаваць наступнае. Для выражэння параўнальнага значэння шырока выкарыстоўваюцца мадэлі з прыназоўнікам *за* і злучнікам *чым*. Дастаткова распаўсюджанай у сучасным беларускім маўленні з'яўляецца мадэль з прыназоўнікам *ад*. Сустракаюцца таксама прыклады рэалізацыі мадэлі са злуч-

нікам *як* і прыназоўнікам *у параўнанні з*. Выпадкі ўжывання мадэлі з прыназоўнікам *над* у сучасным перыядычным друку не выяўленыя.

Структурнае падабенства да канструкцый з параўнальнымі адносінамі маюць канструкцыі з колькаснымі адносінамі, у склад якіх уваходзіць кампаратыў ***больш (болей), менш (меней)***. Аднак існуюць і адрозненні, якія маюць немалаважнае значэнне для маўленчай практыкі. Найбольш распаўсюджанымі сярод канструкцый з колькаснымі адносінамі з'яўляюцца мадэлі са злучнікам *як*. У меншай ступені ў мове прадстаўлены мадэлі з прыназоўнікам *за* і злучнікам *чым*, а таксама беспрыназоўнікавыя і бяззлучнікавыя структуры.

Размежаванне параўнальнага і колькаснага значэнняў уплывае на пастаноўку знакаў прыпынку ў пісьмовых тэкстах. У канструкцыях з параўнальнымі адносінамі злучнікі *як* і *чым* пачынаюць параўнальныя звароты, якія на пісьме адасабляюцца. Канструкцыі з колькаснымі адносінамі адасобленых зваротаў у сваім складзе не маюць, і коска перад злучнікамі *як* і *чым* не ставіцца.

Мадэлі канструкцый з параўнальнымі адносінамі, як і мадэлі канструкцый з колькаснымі адносінамі, па сутнасці, утвараюць семантыка-сінтаксічныя эквіваленты, варыянты фармальнага ўвасаблення аднолькавага плана зместу, а гэта «жывая і абавязковая рыса развіцця любой сучаснай мовы» [15], сведчанне, «з аднаго боку, яе багацця і гнуткасці, з іншага боку – яе бесперапыннага развіцця» [16].

## Спіс скарачэнняў

**$Adj_{comp}$** – прыметнік у форме вышэйшай ступені параўнання; **$Adv_{comp}$** – прыслоўе ў форме вышэйшай ступені параўнання; **N** – назоўнік або іншая часціна мовы ў значэнні назоўніка; **P** – займеннік; **Н. скл.** – назоўны склон; **Р. скл**. – родны склон; **В. скл.** – вінавальны склон; **Т. скл.** – творны склон; **ЛіМ** – газета «Літаратура і мастацтва»; **Мк.** – Евангелле паводле Марка; **НН** – газета «Наша Ніва»; **БЛГ** – «Белорусская лесная газета»; **НЧ** – газета «Новы час».

## Літаратура

1. Шуба, П. П. Прыназоўнік у беларускай мове / П. П. Шуба. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1971. – С. 193.

2. Граматыка беларускай мовы: у 2 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства; рэдкал.: К. К. Атраховіч (Крапіва) [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, – 1966. – Т. 2: Сінтаксіс. – С. 147.

3. Шуба, П. П. Прыназоўнік у беларускай мове. – С. 193.

4. Сучасная беларуская літаратурная мова: марфалогія: вучэб. дапам. / Н. В. Гаўрош [і інш.]; пад рэд. М. С. Яўневіча. – Мінск: Выд. Ул. М. Скакун, 1997. – С. 235.

5. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы: у 5 т. / пад агул. рэд. К. К. Атраховіча (К. Крапівы). – Мінск: БелСЭ, 1977. – Т. 1. – С. 111.

6. Граматыка беларускай мовы: у 2 т. – С. 145.

7. Жаўняровіч, П. Ступені параўнання прыметнікаў і прыслоўяў. Словаформы і сінтаксічныя сувязі / П. Жаўняровіч // Роднае слова. – 2000. – № 8. – С. 75.

8. Падручны польска-беларускі слоўнік / пад рэд. А. Обрэмбскай-Яблонскай, М. Бірылы. – Варшава: Ведза повшэхна, 1962. – С. 432.

9. Лёсік, Я. 1921–1930: зб. тв. / уклад., прадм. і камент. А. Жынкіна. – Мінск: Выд. Логвінаў, 2003. – С. 142.

10. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы: у 5 т. – Т. 5, кн. 2. – С. 326–327.

11. Бурак, Л. І. Сучасная беларуская мова. Сінтаксіс. Пунктуацыя: вучэб. дапам. / Л. І. Бурак. – Мінск: Універсітэцкае, 1987. – С. 185.

12. Яўневіч, М. С. Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы / М. С. Яўневіч, П. У. Сцяцко. – Мінск: Аверсэв, 2006. – С. 14.

13. Бушлякоў, Ю. Жывая мова: больш за тое, даўжэй за тыдзень; вышэй за нуль / Ю. Бушлякоў // Lj community «Беларуская мова» [Электронны рэсурс]. – 2010. – Рэжым доступу: http://community.livejournal.com/by_mova/9965. – Дата доступу: 12.11.2010.

14. Слоўнік мовы «Нашай Нівы» (1906–1915): у 5 т. / уклад. А. М. Анісім [і інш.]; пад рэд. В. П. Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2003. – Т. 1: А – Д. – С. 228.

15. Шкраба, І. Р. Варыянтнасць у сучаснай беларускай мове (структурна-граматычны і функцыянальна-дынамічны аспекты) / І. Р. Шкраба. – Мінск: Асар, 2004. – С. 5.

16. Золотова, Г. А. О характере нормы в синтаксисе / Г. А. Золотова // Синтаксис и норма: сб. ст. / Акад. наук СССР, Ин-т рус. яз.; отв. ред. Г. А. Золотова. – М.: Наука, 1974. – С. 147.

## Summary

Variant ways of expression of comparative and quantitative meanings in syntactic constructions including a comparative are considered in the article. Some linguistic features and specifity of usage of such constructions in the contemporary Belarusian language are observed.

*Інстытут мовы і літаратуры*
*імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*9.02.2011 г.*

*УДК 811.161.1’373.45’342.8*

*В. І. УЛАСЕВІЧ, Н. М. ДАЎГУЛЕВІЧ*

# ДА ПЫТАННЯ АБ МЕСЦЫ НАЦІСКУ Ў НОВЫХ ЛЕКСЕМАХ АНГЛА-АМЕРЫКАНСКАГА ПАХОДЖАННЯ

Кардынальныя змены ў грамадска-палітычным, сацыяльным, эканамічным і культурным жыцці грамадства ў канцы XX – пачатку XXI ст. аказалі вялікі ўплыў на лексічны склад беларускай мовы. У апошнія дзесяцігоддзі ён дастаткова інтэнсіўна папаўняецца новымі словамі, значную колькасць якіх складаюць запазычанні.

Запазычванне – гэта натуральны працэс у гісторыі кожнай мовы, які адлюстроўвае культурныя, эканамічныя, палітычныя сувязі народаў. Выгаднае геапалітычнае становішча краіны спрыяе пашырэнню міжмоўных кантактаў і выклікае папаўненне лексічнай сістэмы беларускай мовы запазычаннямі з англійскай, французскай, нямецкай і іншых моў. Аднак асноўная частка новых іншамоўных лексем мае англа-амерыканскае паходжанне, што характэрна ў наш час не толькі для беларускай, але і для многіх іншых еўрапейскіх моў.

Прыярытэт той ці іншай мовы сярод крыніц запазычвання звычайна вызначаюць сацыяльна-эканамічныя і палітычныя абставіны. Можна сцвярджаць, што ў канцы XX – пачатку XXI ст. англійская мова стала мовай глабальнай камунікацыі. Міжнародны статус англійскай мовы забяспечваецца і дасягненнямі ў сферы інфармацыйных тэхналогій, якія дазваляюць хутка і дастаткова лёгка перадаваць тэксты на англійскай мове ў пісьмовай (у тым ліку электроннай) і вуснай формах. Пазітыўнай умовай для пранікнення англіцызмаў і амерыканізмаў у лексічную сістэму беларускай мовы з’яўляецца і змена статусу англійскай мовы ў грамадстве. Яе веданне сёння – неабходная ўмова для паспяховай камунікацыі з іншым светам. З’яўляюцца новыя магчымасці яе вывучэння: спецыяльныя курсы, дзе выкладанне вядуць настаўнікі з ЗША і Вялікабрытаніі, вывучэнне мовы за мяжой і г. д. Таму колькасная прадстаўленасць запазычанняў з англійскай мовы і яе амерыканскага варыянта пераважае ў параўнанні з запазычаннямі з іншых моў.

Тэматычна новыя запазычанні ахопліваюць практычна ўсе сферы сучаснага жыцця, якія з найбольшай паўнатой адлюстроўваюць змены, што адбываюцца ў жыцці грамадства: палітыку, сацыяльны лад і ідэалогію (*істэблішмент, прэс-рэліз, саміт, спічрайтар*[*]), новыя эканамічныя адносіны

[*] Прыклады беларускіх лексем узяты з выдання: Уласевіч, В. І. Слоўнік новых слоў беларускай мовы / В. І. Уласевіч, Н. М. Даўгулевіч. – Мінск: ТэтраСістэмс, 2009. – 448 с.

(*афшор, бартар, клірынг, тэндар*), сферу інфармацыйных тэхналогій (*драйвер, ноўтбук, сканер, прынтар*), спорт (*дартс, кёрлінг, кікбоксінг, рафтынг*), культуру і шоу-бізнес (*бодзі-арт, прадзюсар, хіп-хоп, шоу*), медыцыну і касметалогію (*ліфтынг, скрынінг, стоўн-тэрапія*), быт (*арганайзер, памперсы, сайдынг, шэйкер*) і пад.

Запазычванне ўяўляе сабой працяглы працэсператварэння іншамоўных лексічных сродкаў у словы, падобныя спрадвечным. З фармальнага боку гэты працэс прадугледжвае фанетычнае, графічнае, граматычнае і словаўтваральнае іх засваенне. Іншамоўныя словы пачынаюць выкарыстоўвацца для называння рэалій, уключаюцца ў сінанімічныя рады. Пры гэтым часта адзначаецца вар'іраванне іх матэрыяльнай формы, што праяўляецца ў ваганнях у вымаўленні, напісанні і акцэнтуацыі. Падобныя ваганні з'яўляюцца непазбежнымі, паколькі новыя запазычанні ўступаюць ва ўзаемадзеянне з лексікай мовы-рэцыпіента і паступова асімілююцца беларускай лексічнай сістэмай.

Праблемы ў акцэнтуацыі англіцызмаў і амерыканізмаў выкліканы ўзаемаўплывамі запазычанай і спрадвечнай лексікі, а ў некаторых выпадках і лексікі мовы-пасрэдніка: націск у мове-крыніцы, уздзеянне мовы-пасрэдніка, законы аналогіі і традыцыі ў адносінах да мовы-рэцыпіента, запазычанне праз вуснае маўленне або засваенне слова праз пісьмовы тэкст (транскрыпцыя, заснаваная на вымаўленні слова ў мове-крыніцы, або транслітарацыя, г. зн. арыентацыя на напісанне слова) і інш.

Новыя запазычанні на першым этапе іх існавання ў мове звычайна ўяўляюць сабой пазасістэмную з'яву. Яны чужыя для мовы-рэцыпіента і часта захоўваюць націск мовы-крыніцы. Аднак паступова яны пачынаюць засвойвацца і пранікаюць у сістэму мовы, якая іх запазычыла [1].

Такім чынам, ваганні ў акцэнтуацыі запазычаных слоў тлумачацца найперш ступенню іх засвоенасці ў беларускай мове. Націск можа захоўвацца на тым жа складзе, што і ў мове-крыніцы, ці перамяшчацца на наступныя склады. Пры гэтым націск з'яўляецца фактам маўлення, вар'іраванне ў дадзеным выпадку можа быць вельмі шырокім у розных носьбітаў мовы, адлюстроўваць узроставыя, лакальныя, прафесійныя, эмацыянальныя і іншыя фактары [2], а таму вызначэнне нормы з'яўляецца вельмі складаным.

Тым не менш праблемы пры вызначэнні націску сустракаюцца толькі ў некаторых лексемах, у пераважнай жа большасці запазычанняў ваганні ў акцэнтуацыі не выяўляюцца.

Так, вельмі шматлікай з'яўляецца група назоўнікаў на *-ер*, *-ар* (*-er, -or*): *ба́йкер, ба́нер, ба́ртар, бло́гер, ва́ўчар, га́мбургер, ме́неджар, спо́нсар* і пад. Націск на першым складзе ў гэтых назоўніках адпавядае націску ў мове-крыніцы. Націск на другім складзе маюць назоўнікі *дыве́лапер, дыза́йнер, дыска́ўнтар, кампа́йлер, камп'ю́тар, перфо́рмер, права́йдар, прадзю́сар* і пад., што таксама адлюстроўвае акцэнтуацыю англійскай мовы.

Аднак у некаторых шматскладовых лексемах націск можа не супадаць з націскам у мове-крыніцы і перамяшчацца на наступны склад (наступныя склады). Звычайна ў такіх назоўніках, па аналогіі з іншымі назоўнікамі гэтай групы, націск у беларускай мове прыпадае на перадапошні склад: *арганáйзер* – англ. *`organizer*[*], *аўды́тар* – *`auditor, дыстрыб'ю́тар* – *di`stributor*, *мерчандáйзер* – *`merchandiser*, *супервáйзер* – *`supervisor, тынэ́йджар* – *`teenager, эквалáйзер* – англ. *`equalizer* і пад.

Сярод англіцызмаў вылучаецца і вялікая група назоўнікаў на *-інг*, *-ынг* (*-ing*). Націск у гэтых лексемах звычайна прыпадае на перадапошні склад у шматскладовых лексемах, напрыклад: *віндсёрфінг, інжыні́рынг, кайтскі́інг, кансáлтынг*, і на першы склад у двухскладовых: *бáнкінг, бло́гінг, бо́ўлінг, бры́фінг* і пад. Аднак некалькі шматскладовых лексем пад уплывам мовы-крыніцы зафіксаваны з націскам на першым складзе, у прыватнасці, *мáстэрынг* і *мáйстэрынг* (*`mastering*) і *хэ́пенінг* (*`happening*). Падобныя тэндэнцыі адзначаюцца і ў іншых усходнеславянскіх мовах – рускай і ўкраінскай.

Ваганні ў націску характэрны і для слова *маркетынг,* якое ў англійскай мове мае націск на першым складзе: *`marketing*. Нягледзячы на тое, што ў слоўніках беларускай мовы (СІС, БАС, СНС, СРБС і інш.) гэта слова зафіксавана з націскам на другім складзе, у вусным маўленні сустракаюцца прыклады з выкарыстаннем слова з націскам на першым складзе, што можа быць звязана з уплывам англійскай мовы. Цікава ў гэтай сувязі, што лексікаграфічныя крыніцы рускай і ўкраінскай моў звычайна падаюць гэту лексему ў двух раўнапраўных варыянтах – з націскам на першым і другім складзе (НСТЗ, УОСРЯ, НИС і інш.). Пры гэтым адзначаецца, што «слова *маркетинг* ужо заўважна стала вагацца ў бок больш натуральнага для рускай мовы варыянта – *маркéтинг*» [3].

Асноўныя пытанні выклікае напісанне і вымаўленне некаторых запазычанняў, якія ў англійскай мове з'яўляюцца складанымі словамі ці ўстойлівымі спалучэннямі, а таму ў беларускай мове могуць перадавацца разам або праз злучок, напрыклад: *бізнес-вумен* і *бізнесвумен, бодзі-білдынг* і *бодзібілдынг, джэк-пот* і *джэкпот, кікбоксінг* і *кік-боксінг.* Адпаведна ў падобных словах існуюць праблемы ў вызначэнні месца націску, што выклікае наяўнасць некалькіх фанетыка-графічных варыянтаў, напрыклад: *сноўбо́рд, сно́ўбард* і *снаўбо́рд* – англ. *`snowboard*.

Большасць такіх лексем у мове-крыніцы ўтварылася шляхам словаскладання, напрыклад:

*бо́бслей* і *бабслéй* – англ. *bobsleigh*, ад *bob* – катацца (на санках) і *sleigh* – санкі;

*бойфрэ́нд*, *бо́й-фрэ́нд* і *бо́йфрэнд* – англ. *boyfriend*, ад *boy* – хлопчык і *friend* – сябра;

[*] Тут і далей націск у лексемах англійскай мовы прыводзіцца паводле электроннага слоўніка «Oxford Advanced Learner's Dictionary, 7 Edition».

*ноўтбу́к* і *но́ўтбук* – англ. *notebook*, ад *note* – запіс і *book* – кніга;

*са́ўнд-трэ́к, са́ўндтрэк* і *саўндтрэ́к* – англ. *soundtrack*, ад *sound* – гук і *track* – дарожка;

*сноўбо́рд, сно́ўбард* і *снаўбо́рд* – англ. *snowboard*, ад *snow* – снег і *board* – дошка.

Асноўны націск у падобных лексемах у англійскай мове прыпадае на першы склад: *`bobsleigh, `boyfriend, `notebook, `soundtrack, `snowboard.*

Звычайна ўсе запазычаныя словы (простыя, вытворныя або складаныя) успрымаюцца ў мове-рэцыпіенце як цэлая невытворная аснова [4], і ў беларускай мове прыведзеныя англіцызмы з'яўляюцца простымі, нечлянімымі. Аднак шырокае распаўсюджанне англійскай мовы, асабліва ў апошнія гады, спрыяе таму, што вышэйадзначаныя англіцызмы могуць успрымацца як складаныя тымі беларусамі, хто валодае англійскай мовай. Тым не менш сцвярджаць, што складанымі такія словы будуць для ўсіх носьбітаў беларускай мовы, нельга.

Сустракаюцца выпадкі запазычвання рада слоў з аднолькавым кампанентам, у выніку чаго гэтыя словы пачынаюць успрымаюцца як складаныя: *бодзі-арт, бодзібілдар, бодзібілдынг, бодзігард, бодзістайлінг, бодзіфлекс; бойфрэнд, гёрлфрэнд; сёрфінг, віндсёрфінг, кайтсёрфінг, скайсёрфінг; кайтборд, скейтборд, сноўборд; саўнд-прадзюсар, саўнд-трэк, саўнд-чэк*; *прома-акцыя, прома-група, прома-кампанія, прома-сайт, прома-тур* і інш. Такім чынам, падобныя лексемы з'яўляюцца хаця і невытворнымі, але члянімымі. Аднак і ў дадзеным выпадку нельга з упэўненасцю сцвярджаць, што ўсе з прыведзеных лексем будуць успрымацца носьбітамі беларускай мовы, якія недастаткова добра знаёмыя з англійскай мовай, як складаныя.

Тым не менш па аналогіі з беларускімі складанымі назоўнікамі ў такіх лексемах звычайна адбываецца перамяшчэнне націску на другую частку слова і ўзнікненне пабочнага націску ў першай частцы. Даследчыкі рускай мовы звяртаюць увагу на тое, што ў запазычаных складаных словах пабочны націск нярэдка праяўляецца як факт, які «ўраўнаважвае» супярэчнасць паміж акцэнталагічнымі сістэмамі мовы-рэцыпіента і мовы-крыніцы [5].

У гэтым выпадку ў першай частцы захоўваецца нехарактэрны для беларускай мовы ненаціскны [о]: *бодзібілдынг, бойфрэнд, прома-тур* і пад. Прыведзеныя формы адлюстроўваюць навізну запазычанняў, іх можна разглядаць як ступень, якая не выключае ў далейшым замены ненаціскнога [о] на ненаціскны [а]. Так, лексема *галкіпер* (англ. *`goalkeeper*) яшчэ ў пачатку 1970-х гг. мела форму *голкіпер* і выкарыстоўвалася для абазначэння іграка ў замежнай футбольнай камандзе [6]. Зараз фіксуецца толькі ў форме *галкіпер.* На сённяшнім этапе ў беларускай мове існуе дастатковая колькасць лексем з англійскай мовы, блізкіх па структуры да вышэйназваных, падпарадкаваных фанетычным законам акання: *нака́ўт* – англ. *`knockout*; *накда́ўн* – англ. *`knock-down* і пад.

Разгледзім некаторыя групы лексем. Так, састаўныя англійскія словы з другой часткай -бол (-*ball*) маюць у мове-крыніцы націск на першым складзе, а ў беларускай мове замацаваліся з націскам на апошнім складзе, напрыклад, *баскетбóл* – англ. *`basketball*, *валейбóл* – *`volleyball, гандбóл* – *`handball*, *футбóл* – англ. *`football.* Па аналогіі з прыведзенымі словамі і ў новай лексеме *пейнтбóл*, у адрозненне ад англійскай мовы (*`paintball*), націск прыпадае на апошні склад.

Англіцызмы з другой часткай -*мен* (-*man*) таксама маюць націск, які прыпадае на апошні склад: *кангрэсмéн, палісмéн, рэкардсмéн, спартсмéн, яхтсмéн* і пад. (у англійскай мове – націск на першым складзе). Новыя запазычанні таксама фіксуюцца з націскам на апошнім складзе: *бізнесмéн, блюзмéн, пітмéн, супермéн, шоумéн.* Вагаецца націск у лексеме *фрóнтмен* – *франтмéн;* толькі з націскам на першым складзе пакуль зафіксавана слова *мíдлмен.* Можна меркаваць, што ў выпадку, калі гэтыя лексемы замацуюцца ў слоўнікавым складзе беларускай мовы, у іх таксама адбудзецца перамяшчэнне націску на другую частку слова, па аналогіі з іншымі структурна падобнымі да іх лексемамі.

Асобнай увагі патрабуе лексема *бармен.* У большасці беларускіх лексікаграфічных крыніц яна фіксуецца з націскам на першым складзе: *бáрмен* (РБС, БАС, СРБС і інш.), і толькі СІС падае яе з націскам на апошнім складзе: *бармéн.* Форма з націскам на першым складзе (як у мове-крыніцы) з'яўляецца нарматыўнай і для рускай і ўкраінскай моў (УОСРЯ, НИС, СТСУМ і інш.), аднак, як адзначаюць даследчыкі, у паўсядзённым маўленні пад уплывам фактару фармальнай аналогіі даволі часта ўжываецца варыянт з націскам на апошнім складзе [7]. Такім чынам, у дадзеным выпадку перамяшчэнне націску на апошні склад у будучым таксама нельга выключаць.

Акцэнталагічныя змены і варыянтнасць у вымаўленні можна прасачыць на лексеме *ноўтбук,* якая з'яўляецца новай для беларускай і іншых усходнеславянскіх моў. Апошнім часам у беларускай мове выкарыстоўваюцца і іншыя англа-амерыканізмы з часткай -*бук* (-*book*): *арт-бук, нэтбук, покетбук* і *пакетбук, скетчбук, смартбук, «Фэйсбук»* (назва сацыяльнай сеткі), а таксама *субноўтбук*: *Рускамоўны перыяд творчасці Дзмітрыя Дзмітрыева скончыўся выданнем малатыражнай кнігі вядомым майстром* ***арт-бука*** *Віктарам Шлюндзіным у 2003 годзе* (http://asia-paplausk.livejournal.com/ – 10.03.2011). *Спачатку ўсё большае распаўсюджванне атрымлівалі ноўтбукі, затым паявіліся* ***нэтбукі*** (Настаўніцкая газета. 22.02.2011). *Кніга «Як?» – кніга чытабельная. Гэта паўнавартасны нацыянальны* ***покетбук*** (http://www.svaboda.org/ – 10.03.2011). *Вось у мяне на стале ляжыць электронная кніга, карані вытворчасці якой знаходзяцца на Украіне. Гэта* ***пакетбук*** (Настаўніцкая газета. 22.02.2011). ***Скетчбук*** *– па просту «эскізнік», альбом, куды мастак робіць накіды, усё роўна, як свае нататкі і зацемкі ў дзённік піша літаратар* (http://budzma.org/movies/ – 10.03.2011). *Lenovo прадставіла свой першы* ***смартбук*** (www.cesarica.net/be/ – 10.03.2011).

*Паўтары месяцы спатрэбілася беларускай мастачцы Жанне Капуснікавай, каб намаляваць сваіх сяброў па жыцці і* ***Фэйсбуку*** (http://euroradio.fm/ – 10.03.2011). *Кампанія JVC паказала публіцы* ***субноўтбук*** *MP-XV941 на чыпсэце Intel Pentium M* (racyja.of.by/ – 03.01.2006). Наяўнасць гэтых прыкладаў дазваляе сцвярджаць, што лексема *ноўтбук* (і падобныя ёй), хаця фармальна і не з'яўляецца складанай, па аналогіі з вышэйразгледжанымі групамі слоў, павінна падпадаць пад акцэнталагічныя законы беларускай мовы і ўжывацца з націскам на другім складзе. Аднак уплыў мовы-крыніцы, асабліва на маўленне моладзі – асноўнага спажыўца дасягненняў сферы інфармацыйных тэхналогій, аказваецца вельмі моцным, адсюль прыклады выкарыстання лексемы *ноўтбук* з націскам на першым складзе. Цікава прасачыць лексікаграфічную фіксацыю лексем такога тыпу ва ўсходнеславянскіх мовах:

1. У рускіх лексікаграфічных крыніцах назіраецца разнабой пры фіксацыі слова *ноутбук*: яно падаецца з націскам і на першым, і на другім складзе, і варыянтныя формы з націскам на першым або другім складзе. Напрыклад, у ТСРЯХХ, у якім слова падаецца з паметай «зафіксавана ўпершыню», прыводзяцца формы *нóутбук* і *нóтбук*, што сведчыць аб навізне лексемы. Што цікава, ТСРЯХХІ тых жа аўтараў падае варыянты *ноутбýк* і (*разг.*) *нотбýк* з націскам толькі на другім складзе. Параўн. таксама: *нóутбук* у УОСРЯ і НИС; *ноутбýк* у НОСРЯ; а таксама *субноўтбýк* у ТСРЯХХ і ТСРЯХХІ; *пóкетбýк* у дзвюх варыянтных формах у УОСРЯ і СНИС, *покетбýк* з націскам на апошнім складзе ў НИС; *áрт-бýк* у СНИС.

2. Ва ўкраінскай мове ў СТСУМ лексема *нóутбýк* таксама пададзена ў дзвюх варыянтных формах з націскам на першым і другім складзе, а ў НСТЗ пакінуты толькі другі варыянт: *ноутбýк.* Але лексема *пóкетбук* у СТСУМ і НСТЗ падаецца з націскам на першым складзе.

3. У беларускай мове слова *ноўтбýк* упершыню зафіксавана ў СНС з націскам на другім складзе, у СРБС пададзены варыянтныя формы з націскам на першым і на другім складзе: *нóўтбýк*. У СНС таксама зафіксаваны лексемы *субноўтбýк* і *пóкетбук*.

У асобную групу можна вылучыць лексемы, якія ў англійскай мове ўтвораны шляхам спалучэння назоўніка з прыназоўнікам: *афсайд* (англ. *offside,* ад *off side* – літаральна: па-за гульнёй), *онлайн* і *анлайн* (англ. *online*, ад *on line* – літаральна: на лініі), *офлайн* і *афлайн* (англ. *offline*, ад *off line* – літаральна: па-за лініяй), *афшор* і *офшор* (англ. *offshore*, ад *off shore* – літаральна: які знаходзіцца на адлегласці ад берага; па-за тэрыторыяй краіны). У англійскай мове такія лексемы маюць два націскі: пабочны прыпадае на першы склад, асноўны – на другі.

На першым этапе адаптацыі гэтыя запазычанні звычайна, пад уплывам націску ў мове-крыніцы, пішуцца праз дэфіс, з захаваннем ненаціскнога [о], але ў працэсе засваення пачынаюць успрымацца носьбітамі беларускай мовы як адна лексема, па аналогіі з ужо засвоеным беларускай мовай словам

*афсайд* (РБС; СІС і інш.): *аф-шóр* і *оф-шóр* (СІС), *афшóр* (СНС); *онлáйн, он-лáйн, анлáйн*; *офлáйн, оф-лáйн, афлáйн* (СНС). Гэтаму садзейнічае і словаўтваральная адаптацыя падобных лексем: яны становяцца базай для ўтварэння прыметнікаў пры дапамозе суфіксаў *-ав-* і *-н-*: *онлайнавы, анлайнавы; офлайнавы, афлайнавы; афшорны;* выкарыстоўваюцца як першая частка пры ўтварэнні назоўнікаў-кампазітаў: *онлайн-аўкцыён, онлайн-версія, онлайн-выданне, онлайн-канферэнцыя, онлайн-рэжым* (СНС); *анлайн-браніраванне, анлайн-гульня, анлайн-залежнасць, анлайн-канферэнцыя, анлайн-страхаванне*; *афлайн-выданне, афлайн-рэжым* і пад.: *У Мінску 15 лютага прайшла прэзентацыя новага беларускага рэсурсу* ***анлайн-браніравання*** *гасцініц Hotel.by* (http://nn.by/ – 12.03.2011). *У сувязі з такой сітуацыяй урад краіны прыняў рашэнне змагацца з дзіцячай* ***анлайн-залежнасцю*** *на дзяржаўным узроўні. Бацькам далі афіцыйную рэкамендацыю: дазваляць малым траціць на* ***анлайн-гульні*** *не больш за дзве гадзіны ў тыдзень* (Раніца. 17.02.2011). ***Анлайн-канферэнцыя*** *ў інфармацыйным агенцтве БЕЛТА* (http://www.belarus.by/ – 12.03.2011). ***Анлайн-страхаванне*** (http://www.belgosstrakh.by/by/ – 12.03.2011). *На сённяшні дзень гэтая газета з'яўляецца адзіным* ***афлайн-выданнем*** *на рускай мове* (http://valuegraph.us/ – 12.03.2011). *Новыя прыкладанні Google сталі даступныя ў* ***афлайн-рэжыме*** (http://news2.by/ – 12.03.2011). Таму можна меркаваць, што па аналогіі з лексемамі *афсайд, афшор, афшорны*, у якасці нормы ў беларускай мове замацуюцца варыянты: *анлайн, анлайн-, анлайнавы; афлайн, афлайн-, афлайнавы.* Параўн. таксама ступені засваення гэтых лексем у рускай мове: *оффшóр*, *офф-шóр* (ТСРЯХХ), *оффшóр, офшóр, офф-шóр* (ТСРЯХХI), *офшóр* (УОСРЯ; НИС); *он-лáйн, онлáйн* (ТСРЯХХI), *онлáйн* (УОСРЯ; НИС)*; офф-лáйн, оффлáйн* (ТСРЯХХI), *офлáйн* (УОСРЯ); ва ўкраінскай мове: *офшóр* (СТСУМ, НСТЗ); *он-лáйн* (СТСУМ), *онлáйн* (НСТЗ).

Такім чынам, вар'іраванне матэрыяльнай формы запазычанняў англа-амерыканскага паходжання (акцэнталагічны аспект) звязана са ступенню засвоенасці іншамоўных слоў беларускай лексічнай сістэмай. З лінгвістычных фактараў, якія ўплываюць на месца націску, можна выдзеліць уплыў мовы-крыніцы, уздзеянне аналогіі, падпарадкаванне традыцыі мовы-рэцыпіента. У наш час пазамоўны фактар – валоданне англійскай мовай – таксама адыгрывае значную ролю ў апісаных працэсах.

## Спіс скарачэнняў

**БАС** – Беларускі арфаграфічны слоўнік / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы; уклад. Л. П. Кунцэвіч, І. У. Кандраценя; пад рэд. А. А. Лукашанца. – Мінск: Беларус. навука, 2009. – 695 с.; **НИС** – Крысин, Л. П. 1000 новых иностранных слов / Л. П. Крысин. – М.: АСТ-ПРЕСС КНИГА, 2009. – 320 с.; **НОСРЯ** – Иванова, Т. Ф. Новый орфоэпический словарь русского языка. Произношение. Ударение. Грамматические формы / Т. Ф. Иванова. – 2-е изд., стереотип. – М.: Рус. яз.; Медиа, 2005. – 893 с.; **НСТЗ** – Нові слова та значення: словник / Ін-т укр. мови НАН України; уклали: Л. В. Туровська, Л. М. Василькова. – Київ: Довіра, 2009. – 271 с.; **РБС** – Русско-белорусский словарь: в 3 т. / АН Беларуси,

Ин-т языкознания им. Я. Коласа. – 4-е изд., испр. и доп. – Минск: БелЭн, 1993. – Т. 3; **СІС** – Булыка, А. М. Слоўнік іншамоўных слоў: у 2 т. / А. М. Булыка. – Мінск: БелЭн, 1999. – Т. 2; **СНИС** – Шагалова, Е. Н. Словарь новейших иностранных слов (конец XX – начало XXI вв.) / Е. Н. Шагалова. – М.: АСТ; Астрель, 2009. – 943 с.; **СНС** – Уласевіч, В. І. Слоўнік новых слоў беларускай мовы / В. І. Уласевіч, Н. М. Даўгулевіч. – Мінск: ТетраСистемс, 2009. – 448 с.; **СРБС** – Николаева, О. М. Современный русско-белорусский словарь / О. М. Николаева, Т. Н. Трухан; под ред. А. А. Лукашанца. – Минск: ТетраСистемс, 2011. – 576 с.; **СТСУМ** – Сучасний тлумачний словник української мови / за заг. ред. д-ра філол. наук, проф. В. В. Дубічинського. – Харків: ВД «Школа», 2006. – 1008 с.; **ТСРЯХХ** – Толковый словарь русского языка конца XX века. Языковые изменения / РАН, Ин-т лингвистических исследований; под ред. Г. Н. Скляревской. – СПб.: Фолио-Пресс, 1998. – 700 с.; **ТСРЯХХІ** – Толковый словарь русского языка начала XXI века. Актуальная лексика / С.-Петерб. гос. ун-т; под ред. Г. Н. Скляревской. – М.: Эксмо, 2006. – 1136 с.; **УОСРЯ** – Лопатин, В. В. Учебный орфографический словарь русского языка / В. В. Лопатин, О. Е. Иванова, Ю. А. Сафонова. – М.: Эксмо, 2008. – 1184 с.

## Літаратура

1. Суперанская, А. В. Ударение в заимствованных словах в современном русском языке / А. В. Суперанская; АН СССР, Ин-т языкознания. – М.: Наука, 1968. – С. 38.

2. Суперанская, А. В. Ударение в заимствованных словах в современном русском языке. – С. 44.

3. Валгина, Н. С. Активные процессы в современном русском языке: учеб. пособие / Н. С. Валгина. – М.: Логос, 2001. – 304 с. [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://www.hi-edu.ru/e-books/xbook050/01/about.htm. – Дата доступа: 07.02.2011.

4. Суперанская, А. В. Ударение в заимствованных словах в современном русском языке. – С. 15.

5. Суперанская, А. В. Ударение в заимствованных словах в современном русском языке. – С. 18.

6. Акулаў, І. М. Узаемадзеянне моў і запазычанне / І. М. Акулаў // Беларуская мова і мовазнаўства: міжвуз. зб. / Гомел. дзярж. ун-т. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1973. – Вып. 1. – С. 19.

7. Турдуматова, Э. Б. Вариативность как эволюционный процесс развития языка / Э. Б. Турдуматова // Этнокультурная концептология и современные направления лингвистики : сб. науч. тр. – Элиста, 2007. – С. 131 [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://www.lib.kalmsu.ru/zagl.htm. – Дата доступа: 07.02.2011.

## Summary

The article is devoted to the problem of stress in new lexemes of English-American etymology in the modern Belarusian language.

*Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі*
*Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў*

*18.03.2011 г.*

*УДК 811.161.3’374.26:81*

*І. У. КАНДРАЦЕНЯ, Л. П. КУНЦЭВІЧ,*
*В. М. НІКАЛАЕВА, Л. В. РЫЧКОВА*

# ПРАБЛЕМА СІСТЭМАТЫЗАЦЫІ ПАМЕТ У АГУЛЬНАФІЛАЛАГІЧНЫХ СЛОЎНІКАХ ДЛЯ АБАЗНАЧЭННЯ СПЕЦЫЯЛЬНАЙ ЛЕКСІКІ

З’яўляючыся спецыфічнай і параўнальна самастойнай часткай у лексічнай сістэме літаратурнай мовы, спецыяльная лексіка непарыўна звязана з агульнамоўнай. Тэрміналогія любой нацыянальнай мовы – перш за ўсё спараджэнне самой мовы, вынік яе развіцця. На сучасным этапе функцыянавання любой мовы, у тым ліку і беларускай, тэрміналагічная лексіка з’яўляецца адным з асноўных каналаў папаўнення слоўнікавага складу, у чым у наш час знаходзіць сваё моўнае адлюстраванне сацыяльная роля навукі, навукова-тэхнічная рэвалюцыя [1]. Паколькі функцыянальнае развіццё беларускай нацыянальнай мовы было абумоўлена не столькі ўнутрымоўнымі фактарамі, колькі сацыяльнымі, фарміраванне тэрміналагічнай лексікі адбывалася як у выніку натуральнага ходу развіцця ўсёй лексічнай сістэмы, так і свядомай тэрмінатворчасці [2]. Месца, адведзенае спецыяльнай лексіцы ў айчынных акадэмічных слоўніках, несумненна, заслугоўвае пільнай увагі і сведчыць аб неабходнасці вывучэння мовы навукі, яе сувязей і ўзаемаадносін з агульнай сістэмай беларускай літаратурнай мовы.

Пытанне аб класіфікацыі слоў па сферах іх ужывання, аб месцы спецыяльнай тэрміналогіі ў агульнафілалагічных слоўніках, аб’ёме яе слоўнікавага ўключэння і суправаджэння адпаведнымі паметамі з’яўляецца адным з актуальных і складаных пытанняў структуры сучасных лексікаграфічных крыніц беларускай мовы, паколькі ў іх назіраецца далёка не аднолькавая падача тэрмінаў (маюцца на ўвазе розныя прынцыпы адбору спецыяльных слоў і тэрміналагічных спалучэнняў, характар тлумачэння тэрмінаў у філалагічных слоўніках, адрозненні ў адлюстраванні сістэмнасці тэрмінаў і спецыяльных памет). У свой час вядомы лексікограф С. І. Ожагаў адзначаў, што «слоўнік вялікага тыпу павінен з магчымай паўнатой адлюстроўваць тэрміналагічную лексіку» [3], але, па яго словах, з гэтага не вынікае, што ён павінен без разбору ўключаць у сябе любую тэрміналогію энцыклапедычных слоўнікаў і слоўнікаў іншамоўных слоў, якія налічваюць нярэдка звыш сотні тысяч адзінак. Тэарэтычна ў вялікі слоўнік агульнафілалагічнага тыпу павінна ўключацца толькі тая тэрміналогія, якая адлюстроўвае

*істотныя* з’явы ў развіцці навукі, тэхнікі, мастацтва і іншых сфер і галін чалавечай дзейнасці. Але практычна ў існуючых сучасных беларускамоўных лексікаграфічных выданнях назіраецца разнабой у аб’ёме, падачы родавых і відавых тэрмінаў, у маркіраванні іх спецыяльнымі паметамі, у апісанні семантыкі тэрміналагічных адзінак.

Для ўсебаковага даследавання праблемы ўключэння спецыяльнай лексікі ў беларускія тлумачальныя і іншыя агульнафілалагічныя слоўнікі, для ўдакладнення структуры слоўнікавага артыкула, у склад якога ўваходзяць тэрміны, перш за ўсё неабходна вызначыць тыя лексікаграфічныя крыніцы (дзе рэпрэзентуецца спецыяльная лексіка – з паметамі ці без памет), на базе якіх можна будзе праводзіць навуковы супастаўляльны і іншы аналіз адзінак тэрміналагічнага і/або прафесійнага характару ў беларускай мове. Сама асноўная мэта і задачы такога аналізу дыктуюць прыцягнуць у якасці даследчыцкай базы ў першую чаргу агульнафілалагічныя крыніцы беларускай мовы. Гэта неабходна для таго, каб, прымяняльна да задач даследавання, правесці мэтанакіраваную выбарку лексічнага матэрыялу, акрэсліўшы кола менавіта спецыяльных слоў (паколькі, акрамя іншага, існуе праблема іх адмежавання ад наменклатурнай лексікі), і з дастатковай доляй аб’ектыўнасці найбольш поўна ўлічыць і сістэматызаваць тэрміны і прафесіяналізмы, што функцыянуюць у сучаснай мове. У выніку гэта дазволіць ліквідаваць суб’ектыўнасць у падборы тэрмінаў і іх семантычнай распрацоўцы ў агульнафілалагічных слоўніках нацыянальнай мовы, атрымаць надзейныя і адзіныя лінгвістычныя крытэрыі аб’ектывавання і дыстрыбуцыі тэрміналагічных фактаў, больш кваліфікавана – сістэмна і верагодна – вызначыць той пласт сучаснай спецыяльнай лексікі, якая павінна фіксавацца ў агульнафілалагічных слоўніках з пэўнымі агульнапрынятымі паметамі.

Пад спецыяльнай лексікай большасць навукоўцаў падразумяваюць тэрміналогію разнастайных галін навукі і тэхнікі: лінгвістыкі, літаратуразнаўства, матэматыкі, фізікі, хіміі, заалогіі, батанікі, медыцыны, тэхнікі, інфарматыкі і г. д. Нягледзячы на абмежаванасць функцыянавання, спецыяльная лексіка займае даволі істотнае месца ў агульналітаратурнай беларускай мове, што і знаходзіць сваё адлюстраванне ў агульнафілалагічных слоўніках мовы. У лексікаграфічных крыніцах назіраецца розніца ў сістэме памет, якімі суправаджаюцца разнастайныя тэрміны: разам з ужываннем агульнай паметы *спец.* выкарыстоўваюцца больш канкрэтныя – *хім., фіз., метэар., бакт., мед., фізіял., геал., геад.* і інш., што звязана з намінацыяй тэрмінам з’явы, прадмета ці працэсу, характэрных для пэўнай галіны навукі і тэхнікі. У апошні час да праблемы прадстаўлення спецыяльнай лексікі ў лексікаграфічных выданнях усё больш узрастае ўвага беларускіх навукоўцаў: спецыялістаў цікавяць унутраны змест тэрмінаў, іх моўнае афармленне і сістэма спецыяльных памет, пытанні сістэматызацыі, упарадкавання і ўніфікацыі і інш. [4]. Відавочна, што для атрымання станоўчых вынікаў

у галіне тэрмінаграфіі неабходна цеснае супрацоўніцтва вучоных-спецыялістаў і кваліфікаваных моваведаў.

Для параўнальнага аналізу сістэмы памет адзначанага вышэй пласта лексікі ў агульнафілалагічных слоўніках намі былі ўзяты ў першую чаргу фундаментальныя акадэмічныя слоўнікі – «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» у 5 т., 6 кн. (ТСБМ) [5] і «Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» (СБМ) [6], якія адыгралі значную ролю ў развіцці і кадыфікацыі сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў цэлым і беларускай навуковай тэрміналогіі ў прыватнасці. Фундаментальны акадэмічны Тлумачальны слоўнік быў і застаецца базавым лексікаграфічным выданнем, які адлюстроўвае стан лексікі нацыянальнай мовы на пэўным этапе яе функцыянавання; ён з'яўляецца ўніверсальным даведнікам па семантыцы слоў, граматыцы, стылістыцы, фразеалогіі і нарматыўным ўжыванні лексічнага складу мовы [7]. Адносна характару ўведзеных у склад слоўнікавых артыкулаў тэрмінаў у прадмове да гэтага выдання сказана, што ў рэестр слоўніка, акрамя агульнаўжывальнай лексікі, уключаны толькі тыя «навуковыя тэрміны, якія ўвайшлі ў падручнікі для агульнаадукацыйнай сярэдняй школы або часта ўжываюцца ў навукова-папулярных выданнях і ў перыядычным друку»; аўтарамі слоўніка свядома не ўводзіліся ў рэестр «тэрміны асобных галін навукі, якія не атрымалі пашырэння ў літаратурнай мове і бытуюць пераважна ў асяроддзі вузкага кола спецыялістаў» [8].

«Слоўнік беларускай мовы», у якім таксама фіксуюцца спецыяльныя словы з неабходнымі паметамі, з'яўляецца нарматыўным даведнікам па арфаграфіі, арфаэпіі, акцэнтуацыі і словазмяненні. Яго рэестр складзены на аснове рэестраў «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» і «Беларуска-рускага слоўніка» (М., 1962 г.), тым не менш варта адзначыць, што сістэмы спецыяльных памет гэтых выданняў адрозніваюцца.

Параўнальны аналіз сістэм памет паказаў, што ў абодвух аналізуемых намі агульнафілалагічных слоўніках пры падачы тэрміналексікі пераважна ўжываецца недыферэнцыраваная агульная памета *спец.* – спецыяльнае. Тэрмін пазначаецца ёю ў тых выпадках, калі можа абазначаць паняцці з некалькіх сфер дзейнасці чалавека або калі цяжка дакладна вызначыць канкрэтную галіну навукі ці вытворчасці, да якой спецыяльнае слова адносіцца. Аднак пры гэтым у аналізуемых слоўніках памета *спец.* падаецца даволі непаслядоўна, параўн.:

| ТСБМ | СБМ |
|---|---|
| абарача́льнасць *спец.* | абарача́льнасць *спец.* |
| абарача́льны *спец.* | абарача́льны |
| абагача́льнасць *спец.* | абагача́льнасць *тэх.* |
| абагача́льнік *спец.* | абагачальнік |

| | |
|---|---|
| абагача́льны *спец.* | абагача́льны |
| абагачэ́нне *спец.* | абагачэ́нне |
| абаро́т 1. | абаро́т |
| 2. *спец.* | |
| абаро́тнасць *спец.* | абаро́тнасць *спец.* |
| абва́лка 1. | абва́лка *спец.* |
| 2. *спец.* | |
| вадабо́й *спец.* | вадабо́й *спец.* |
| вакалі́зм *спец.* | вакалі́зм *лінгв.* |
| вакцы́на *спец.* | вакцы́на *мед.* |
| вакцынава́ць *спец.* | вакцынаваць |
| вакцына́цыя *спец.* | вакцына́цыя |
| валасні́к *спец.* | валасні́к *бат.* |
| валасніко́вісты *спец.* | валасніко́вісты *бат.* |

Як відаць з вышэйпрыведзеных прыкладаў, у адных выпадках памета *спец.* прыводзіцца да таго ж самага слова ў абедзвюх лексікаграфічных крыніцах: барака́мера *спец.,* дыверге́нцыя *спец.*, дэрыва́т *спец.* (ТСБМ) – барака́мера *спец.,* дыверге́нцыя *спец.,* дэрыва́т *спец.* (СБМ); у іншых выпадках аднолькавыя лексемы маюць розныя спецыяльныя паметы або могуць зусім адсутнічаць: аба́к *спец.,* дэрыва́цыя *спец.*, дэтана́тар *спец.* (ТСБМ) – аба́к, дэрыва́цыя, дэтана́тар (без памет) (СБМ) і наадварот: дэтэрмінізм, дэтэрміні́ст, дэтэрмінісцкі (без памет) у ТСБМ – дэтэрміні́зм *філас.,* дэтэрміні́ст *філас.,* дэтэрміні́сцкі *філас.* (СБМ). Сустракаюцца таксама выпадкі, калі, напрыклад, у ТСБМ усё гняздо аднакарэнных слоў падаецца з паметай *спец.*, а ў СБМ ёю суправаджаецца толькі першае слова; у іншых пазіцыях ужываецца так званая ўдакладненая (больш вузкая, канкрэтная) памета, параўн.: абагача́льнасць *спец.*, абагача́льнік *спец.*, абагача́льны *спец.*, абагачэ́нне *спец.* (ТСБМ) – абагача́льнасць *тэх.*, абагача́льнік, абагача́льны, абагачэ́нне – без памет (СБМ); антаблеме́нт *спец.,* зазо́р *спец.* (ТСБМ) – антаблемент *архіт.,* зазо́р *тэх.* (СБМ).

Акрамя гэтага, пры аналізе падачы памет былі выяўлены і такія выпадкі, калі ў абодвух слоўніках лексемы прыводзяцца з адзінай паметай, якая адлюстроўвае канкрэтную сферу ўжывання. Параўн.: **Акро́паль**, -я, *м. Гіст.* Узвышаная ўмацаваная частка горада ў старажытных грэкаў; крэпасць, крэмль. *Афінскі акропаль.* (ТСБМ) – **акро́паль** *гіст.,* -ля, -лі, -ляў (СБМ); **Бая́рства**, -а, *н., зб. Гіст.* 1. Баяры, баярскае саслоўе; званне, сан баярына – **бая́рства** *гіст.*, -ве; **Бая́ршчына**, -ы, *м. Гіст.* 1. Перыяд у гісторыі рускай дзяржавы, калі панавала і правіла баярства; 2. Вотчына баярына; 3. Тое, што і паншчына (ТСБМ) – **баяршчына** *гіст.*, -не. Адзначым пры гэтым, што ў такіх выпадках падача ў тлумачальным слоўніку паметы *гіст.*, на нашу думку, не з’яўляецца абавязковай, паколькі семантыка падобных слоў адлюстравана ўжо ў самой дэфініцыі слова.

У адрозненне ад «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы», у якім для абазначэння спецыяльнай лексікі падаюцца толькі дзве паметы – *спец.* і *гіст.*, у «Слоўніку беларускай мовы» сустракаецца значна больш спецыяльных памет для абазначэння адпаведных тэрмінаў: *анат.* (анатомія), *антр.* (антрапалогія), *археал.* (археалогія), *архіт.* (архітэктура), *астр.* (астраномія), *бакт.* (бактэрыялогія), *бат.* (батаніка), *біял.* (біялогія), *буд.* (будаўніцтва), *бухг.* (бухгалтэрыя), *ваен.* (ваенная справа), *вет.* (ветэрынарыя), *гандл.* (гандлёвая справа), *геагр.* (геаграфія), *геад.* (геадэзія), *геал.* (геалогія), *гідр.* (гідралогія), *гіст.* (гісторыя), *горн.* (горная справа), *дып.* (дыпламатыя), *заал.* (заалогія), *карт.* (тэрміны гульняў у карты), *кравец.* (кравецкая справа), *кул.* (кулінарыя), *лес.* (лесаводства), *лінгв.* (лінгвістыка), *літ.* (літаратуразнаўства), *лог.* (логіка) *маст.* (мастацтвазнаўства), *мед.* (медыцына), *метэар.* (метэаралогія), *мін.* (мінералогія), *палеант.* (палеанталогія), *палігр.* (паліграфія), *паліт.* (палітыка), *паляўн.* (паляўнічая справа), *псіхал.* (псіхалогія), *пчал.* (пчалаводства), *рэл.* (рэлігія), *с.-г.* (сельская гаспадарка), *сад.* (садаводства), *спарт.* (фізкультура і спорт), *спец.* (спецыяльны тэрмін), *тэатр.* (тэатразнаўства), *тэкст.* (тэкстыльная справа), *тэх.* (тэхніка), *фарм.* (фармакалогія), *фіз.* (фізіка), *фізіял.* (фізіялогія), *філал.* (філалогія), *філас.* (філасофія), *фін.* (фінансавая справа), *фота* (фотасправа), *хім.* (хімія), *царк.* (царкоўнае), *цясл.* (цяслярская справа), *чыг.* (чыгуначная справа), *шав.* (шавецкая справа), *шахм.* (шахматны тэрмін), *эк.* (эканоміка), *эл.* (электратэхніка), *энт.* (этнанімічнае), *этн.* (этнічнае), *юр.* (юрыдычная справа), напрыклад, абнайтóвіць *мар.,* абсалюты́сцкі *паліт.,* абулі́я *мед.,* аддýктар *анат.,* алейрóн *біял.,* бактэрыяфáг *бакт.,* блю́шчык *бат.,* бляснá *рыб.,* вáхмістр *ваен.,* вачні́ца *анат.,* вянóзны *фізіял.* і інш.

Як відаць з гэтага тэрміналагічнага матэрыялу, у «Слоўніку беларускай мовы» выкарыстоўваюцца як шматлікія вузкаспецыяльныя паметы, так і недыферэнцыраваная памета *спец.*, што сведчыць аб аднясенні спецыяльнага слова не да адной, а адначасова да некалькіх тэрмінасістэм. На наш погляд, яе падача з’яўляецца не зусім карэктнай, таму што памета *спец.* не адлюстроўвае ў поўнай меры інфарматыўнай напоўненасці, якую нясе ў сабе тая ці іншая спецыяльная лексема*. Вузкаспецыяльныя паметы, як падаецца, з’яўляюцца больш дакладнымі і больш інфарматыўнымі ў параўнанні з агульнай паметай *спец.* Яны канкрэтна, дэталёва ўказваюць на тую галіну навукі, вытворчасці, чалавечай дзейнасці, да якой можа адносіцца тое ці іншае спецыяльнае слова. Аднак адзначым, што ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» такія вузкаспецыяльныя паметы, як і ў выпадку

* Існуе і іншы пункт гледжання на такі падыход да маркіроўкі паметай *спец.*: напрыклад, В. С. Ахманава адзначае, што «лепш карыстацца паметай *спец.*, чым такімі, як *отп., торг., биол., псих.*, і г. д., паколькі дакладна вызначыць і, галоўнае, адмежаваць тую спецыяльную галіну, да якой трэба аднесці тое ці іншае слова, бывае часам вельмі цяжка» (Ахманова, О. С. Очерки по общей и русской лексикологии / О. С. Ахманова. – М.: Гос. уч.-пед. изд-во Минпроса РСФСР, 1957. – С. 279).

з ужываннем паметы *гіст.*, не з'яўляюцца абавязковымі з той прычыны, што спецыяльнае значэнне закладзена ў дэфініцыях слоў*. Для прыкладу прывядзём некалькі пераканаўчых слоўнікавых артыкулаў:

**Азбе́ст**, -у, *м.* Вогнетрывалы мінерал валакністай будовы, які шырока выкарыстоўваецца ў тэхніцы; горны лён (ТСБМ) – **азбе́ст** *мін.*, -сту, -сце (СБМ);

**Беладо́нна**, -ы, *ж.* 1. Шматгадовая травяністая ядавітая расліна сямейства паслёнавых з чорнымі ягадамі. 2. Лякарства з карэнняў і лісцяў гэтай расліны – **беладо́нна** *бат., фарм.*, -нне;

**Бенефі́с**, -у, *м.* Спектакль, збор з якога ідзе на карысць аднаго з удзельнікаў // Спектакль у гонар аднаго з заслужаных удзельнікаў – **бенефі́с** *тэатр.*, -су, -се, -саў;

**Бензо́л**, -у, *м.* Бясколерная гаручая вадкасць з своеасаблівым пахам, якая атрымліваецца пры перагонцы вугалю, нафты і выкарыстоўваецца ў хімічнай прамысловасці – **бензо́л** *хім.*, -лу, -ле;

**Бліцтурні́р**, -а, *м.* Шахматны турнір, у якім на кожную партыю даецца максімальна абмежаваны час – **бліцтурні́р** *спарт.*, -ру, -ры, -раў.

Варта звярнуць увагу на тое, што рэестр «Слоўніка беларускай мовы» значна паўнейшы за рэестр «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы», паколькі ў апошні свядома не ўключалася частка спецыяльнай лексікі (гл. с. 8 Прадмовы). У гэтым лексікаграфічным выданні адсутнічае пэўная колькасць агульнавядомай спецыяльнай лексікі, якая зафіксавана ў «Слоўніку беларускай мовы», напрыклад: айкані́мія *лінгв.*, брантаза́ўр *палеант.,* бро́нзаўка *заал.,* высокаампе́рны *фіз.,* высокавіруле́нтны *мед., бакт.,* высокалегі́раваны *тэх.,* гомеапаты́чны *мед.,* дэсенсібіліза́цыя *фізіял., фота* і інш.

У 1996 г. быў апублікаваны аднатомны «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (ТСБЛМ) [9], падрыхтаваны на аснове рэестра пяцітомнага ТСБМ. У пяцітомным слоўніку зафіксавана звыш 97 тысяч слоў, у аднатомным – звыш 65 тысяч. У аднатомны слоўнік не ўключаны многія ўстарэлыя, абласныя словы, але ў той жа час пададзена многа новых лексем, у тым ліку і спецыяльных, якія пачалі актыўна ўжывацца ў сучаснай моўнай практыцы. Як відаць са спіса скарачэнняў, прынятых у выданні, для абазначэння спецыяльнай лексікі выкарыстоўваюцца толькі паметы *спец., гіст.*, якія падаваліся і ў пяцітомным слоўніку. Аднак пры параўнальным аналізе тэрміналексікі шматтомнага і аднатомнага тлумачальных слоўнікаў выяўляюцца разыходжанні ў падачы спецыяльных памет. Пры наяўнасці выпадкаў супадзення пастаноўкі аднолькавых памет для абазначэння адных і тых ж спецыяльных слоў (напрыклад, у абодвух слоўніках лексемы

---

* Параўн. падобныя разважанні В. С. Ахманавай адносна неабходнасці суправаджэння вузкаспецыяльных слоў паметамі: «Пры жаданні вызначыць тую спецыяльную галіну, да якой дадзенае слова адносіцца, лепш так, як гэта зроблена ў слоўніку С. І. Ожагава, уключаць адпаведнае ўказанне ў само азначэнне (тлумачэнне) слова, напрыклад: натрий – химический элемент…» (Ахманова, О. С. Очерки по общей и русской лексикологии. – С. 279).

суправаджаюцца паметай *спец.*: **Абсцы́са**, -ы, *ж., спец.* Адна з каардынат, якая вызначае месца пункта ў прасторы (ТСБЛМ) – **Абсцы́са**, -ы, *ж.*, *спец.* Адна з трох каардынат, якая паказвае месцазнаходжанне пункта ў прасторы (ТСБМ)) сустракаюцца выпадкі, калі для адных і тых жа слоў у адной лексікаграфічнай крыніцы выкарыстоўваецца памета *спец.*, а ў другой яе няма (**Абсцэ́с**, -у, *м. спец.* Запаленне тканак якога-н. органа з нагнаеннем; гнойны нарыў (ТСБЛМ) – **Абсцэ́с**, -у, *м.* Гнойны нарыў; запаленне тканак якога-н. органа з нагнаеннем (ТСБМ)). Як уяўляецца, пастаноўка памет у аднатомным тлумачальным слоўніку павінна супадаць з сістэмай падачы памет для адных і тых жа лексем шматтомнага выдання, паколькі пазнейшы слоўнік складзены на аснове рэестра пяцітомнага.

Вядома, што многія тэрміны ўтварыліся на базе агульнаўжывальнай лексікі. Спецыяльнае значэнне такія словы набываюць у адпаведных тэрмінасістэмах. Такія адзінкі з нетэрміналагічным значэннем у тлумачальных слоўніках, зразумела, звычайна не маркіруюцца паметамі. У галіновых тэрмінаграфічных выданнях, як правіла, паметы таксама не падаюцца: аднесенасць таго або іншага тэрміна да пэўнай сферы навукі ці вытворчасці закладзена ўжо ў самой назве слоўніка і, вядома, у дэфініцыях. Напрыклад, лексема *арбі́тр*, якая ў ТСБМ не мае ніякіх спецыяльных памет, уключаецца ў «Юрыдычны энцыклапедычны слоўнік» на падставе яе спецыяльнага значэння «суддзя ў арбітражных, гаспадарчых і трацейскіх судах» [10] і спецыялізацыі ўжывання. Тэрмін *вэ́ксаль* уключаецца ў юрыдычныя, эканамічныя і іншыя галіновыя слоўнікі, хоць у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» і ў «Слоўніку беларускай мовы» ён падаецца без памет, г. зн. адносіцца да агульнаўжывальнай лексікі. У «Слоўніку лінгвістычных тэрмінаў» лексемы *архаі́чны, архаі́зм, варыя́нт, каардына́цыя, кампане́нт, мадэ́ль, рэферэ́нт* і многія іншыя аднесены да лінгвістычнай тэрміналогіі, а агульнафілалагічныя слоўнікі падаюць гэтыя лексемы без маркіравання паметамі.

Зразумела, што тэрміналагічная лексіка шырока прадстаўлена ў энцыклапедычных слоўніках; гэта абумоўлена самой накіраванасцю такога роду выданняў на падачу па магчымасці поўнай інфармацыі аб розных сферах жыцця і дзейнасці чалавека. Адным з іх з’яўляецца «Беларуская энцыклапедыя» ў 18 т. (БЭ) [11]. Гэты «ўніверсальны сістэматызаваны даведнік змяшчае самыя разнастайныя звесткі па ўсіх галінах ведаў, назапашаных чалавецтвам, пра найважнейшыя падзеі гісторыі і сучаснага грамадска-палітычнага жыцця» (с. 5 Прадмовы). Пры параўнанні канкрэтнага матэрыялу энцыклапедыі і агульнафілалагічных слоўнікаў выявілася, што значная колькасць спецыяльнай лексікі, уключанай у энцыклапедычныя слоўнікі, не падаецца ў агульнафілалагічных лексікаграфічных крыніцах. Зразумела, што і дэфініцыі тэрмінаў у энцыклапедычным даведніку больш шырокія і больш інфарматыўныя, чым у тлумачальным слоўніку; у іх прыводзіцца

дастаткова поўная інфармацыя пра з'яву ці паняцце, якія абазначаюцца тэрмінам. Параўн., напрыклад:

**аднакле́тачныя**, арганізмы, целы якіх складаюцца з адной клеткі. Існуюць два ўзроўні арганізацыі А.: пракарыётны (бактэрыі і сіне-зялёныя водарасці) і эўкарыётны (зялёныя і іншыя водарасці, прасцейшыя). А. спалучаюць уласцівасці клеткі і самастойнага арганізма. Маюць простую будову (хларэлы, амёбы) і складаную (ацэтабулярыі, інфузорыі). Многія ўтвараюць калоніі. Ад А. узніклі шматклетачныя (БЭ);

**аднакле́тачны**, -ая, -ае. Які складаецца з адной клеткі (пра жывёльныя і раслінныя арганізмы) (ТСБМ).

Нягледзячы на тое, што ў энцыклапедычных выданнях спецыяльныя паметы для маркіроўкі тэрмінаў не падаюцца, вызначыць галіну, да якой адносіцца пэўны тэрмін, у большасці выпадкаў няцяжка. Напрыклад, зыходзячы з кароткай інфармацыі, пададзенай у згаданым энцыклапедычным артыкуле «Аднакле́тачныя», можна зразумець, што тэрмін адносіцца да сферы біялогіі.

Вынікі праведзенага папярэдняга аналізу названых беларускамоўных лексікаграфічных выданняў сведчаць, што пры абазначэнні спецыяльнай лексікі ў агульнафілалагічных слоўніках існуе разнабой у фіксацыі тэрміна-адзінак і іх значэнняў, адсутнічае сістэмнасць, аднастайнасць падачы памет. Нярэдка ў розных слоўніках адны і тыя ж спецыяльныя лексемы суправаджаюцца рознымі паметамі; у радзе выпадкаў пры вузкаспецыяльных тэрмінах недыферэнцыраваная памета *спец*. можа або ўжывацца, або не; акрамя таго, заўважана, што ў асобных выпадках памета *спец.* нават падаецца пры лексемах, якія на сучасным этапе развіцця мовы ўжо дэтэрміналагізаваліся – перайшлі ў агульналітаратурную мову са стратай тэрміналагічнасці намінацыі і дэспецыялізацыяй ужывання [12].

Відавочна, што сістэматызацыя суправаджальных спецыяльных памет, як і ўпарадкаванне саміх тэрмінаў і прафесіяналізмаў, а таксама выпрацоўка іх аднастайнай падачы ў лексікаграфічных выданнях з'яўляюцца сёння першачарговымі задачамі для стваральнікаў беларускамоўных слоўнікаў новага пакалення.

*Артыкул падрыхтаваны пры падтрымцы*
*Беларускага рэспубліканскага фонду фундаментальных даследаванняў*
*(дагавор № Г11Р-030 ад 15.04.2011 г.)*

## Літаратура

1. Гречко, В. А. Терминологическая лексика в академических словарях / В. А. Гречко // Современная русская лексикография. 1976. – Л., 1977. – С. 91.

2. Красней, В. Пошукі прынцыпаў і шляхоў распрацоўкі беларускай нацыянальнай тэрміналогіі на пачатку XX ст. / В. Красней // Тэрміналагічны бюлетэнь. – Мінск, 1997. – Вып. 1. – С. 8.

3. Ожегов, С. И. Лексикология. Лексикография. Культура речи / С. И. Ожегов. – М., 1974. – С. 176–177.

4. Гл., напрыклад: Антанюк, Л. А. Развіццё і задачы ўпарадкавання беларускай навуковай тэрміналогіі / Л. А. Антанюк // Тэрміналагічны зборнік «83». – Мінск, 1985. – С. 5–17; Чапоўскі, А. З. Асноўныя праблемы і тэндэнцыі ў сучаснай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі / А. З. Чапоўскі // Тэрміналагічны зборнік «85–86». – Мінск, 1990. – С. 5–6; Шчэрбін, В. К. Тэарэтычныя праблемы беларускай лексікаграфіі / В. К. Шчэрбін. – Мінск, 1996. – 140 с.; Цыхун, Г. Шляхі ўладкавання беларускай тэрміналогіі / Г. Цыхун // Тэрміналагічны бюлетэнь. – Мінск, 1997. – Вып. 1. – С. 4–7; Любецкая, К. П. Нямецка-беларуская лексікаграфія ХХ ст. і фарміраванне беларускай тэрміналогіі: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / К. П. Любецкая. – Мінск, 2004. – 21 с.; Літвін, Н. У. Беларуская эканамічная тэрміналогія і яе лексікаграфічная фіксацыя / Н. У. Літвін // Слово и словарь: сб науч. тр. по лексикографии. – Гродно, 2007. – С. 67–70; Лапкоўская, А. М. Сучасная беларуская батанічная тэрміналогія / А. М. Лапкоўская. – Гродна, 2007. – 166 с.; Дзятко, Д. В. Беларуская матэматычная тэрміналогія: станаўленне, структура, функцыянаванне / Д. В. Дзятко. – Мінск, 2009. – 192 с.; Багдзевіч, А. І. Да вывучэння праблемы адлюстравання тэрміналагічнай лексікі ў агульнафілалагічных слоўніках (на матэрыяле рускай і беларускай моў) / А. І. Багдзевіч // Тыпалогія ўзаемасувязей беларускай і рускай моў і праблемы нацыянальнай самаідэнтыфікацыі: матэрыялы Міжнар. навук. канф. – Мінск, 2011. – С. 34 і інш.

5. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. – Мінск, 1977–1984.

6. Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне / пад рэд. М. В. Бірылы. – Мінск, 1987.

7. Лемцюгова, В. П. Беларуская акадэмічная лексікаграфія: стан, праблемы // Сучасныя праблемы беларускай лексікалогіі і лексікаграфіі: матэрыялы Міжнар. навук. канф. – Мінск, 2006. – С. 188.

8. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Прадмова. – С. 7–8.

9. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. чл.-кар. М. Р. Судніка, М. Н. Крыўко. – 3-е выд. – Мінск, 2002. – 783 с.

10. Юрыдычны энцыклапедычны слоўнік / рэдкал.: С. В. Кузьмін [і інш.]. – Мінск: БелЭн, 1992. – С. 54.

11. Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. – Мінск, 1996–2004.

12. Никитченко, Н. С. Семантическая продуктивность терминов / Н. С. Никитченко // Новые слова и словари новых слов / отв. ред. Н. З. Котелова. – Л., 1983. – С. 111.

## Summary

The article is devoted to the analysis of the system of terminological notes for the designation of the special words in general philological dictionaries of modern Belarusian language.

*Інстытут мовы і літаратуры*
*імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі*
*Гродненскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы*

*11.06.2011 г.*

*УДК 811.161.3’367’35*

*І. Л. БУРАК*

# ПУНКТУАЦЫЙНЫЯ ВАРЫЯНТЫ Ў СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

З’ява варыянтнасці ўласціва ўсім узроўням мовы. У сучаснай беларускай мове сустракаюцца фанетычныя (*пасяджэ́нне* і *пасе́джанне*), арфаэпічныя (*[с]фера* і *[с’]фера*), лексічныя (*дзіця* і *дзіцё*), марфалагічныя (*вадой* і *вадою*), сінтаксічныя (*думаць аб сыне* і *думаць пра сына*) варыянты. Пунктуацыйнай сістэме таксама характэрна варыянтнасць. Варыянты назіраюцца пры пунктуацыйным афармленні як простых, так і складаных сказаў.

Пунктуацыйная варыянтнасць у сярэдзіне простага сказа абумоўлена, як правіла, актуальным чляненнем выказвання. Варыянты ўзнікаюць пры неабходнасці інтанацыйна і сэнсава вылучыць рэму выказвання або пры адсутнасці якой-небудзь неабходнасці. У прыватнасці, гэтым тлумачыцца адсутнасць або наяўнасць працяжніка паміж дзейнікам і выказнікам, што выражаны назоўнікамі ў форме назоўнага склону 1) калі паміж імі знаходзяцца даданыя члены сказа, якія звязаны з выказнікам, але не дапасуюцца да яго: *Пушча мне дом родны* (А. Астрэйка) і *Хлеб – усяму галава* (Прыказка); 2) калі пры выказніку ёсць адмоўе *не*: *Дзядзька Марцін не рамантык* (Я. Колас) і *Свякруха – не маці* (І. Шамякін); 3) калі выказнік далучаецца да дзейніка пры дапамозе слоў *як, нібы, быццам, што, як бы* і пад.: *Жыта як сцяна* (І. Навуменка), *Вочы нібы васількі* (З. Бядуля) і *Час – як плынь рачная* (А. Зарыцкі), *Ліпа – нібы цёмная хмара за іхнім гумном* (Я. Брыль).

Пры неабходнасці актуалізаваць сэнс выказніка або пры яе адсутнасці працяжнік ставіцца або не ставіцца ў наступных выпадках: 1) калі дзейнік выражаны асабовым займненнікам, а выказнік – назоўнікам у форме назоўнага склону: *На прамовы ён мастак* (М. Лужанін) і *Яны – працавітыя людзі* (К. Чорны); 2) калі выказнік выражаны назоўнікам у форме ўскоснага склону: *Высокая хвоя без верху* (Я. Маўр) і *Жанчына – невысокага росту* (К. Чорны); 3) калі выказнік выражаны прыметнікам, займеннікам, парадкавым лічэбнікам або прыслоўем: *Пасля дажджу неба чыстае і празрыстае* (Я. Колас) і *Ночы – сінія, зорныя* (З. Бядуля), *Хлеб у нас свой* (І. Шамякін) і *Горад – наш* (А. Асіпенка), *Наша хата дзесятая ад канца сяла* (М. Гарэцкі) і *Выпадак – трэці* (А. Федарэнка), *Вясна яшчэ далёка* (Р. Мурашка) і *Усе вокны ў пакоі – насцеж* (М. Паслядовіч); 4) калі выказнік выражаны асабовай формай дзеяслова або іншымі часцінамі мовы з дзея-

словам-звязкай: *Шчасліваю доляй жыццё расцвіло* (М. Машара) і *Стаячае балота – гніе* (І. Гурскі), *Дзед Юрка быў рыбак* (Я. Колас) і *Ты – быў лесніком* (А. Куляшоў); 5) калі выказнік, выражаны асабовай формай дзеяслова, размешчаны пасля аднародных дзейнікаў: *Верас, шышкі ды мох паляцелі з-пад ног* (А. Куляшоў) і *Рып калёс, і хлебны пах зямлі, і гэты вечар – гаворыць мне аб шчасці чалавечым* (П. Панчанка).

Неабходнасцю ў большай меры актуалізаваць інфармацыю, змешчаную ў адасобленых акалічнасцях, што выражаны дзеепрыслоўямі або дзеепрыслоўнымі зваротамі і размешчаны перад паясняемым выказнікам або пасля яго, тлумачыцца пастаноўка працяжніка замест коскі: *Скалатнуўшыся, лісце зляцела з галля* (А. Куляшоў) і *Плачучы – рота ніхто не паправіць* (Я. Брыль), *Хораша красуе жыта, сонца засланяючы сабой* (А. Вялюгін) і *Сяло маўчала – затаіўшыся ў чаканні нечага незвычайнага* (П. Галавач).

Актуалізацыя зместу акалічнасцей, выражаных прыслоўямі або назоўнікамі ў форме ўскосных склонаў, абумоўлівае іх адасабленне, што на пісьме перадаецца пастаноўкай коскі (ці косак). Пры адсутнасці актуалізацыі такія акалічнасці не адасабляюцца: *Неба сінела па-веснавому чыста* (І. Мележ) і *На ўзлессі, па-асенняму, шумелі хвоі* (Я. Колас), *Мы з разгону ўскочылі ў ваду* (М. Лынькоў) і *Бульдозер, з грукатам і ровам, раўняе пясок* (Р. Сабаленка).

Па той жа прычыне адасабляюцца або не адасабляюцца дапаўненні, выражаныя назоўнікамі ў форме ўскосных склонаў: *Акрамя рыбы, у рэчцы было багата ракаў* (М. Лынькоў) і *Акрамя «зайцавага хлеба» ў бацькавай скрынцы бывае шмат якіх цікавых рэчаў* (М. Лынькоў).

Пастаноўка працяжніка замест коскі назіраецца ў тых выпадках, калі характар параўнання падкрэслены з асаблівай сілай і суправаджаецца ўзмоцненай інтанацыяй: *Збоку вербачкі крывыя, бы кабецінкі старыя, нуднай кучкаю стаяць* (Я. Колас) і *Самалёт – як вялікая залатая пчала – павіс у паветры* (М. Лынькоў).

Неабходнасць асабліва вылучыць суб’ектыўныя адносіны да паведамлення абумоўлівае пастаноўку працяжніка (працяжнікаў) замест коскі (косак) пры пабочных канструкцыях: *Шчыра кажучы, мне вельмі падабаюцца тутэйшыя мясціны* (Я. Колас) і *Цяпер адсюль – гавораць жартам – усё па край зямлі відно* (А. Вялюгін).

У радзе выпадкаў пунктуацыйныя варыянты ўзнікаюць пры неабходнасці ўзмацнення тых ці іншых сэнсавых адценняў паміж кампанентамі простага сказа. Так, пастаноўка або адсутнасць працяжніка паміж дзейнікам, выражаным назоўнікам або займеннікам, і выказнікам, выражаным дзеяслоўным выклічнікам, тлумачыцца адпаведна наяўнасцю або адсутнасцю адцення нечаканасці абазначанага выказнікам дзеяння: *Вочкі ў Піліпа – лып-лып* (М. Лынькоў) і *Я тым часам шмыг за дзверы* (З. Бядуля).

Працяжнік ставіцца паміж двума аднароднымі выказнікамі, якія выражаны асабовымі формамі дзеяслова і аб’яднаны з дапамогай злучніка *і*,

для ўзмацнення дадатковых адценняў выніку, нечаканасці або неадпаведнасці. Калі ж дадатковыя адценні лагічна не выдзяляюцца, то знакі прыпынку паміж аднароднымі выказнікамі не ставяцца: *Сымон глядзіць на паперу – і нічога не бачыць* (З. Бядуля) і *Колы біліся аб карэнне і рыпелі* (Я. Колас).

Паміж аднароднымі членамі, аб'яднанымі злучнікам *а*, можа ставіцца коска, калі выражаюцца супастаўляльныя адносіны, і коска перад злучнікам, а пасля яго працяжнік, калі супастаўленне набывае рэзка антанімічны характар: *Не жменяй, а з прыгоршчаў рассейваў музыка гукі шчодра* (У. Дубоўка) і *Ён стараецца не для сябе, а – для ўсіх* (М. Паслядовіч).

Калі паміж аднароднымі членамі сказа, якія аб'яднаны з дапамогай злучніка *але*, выражаюцца супастаўляльныя адносіны, то перад злучнікам ставіцца коска. А калі актуалізуецца адценне неадпаведнасці, то перад злучнікам ставіцца працяжнік: *Мы падалі і ўставалі, але не гнуліся ў бядзе* (С. Грахоўскі) і *Хлопчык хацеў папярэдзіць аб небяспецы – але не паспеў* (Я. Маўр).

Пры бяззлучнікавай сувязі паміж аднароднымі выказнікамі, якія выражаны асабовымі формамі дзеяслова, ставіцца коска пры афармленні спалучальных адносін (паслядоўнасці) і працяжнік, калі названыя адносіны суправаджаюцца дадатковым адценнем выніку: *Андрэй адчыніў дзьверы, увайшоў у хату* (П. Пестрак) і *Песню я запяю – раскатурхаю цьму* (Я. Колас).

Развітыя дапасаваныя азначэнні, размешчаныя перад азначаемым словам, што выражана назоўнікам, не адасабляюцца і не аддзяляюцца коскай, калі маюць атрыбутыўнае значэнне, і адасабляюцца і аддзяляюцца коскай, калі набываюць дадатковае акалічнаснае адценне: *Ля самых двароў віднеліся павесялелыя ад дажджу сады* (П. Кавалёў) і *Пакрытыя тоўстым пластам снегу, галіны дрэў гнуліся да самай зямлі* (Я. Колас).

Неразвітыя недапасаваныя азначэнні, выражаныя назоўнікамі ў форме ўскосных склонаў, якія размешчаны перад азначаемым словам (назоўнікам) ці пасля яго, не адасабляюцца, калі маюць атрыбутыўнае значэнне, і адасабляюцца, калі названае значэнне ўскладняецца дадатковым аб'ектным або акалічнасным адценнем. На пісьме такія азначэнні ў першым выпадку не аддзяляюцца і не выдзяляюцца знакамі прыпынку, а ў другім – аддзяляюцца або выдзяляюцца з дапамогай коскі (косак): *Дарогу праз лес праехалі непрыкметна* (Я. Колас) і *Сцяна хаты, ад вуліцы, была ашалявана* (Т. Хадкевіч).

Пунктуацыйныя варыянты могуць узнікаць у выніку спалучэння сэнсавай актуалізацыі тых ці іншых кампанентаў простага сказа і пэўных граматычных фактараў. Гэта адзначаецца пры пунктуацыйным афармленні адасобленых азначэнняў, прыдаткаў, акалічнасцей. Адасобленыя члены ў сказе аддзяляюцца ці выдзяляюцца коскай (коскамі), а пры ўзмоцненым адасабленні – працяжнікам (працяжнікамі). Узмоцненае адасабленне прадвызначаецца такімі граматычнымі ўмовамі, як размяшчэнне адасобленых

членаў у канцы сказа, іх удакладняльны ці паясняльны характар, развітасць, колькасны склад [1]: *Горда стаяць магутныя дубы, задумёныя і пажаўцелыя* (М. Гарэцкі) і *У руках была кветка – белая, пышная, вялікая* (Я. Колас); *Праз поле ішоў малады хлопец, аграном* (М. Паслядовіч) і *Дадому з зімоўкі далёкай ляцяць нашы госці – шпакі* (М. Хведаровіч); *Нехта зноў свіснуў, ужо трохі смялей* (К. Крапіва) і *Сані рыпяць па-ранішняму – глуха, коратка, непрыветна* (Я. Скрыган).

У складаных сказах пунктуацыйныя варыянты ўзнікаюць часцей за ўсё пры бяззлучнікавай сувязі, калі сэнсава-граматычныя адносіны паміж прэдыкатыўнымі чаткамі выяўляюцца недастаткова выразна, а лексічны іх змест дазваляе варыянтнае тлумачэнне. У радзе выпадкаў сэнсава-граматычныя адносіны паміж прэдыкатыўнымі часткамі могуць вызначацца як спалучальныя або як умоўна-выніковыя. У першым выпадку паміж прэдыкатыўнымі часткамі ставіцца коска, а ў другім – працяжнік: *Вясна мінецца, прыйдзе лета* (Я. Колас) і *Вясна мінецца – прыйдзе лета; Ветрык крануў верхавінне дрэў – шустры шэлест паплыў па лесе* (Т. Хадкевіч) і *Ветрык крануў верхавінне дрэў, шустры шэлест паплыў па лесе.*

Часам даволі складана адрозніць уласна супастаўляльныя адносіны і адносіны неадпаведнасці або супраціўныя адносіны. Пры ўласна супастаўляльных адносінах паміж прэдыкатыўнымі часткамі складанага бяззлучнікавага сказа ставіцца коска, пры адносінах неадпаведнасці або супраціўных адносінах – працяжнік: *Жаніх у дзверы, маладая з хаты* (Я. Купала) і *Не сохі і не ветракі пасведчылі аб сіле – мы спадарожніка з рукі, як голуба, пусцілі* (А. Вялюгін), *Спаць малога палажыла, неспакойны сын не спіць* (П. Глебка) і *Пастукалі ў акно – з хаты ніхто не абазваўся* (К. Чорны).

Пунктуацыйныя варыянты могуць узнікаць і ў тых выпадках, калі сэнсава-граматычныя адносіны паміж прэдыкатыўнымі часткамі складанага бяззлучнікавага сказа ўскладняюцца дадатковымі сэнсавымі адценнямі. У прыватнасці, калі паміж прэдыкатыўнымі часткамі выражаны аб’ектныя адносіны, то ставіцца двукроп’е, а калі гэтыя адносіны набываюць дадатковае адценне нечаканага выніку, то ставіцца працяжнік: *Я верыў: шляхамі маіх перамог са мною ідзе дарагі чалавек* (П. Глебка), *Чуеш: завіруха* (А. Савіцкі) і *Людзі думалі – пажар* (П. Галавач), *Раптам чую – крычыць нехта не сваім голасам* (К. Крапіва).

Іншы раз умовай для ўзнікнення пунктуацыйных варыянтаў служыць лагічны націск на кампанентах першай ці кампанентах другой прэдыкатыўнай часткі складанага бяззлучнікавага сказа. Так, азначальная частка аддзяляецца ад папярэдняй часткі бяззлучнікавага сказа пры дапамозе працяжніка, калі лагічны націск знаходзіцца на адным з кампанентаў азначальнай часткі, і з дапамогай двукроп’я, калі лагічны націск знаходзіцца на адным з кампанентаў папярэдняй часткі [2]: *Адзінай была гаворка – сумна без працы стаяць* (П. Броўка), *Надыйдзе скора час такі – парадуюць зажынкі* (А. Бялевіч) і *Сёння тут цуда стварае народ: будуецца сонечны*

*горад-завод* (А. Александровіч), *Была калісь пара: гуляла завіруха і замяла маёй мінуўшчыны сляды* (М. Багдановіч).

Такія ж варыянты ўзнікаюць і пры пунктуацыйным афармленні складаных бяззлучнікавых сказаў з дзейнікавамі часткамі: *Усім вядома – праца спорыцца пры песні* (М. Машара), *І дзівіць мяне – нізка над самай зямлёй мільгаюць зоркі* (З. Бядуля) і *Чутна тады: шэры дождж шыбы аконныя ліжа* (М. Танк), *Для мяне ўжо ясна: у атрадзе паявіўся чужы чалавек* (М. Лынькоў).

Сустракаюцца выпадкі, калі ў залежнасці ад лагічнага націску і сэнсу, які ўкладваецца ў першае слова сказа, адзін і той жа сказ можа разглядацца як складаны бяззлучнікавы з двукроп'ем або працяжнікам паміж прэдыкатыўнымі часткамі ці як просты, ускладнены пабочным сказам, які аддзяляецца коскай ад астатняй часткі сказа: *Кажуць: закаханыя ў сваім шчасці – заўсёды эгаісты* і *Кажуць, закаханыя ў сваім шчасці – заўсёды эгаісты* (І. Шамякін), *Кажуць – я ўжо стары* (А. Бялевіч) і *Кажуць, я ўжо стары.*

У складаназалежных сказах пунктуацыйныя варыянты назіраюцца тады, калі дадаеная частка размешчана перад галоўнай, а ў галоўнай частцы прапушчана суадноснае слова. Паміж прэдыкатыўнымі часткамі такога сказа можа ставіцца коска або працяжнік (пры рэзкім супастаўленні зместу даданай і галоўнай частак): *Хто не спытаў хоць раз трывогі, жыццю не ведае цаны!* (А. Звонак) і *Хто ў грыбы хадзіў – ведае іх смак* (Я. Колас). *Што аднаму з цяжкасцю даецца, тое калектывам лёгка бярэцца* (Прыказка) і *Што было – ужо сплыло* (Прыказка).

Такім чынам, пунктуацыйныя варыянты не парушаюць нарматыўнасці сучаснай пунктуацыі. Яны сведчаць аб сінтаксічнай мнагазначнасці тэксту і не могуць разглядацца як памылкі ці адхіленні ад устаноўленых правіл. Гэтыя варыянты робяць сучасную пунктуацыю надзвычай гнуткай, дазваляюць ёй афармляць структурную разнастайнасць тэкстаў і выражаць самыя тонкія адценні змешчаных у іх паведамленняў.

## Літаратура

1. Бурак, І. Л. Граматычныя ўмовы ўзмоцненага адасаблення / І. Л. Бурак // Працы кафедры сучаснай беларускай мовы / пад рэд. А. Я. Міхневіча. – Мінск: РІВШ, 2008. – Вып. 7. – С. 29–33.

2. Бурак, Л. І. Даведнік па пунктуацыі беларускай мовы / Л. І. Бурак. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1980. – С. 162.

## Summary

The article is devoted to the causes of punctuation variants rising in the modern Belarusian language. In the middle of a simple sentence and between the predicative clauses of a composite sentence punctuation variants are determined by actual division of the sentence, actualization of extra sense nuances between the components of the sentence and also by some grammatical factors (position in the sentence, quantitative structure, level of extension, structural completeness).

*Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка*

*16.02.2011 г.*

*УДК 811.161.3’373.611*

*А. А. КІРДУН*

# МАТЫВАВАНАЯ ЛЕКСІКА Ў СКЛАДЗЕ СГ З ЗЫХОДНЫМ ТЭМПАРАЛЬНЫМ СЛОВАМ

Адным са спосабаў сістэматызацыі слоўнікавага складу з’яўляецца размеркаванне лексічных адзінак па словаўтваральных гнёздах (СГ), якія дэманструюць два важнейшыя тыпы адносін, характэрныя для ўнутранай будовы мовы, – сінтагматычныя і парадыгматычныя. Колькасны і якасны аналіз фармальна-семантычнай арганізацыі лексікі ў складзе СГ з’яўляецца перспектыўнай асновай для параўнання дэрывацыйнага патэнцыялу розных лексіка-семантычных груп (ЛСГ) слоў у адной мове, а таксама тыпалагічнага супастаўлення словаўтваральных сістэм розных моў.

Артыкул прысвечаны апісанню матываваных адзінак у складзе СГ з зыходным тэмпаральным словам (аб’ектам даследавання паслужылі 106 адназоўнікавых СГ, 16 адпрыметнікавых СГ і 10 адпрыслоўных СГ). Нематываваныя тэмпаральныя словы па сваёй семантычнай структуры падзяляюцца на адназначныя (50 %) і мнагазначныя (50 %), якія маюць прамыя і пераносныя значэнні. Большасць выдзеленых лексем з’яўляюцца «чыста» тэмпаральнымі, г. зн., што кожны іх ЛСВ адлюстроўвае часавыя характарыстыкі рэчаіснасці. Да такіх адносяцца назоўнікі: *час, эпоха, эра, пара, сезон, тэрмін, век, год, гадзіна, дзень, зіма, хвіліна* і іншыя, прыслоўі *учора, сёння, заўтра, цяпер, тады.* Частка нематываваных слоў разам з часавым паняццем адлюстроўвае і іншыя з’явы рэчаіснасці, напрыклад, назоўнік *абед* мае тры значэнні, з якіх толькі апошняе тэмпаральнае: ‘час, у які звычайна абедаюць; абедзенны перапынак’. Прыметнік *доўгі* тэмпаральны толькі па другім значэнні ‘працяглы ў часе’, а першае і трэцяе значэнні такімі не з’яўляюцца: ‘які мае вялікую даўжыню’, ‘які працяжна вымаўляецца’. Да гэтай групы адносяцца назоўнікі *перыяд, момант, сеанс, стадыя, стаж, старт, фінал, фініш, раз, інтэрвал* і іншыя, а таксама ўсе прыметнікі.

Нематываваныя тэмпаральныя словы, якія ўваходзяць у розныя лексіка-семантычныя групы, праяўляюць розную словаўтваральную актыўнасць, на іх базе фарміруюцца разнастайныя па структуры СГ: прадстаўлены як простыя гнёзды (роўныя пары слоў), так і больш складаныя (гнёзды-ланцужкі, гнёзды-пучкі або веерныя, камбінаваныя гнёзды). Паводле структурнай арганізацыі дадзеныя гнёзды падзяляюцца на слабаразгорнутыя (65 СГ) і моцнаразгорнутыя (67 СГ) [1].

Матываваныя словы ў СГ з зыходным тэмпаральным словам размяркоўваюцца на пяці ступенях. Найбольшая колькасць дэрыватаў утвараецца на першым дэрывацыйным кроку. На кожнай наступнай ступені колькасць матываваных адзінак паслядоўна змяншаецца, што і адлюстроўвае табліца.

**Размеркаванне матываваных адзінак па ступенях дэрывацыі ў СГ з зыходным тэмпаральным словам**

| Група СГ | Колькасць дэрыватаў | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | на 1-й ступені | на 2-й ступені | на 3-й ступені | на 4-й ступені | на 5-й ступені | Усяго |
| СГ з зыходным назоўнікам | 617 | 424 | 133 | 38 | 4 | 1216 |
| СГ з зыходным прыметнікам | 286 | 274 | 169 | 60 | 3 | 792 |
| СГ з зыходным прыслоўем | 31 | 15 | – | – | – | 46 |
| Усяго | 934 | 713 | 302 | 98 | 7 | 2054 |

Найбольш шырокі дыяпазон словаўтваральных значэнняў назіраецца на першай і другой ступенях дэрывацыі. З кожным наступным дэрывацыйным крокам па меры ўскладнення матывавальнай базы пераходамі з адной часціны мовы ў другую адбываецца перабудова дэрывацыйных магчымасцей матываваных адзінак. Па-першае, знікаюць рэзкія разыходжанні часцін мовы ў якасці матывавальных баз: матываваныя адзінкі высокіх ступеней незалежна ад іх дэрывацыйнай гісторыі дэманструюць аднатыпныя словаўтваральныя адносіны. Так, напрыклад, у межах трох часцінамоўных мадэлей* $\mathbf{AS_1S_2S_3S_4}$, $\mathbf{AS_1A_2S_3S_4}$, $\mathbf{AV_1V_2S_3S_4}$ утвараюцца матываваныя адной словаўтваральнай катэгорыі – ‘асоба жаночага полу’: *малад(ы) → моладзь-**ø** → кам-са-мол → камсамол-**ец** → камсамол-**к**-а, скор(ы) → скор-**асць** → скарас-**н**-(ы) → скарасн-**ік*** ‘спецыяліст па скарасному руху’ → *скарас-**ніц**-а, нов(ы) → **уз**-нав-**і**-(ць) → узнаўл-**я**-(ць) → узнаўля-**льнік** → узнаўля-**льніц**-а, стар(ы) → стар-**э**-ць → **пера**-старэ(ць) → перастар-**ак** → перастар-**к**-а*. Па-другое, рух словаўтваральнага працэсу на гарызантальнай восі звязаны з паэтапным выбываннем матывавальных баз (гл. табліцу), словаўтваральных значэнняў (напрыклад, у адназоўнікавых СГ на першай ступені ў межах чатырох часцінамоўных мадэлей прадстаўлена 40 словаўтваральных катэгорый, на другой ступені ў межах 13 часцінамоўных ма-

---

* Тут і далей сімвалы абазначаюць: S – назоўнік, A – прыметнік або дзеепрыметнік, Ad – прыслоўе, V – дзеяслоў, N – лічэбнік, P – займеннік, I – выклічнік; спалучэнні сімвалаў адпавядаюць матываваным адзінкам, лічбы пры сімвалах абазначаюць ступень дэрывацыі; сімвал без лічбы адпавядае нематываванаму слову. Напрыклад, спалучэнне сімвалаў $SV_1V_2A_3$ адлюстроўвае дэрывацыйную гісторыю прыметніка (або дзеепрыметніка), утворанага на 3-й ступені [2]. Калі матываванае слова з’яўляецца кампазітам, то яго дэрывацыйная гісторыя адлюстроўваецца пры дапамозе ўказаных сімвалаў, паміж якімі ставіцца знак +; мадэль заключаецца ў круглыя дужкі ў тым выпадку, калі неабходна выдзеліць кампазіт сярод мадэлей іншых матываваных слоў.

дэлей – 50 словаўтваральных катэгорый, на трэцяй ступені ў межах 26 часцінамоўных мадэлей – 47 словаўтваральных катэгорый, на чацвёртай ступені ў межах 11 часцінамоўных мадэлей – 14 словаўтваральных катэгорый, на пятай ступені прадстаўлена 2 словаўтваральныя катэгорыі), спосабаў і сродкаў (напрыклад, у адпрыметнікавых СГ на першай ступені зафіксавана 6 спосабаў утварэння матываваных, а на чацвёртай – 3 спосабы).

Адназоўнікавыя і адпрыметнікавыя словаўтваральныя ланцужкі (СЛ) падзяляюцца на поўныя і няпоўныя. У поўных СЛ ад канцавога звяна немагчыма ўзнікненне матываваных слоў, таму што дзейнічае абмежаванне словаўтваральнага працэсу, якое, карыстаючыся тэрмінам І. С. Улуханава, можна ахарактарызаваць як а б с а л ю т н а е. Інакш, немагчымасць далейшага разгортвання словаўтваральнага ланцужка абумоўлена «такімі ўласцівасцямі слоў, якія перашкаджаюць іх функцыянаванню ў якасці матывавальных» [3]. Напрыклад: *позн(і) → пазн-**і**-(ц)-**ца** → **за**-пазніцца → запазн-**ел**-(ы) → запазнел-**асць***; *кастрычнік → кастрычніц-**к**-і → **да**-кастрычніцкі*; *май → май-**ск**-і → **пасля**-майскі.*

У якасці апошняга звяна ў поўных СЛ найчасцей выступаюць словы са значэннем суб’ектыўнай ацэнкі (*вечар → вечарок → вечарочак, дзень → дзянёк → дзянёчак, малады → маладняк → маладнячок, позні → позна → позненька* і інш.), асобы жаночага полу (*гадзіна → гадзіннік → гадзіншчык → гадзіншчыца, зіма → зімаваць → зімоўшчык → зімоўшчыца, юны → юнак → юначка* і інш.), адцягненай прыкметы або ўласцівасці (*будзень → будзённы → будзённасць, вечны → адвечны → адвечнасць, дзень → паўсядзённы → паўсядзённасць, канец → скончыць → скончаны → нескончаны → несканчонасць* і інш.), апрадмечанага дзеяння (*тэрмін → адтэрмінаваць → адтэрмінаванне, кароткі → караціць → скараціць → скарачэнне, малады → маладзіць → абмаладзіць → абмаладжэнне*), прыкметы з дадатковым акалічнасным значэннем (*восень → асенні → па-асенняму, зіма → зімні → па-зімняму, учора → учарашні → па-ўчарашняму*) і інш.

У няпоўных СЛ ад канцавых звёнаў не ўтвараюцца новыя словы, таму што дзейнічае а д н о с н а е абмежаванне (неўтварэнне аналагічных матываваных адзінак) словаўтваральнага працэсу [4]. Нягледзячы на наяўную словаўтваральную і марфаналагічную магчымасць спалучэння марфем, разгортванню СЛ перашкаджаюць абмежаванні лексічнага характару. Напрыклад: *позн(і) → пазн-**і**-(ц)-**ца** → **с**-пазніцца → спазн-**ел**-ы → ...*; *красавік → красавіц-**к**-і → ...*; *ліпень → ліпень-**ск**-і → ...*

Ад канцавых слоў прыведзеных ланцужкоў словаўтваральная сістэма дапускае ўтварэнне назоўніка на *-асць,* прыметнікаў з прэфіксамі *да-, перад-, пасля-.* Аднак слоўнікі не фіксуюць падобных лексем, таму што паняцце, якое б яны маглі абазначаць, у мове выражаецца іншымі словамі, напрыклад: *спозненасць – запозненасць, дакрасавіцкі – сакавіцкі, пасляліпеньскі – жнівеньскі* і г. д. Магчымасць жа ўтварэння прэфіксальных прыметнікаў ад слоў *май* і *кастрычнік* тлумачыцца наяўнасцю ў іх семантычнай

структуры семы ‘свята’, якая адсутнічае ў іншых лексемах ЛСГ ‘назвы месяцаў’. Прэфіксальныя адзінкі ўзнікаюць на базе менавіта гэтага канкрэтнага значэння матывавальных: *май* → ***перад**-май-**ск**-і* ‘які бывае перад святам 1-га Мая’, *кастрычнік* → ***пасля**-кастрычніц-**к**-і* ‘які мае адносіны да часу пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі’.

Структурныя кампаненты СГ – словаўтваральная пара (СП), словаўтваральны ланцужок (СЛ), словаўтваральная парадыгма (СПр) – на граматыка-словаўтваральным узроўні храктарызуюцца як г а м а г е н н ы я, калі ўсе іх члены належаць адной і той жа часціне мовы (дэрываты ўтвараюцца ў межах унутранага словаўтварэння), і г е т э р а г е н н ы я, калі фарміруюцца з матываваных розных часцін мовы (дэрываты ўтвараюцца ў межах знешняга словаўтварэння).

Наш матэрыял паказвае, што ў гамагенных СЛ максімальнае пашырэнне (тэрмін М. Ю. Казак) зыходнага назоўніка адбываецца на трох ступенях дэрывацыі. Часцінамоўная мадэль $SS_1S_2S_3$ рэалізуецца ў СЛ: *гадзін(а)* → *гадзін-**нік*** → *гадзін-**шчык*** → *гадзін-**шчыц**-а, ноч* → *нач-лег* → *начлеж-**нік*** → *начлеж-**ніц**-а, ноч* → *поў-нач* → *паўноч-**нік*** → *паўноч-**ніц**-а, фінал* → *паўфінал* → *паўфінал-**іст*** → *паўфіналіст-**к**-а, фінал* → *чвэрць-фінал* → *чвэрцьфінал-**іст*** → *чвэрцьфіналіст-**к**-а.* Да сферы ўнутранага словаўтварэння належаць матываваныя дзеясловы, прыметнікі і прыслоўі. Максімальнае пашырэнне адыменных дзеясловаў адбываецца на чатырох дэрывацыйных кроках. Часцінамоўная мадэль $SV_1V_2V_3V_4V_5$ рэалізуецца ў СЛ: *год* → *гад-**ава**-ць* → ***вы**-гадаваць* → *выгадоў-**ва**-ць* → *выгадоўвац-**ца*** → ***па**-выгадоўвацца, год* → *гад-**ава**-ць* → ***уз**-гадаваць* → *узгадоў-**ва**-ць* → *узгадоўвац-**ца*** → ***па**-ўзгадоўвацца.* Як можна меркаваць, унутрыдзеяслоўная дэрывацыя залежыць ад здольнасці адыменнага дзеяслова злучацца з прэфіксамі і іх далейшай трывальнай карэляцыі. Максімальнае пашырэнне матываваных прыметнікаў і прыслоўяў у адназоўнікавых СГ адбываецца толькі на адным дэрывацыйным кроку, што адлюстроўваюць часцінамоўныя мадэлі: $SA_1A_2$, $SV_1A_2A_3$, $SV_1S_2S_3A_4A_5$, $SV_1A_2A_3$, $SA_1Ad_2Ad_3$.

Максімальнае пашырэнне зыходнага прыметніка адбываецца на дзвюх ступенях словаўтварэння ў гамагенных СЛ (часцінамоўная мадэль $AA_1A_2$ рэалізуецца ў гнёздах з зыходнымі *кароткі, малады, новы, рэдкі, стары, хуткі*): *каротк(і)* → *карац-**ейш**-ы* → ***най**-карацейшы, хутк(і)* → *хутч-**эйш**-ы* → ***най**-хутчэйшы, рэдк(і)* → *радз-**ейш**-ы* → ***най**-радзейшы, каротк(і)* → *каратк-**а**-хвал-**ев**-ы* → ***ультра**-кароткахвалевы, малад(ы)* → *малод-**ш**-(ы)* → *малодш-** аньк**-і, нов(ы)* → *нав-**а**-год-**н**-і* → ***перад**-навагодні, стар(ы)* → *стар-**а**-жы-**тн**-(ы)* → *старжытн-**а**-балгарскі, стар(ы)* → *стар-**а**-жы-**тн**-ы* → *ранн-**е**-старажытны* і інш. Прыслоўе ў адпрыметнікавых гнёздах максімальна пашыраецца на двух дэрывацыйных кроках (часцінамоўная мадэль $AAd_1Ad_2Ad_3$ рэалізуецца ў СГ з зыходнымі прыметнікамі *часты, хуткі*): *част(ы)* → *част-**а*** → *часц-**ей*** → ***най**-часцей, хутк(і)* → *хутк-**а*** → *хутч-**эй*** → ***най**-хутчэй.* Максімальнае пашырэнне назоўніка

і дзеяслова ў адпрыметнікавых СГ вызначаецца трыма дэрывацыйнымі крокамі. Часцінамоўная мадэль $AS_1S_2S_3S_4$ рэалізуецца ў СГ з зыходным прыметнікам *малады*: *малад(ы)* → *моладзь*-***ø*** → *камсамол* → *камсамол*-***ец*** → *камсамол*-***к***-*а*. Часцінамоўная мадэль $AV_1V_2V_3V_4$ прадстаўлена ў СГ з зыходнымі прыметнікамі *даўні, доўгі, кароткі, малады, рэдкі, часты: даўн(і)* → *даўн*-***і***-*ць* → ***за***-*даўніць* → *задаўні*-***ва***-*ць* → *задаўніваць*-***ца***, *доўг(і)* → *доўж*-***ы***-*ць* → ***пра***-*доўжыць* → *прадоўжыць*-***ца*** → *прадаўж*-***а***-*цца*, *доўг(і)* → *доўж*-***ы***-*ць* → ***па***-*доўжыць* → *падоўжыць*-***ца*** → *падоўж*-***ва***-*цца*, *каротк(і)* → *карац*-***і***-*ць* → ***пад***-*карацiць* → *падкароч*-***ва***-*ць* → *падкарочвац*-***ца***, *каротк(і)* → *карац*-***і***-*ць* → ***с***-*караціць* → *скарач*-***а***-*ць* → *скарачац*-***ца***, *малад(ы)* → *маладз*-***і***-*ць* → ***а***-*маладзіць* → *амаладзіц*-***ца*** → *амалодж*-***ва***-*цца*, *малад(ы)* → *маладз*-***і***-*ць* → ***пад***-*маладзіць* → *падмалодж*-***ва***-*ць* → *падмалоджвац*-***ца***, *рэдк(і)* → *рэдз*-***і***-*ць* → ***з***-*рэдзіць* → *зрэдзіц*-***ца*** → *зрэдж*-***ва***-*цца*, *рэдк(і)* → *рэдз*-***і***-*ць* → ***раз***-*рэдзіць* → *разрэдж*-***ва***-*ць* → *разрэджвац*-***ца***, *част(ы)* → *часц*-***і***-*ць* → ***па***-*часціць* → *пачасціц*-***ца*** → *пачашч*-***а***-*цца*, *част(ы)* → *часц*-***і***-*ць* → ***у***-*часціць* → *учасціц*-***ца*** → *учашч*-***а***-*цца* і інш.

Максімальнае пашырэнне зыходнага прыслоўя адбываецца на двух дэрывацыйных кроках (часцінамоўная мадэль $AdAd_1Ad_2$ рэалізуецца ў СГ з зыходнымі *заўтра, калі*$^1$): *заўтра* → ***пасля***-*заўтра* → ***на***-*паслязаўтра*, *калі*$^1$ → ***ні***-*колі* → ***а***-*ніколі*.

Гамагенныя словаўтваральныя парадыгмы часцей фарміруюцца не больш як з двух-трох дэрыватаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| *будзень* | *абед* | *дзень* | *красавік* |
| *будзён*-***н***-*ы* | *абед*-***а***-*ць* | ***на***-*дзён*-***н***-*ы* | *красавік*-***ов***-*ы* |
| *будн*-***ø***-*ы* | ***ад***-*абедаць* | *надзённ*-***асць*** | *красавіц*-***к***-*і* |
| | ***да***-*абедаць* | *надзён*-***шчын***-*а* | |
| | ***па***-*абедаць* | | |

У адзінкавых гнёздах зафіксаваны гамагенныя СПр з большай колькасцю кампанентаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| *абед* | *вечар* | *дзень* | *раніца* |
| *абедз*-***енн***-*ы* | *вечар*-***э***-*ць* | *дн*-***е***-*ць* | *ран*-***н***-*(і)* |
| ***да***-*абедзенны* | ***аб***-*вечарэць* | ***аба***-*днец*-***ца*** | *ран*-***а*** |
| ***па***-*абедзенны* | ***з***-*вечарэць* | ***за***-*днець* | *ран*-***авата*** |
| ***пасля***-*абедзенны* | ***па***-*вечарэць* | ***раза***-*днець* | *ран*-***ей*** |
| ***перад***-*абедзенны* | ***у***-*вечарэць* | ***у***-*днець* | *ран*-***енька*** |
| | | | *ран*-***юсенька*** |
| | | | *ран*-***ютка*** |
| | | | ***за***-*рана* |

Сярод гетэрагенных словаўтваральных парадыгм можна выдзеліць найбольш рэгулярныя. Напрыклад, ад прэфіксальна-суфіксальных, прэфіксальна-нульсуфіксальных, суфіксальных прыметнікаў (суф. *-н-, -альн-, -очн-,*

*-ычн-* або *-ав-, -ов-*) на другой і трэцяй ступенях дэрывацыі ўтвараецца двухкампанентная СПр, якую фарміруюць прыслоўе з суфіксам *-а* і назоўнік з суфіксам *-асць:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| *век* | *дзень* | *канец* | *момант* |
| ***ад**-веч-**н-**(ы)* | ***па**-ўся-дзён-**н-**(ы)* | ***бяс**-конц-**ø-**(ы)* | *мамент-**альн-**(ы)* |
| *адвечн-**а*** | *паўсядзённ-**а*** | *бясконц-**а*** | *маментальн-**а*** |
| *адвечн-**асць*** | *паўсядзённ-**асць*** | *бясконц-**асць*** | *маментальн-**асць*** |

Гетэрагенныя СЛ адлюстроўваюць узаемадзеянне паміж словамі розных часцін мовы. Найбольш насычаныя рэалізацыі, якія характарызуюць трансфармацыю адной часціны мовы ў другую, назіраюцца на другой і трэцяй ступенях. Прыярытэт у словаўтваральнай актыўнасці ў СГ з зыходным тэмпаральным словам належыць прыметнікам і дзеясловам, у параўнанні з якімі словаўтваральная актыўнасць прыслоўя значна ніжэйшая.

Аналіз словаўтваральных катэгорый, адпаведных кожнай часцінамоўнай мадэлі, паказаў, што падабенства семантыкі зыходных слоў прадвызначае ўтварэнне аднатыпных дэрыватаў. Некаторыя з іх выдзяляюцца ў СГ, утвораных на аснове зыходных адной-двух ЛСГ, як, напрыклад: дзеясловы з суфіксам *-ава-(-ява-)* са значэннем ‘праводзіць час, абазначаны матывавальным словам’ (*зімаваць, летаваць, вечараваць, начаваць, дняваць*), прыслоўі з фармантамі *над-...-ø, пад-...-ø* са значэннем акалічнаснай прыкметы часу, які непасрэдна папярэднічае таму, што названы матывавальным словам (*надвосень, надвечар, падвечар*), прыслоўі з фармантамі *у-...-ø, у-...-ы* са значэннем ‘накіраванасць да таго, што названа матывавальным словам’ (*увечар, удзень, увосень, уміг, умомант, ураз, увечары, уначы*), прыметнікі з прыстаўкай *за-* са значэннем ‘які значна перавышае ступень якасці, названай матывавальным словам’ (*застары, замалады*), прыметнікі з суфіксам *-шн-* са значэннем ‘якасць прадмета паводле часу, названага матывавальным словам’ (*учарашні, сённяшні, цяперашні, заўтрашні*), назоўнікі жаночага роду з суфіксам *-к-,* матываваныя складанымі прыметнікамі, са значэннем ‘прадмет, што мае адносіны да пэўнай прыкметы’ (*васьмігодка, дзесяцігодка, аднадзёнка, пяцімінутка*) і інш.

Іншыя дэрываты, утвораныя пры дапамозе высокапрадуктыўных у беларускай мове фармантаў, з’яўляюцца састаўнымі адзінкамі СГ з зыходнымі, што належаць значнай колькасці ЛСГ. Да такіх адносяцца назоўнікі з суфіксамі суб’ектыўнай ацэнкі *-ік (-ык), -ок (-ёк), -к-* (*гадзінка*, *зімка, калядкі, мінутка* і г. д., *годзік, разік, кончык, месячык, вечарок, гадок, разок, дзянёк*), з суфіксам *-асць* з адцягненым значэннем прыкметы і ўласцівасці (*абноўленасць, запозненасць, зрэджанасць, застарэласць, маладжавасць, пачашчанасць, старападобнасць* і г. д.), з суфіксам *-нн-, -енн- (-энн-)* са значэннем апрадмечанага дзеяння (*амаладжванне, зрэджванне, перазімоўванне, фінішаванне, гадаванне, абнаўленне*, *паскарэнне, заканчэнне* і г. д.), прыметнікі з суфіксамі *-ав-, -н- (-ачн-, -очн-, -ычн-, -ярн-, -альн-), -ённ-, -ск-, -к-* са зна-

чэннем 'які адносіцца да часу або ўласцівы часу, што названы матывавальным словам' (*аўторкавы, вакацыйны, пятнічны, святочны, мезалітычны, канікулярны, эпахальны, сесіённы, юрскі* і г. д.), прыслоўі з суфіксам *-а* са значэннем прыкметы, названай матывавальным словам, з дадатковым акалічнасным значэннем (*маладжава, рэдка, зімна, месячна, святочна, тэрмінова, позна* і г. д.), дзеясловы са значэннем зваротнага дзеяння (*амалоджвацца*, *абнаўляцца*, *зрэджвацца*, *паскарацца*, *пачашчацца*, *датавацца, гадавацца, святкавацца, кончыцца* і г. д.), дзеясловы са значэннем працяглага дзеяння (*канчаць, растэрміноўваць, асучасніваць, падмалоджвацца*, *зрэджвацца*, *абнаўляцца*, *паскарацца*, *пачашчацца* і інш.), дзеясловы са значэннем 'утвараць дзеянне паводле таго, што названа матывавальным словам' (*абедаць; гадаваць, святкаваць, стартаваць, фінішаваць, стажыраваць* і г. д.) і інш. Такім чынам, семантычная блізасць зыходных слоў, прыналежнасць іх да аднаго лексіка-семантычнага поля вызначае агульнасць іх словаўтваральных магчымасцей.

У СГ з зыходным тэмпаральным словам значнае месца сярод матываваных адзінак належыць кампазітам (533 адзінкі ў 47 СГ). Большая частка складаных слоў утвараецца на першай ступені дэрывацыі – 78 %, на другой – 17 %, на трэцяй – 4 %, на чацвёртай і пятай ступенях – толькі 1 %. Часцінамоўныя мадэлі, па якіх утвараюцца кампазіты, дастаткова разнастайныя і шматлі-кія. Так, выдзяляецца 20 мадэлей утварэння назоўнікаў, 16 мадэлей утварэння прыметнікаў, 5 мадэлей утварэння прыслоўяў і 1 мадэль, па якой утвараюцца выклічнікі. Большасць гэтых слоў складаецца з дзвюх асноў, але ёсць і такія, што ўтвараюцца шляхам аб'яднання трох або чатырох кампанентаў, у прыватнасці, словы, якія суадносяцца са словазлучэннямі лічэбнікаў з назоўнікамі *год, мінута, хвіліна*: N + N + S + Ø → S (*васьм-**і**-дзесяц-**і**-годдз-**ø**-е, тр-**ох**-сот-**ø**-годдз-**ø**-е* і інш.), N + N + N + S + Ø → S (*ст-**а**-пяц-**і**-дзесяц-**і**-годдз-**ø**-е, сям-**і**-дзесяц-**і**-пяц-**і**-годдз-**ø**-е* і інш.), N + N + S + суф. → A (*дваццац-**і**-пяц-**і**-гад-**ов**-ы, сарак-**а**-пяц-**і**-мінут-**н**-ы* і інш.), N + N + N + S + суф. → A (*васьм-**і**-дзесяц-**і**-пяц-**і**-гад-**ов**-ы, ст-**а**-пяц-**і**-дзесяц-**і**-гад-**ов**-ы* і інш.).

Увогуле, спалучэнні лічэбнікаў (як няпэўнакалькасных, так і пэўнакалькасных) з тэмпаральнымі назоўнікамі, якія абазначаюць адзінкі вымярэння часу, з'яўляюцца самымі шматлікімі сярод кампазітаў, што ўваходзяць у склад разглядаемых СГ. Гэта высокапрадуктыўныя і адкрытыя рады матываваных адзінак. Так, па мадэлі N + S + суф. → A утвараецца 91 слова ў 15 СГ: *шмат-вяк-**ов**-ы, шмат-гадзін-**н**-ы, мнага-лет-**н**-і* і інш., *тр-**ох**-гад-**ов**-ы, сарак-**а**-хвілін-**н**-ы, адн-**а**-дзён-**н**-ы, дв-**ух**-дэкад-**н**-ы, паўтар-**а**-месяч-**н**-ы* і інш. Па мадэлі N + S + суф. → S утвараецца 14 слоў у СГ з вяршынямі *год, лета, зіма*: *друг-**а**-год-**нік**, перш-**а**-год-**ак**, адн-**а**-лет-**нік**, перш-**а**-зім-**ак*** і інш. Па мадэлі N + S + Ø → S актыўна ўтвараюцца кампазіты з другім кампанентам *год: дзесяц-**і**-годдз-**ø**-е, дваццац-**і**-годдз-**ø**-е, ст-**а**-годдз-**ø**-е* і г. д.

Рэгулярна і прадуктыўна прадстаўлены кампазіты, утвораныя на розных ступенях дэрывацыі па мадэлі S + S → S з першым кампанентам ***паў*** (усечанае *палова*), які служыць для ўказання на палавіну прамежку часу, абазначанага другой асновай (*паў-век-а, паў-гадзін-ы, паў-дн-я, паў-месяц-а, паў-год-а* і г. д.). Па гэтай жа часцінамоўнай мадэлі ўтвараецца значная колькасць кампазітаў, якія абазначаюць рознага роду адзінкі вымярэння (*кілават-гадзіна, чалавека-гадзіна, працадзень, ампер-секунда, парсек* і інш.).

Састаўнымі адзінкамі 15 СГ з'яўляюцца кампазіты з першым кампанентам – займеннікам *што*, які мае значэнне 'кожны' і ўказвае на рэгулярную паўторнасць у часе, абазначаным назоўнікам. Рэалізуюцца часцінамоўныя мадэлі: P + S + суф. → A (*што-дзён-**н**-ы, што-квартал-**н**-ы, што-мінут-**н**-ы, што-секунд-**н**-ы*), P + S + Ø → Ad (*што-вечар-**ø**, што-год-**ø**, што-дзень-**ø**, што-ноч-**ø***), P + S + суф. → Ad (*што-гадзін-**ы**, што-дн-**я**, што-раніц-**ы***), P + S + суф. → S (*што-год-**нік**, што-тыдн-**ёвік***).

Адной са шматлікіх (67 слоў у 8 СГ) з'яўляецца група кампазітаў, утвораных па мадэлі A + A → A. Выдзяляюцца дзве разнавіднасці: калі злучаюцца дзве асновы прыметнікаў, якія абазначаюць раўнапраўныя якасці, «выражаюць суму прыкмет, названых ва ўтваральных словах» [5]: *асенн-**е**-зімовы, летн-**е**-асенні, вясенн-**е**-летні, зімн-**е**-вясенні, маладзёжн-**а**-камсамольскі, стар-**а**-рускі, стар-**а**-беларускі, частотн-**а**-амплітудны* і інш.; калі злучаюцца аснова прыметніка і дзеепрыметнік, пры гэтым «першы кампанент выступае як удакладняльны да другога, апорнага кампанента» [6]: *нав-**а**-выбраны, нов-**а**-асушаны, нов-**а**-населены* і інш.

У 15 СГ складаныя прыметнікі ўтвараюцца на базе словазлучэнняў назоўнікаў і залежных ад іх прыметнікаў (дзеепрыметнікаў). Рэалізуюцца дзве мадэлі: A + S + Ø → $A_1$ (*рэдк-**а**-валос-**ø**-ы, рэдк-**а**-зуб-**ø**-ы, стар-**а**-люд-**н**-ы, быстр-**а**-вок-**ø**-і* і інш.), A + S + суф. → $A_1$ (*стар-**а**-дзед-**аўск**-і, позн-**а**-асен-**н**-і, ранн-**е**-вясен-**н**-і, доўг-**а**-час-**ов**-ы, нав-**а**-год-**н**-і* і інш.).

Ад слоў з тэмпаральным значэннем актыўна ўтвараюцца кампазіты з другім дзеяслоўным кампанентам. Налічваецца 9 часцінамоўных мадэлей: S + V + Ø → A (*век-**а**-помн-**ø**-ы*), S + V + Ø → S (*весн-**а**-вей-**ø**, лет-**а**-піс-**ø**, месяц-**а**-ход-**ø***), S + V + суф. → A (*частот-**а**-вымяра-**льн**-ы*), S + V + суф. → S (*жывёл-**а**-гадов-**ец**, птушк-**а**-гадов-**ец***), A + V + Ø → S (*нав-**а**-селл-**ø**-е, стар-**а**-жыл-**ø***), A + V + суф. → S (*нав-**а**-бр-**анец**, нав-**а**-сел-**ец***), A + V + суф. → A (*стар-**а**-жы-**тн**-ы*), Ad + V + суф. → A (*быстра-лёт-**н**-ы, быстра-ход-**н**-ы, позна-спе-**л**-ы, скар-**а**-спе-**л**-ы, хутка-беж-**н**-ы*), Ad + V + суф. → S (*скара-вар-**к**-а, скора-гавор-**к**-а, скора-друк-**арн**-я, скора-маразі-**лк**-а*).

Значнае месца ў складзе гнёзд займаюць кампазіты, утвораныя спосабам абрэвіяцыі. Выдзяляецца некалькі разнавіднасцей: матываванае слова складаецца з пачатковых частак некалькіх слоў: *пастаянны прадстаўнік* → *пастпрэд* (СГ з вяршыняй *пастаянны*), *камуністычны саюз моладзі* → *кам-*

*самол, камсамольскі арганізатар → камсорг* (СГ з вяршыняй *малады*), *паралакс* і *секунда → парсек* (СГ з вяршыняй *секунда*), *юны карэспандэнт → юнкор, юны натураліст → юннат* (СГ з вяршыняй *юны*) і інш.; першы кампанент матываванага – пачатковая частка слова, другі кампанент – цэлае слова: *педагагічны стаж → педстаж, партыйны стаж → партстаж* (СГ з вяршыняй *стаж*), *фальшывы старт → фальстарт* (СГ з вяршыняй *старт*), *камсамольскае бюро → камбюро* (СГ з вяршыняй *малады*) і інш.; матываванае слова складаецца з пачатковых гукаў кожнага слова: *новая эканамічная палітыка → нэп* (СГ з вяршыняй *новы*). Многія складаныя словы служаць базай для ўтварэння афіксальных або складаных адзінак, напрыклад: *век → сярэдн-****е****-вяк-****ов****-(ы) → сярэдневякоў-****j****-е; год → адн-****а****-год-****ак*** *→ аднагод-****к****-а, год → гад-****ава****-(ць) → гадоўл-****ø-****я → птушк-****а****-гадоўл(я) → птушкагадоў-****ч-****(ы) → птушкагадоўч-****а****-таварны; дзень → дв-****ух****-дзён-****н-****(ы) → двухдзён-****к****-а, дзень → раўн-****а****-дзен-****ств****-(а) → раўнадзенств-****енн****-ы, дэкад(а) → тр-****ох****-дэкад-****н-****(ы) → трохдэкадн-****ік****; зім(а) → зім-****а****-ўстойлів(ы) → зімаўстойлів-****асць***; *лет(а) → мнаг-****а****-лет-****н-****(і) → мнагалец-****ø****-е* і г. д. Самай высокай прадуктыўнасцю спалучэння з асновамі складаных слоў вызначаюцца суфіксы *-асць*, *-ніц-, -к-, -шчын-,* пры дапамозе якіх утвараюцца назоўнікі жаночага роду; суфіксы *-ец, -нік, -ік, -ак,* пры дапамозе якіх утвараюцца назоўнікі мужчынскага роду; суфікс *-тв-,* пры дапамозе якога ўтвараюцца назоўнікі ніякага роду; суфіксы прыметнікаў *-н-, -ав-, -ск-*; суфікс прыслоўя *-а*.

Агульнымі асаблівасцямі структурнай арганізацыі СГ з зыходным тэмпаральным словам з'яўляюцца:

1) словаўтваральная празмернасць ці, інакш, утварэнне ў адным СГ некалькіх дэрыватаў з тоесным значэннем, прычым як на адной ступені (*ночка, ночачка, ночанька; веснавы, вясенні, весні, вясняны; давеку, навек, навекі, павек; кончыць, дакончыць, закончыць, пакончыць, прыкончыць, скончыць; адабедаць, паабедаць; выгадаваць, пагадаваць*[1], *узгадаваць* і інш.), так і на розных ступенях (*надзёншчына, падзёншчына* (2-я ступ.), *штодзёншчына* (3-я ступ.); *раніцай* (1-я ступ.), *ранкам* (2-я ступ.); *бесканечны* (1-я ступ.), *нясканчоны* (3-я ступ.) і інш.);

2) словаўтваральная недастатковасць, «лакунарнасць» ці незапоўненасць існуючай у сістэме (г. зн. у тыпавым СГ) клеткі [7]: *даўні → даўніць, доўгі → доўжыць, кароткі → караціць, малады → маладзіць, рэдкі → рэдзіць, стары → старыць, часты → часціць,* але *новы → ø, позні → ø, скоры → ø, юны → ø*; *зіма → зімаваць, лета → летаваць, вечар → вечараваць, век → векаваць, нядзеля → нядзеляваць,* але *вясна → ø, восень → ø, тыдзень → ø, месяц → ø; новы → па-новаму, стары → па-старому,* але *быстры → ø, хуткі → ø, дзень → днець, вечар → вечарэць,* але *ноч → ø, раніца → ø, дэкада → падэкадны, квартал → паквартальны, урок → паўрочны,* але *семестр → ø, трыместр → ø, гейм → ø, тайм → ø* і інш.

## Літаратура

1. Кірдун, А. А. Словаўтваральныя гнёзды з зыходным тэмпаральным словам (да праблемы структурнай арганізацыі) / А. А. Кірдун // Вес. Нац. акад. навук Беларусі. Сер. гуманітар. навук. – 2009. – № 3. – С. 112–117.

2. Лукашанец, А. А. Словаўтварэнне і граматыка / А. А. Лукашанец; НАН Беларусі, Ін-т мовазнаўства. – Мінск: Права і эканоміка, 2001. – С. 26.

3. Улуханов, И. С. Мотивация в словообразовательной системе русского языка / И. С. Улуханов; Рос. акад. наук, Ин-т рус. яз. – М.: Азбуковник, 2005. – С. 117.

4. Улуханов, И. С. Мотивация в словообразовательной системе русского языка. – С. 117.

5. Кароткая граматыка беларускай мовы: у 2 ч. / НАН Беларусі, Ін-т мовазнаўства; навук. рэд. А. А. Лукашанец. – Мінск: Беларус. навука, 2007. – Ч. 1: Фаналогія. Марфаналогія. Марфалогія. – С. 250.

6. Кароткая граматыка беларускай мовы. – С. 251.

7. Казак, М. Ю. Интегративная теория словообразовательного гнезда: грамматическое моделирование; квантитативные аспекты; потенциал; прогнозирование: автореф. дис. ... д-ра филол. наук: 10.02.01 / М. Ю. Казак; Белгород. гос. ун-т. – Белгород, 2004. – С. 15.

## Summary

The article is devoted to description of organization of the Belarusian motivated units belonging to derivational families of words (DFW) with initial temporal words. 106 DFW with a noun as an initial word, 16 DFW with an adjective as an initial word, and 10 DFW with an adverb as an initial word were analyzed in the research.

*Інстытут мовы і літаратуры*
*імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*18.02.2011 г.*

*УДК 811.161.3:614.8*

*Н. М. БУНЬКО*

# СПЕЦЫЯЛЬНАЯ ЛЕКСІКА, ЗВЯЗАНАЯ З ДЗЕЙНАСЦЮ ВЫРАТАВАЛЬНІКАЎ

Прафесія выратавальніка ў нашай краіне ўзнікла параўнальна нядаўна. Гістарычныя звесткі сведчаць аб існаванні пажарных каманд яшчэ ў XIV ст. У той час у некаторых буйных гарадах з пажарамі змагаліся не толькі «ахоўнікі ад агню», але і практычна ўсё насельніцтва. У далейшым узнікла неабходнасць стварэння прафесійных пажарных каманд, ліквідаваць пажары сіламі дабраахвотнікаў стала вельмі складанай задачай. Перыяд, калі жыхарам аб пажары паведамлялі медныя званы, для тушэння пажараў выкарыстоўвалася прымітыўнае абсталяванне, а асноўным спосабам руху пажарных быў конна-бочкавы ход, саступіў месца часу, калі істотна змяніліся тэхнічныя магчымасці пажарнай службы, узніклі новыя напрамкі работы, вырасла прафесійнае майстэрства пажарных. У канцы мінулага стагоддзя ваенізаваная пажарная служба была далучана да Міністэрства па надзвычайных сітуацыях (МНС) Рэспублікі Беларусь. У МНС створана каля 20 спецыяльных службаў, у тым ліку цэнтр аператыўнага кіравання, службы пажаратушэння і аварыйна-выратавальных работ, хімічнай і радыяцыйнай бяспекі, інжынерных работ, сувязі і асвятлення, пошукава-выратавальная, авіяцыйная, вадалазная, выбуховатэхнічная, газадымаахоўная, медыцынская, парашутна-дэсантная, кіналагічная службы. Натуральна, што спецыфіка прафесіі выратавальніка патрабуе не толькі кваліфікаванага авалодвання ўменнямі тушэння пажараў, але і непасрэднага ўдзелу ў ліквідацыі іншых надзвычайных сітуацый (НС). Тэарэтычная падрыхтоўка спецыялістаў па папярэджанні і ліквідацыі НС перш за ўсё заснавана на авалодванні ведамі па прафесійнай тэрміналогіі.

Спецыяльная лексіка, звязаная з дзейнасцю выратавальнікаў, уключае ў сябе як вузкаспецыяльную тэрміналогію, так і тэрміны розных галін навукі і тэхнікі. Вузкаспецыяльная лексіка арганізавана паводле ўнутрысэнсавага адзінства і прадметна-тэматычнай прыналежнасці. У яе структуры вылучаюцца тэрміны, якія абазначаюць назвы спецыялістаў, органаў і падраздзяленняў па папярэджанні і ліквідацыі НС, аварыйна-выратавальных і іншых тэхнічных сродкаў, надзвычайных сітуацый, збудаванняў (іх частак), прызначаных для ўкрыцця насельніцтва, спецыяльнага рыштунку і сродкаў індывідуальнай аховы выратавальнікаў, мерапрыемстваў, накіраваных

на папярэджанне (ліквідацыю) НС, сродкаў і сістэм прызначаных для апавяшчэння аб узнікненні НС і інш. Акрамя таго, авалоданне спецыяльнасцю «Папярэджанне і ліквідацыя НС» патрабуе веданне тэрміналогіі розных сфер дзейнасці: авіяцыйнай, будаўнічай, вадалазнай, ваеннай, геалагічнай, гідралагічнай, медыцынскай, метэаралагічнай, хімічнай, фізічнай і інш.

Для корпуса спецыяльнай лексікі выратавальнікаў уласцівы спосабы ўтварэння, характэрныя для слоў агульнаўжывальнай лексікі беларускай мовы: лексіка-семантычны, сінтаксічны, марфемныя, аснова- і словаскладанне, складанасуфіксальны, абрэвіяцыя. ***Лексіка-семантычны спосаб*** утварэння тэрмінаў заснаваны на тэрміналагізацыі агульнаўжывальных слоў. Лексічныя адзінкі літаратурнай мовы набываюць тэрміналагічнае, строга спецыялізаванае значэнне: *інфармацыя* ‘звесткі аб навакольным свеце і працэсах; паведамленне аб становішчы спраў, звесткі аб чым-н.’ → ‘від сувязі на пажары, пры дапамозе радыёстанцый і тэлефонаў’, *кіраванне* ‘дзеянні па напраўленні чыёй-н. дзейнасці’ → ‘від сувязі на пажары асабіста з кіраўніком тушэння пажару або праз сувязных’, *умяшанне* ‘прыманне ўдзелу ў якой-н. справе з мэтай змены яе ходу’ → ‘мерапрыемства (дзеянне), накіраванае на прадухіленне або зніжэнне неспрыяльных наступстваў апраменьвання або радыяцыйнай аварыі’, *дазатар* ‘прыстасаванне для аўтаматычнага адмервання вадкіх або сыпкіх рэчываў, для раздзялення на дозы’ → ‘прыстасаванне ва ўстаноўках пажаратушэння, прызначанае для дабаўлення пенаўтваральніка ў пэўным аб’ёме да вады’, *талерантнасць* ‘памяркоўнасць, цярпімасць, добразычлівасць’ → ‘здольнасць арганізма пераносіць неспрыяльнае ўздзеянне атрутнага або ядавітага рэчыва’, *выхад* ‘месца, праз якое выходзяць’ → ‘месца, якое падзяляе шлях эвакуацыі і зону бяспекі’ і інш. Тэрміналагізаванае агульнавядомае слова вельмі часта з’яўляцца кампанентам тэрміна-словазлучэння: *баявы разлік* ‘асабовы склад, які мае канкрэтныя абавязкі па тушэнні пажараў і вядзенні іншых аварыйна-выратавальных работ, а таксама замацаваную за ім аўтамабільную тэхніку’ ← *разлік* ‘вайсковае падраздзяленне’, *дыманепранікальныя дзверы* ‘дзверы, прызначаныя для прадухілення распаўсюджання дыму пры пажары на працягу нарміраванага часу’ ← *дзверы* ‘праём у сцяне для ўваходу–выхаду’, *пажарная лесвіца* ‘вонкавая адкрытая лесвіца, прызначаная для выкарыстання выратавальнікамі, а таксама для эвакуацыі людзей пры пажары’ ← *лесвіца* ‘збудаванне ў выглядзе раду прыступак для пад’ёму–спуску’, *пажарная прафілактыка* ‘мерапрыемствы па прадухіленні пажару і (або) абмежаванні яго дзеяння’ ← *прафілактыка* ‘сукупнасць мерапрыемстваў, якія папярэджваюць захворванні або засцерагаюць ад чаго-н.’, *пажарная выратавальная вяроўка* ‘вяроўка, прызначаная для страхоўкі пажарных-выратавальнікаў пры тушэнні пажараў і правядзенні аварыйна-выратавальных работ’ ← *вяроўка* ‘выраб з кручаных або вітых у некалькі столак доўгіх пасмаў пянькі або іншых матэрыялаў, які ўжываецца для завязвання і іншых гаспадарчых патрэб’, *пажарны кран* ‘камплект, які складаецца з кла-

пана, усталяванага на ўнутраным супрацьпажарным вадаправодзе і абсталяванага пажарнай злучальнай галоўкай, а таксама пажарнага рукава з ручным пажарным ствалом’ ← ‘прыстасаванне ў выглядзе трубкі для выпускання вадкасці або газу з рэзервуара ці трубапровода’ і інш.

У пераважнай большасці тэрміны спецыяльнаяй лексікі, звязанай з дзейнасцю выратавальнікаў, утварыліся на аснове ***сінтаксічнага спосабу***. Па структуры гэта простыя састаўныя і складаныя састаўныя тэрміны, якія ўзніклі па мадэлях ‘прыметнік (дзеепрыметнік) + назоўнік’, ‘прыметнік + прыметнік + назоўнік’, ‘прыметнік + назоўнік + назоўнік у склонавай форме’, ‘назоўнік + назоўнік’, ‘назоўнік + назоўнік у склонавай форме’, ‘назоўнік + прыметнік + назоўнік у склонавай форме’: *адрасны пажарны апавяшчальнік* ‘пажарны апавяшчальнік, які перадае на адрасны прыёмна-кантрольны прыбор код свайго адрасу разам з апавяшчэннем аб пажары’, *аператыўная абстаноўка* (лац. operatio ‘дзеянне’) ‘сукупнасць аб’ектыўна існуючых умоў, якія могуць садзейнічаць або супрацьстаяць узнікненню (развіццю) пажару’, *ачаг пажару* ‘месца першапачатковага ўзнікнення пажару’, *баявое адзенне* ‘адзенне для аховы ад вады і паверхнева-актыўных рэчываў’, *буйная аварыя* (італ. avaria ‘пашкоджанне, урон’) ‘аварыя, у выніку якой загінула не менш за дзесяць чалавек’, *вогнеахоўнае рэчыва* ‘рэчыва (сумесь рэчываў), якое забяспечвае ахову ад узгарання’, *вогнятушачае рэчыва* ‘рэчыва з пэўнымі фізіка-хімічнымі ўласцівасцямі, якія дазваляюць спыніць гарэнне дадзенага гаручага асяроддзя’, *вогнятушачая канцэнтрацыя* ‘канцэнтрацыя вогнятушачага рэчыва, якая стварае асяроддзе, не здольнае гарэць’, *вогнятушачы аэразоль* ‘прадукт гарэння аэразолепадобнага складу, які аказвае вогнятушачае ўздзеянне на ачаг пажару’, *выбухованебяспечнае рэчыва* ‘рэчыва, якое можа стварыць выбух пад уздзеяннем полымя або праяўляць адчувальнасць да трасення і трэння’, *выбухованебяспечная сумесь* ‘сумесь гаручага пылу, газу або пары з паветрам або іншым акісляльнікам, здольная да ўтварэння выбуху’, *аварыйна-аднаўленчае фарміраванне* ‘група спецыялістаў, створаная ў адпаведных будаўнічых і мантажных арганізацыях рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання і іншых дзяржаўных арганізацыях з мэтай выканання спецыяльных работ па ўзнаўленні першачарговых аб’ектаў жыццезабеспячэння ў зонах НС’, *аварыйна-выратавальная і пажарная тэхніка* ‘комплекс тэхнічных сродкаў для правядзення аварыйна-выратавальных работ у зонах НС’, *абароннае збудаванне* ‘інжынернае збудаванне, прызначанае для ўкрыцця людзей, тэхнікі, маёмасці ад небяспекі, якая ўзнікае ў выніку наступстваў аварыі або катастрофы на патэнцыяльна небяспечных аб’ектах, або стыхійных бедстваў у раёнах размяшчэння гэтых аб’ектаў, а таксама ад уздзеяння сучасных сродкаў паражэння’, *аварыйная супрацьдымная вентыляцыя* ‘сістэма вентыляцыі, якая забяспечвае адсутнасць задымленасці эвакуацыйных шляхоў на працягу часу, неабходнага для небяспечнай эвакуацыі людзей з будынку і для тушэння пажару’ і інш.

Сінтаксічна ўтвораныя тэрміны часта фарміруюць цэлыя рады відавых паняццяў. У такіх выпадках тэрмін, які ўжываецца для абагуленага абазначэння цэлай групы, напрыклад, аварыйна-выратавальных сродкаў або НС, з’яўляецца асновай утварэння тэрмінаспалучэнняў, што адносяцца да асобных відаў гэтых сродкаў або НС з уласцівымі для іх характарыстыкамі. Так, дастаткова разгалінаваным з’яўляецца рад відавых тэрмінаў з тытульным тэрмінаспалучэннем *лясны пажар* ‘пажар, які ўзнікае і распаўсюджваецца па лясной плошчы’: *лясны радыеактыўны пажар* ‘пажар на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях ляснога масіву, падчас якога гарапь забруджаныя радыенуклідамі лясныя гаручыя матэрыялы і ўтвораныя прадукты гарэння (попел, недапал, дымавая аэразоль, газападобныя прадукты) ствараюць адкрытыя крыніцы іанізуючага выпраменьвання’, *лясны тарфяны пажар* ‘лясны пажар, пры якім гарыць тарфяны пласт забалочанай і (або) балотнай глебы’, *верхавы пажар* ‘лясны пажар, які ахоплівае полаг лесу’, *нізавы пажар* ‘лясны пажар, які распаўсюджваецца па ніжніх ярусах лясной раслціннасці, ляснай подсцілцы і (або) ападу’, *беглы нізавы пажар* ‘нізавы пажар у лесе, які распаўсюджваецца са скорасцю руху менш за 0,5 м/мін з перавагай палымянага гарэння, у выніку чаго павярхоўна абгарае наглебавае покрыва’, *устойлівы нізавы пажар* ‘нізавы пажар, які распаўсюджваецца з хуткасцю менш за 0,5 м/мін, падчас чагоназіраецца павольнае гарэнне не толькі травы, апалага лісця, але і пнёў, ніжняй часткі дрэў у лесе’. Наяўнасць у саставе лексікі па НС вялікай колькасці сінтаксічна ўтвораных тэрмінаў, безумоўна, звязана са з’яўленнем новых, а таксама ўдасканаленнем наяўных відаў аварыйна-выратавальнай тэхнікі і спецыяльных сродкаў, прызначаных для прадухілення і ліквідацыі НС.

***Марфемныя спосабы*** ўласцівы толькі для адзінкавых тэрмінаў, якія ўзніклі пры дапамозе прыставак, суфіксаў або з’яўляюцца нульсуфіксальнымі ўтварэннямі: *абвалаванне* ‘сістэма загараджальных валоў для прадухілення расцякання вадкасці’, *выратавальнік* ‘асоба, якая прайшла атэстацыю на правядзенне аварыйна-выратавальных работ’, *гаручасць* ‘здольнасць рэчываў (матэрыялаў) да распаўсюджання полымя і тлення’, *узгаральнасць* ‘здольнасць рэчываў (матэрыялаў) да ўзгарання’, *гарэнне* ‘экзатэрмічная рэакцыя акіслення рэчыва, якая суправаджаецца свячэннем і (або) вылучэннем дыму’, *узгаранне* ‘ўзнікненне гарэння гаручага асяроддзя пад уплывам крыніцы запальвання, якое суправаджаецца полымем’, *успышка* ‘хуткае ўзгаранне сумесі газу, пары і паветра над паверхняй гаручага рэчыва’, *ствольшчык* ‘пажарны, які працуе пры пажарным ствале’, *патрубак* ‘кароткая трубка, якая з’яўляецца адводам у трубаправодах, рэзервуарах і пад.’, *тленне* ‘гарэнне цвёрдага рэчыва (матэрыялу) без полымя пры параўнальна нізкіх тэмпературах (400–600 °C), якое часта суправаджаецца выдзяленнем дыму і бачным светлавым выпраменьваннем’, *насадак* ‘прыстасаванне для выпуску, фарміравання і размеркавання струменяў вогнятушачых рэчываў’.

Складаныя па структуры тэрміны ўзнікаюць у выніку ***аснова- і слова-складання***, а таксама ***складанасуфіксальнага спосабу***: *вогнеахова* ‘зніжэнне пажарнай небяспекі матэрыялаў, канструкцый і вырабаў шляхам спецыяльнай апрацоўкі’, *вогнетрываласць* ‘здольнасць матэрыялаў не расплаўляцца пад уздзеяннем высокіх тэмператур’, *вогнетушыцель* ‘пераноснае або перасоўнае прыстасаванне для тушэння ачагоў пажару за кошт выпуску вогнятушачых рэчываў’, *выбуховаабарона* ‘меры па прадухіленні ўздзеяння на людзей небяспечных фактараў выбуху і забеспячэнні захавання матэрыяльных каштоўнасцей’, *іскрагасільнік* ‘прыстасаванне, якое супрацьдзейнічае вынасу ў атмасферу распаленых часціц і паліва’ і інш.

***Абрэвіяцыя*** як спосаб утварэння складанаскарочаных тэрмінаў з’яўляецца пашыраным і неабходным, у тым ліку з прычыны значнай наяўнасці складаных сінтаксічных тэрмінаканструкцый: *АВР* – аварыйна-выратавальныя работы, *ВПХР* – вайсковы прыбор хімічнай разведкі, *ДСНС* – Дзяржаўная сістэма папярэджання і ліквідацыі надзвычайных сітуацый, *ІСА* – індывідуальныя сродкі абароны, *МНС* – Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, *НС* – надзвычайная сітуацыя, *АЦ* – аўтацыстэрна, *АН* – аўтанасос, *АПП* – аўтапенапад’ёмнік, *КІП* – кіслародна-ізаліруючы працівагаз, *ЛП* – лесвіца-палка, *МП* – мотапомпа, *ЦППС* – цэнтральны пункт пажарнай сувязі, *ЦПР* – цэнтральны пункт радыёсувязі. Абрэвіятуры могуць суправаджацца лічбавымі абазначэннямі, у выпадку калі ўказваецца парадкавы нумар асобнага пажарнага прыстасавання, рэчыва, тэхнічнага сродку: *АЦ-40*, *КІП-12*, *ЦППС-3*.

У якасці асноўных ***крыніц паходжання*** спецыяльнай лексікі, звязанай з дзейнасцю выратавальнікаў, выступаюць як уласнабеларускія моўныя сродкі, так і іншамоўныя лексічныя адзінкі. Асноўнай крыніцай узнікнення і папаўнення гэтай групы тэрмінаў з’яўляюцца лексічныя сродкі нацыянальнай мовы: *абароннае зазямленне* ‘зазямленне частак электраўстаноўкі з мэтай захавання электрабяспекі’, *маланкаадвод* ‘прыстасаванне, якое ўспрымае ўдар маланкі і адводзіць яе ток у зямлю’, *зазямляльнік маланкаабароны* ‘адзін або некалькі заглыбленых у зямлю зазямляльнікаў, прызначаных для адводу ў зямлю токаў маланкі або для абмежавання перанапружанняў, якія ўзнікаюць на металічных карпусах, абсталяванні, камунікацыях пры блізкіх разрадах маланкі’, *пажарны апавяшчальнік* ‘устройства для фарміравання сігналу аб пажары і масавага апавяшчэння людзей аб ім’, *светлавы пажарны апавяшчальнік* ‘пажарны апавяшчальнік, які рэагуе на выпраменьванне полымя’ і інш. Сярод запазычаных тэрмінаў, утвораных на базе іншамоўных асноў вылучаюцца назвы сучасных аварыйна-выратавальных тэхнічных сродкаў і прыстасаванняў: *азанатар* (грэч. ozōn ‘той, які пахне’) ‘прыбор для ўзбагачэння паветра азонам’, *абсорбцыя* (лац. absorbtio ‘паглынанне’) ‘працэс паглынання пары або газу з газавых ці парагазавых сумесей вадкімі паглынальнікамі’, *акселератар* (лац. accelerare ‘паскараць’) ‘прыстасаванне, якое пры рабоце арашальніка забяспечвае

скарачэнне часу спрацоўвання спрынклернага паветранага сігнальнага клапану’, *антыпірэн* (грэч. anti – прыстаўка, якая азначае процілеглы напрамак + pyr ‘агонь’) ‘рэчыва (сумесь рэчываў), якое дадаецца ў матэрыял для забеспячэння вогнеаховы’, *бункер* (англ. bunker) ‘бетанаванае сховішча, доўгачасовае фартыфікацыйнае збудаванне’, *дазатар* (грэч. dosis ‘порцыя, прыём’) ‘прыстасаванне ва ўстаноўках пажаратушэння, прызначанае для дабаўлення пенаўтваральніка ў пэўным аб’ёме да вады’, *рэспіратар* (лац. respirare ‘дыхаць’) ‘палегчаны сродак працяглага або разавага карыстання, якія прымяняецца для індывідуальнай аховы органаў дыхання ад шкодных газаў, пароў, аэразоляў і пылу’, *спрынклер* (англ. sprinkler ‘распырсквальнік’ < sprinkle ‘пырскаць’) ‘аўтаматычная водараспырсквальная насадка на трубах супрацьпажарнай водаправоднай сеткі’. Запазычаныя тэрміны могуць уваходзіць у склад тэрміналагічных спалучэнняў: *спрынклерны арашальнік* ‘арашальнік з запорным прыстасаваннем выхадной адтуліны, якая адкрываецца пры спрацоўванні цеплавога замка’, *дрэнчарны арашальнік* (англ. drencher < drench ‘змочваць, арашаць’) ‘арашальнік з адкрытай выхадной адтулінай’, *дрэнчарная ўстаноўка пажаратушэння* ‘ўстаноўка для тушэння пажару, абсталяваная дрэнчарнымі арашальнікамі’, *зона НС* (грэч. zōnē ‘пояс’; фр. situation) ‘тэрыторыя, на якой узнікла НС’, *зона імавернай НС* ‘тэрыторыя, на якой існуе імавернасць або прагназуецца ўзнікненне НС’. Зафіксаваны выпадкі ўжывання адаптаваных іншамоўных лексічных адзінак у якасці сінанімічных да тэрмінаў і тэрміналагічных спалучэнняў, утвораных пры дапамозе ўласна моўных лексічных сродкаў: *гідраэлеватар* (грэч. hydōr ‘вада’, лац. elevator ‘той, які падымае’), *эжэктарны насос* (фр. ejecteur < ejecter ‘выкідваць’) – *струменевы насос* ‘насос, у якім вадкасць або газ перамяшчаюцца струменем вадкага ці газападобнага асяроддзя’, *дэфлаграцыя* (лац. deflagratio ‘згаранне дашчэнту’) – *імгненнае згаранне без выбуху* ‘хуткае згаранне, якое распаўсюджваецца з дагукавой скорасцю’, *ліквідацыя пажару* (фр. liquidation < лац. liquidazione ‘ліквідацыя’) – *тушэнне пажару* ‘працэс уздзеяння сілаў і сродкаў, а таксама выкарыстанне метадаў і прыёмаў для знішчэння пажару’, *пажарны ліфт* (англ. lift ‘пад’ёмная машына, пад’ёмнік, ліфт’) – *пажарны пад’ёмнік* ‘спецыяльны ліфт у будынку або збудаванні, прызначаны для выкарыстання пажарнымі падраздзяленнямі падчас тушэння пажару’.

У заключэнні адзначым, што корпус тэрміналагічнай лексікі, якая забяспечвае сферу дзейнасці выратавальнікаў, мае належнае месца ў тэрмінасістэме мовы. У якасці асноўных крыніц фарміравання тэрміналогіі, звязанай з дзейнасцю выратавальнікаў, выступаюць уласна моўныя лексічныя сродкі. Спецыфічнай асаблівасцю ўтварэння з’яўляюцца шматкампанентныя тэрміны, што тлумачыцца сучасным развіццём і ўдасканаленнем пажарнай аварыйна-выратавальнай тэхнікі і сродкаў, прызначаных для тушэння пажараў, папярэджання і ліквідацыі іншых НС.

## Літаратура

1. Защита от пожара: словарь / пер. междунар. стандарта ISO 8421-1: 1987 на рус. яз. – Минск, 2009. – Ч. 1: Общие термины и термины, относящиеся к явлениям при пожаре.
2. Защита от пожара: словарь / пер. междунар. стандарта ISO 8421-2: 1987 на рус. яз. – Минск, 2010. – Ч. 2: Противопожарное оборудование.
3. Защита от пожара: словарь / пер. междунар. стандарта ISO 8421-3: 1989 на рус. яз. – Минск, 2010. – Ч. 3: Обнаружение пожара и подача сигнала.
4. Защита от пожара: словарь / пер. междунар. стандарта ISO 8421-4: 1990 на рус. яз. – Минск, 2010. – Ч. 4: Оборудование для пожаротушения.
5. Защита от пожара: словарь / пер. междунар. стандарта ISO 8421-5: 1988 на рус. яз. – Минск, 2010. – Ч. 5: Обнаружение дыма.
6. Защита от пожара: словарь / пер. междунар. стандарта ISO 8421-6: 1987 на рус. яз. – Минск, 2010. – Ч. 6: Эвакуация и спасательные средства.
7. Защита от пожара: словарь / пер. междунар. стандарта ISO 8421-7: 1987 на рус. яз. – Минск, 2010. – Ч. 7: Средства обнаружения и подавления взрыва.
8. Защита от пожара: словарь / пер. междунар. стандарта ISO 8421-8: 1990 на рус. яз. – Минск, 2010. – Ч. 8: Специальные термины по борьбе с пожаром, спасательным службам и обращению с опасными веществами.

## Summary

The article is devoted to the analysis of the corpus of terminological vocabulary concerning professional activities of experts in disaster situations. Perculiarities of structural-semantic organization, origin and word-formation of the mentioned vocabulary are concerned.

*Інстытут мовы і літаратуры*
*імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі*
*04.10.2011 г.*

*УДК 808.26.316.4:9*

*В. К. МАРОЗ*

# ПАКАЗЧЫКІ НАРМАТЫЎНАСЦІ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ Ў ПОМНІКАХ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

У адносінах да літаратурных моў дзейнічаюць прынцыпы правільнасці і абавязковасці выкарыстання стандартных рыс, якія валодаюць адзнакамі ўстойлівасці і камунікатыўнай мэтазгоднасці. На старажытным і сучасным этапах развіцця літаратурнай формы мовы ў якасці паказчыкаў яе нарматыўнасці выступае свой самастойны набор прыкмет. Старажытная літаратурная мова, у параўнанні з сучаснай, у цэлым не можа разглядацца як узорная і нармалізаваная ў арыентацыі на ўсю моўную сістэму, паколькі ў старажытны перыяд нормы літаратурнага словаўжывання афармляліся ў межах адпаведных тыпаў мовы на аснове агульнапрынятых узораў, у якасці якіх маглі выступаць як асобныя жанры (у залежнасці ад іх распрацаванасці і пашыранасці), так і асобныя творы (у залежнасці ад ступені падрыхтоўкі ці таленавітасці аўтараў, перапісчыкаў або перакладчыкаў).

У беларускім гістарычным мовазнаўстве да гэтага часу не выпрацаваны дакладныя крытэрыі, паводле якіх з належнай ступенню верагоднасці можна было б вызначыць асноўны набор тыповых нарматыўных рыс. І калі адносна сучаснай беларускай літаратурнай мовы нормы вызначаліся з улікам іх статыстычнага дамінавання ў творах беларускай літаратуры акрэсленага кола аўтараў, то ў дачыненні да старажытнага перыяду нарматыўнасць звязваецца з вызначэннем аўтарытэтных пісьмовых крыніц, якія выступалі б узорамі і ўтрымлівалі найбольш пашыранае кола нарматыўных паказчыкаў.

Паколькі ў творах беларускага летапісання пры шматлікіх перапісваннях на працягу значнага гістарычнага перыяду адбывалася своеасаблівая апрабацыя і замацаванне літаратурна-пісьмовых нарматыўных паказчыкаў, варта суаднесці іх з арфаграфічнымі правіламі, граматычнымі ўзорамі і моўна-стылістычнымі прыёмамі беларускага пісьменства старажытнага перыяду.

З адметных рыс беларускай фанетыкі (аканне, яканне, дзеканне, цеканне, зацвярдзенне шыпячых і *р*) у летапісах набыло адносную рэгламентацыю аканне, якое перадавалася праз *а*, праз *о* на месцы этымалагічна правільнага *а*, праз неадрозненне ненаціскных *о* і *а* ў корані слова і прыстаўках (*н**а**човал*, *Витовт**а**вым*, *Ольгирд**а**въ*; *приг**о**дала*, *к**о**рати*, *обд**о**ровавши*; ***о**стронома*, ***о**таманы, р**о**зъехатися*, *р**о**збити*) і інш. Адступленне ад этымалагічна-мар-

фалагічнага прынцыпу ў напрамку да фанетызацыі беларускага правапісу ў летапісах праяўлялася праз розныя спосабы перадачы *ў* напісанне літары *в* на месцы *ў*, вар'іраванне *в* са спалучэннем *ув*, чаргаванне ў прыназоўніках *в–у–ув*, узаемазамена *л* і *в* (*вжо*, *вме(р)*, *втека*(*л*); ***ув**отамановъ*; *быти **у** Вилни*, ***оу** Вилни*; *Вито**л**тъ – Вито**в**тъ*) [1]. Паводле статыстычнага дамінавання пераход *в–ў* на пачатку слоў і ў прыназоўніку становіцца ўстойлівай нормай беларускага пісьменства справавога, рэлігійнага і свецкага характару ўжо ў XVI ст., у той час як пераход *л–ў* не стаў арфаграфічнай нормай старажытнага перыяду [2].

У параўнанні з фанетычнымі, марфалагічныя паказчыкі ў большай ступені выяўляюць стабільнасць нарматыўных працэсаў праз аднастайнае выражэнне граматычных катэгорый самастойных часцін мовы. Разам з тым у летапісах, як і іншых творах старажытнасці, назіралася шырокая варыянтнасць слова- і формаўжывання.

Так, дапускалася супадзенне канчаткаў вінавальнага склону з назоўным у неадушаўлёных назоўніках (*не мощно комоу испытати **высота** небесная и **глоубина** морьская*).

Наяўнасць сінанімічных флексій у родным склоне адзіночнага ліку *-у/-ю* і *-а/-я* назоўнікаў мужчынскага роду 2-га скланення, якая адбылася ў выніку перагрупіроўкі тыпаў скланення ва ўсходнеславянскіх гаворках, мела месца як у летапісах, так і іншых жанрах старажытнай літаратуры; гэта адпавядала народна-дыялектнаму формаўжыванню (*пироу*, *скарбу*) [3]. У родным склоне множнага ліку пашырыліся канчаткі *-овъ/-евъ* (*греховъ*, *враговъ*) замест былых формаў з нулявым канчаткам. Назоўнікі з асновай на *-і* ў родным склоне множнага ліку пераважна сталі ўжывацца з канчаткам *-ей* (*мудростей*, *заповедей*) замест царкоўнаславянскага *-ій*. А назоўнікі множнага ліку *часовъ, татаровъ* (поруч з *татаръ*), *дивовъ, с Троковъ*, *мужов*, *рублевъ*, якія набылі канчатак *-овъ* на ўзор *сыновъ*, пашыраліся ў якасці варыянтаў адносна формаў давальнага склону з канчаткам *-ей*: *зоубрей*, *грошей*, *рысей*; паралельна заставалася ў актыве і архаічная форма з канчаткам *-и*: *люди много*, *сем дни*. У давальным склоне множнага ліку на летапісных старонках прысутнічае канчатак *-омъ* (*паномъ, градомъ*, *таторомъ*, *къ Трокомъ*) з адначасовым выкарыстаннем формаў *княжатам, панятам, шляхтам*. Творны склон адзіночнага ліку мог ужывацца з варыянтнымі канчаткамі (*людомъ*, *пекаромъ*, *пекарцомъ*, *княжемъ*, *Скиргаилемъ*), а ў множным ліку ўтрымлівае як канчаткі *-ы*, *-и* (*под Троки*, *с Немци съ князи и бояры*, *многы лекарствы*), так і *-ми*: *людми, честми, конми*, *князми*. У месным склоне пераважае канчатак *-ехъ*: *при своихъ животехъ*, *у портехъ*, *у Троцехъ*, *при отцехъ*.

Як адметная з'ява беларускай летапіснай традыцыі выступаюць прыналежныя прыметнікі, якія склалі альтэрнатыву роднаму склону назоўнікаў: *брат Олгирдавъ*, *пана Спытковая*, *дву братов Скиргаиловых*. Разам з тым рэшткі старажытнага іменнага скланення прыметнікаў выяўлены

амаль ва ўсіх спісах летапісаў – Віленскім, Красінскіх, Увараўскім, Познанскім: *гораздъ* (у значэнні *гораздо*), *босъ*, только *живъ*, по пророка *Довыдову* слову. Пры перавазе кароткіх прыметнікаў у прэдыкатыўнай функцыі і кароткіх формаў ступеняў параўнання для беларускіх старажытных помнікаў было характэрна ўжыванне прыстаўкі найвышэйшай ступені параўнання *най-/на-* з суфіксам *-ш-*: *наболший*, *натяжший*, *начистший*. Выкарыстоўваюцца ў летапісах формы вышэйшай і найвышэйшай ступені параўнання прыслоўяў: *болше*, *борздеи*, *наборздей*, *первѣи*, *наипервеи*, *должеи* і інш.

Скланенне поўных прыметнікаў у адзіночным ліку мела пашыраную варыянтнасць канчаткаў назоўнага склону: *-ый*/*-ий*, *-ая*/*-яя*, *-ое*/*-ее* пры спарадычным ужыванні канчатка *-и* (князь *велики* Якаило). У прыметніках жаночага роду роднага склону ўсталяваліся канчаткі *-ое*, *-ее* (крови *христианское*, *пятое* нощи, *Литовское* земли) пры адзінкавых выпадках ужывання слоў на *-ае* (*святае* Софьи) і *-ыя* (*пятыя* нощи). Родны склон мужчынскага і ніякага роду мае сталыя канчаткі *-ого*, *-его* (*збройного*, *великого*) пры наяўнасці ў асобных летапісных частках назоўнікаў на *-аго*: *великаго*. У летапісах прысутнічае варыянтны канчатак *-ы/-и* (*вторы*, *трети*) паралельна з канчаткам *-ый/-ий* у парадкавых лічэбніках назоўнага склону адзіночнага ліку.

Атрымалі пашырэнне і замацаванне ў летапіснай мове адметныя формы займеннікаў (*нихто*, *нѣхто*, *нечто*; *у мене*, *от тебѣ*; *тобе*, *собѣ*; *на менѣ*, *самого*, *тое же*, *в нее*) і іх варыянтаў (*тобѣ – тебѣ, собѣ – себѣ*, *той – тотъ*, *кождый – каждый*, *тому – этому*, *нѣкоторый – никто*). Новыя формы ўказальных займеннікаў (*тую*, *тые*, *тыи*, *всих*, *всими*) склалі альтэрнатыву архаічным. У множным ліку назоўнага і вінавальнага склонаў пераважалі формы прыметнікавага тыпу: *тые*, *тыи*, *тая*, *сами*, *вся*, *вси*, *твои*.

Летапісная мова насычана дзеясловамі з інфінітыўным суфіксам *-ти* (*крестити*, *ехати*, *пити*); формы на *-ть* мелі пашырэнне толькі ў спалучэнні з постфіксам (*датся*, *записыватся*, *жаловаца*). Інфінітывы на *-ти* выступалі нормай папярэдняга ўсходнеславянскага перыяду, адкуль перайшлі ў беларускія помнікі самых розных жанраў. Без канцавога *-и* (*платить*, *меть*, *судить*) дзеясловы разглядаюцца як факультатыўная норма, якая ў летапісах, Евангеллі В. Цяпінскага, Статуце 1588 г. мела заўважнае пашырэнне. Ужыванне дзеясловаў 3-й асобы адзіночнага ліку з канчаткам *-ть* (*береть*, *даеть*), якое было граматычнай нормай для абодвух спражэнняў, з канца XV ст. фіксуецца без канцавога *-т* (*взыде*).

Будучае дзеянне выражалася простымі і складанымі формамі: *знайду*, *боудешь се радовати*. Сустракаюцца формы будучага складанага ў спалучэнні дзеяслова *быти* з дзеепрыметнікам на *-л*. Як і ў большасці помнікаў старажытнага пісьменства, у летапісах фіксуецца ўжыванне ў складзе перфекта дзеепрыметнікавых формаў з асновай на зычны двух відаў – з канцавым *-л* і без яго: *бегъ – беглъ*, *утекъ – утеклъ*. Прошлы час закончанага

трывання, якія ўтрымліваў спалучэнне дзеепрыметнікаў на *-лъ* з цяперашнім часам дзеяслова *есмь* (*не роушилъ есми*), у 3-й асобе адзіночнага і множнага ліку мог ужывацца без дапаможнага дзеяслова (*не вдѣлалъ*, *не вчинилъ*, *реклъ*). Даўномінулае дзеянне летапісцы выражалі спалучэннем дзеяслова *былъ*, а не формай імперфекта дзеяслова *быти* у прошлым часе з прыслоўем на *-лъ*: *князь Ягайло далъ былъ Полтескъ брату, и они его не приняли; повелъ былъ его въ добрыхъ; оузялъ былъ*. Асабліва вылучаюцца формы будучага часу са значэннем мінулага хуткага дзеяння. У розных летапісных спісах яны носяць варыянтны характар і выступаюць як у цяперашнім часе закончанага трывання, так і ў форме аорыста (*наедеть, пошлеть, поиде*). Адметнасць беларускіх летапісаў – вялікая колькасць дзеяслоўных асноў з суфіксамі *-ыва-*, *-ива-*. У адрозненне ад іншых помнікаў старажытнай беларускай мовы летапісныя спісы насычаны дзеясловамі, якія ў цяперашнім часе мелі значэнне пастаянства, нязменнасці (*Немон впадываеt*), а ў прошлым часе абазначалі паўтаральнае даўномінулае дзеянне (*приеждивалъ*, *игривали*).

Асноўным сродкам выражэння мінулага дзеяння ў летапісах, як і наогул у літаратурна-пісьмовай беларускай мове канца XV – пачатку XVI ст., служыў перфект. Архаічныя дзеяслоўныя формы ў беларускім летапісанні былі ўжо толькі фармальным «адлюстраваннем старыны». Так, часціца *быхмо* (*быхмо поговорили, дали быхмо, быхмо держали*) набыла варыянт *бы*. Наяўны ў летапісных тэкстах аорыст нярэдка змешваўся з дзеясловамі 3-й асобы цяперашняга часу (*жда*, *вогна*, *озябе*). Яшчэ менш захавалася формаў імперфекта, якія таксама не ўспрымаўся як жывая з’ява (*бяше*, *не можаше*, *избираху*). Выяўлена шмат прыкладаў недакладнага ці неадпаведнага ўжывання архаічных дзеяслоўных формаў (*поможи, узри, бежи*).

Сярод дзеепрыметнікаў цяперашняга часу незалежнага стану сустракаюцца архаічныя формы на *-а* (*озма*, *выима*, *дръжа*) і на *-я* (*идя*, *будя*, *надѣяся*), а ў прошлым часе незалежнага стану заўважнае пашырэнне маюць формы на *-ше, -ши* (*немше*, *слышавше*, *веземшы*, *смовивши*), на *-ъ* (*сѣдъ*, *не оземъ*, *пошлетъ*) і на *-чи* (*приеждаючи*, *помщиваючы*, *ходечи*). Адсутныя ў справавым пісьменстве дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу з суфіксамі *–ш-, -вш-* і ў летапісных тэкстах сустракаюцца спарадычна. Затое шырокае адлюстраванне ва ўсіх жанрах літаратурна-пісьмовай мовы атрымалі дзепрыметнікі на *-л-* (*вышлый*, *дозрелый*, *упалый*).

Асноўным сродкам афармлення дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу ў старажытнай беларускай мове выступалі суфіксы *-уч-/-юч-*, *-ач-/-яч-* (*гаснучии*, *даючии*, *секучии*). У асобных летапісных частках, як і ў іншых мастацкіх жанрах літаратурнай-пісьмовай мовы XIV–XV стст., былі распаўсюджаны дзеепрыметнікі незалежнага стану на *-щий, -щая, -щее* (*приходящей*, *хотящим*, *поюще*). У ролі самастойных дзеяслоўных формаў выступалі і дзеепрыслоўі, якія ў цяперашнім часе ўтвараліся пры дапамозе

суфіксаў *-учи/-ючи, -ачи/-ячи* (*будучи*, *даючи*, *ждучи*), а сродкам афармлення прошлага часу выступаў суфікс *-ши* (*давши*, *живши*, *заплативши*).

Сінтаксічныя нормы старажытнай мовы рэгулявалі граматычную сувязь слоў у прыназоўнікавых і беспрыназоўнікавых канструкцыях. Як паказчык сінтаксічнай адметнасці летапісаў можна разглядаць ужыванне злучнікаў *а*, *и* не толькі ў пачатку галоўных ці даданых сказаў (***и*** *князь великый Евнутий выскочилъ* ***и*** *убежалъ в горы въ долъ*), але і перад аднароднымі членамі (*Прошка* ***а*** *Бѣлик* ***а*** *Кучукъ* ***а*** *Лисица*); паўтор прыназоўнікаў перад назоўнікам з азначэннем ці прыдаткам (***къ*** *брату* ***къ*** *старшему*; ***со*** *матерью и* ***з*** *брат и ею и* ***с*** *скарбомь своимь* ***со*** *всимь*; ***до*** *реки* ***до*** *Шумы*). Сінтаксіс простага сказа ў летапісах адметны формамі некаторых склонаў, сярод якіх родны для пазначэння часу (*которого бы дни*, *пѣтое ночи*, *немалыи час*), давальны без прыназоўніка для выражэння мэты руху (*поехаль Кракову*), месны без прыназоўніка (*отстоупитъ Берестьи*, *посади на княжении Вилни*), пропуск выказніка (*онъ в Литву, а князь к Орши*). Сінтаксіс складанага сказа вызначаецца сістэмай злучальных слоў *чого*, *што*, *што* (у значэнні *які*), *которы* і злучнікаў *иж бы*, *штобы*, *аж*, *иж*, *ижъ*, *абы*, *бы*, *какъ*. Фактамі з летапіснай мовы могуць быць праілюстраваны ўсе віды акалічнасных адносін паміж часткамі складанага сказа: акалічнасць часу (*пани Спытковая вдовою зостала а детки малы*), акалічнасць часу са злучнікамі часу *какъ – ино*, *какъ – такъ*, *какъ – тако* (*какъ жонкы приидуть покладать*, *ино ему … выити вонъ*), акалічнасць часу, выражаная рознымі формамі дзеепрыметніка (*соущу же емоу оу немцахъ*; *съступившемься полком и Богъ поможе Витовту*; *А какъ услышавши то князь Витовтъ, што … князь Ягайло идеть ратью с нѣмци сниматися*, *а онъ поедеть къ Городну с матерью*), выражэнне акалічнасці прычыны галоўным сказам без прычынных злучнікаў (*то учинил есми*, *стерегль есми своее головы*, *почюль, што на мене лихо мыслять*), поўным сказам прычыны (*не вдашася ему, занебъ тогды правду дали Скиргайлу*). Ёсць прыклады акалічнасці мэты (*послалъ штобы еси уедналъ*), а таксама спосабу дзеяння (*почнетъ также приеждати къ старымъ думамъ, акъ и къ брату приеждивал*).

На аснове паўнаты адлюстравання ў летапісах асноўных нарматыўных рыс старажытнай літаратурнай мовы можна сцвярджаць, што склад летапіснай мовы з'яўляецца адлюстраваннем асноўных працэсаў выпрацоўкі літаратурных нормаў старажытнага перыяду шляхам узаемадзеяння варыянтных сродкаў. Стабілізацыя літаратурных нормаў адбывалася ў працэсе ўзаемадзеяння варыянтаў. На фанетычным узроўні нарматыўная варыянтнасць была выклікана спалучэннем у правапісе двух прынцыпаў: этымалагічна-марфалагічнага і фанетычнага. Найбольш пашыраная варыянтнасць у марфалогіі звязана з ужываннем дзеяслова і дзеяслоўных формаў, што тлумачыцца значнасцю іх ролі ў сістэме вербальных сродкаў беларускага летапісання.

## Літаратура

1. Булыка, А. М. Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы / А. М. Булыка; Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – С. 156.

2. Карский, Е. Ф. О языке так называемых литовских летописей / Е. Ф. Карский // Труды по белорусскому и другим славянским языкам / Акад. наук БССР, Ин-т языкознания; отв. ред. В. И. Борковский. – М.: Изд-во АН СССР, 1962. – С. 208–244.

3. Жураўскі, А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы: у 2 т. / А. І. Жураўскі; Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства. – Мінск: Навука і тэхніка, 1967. – Т. 1. – 371 с.

## Summary

The problem of the linguistic investigating the language of chronicles is touched upon. The conclusion that chronicles accumulate in themselves the norms of an ancient Belarusian literary language is made. The subject of research – the norms of Belarusian chronicles' language.

*Акадэмія Міністэрства ўнутраных спраў*
*Рэспублікі Беларусь*

*23.06.2011 г.*

*УДК 811.161.3’373.6*

*А. М. УШАКЕВІЧ*

# ДА ГІСТОРЫІ І ЭТЫМАЛОГІІ БЕЛАРУСКАГА СЛОВА *ХОХЛІК* ‘НЯЧЫСЦІК’

Вобраз хохліка ў дачыненні да беларускай дэманалогіі па некалькіх прычынах можна назваць адметным. Па-першае, у адрозненне ад шэрагу іншых міфічных істот (як, напр., дамавік, лесавік, вадзянік), хохліку ўласціва пэўная ўніверсальнасць і абагуленасць, таму часам яго імя можа выступаць як сінонім да «нячысціка». Разам з тым хохлік не зусім абстрактны персанаж* – народная фантазія традыцыйна прыпісвае яму шэраг уласцівасцей: невялікі рост, гарэзлівы нораў і, што важна, адносную бяскрыўднасць у дачыненні да людзей, г. зн. яго свавольствы не нясуць нейкай істотнай небяспекі, а таму выклікаюць хутчэй паблажлівую ўсмешку, чым страх і боязь.

Абагулены характар гэтай дэманічнай істоты пакідае прастору для дэталізацыі і, так бы мовіць, «дамалёўвання» яго вобраза, чым, у прыватнасці, ахвотна карыстаюцца мастакі слова. Сяргей Кавалёў у п’есе-казцы «Хохлік» апісаў свайго загалоўнага персанажа як «маленькага барадатага дзядка ў стракатай апранасе», «сярдзітага з выгляду, але добрага ў душы чалавечка з сямейства гномаў» [2]. Ураджэнец Ашмяншчыны Антоні Эдвард Адынец у польскамоўным вершы «Хохлік» (1829) (які, дарэчы, можна лічыць першай пісьмовай згадкай гэтай міфічнай істоты) стварае такі вобраз нячысціка: «Хохлік я, жыву я між людзьмі заўсёды, / Іх дразню, ды толькі не раблю ім шкоды. / Падурэць люблю я, час на жарты трачу, / Хоць я невідомы, сам жа ўсё, ўсё бачу» (пераклад К. Цвіркі) [3]. Як агульнае імя для шэрагу дробных дэманаў, відаць, ужываў найменне «хохлік» і Ігнат Храпавіцкі ў сваім навукова-публіцыстычным артыкуле «Погляд на паэзію беларускага люду» («Русалкі ды хохлікі таксама бяруць свой пачатак у дахрысціянскую эпоху...» [4]).

Такая нейтральнасць хохліка абумоўліваецца перш за ўсё тым, што яго імя не «прывязвае» гэтага нячысціка да пэўнай мясцовасці ці функцыі (як згаданыя *дамавік*, *палявік*, *лесавік* ці *хапун* і да т. п.), іншымі словамі, яго імя не мае выразнай матывацыі па месцы знаходжання ці роду заняткаў. Таму

* Прынамсі, так вынікае з агульнага аб’ёму сведчанняў аб хохліку, з якімі мы мелі дачыненне, тым не менш часам яго вобраз ідэнтыфікуецца даволі цьмяна, параўн.: «У запісах яго (хохліка. – *А. У.*) выгляд неакрэслены – «можа які ці павук, ці што...» [1].

і змяшчае яго народная фантазія то ў лесе (як у прыведзеных прыкладах ці таксама ў аднайменным вершы Янкі Купалы: «Як зайграе ў лесе хохлік...» («Хохлік», 1911)), то, наадварот, у людскім жытле («хохлік жа – нейкае гуллівае чарцяня, якое жыве за печкай, адкуль і палохае людзей...» [5], «Часам хатняга чорта завуць хохлікам (хоплікам)» [6]) альбо ў хляве («Хохлік, чорт, адна з адменаў хлеўніка. У Смаргонскім раёне хохліку прыпісваюцца нядобразычлівыя ўздзеянні на каня, на якім ён уночы катаецца і даводзіць яго да знямогі» [7]). Кампрамісным рашэннем можна назваць «легенду» хохліка, створаную Юльюшам Славацкім у трагедыі «Ballandyna» (1834): у польскага аўтара хохлік – гэта «фантастычная асоба», служка німфы Гапляны, летам ён жыве у лесе, выконваючы (хоць і неахвотна, з прычыны сваёй ленасці) загады азёрнай гаспадыні (дапамае лясным кузуркам, вызваляе з пастак птушак), а зімой спіць «u chłopa za brudnym przypieckiem, / Między garnkami, babą szczerbatą i dzieckiem (у селяніна за брудным прыпечкам, паміж гаршкамі, бабай шчарбатай і дзіцем)» [8].

Зазначым, што прыклады з польскамоўных і польскіх аўтараў мы прыводзім нароўні з беларускімі сведчаннямі, паколькі беларускае паходжанне польскага *chochlik* практычна не выклікае сумненняў. Яно прызнавалася як аўтарамі XIX ст., так і пазнейшымі даследчыкамі:

***Chochlik***, назва гарэзлівага, вясёлага д’ябліка ў паданнях літоўскага люду. Па сваёй натуры хохлік нешкадлівы, але любіць усім строіць штукі. Апрануты па-нямецку*, на макаўках веж і дрэў свабодна скача і таньчыць. Зводзіць з дарогі і заблытвае падарожных, знянацку будзіць заснулых на возе, п’яных заводзіць у балота, а калі тыя далёка забрынуць, смяецца на ўсё поле. Самая любімая яго забава – дражніць маладых дзяўчат і гаспадынь, даводзячы іх да звады і гневу. Шмат падобных аповядаў ходзіць не толькі сярод народу літоўскага, але і нашага. Адтуль Юльюш Славацкі ўзяў вобраз хохліка для «Баляндыны»** [11].

***Chochlik***, назва фантастычнай істоты, кшталту Цмока, Гнома, Дамавіка (Latawca, Skrzatka, Gospodarczyka) і г. д., нядаўна ўведзеная ў нашу мову паэтамі і літаратарамі, як падаецца, з беларускай мовы [12].

Беларускае паходжанне *chochlika* пацвярджаюць таксама аўтары этымалагічных слоўнікаў польскай мовы [13; 14].

---

* Нямецкі ўбор, відаць, не варта адносіць да спецыфічных прыкмет хохліка – параўн. у гэтым дачыненні сведчанні М. Нікіфароўскага аб агульным вобразе нячысціка ў беларускай (віцебскай) міфалогіі: «Прымаючы чалавекападобны вобраз, нячысцік носіць вопратку нямецкага пакрою – цесную куртачку, вузкія панталоны, чаравікі з высокімі абцасамі і абавязкова – капялюш» [9].

** Тое, што Ю. Славацкі запазычыў вобраз хохліка непасрэдна з народных паданняў, нам не падаецца такім бясспрэчным, паколькі, як узгадвалася вышэй, ужо ў 1829 г. яго ў сваёй творчасці выкарыстаў Э. А. Адынец. Дарэчы, апошні падчас вучобы ва ўніверсітэце быў блізкі з сям’ёй Саламеі Бэкю – маткі Юльюша Славацкага, і будучага класіка польскай паэзіі Адынец ведаў яшчэ малым хлапчуком [10].

Беларускае слова ў польскай мове прынялося і актыўна ўжываецца да сённяшняга дня, у тым ліку і ў складзе ўстойлівага спалучэння *chochlik drukarski* ‘абдрукоўка’. Рускай мове сёння таксама вядомы вобраз хохліка, але для яе, як здаецца, ён «не родны». Само слова ў значэнні ‘нячысцік’ фіксуецца ў слоўніку У. Даля з паметай «заходняе» [15], а значыць можа быць аднесена да беларускага моўнага арэалу. Паўночнарускім гаворкам вядома слова *хóхла* ‘(хатні) злы дух’, якое П. Е. Грыцэнка супастаўляе з паўн.-зах. *хохлик* ‘тс’ (ці не разумеецца пад ім бел. *хохлік*?) і укр. бойк. *хохлик* ‘злы дух’ (пра якое нам, на жаль, не ўдалося знайсці больш падрабязную інфармацыю ва ўкраінскіх дыялектаграфічных працах), пры гэтым даследчык узгадвае, што для паўн.-рус. *хохла* існуе фіна-ўгорская этымалогія [16]. Рус. дыял. (валаг.) *хóхла* «персонаж устрашения» побач з формай *хóхря-мáхря* згадвае ў сваёй працы і О. А. Чарапанава [17] і таксама звязвае яго з беларускай назвай нячысціка. Праўда, для паўн.-рус. *хóхла* ў беларускіх гаворках ёсць больш блізкі (па фармальных паказчыках) адпаведнік, а менавіта *хóхля* ‘ліхаманка’ [18].

Якое ж паходжанне мае назва *хохлік*?

На першы погляд, этымалогія бел. *хохлік* празрыстая: назва беларускай міфічнай істоты матывавана назоўнікам *хахол* ‘чуб’. На гэтым сыходзяцца аўтары як згаданых польскамоўных лексікаграфічных і энцыклапедычных крыніц, так і аўтары сучасных даведнікаў па рускай міфалогіі і дэманалогіі [19; 20], пры гэтым, напрыклад, М. Власава дадае, што такая матывацыя для назвы «хохлік» была ўласціва, «прынамсі, моўнай свядомасці XIX–XX стст.». На нашу думку, гэта надзвычай трапная і істотная заўвага.

Тое, што бел. *хохлік* ‘нячысцік’, зафіксаванае І. Насовічам, звязвалася са словам *хахол* ‘чуб’, практычна не выклікае сумненняў і ўскосна пацвярджаецца наяўнасцю ў той жа крыніцы субстантываванага прыметніка *хохлáтый* у значэнні ‘чорт, д’ябал’. Хоць называнне міфічнай істоты па яе знешніх прыкметах і не вельмі распаўсюджана ў анамастыконе беларускай дэманалогіі, але ўсё ж сустракаецца, параўн.: «пры вялікай патрэбе чартыхнуць, замест сапраўдных бясоўскіх імёнаў, ужывалі іншасказанні: *ён, той-самый, éтый-што, погáник, проклятик,* ***рогатик, красавец хвостатый*** і інш.» [21]. І ў плане словаўтварэння развіццё *хахол* ‘чуб’ → *хохлік* ‘нячысцік (чубаты)’ не сустракае вялікіх супярэчнасцей, паколькі такая форма ўяўляе рэгулярны дэмінутыў да ўсх.-слав. *хохол* ‘чуб’ (што з аг.-слав. **chocholъ*:**chochъlъ* [22]); ва ўсходнеславянскіх мовах ён функцыянуе паралельна з формай **хохолокъ*:

**хохолокъ*:

стар.-рус. *хохолокъ* ‘?’ (1551 г.) [23],

рус. *хохолóкъ* 1) памянш. да *хохóлъ* ‘асаблівы пук з валасоў ці пер’я на галаве’; 2) мн. л. ‘вельмі дробная рыба, якая прадавалася не на вагу, але мерай, як зерне’ [24],

бел. (брасл.) *хахалóк* ‘чубок’ [25];

**хохъликъ*:
рус. *хо́хлик* памянш. да *хохо́лъ* [26],
бел. *хо́хлік* ‘тс’ [27],
укр. дыял. *хі́хлик* ‘закручаны піраг без начынкі’ [28].

Тым не менш пытанне заключаецца ў тым, ці суадносілася назва хохліка з назвай чуба ад самага пачатку альбо гэтая сувязь узнікла ў выніку рээтымалагізацыі (пераасэнсавання яго этымалогіі).

Падобнае пераасэнсаванне этымалагічных сувязей, звязанае з узаемадзеяннем аманімічных каранёў, з’ява ў развіцці слоў нярэдкая. Часам яна можа суправаджацца фармальным прыпадабненнем каранёў, як гэта, дарэчы, адбылося і з назвай хохліка. Так, у этнаграфічных і фальклорных працах Ч. Пяткевіча фіксуецца форма *хоплік*, паўстанне якой бясспрэчна звязана з уплывам дзеяслова *хапаць* і адпаведна пераасэнсаваннем функцый хохліка як дамавіка, што выхоплівае з-пад рук розныя прадметы: «*А дзе ж мая падплётка? Паглянь, аж дзе ляжыць; бач, куды запраторыў* ***Хоплік*** *(Дамавік) пракляты*» [29].

Магчыма, і дыял. *ко́хлік* ‘коклюш’ уяўляе прыклад пераасэнсавання назвы хохліка пад уплывам гукапераймання, кшталту *кох-кох*. Такое меркаванне, аднак, будзе справядлівым толькі, калі прыняць, што дыял. *хо́хлік* ‘коклюш’ (Медведский С. И. Белорусский словарь. – Толочино, 1910 (рукапіс); цыт. па Картатэцы ЭСБМ [30]) з’яўляецца вынікам семантычнага развіцця ‘нячысцік’ > ‘хвароба (коклюш)’, а не самастойным утварэннем.

Так ці інакш, пры існаванні «надзейнай» этымалогіі для беларускага слова *хохлік* ‘нячысцік’ (ад *хахол* ‘чуб’) шукаць іншае тлумачэнне яго паходжання нас прымусіла галоўным чынам тая акалічнасць, што назва хохліка не адпавядае найбольш пашыранай семантыка-дэрывацыйнай мадэлі, паводле якой у беларускай мове ўтвараюцца найменні міфічных істот (духаў, дэманаў): назоўнік са значэннем месца → адпаведны прыметнік → назва адпаведнай істоты (напр., *лесавік, палявік, дамавік, хатнік, хлеўнік, лазнік, хлеўнік, ёўнік, багнік* і да т. п.[*]). Падкрэслім, што гаворка вядзецца менавіта пра беларускую мову – назвы істот, накшталт *русалка, баба-яга, кікімара, мара*, больш старажытныя і адносяцца, прынамсі, да агульнаўсходнеславянскай спадчыны.

У такіх абставінах на ролю найбольш верагоднай базы для ўтварэння назвы хохліка (па фармальных і семантычных крытэрыях), на нашу думку, «падыходзіць» ст.-бел. **холхло* ‘балаціна, балоцістая нізіна’. Само слова ў якасці імя агульнага не зафіксавана ні ў помніках старабеларускай мовы, ні ў сучаснай мове, але яго сляды захоўваюць, прынамсі, чатыры беларускія тапонімы:

---

[*] Такая мадэль актыўна выкарыстоўваецца ў беларускай мове і сёння, што, у прыватнасці, можна праілюстраваць на прыкладзе цыкла мініяцюр Адама Глобуса «Дамавікамірон», у якім аўтар паводле яе стварыў шэраг уласных назваў «міфічных істот» (напр., Дваравік, Сутарэннік, Прыбіральнік, Бульварнік, Галерэйнік і інш.).

в. Хоўхлава (Маладз. р-н) – першая пісьмовая згадка мястэчка Холхло адносіцца да 1437 г.; у такой жа форме (Холхло, адзін раз – Холхва, у польскім варыянце – Chołchel (1574 г.) мястэчка ўзгадваецца ў шматлікіх дзяржаўных і справавых актах ВКЛ XVI–XVII стст. (гл., напр. [31; 32]; Chołchło, Chołchła [33]);

в. Хоўхла (Буда-Кашал. р-н);

в. Хаўхоліца (Барыс. р-н) – у 1774 г. узгадваецца як с. Хаўхолец, 1800 г. – Хальхольцы Вялікія [34]; Chołcholice [35];

в. Хохлава (Навагр. р-н);

і два мікратапонімы:

Хаўхóлец м. ‘сенажаць, акружаная вадой (інфарм.)’ (Якшыцы, Бярэз. р-н) [36];

Хóхло/Хóхля ‘больш шырокае паглыбленне, катлавіна на рэчцы Безымянцы (працякае паміж вёскамі Верхні і Ніжні Церабяжоў Рэчыцкага пасялковага савета)’: *пойíхалі ловíті рыíбу на Хóхлю* [37].

(Для рэканструкцыі старабеларускай лексемы, відаць, нялішнім будзе ўлічыць і смаленскую назву балотнага мху *хахлоўка* [38].)

Гіпатэтычнае ст.-бел. **холхло* мае польскі адпаведнік – *chechło*[*], пра які аўтары «Слоўніка геаграфічнага» распавядаюць наступнае: «*Chechło* – у старой мове значыла тое ж, што і нізкая, мокрая мясцовасць. Таму мокрыя лугі часам называлі *Chechły*. Яшчэ да сённяшняга дня ў народнай мове «*chechłać*» значыць ‘замочваць, праць бялізну’» [39]. Ад пол. *chechło*, як і ад ст.-бел. **холхла*, паходзіць шэраг мясцовых назваў: некалькі вёсак з назвай *Chechło*, аднайменны ручай, вёска *Chechłówka*, *Chełchy* – назва 9 вёсак у Макоўскім павеце.

Да падобных польскіх і беларускіх айконімаў, відаць, прымыкаюць і рус. (назва паселішча) *Холохолна* (1356), (гідронім басейна Акі) *Холохольня*, *Холохолка*, *Холохоленка*), серб.-харв. стар. (назва сяла) (мн.) *Hlaholi*. Апошнія назвы аўтары «Этымалагічнага слоўніка славянскіх моў» узводзяць да прасл. **xolxoliti* – «вытворнага ад першаснага імя **xolxolъ*, што з’яўляецца рэдуплікацыяй тыпу **kolkolъ* ад кораня **xoliti* (‘чысціць; песціць’. – *У. А.*)» [40].

Як і ў выпадку аг.-слав. **xoxolъ*, **xoxъlъ*, для прасл. **xolxoliti*, верагодна, існаваў дублет **xolxъliti* ці нават – з увагі на пол. *chechło* – **xъlxъliti*, ад якога ўрэшце і ўтварылася ст.-бел. **холхло* (**xolxъliti*/**xъlxъliti* → **холхло*). У працэсе развіцця некаторыя вытворныя гэтага словаўтваральнага гнязда страчвалі *-l-* у першай частцы кораня (**xъlxъliti* > **xъxъliti*) – у выніку

[*] Відавочна, праз памылку польская форма дадзенага слова была прынята за беларускую і сёння зафіксавана ў шэрагу беларускіх лекікаграфічных крыніц: «Беларускія геаграфічныя назвы» І. Я. Яшкіна (Мінск, 1971), дзе спасылка на працу «Беларуская айканімія» (Мінск, 1970) В. П. Лемцюговай, што, у сваю чаргу, цытуе «Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии» (Віцебск, 1896). Аўтар апошняй працы на падставе «Słownika geograficznego» прывёў меркаванне аб паходжанні назвы Хоўхлава ад «старинного слова «хехло», але не ўзгадаў, што маецца на ўвазе менавіта пол. *chechło*. У старабеларускіх помніках слова «хехло», як і адпаведныя айконімы, не ўзгадваецца.

ў мове працягвалі існаваць варыянтныя формы (з *-l-* і без яго), альбо заставалася толькі адна з іх. Першы сцэнарый прадстаўлены ў беларускай мове, дзе побач з маладз. і буд.-каш. **Холхла* існуе навагр. *Хохлава*, а таксама у (стара-)рускай, у якой, акрамя прыведзеных айконімаў (*Холохольня*, *Холохолка*, *Холохоленка*), быў таксама засведчаны дзеяслоў *хохловати, хохлую* ‘кіпець’: *Яко рѣка огньна прѣдъ нимъ течеть, хохлоующи и попалѧющи* (XV ст.) [41]*. Другі сцэнарый (з захаваннем адной формы) дэманструе польская мова, дзе толькі *chechło, chechłać* (назва тыпу *Chełchy* хутчэй з’яўляецца вынікам метатэзы).

Такім чынам, бел. *хохлік* мог першапачаткова мець форму **холхлік*/*хоўхлік* (хоць і не абавязкова) і абазначаць тое ж, што і *багнік*, г. зн. ‘балотны нячысцік’. У гэтым выпадку яго назва адпавядала б прадуктыўнай для беларускай мовы мадэлі ўтварэння імён нячысцікаў.

Яшчэ адной падставай для пошуку «іншай» этымалогіі беларускага *хохлік* для нас паслужыла «незвычайнае» значэнне, зафіксаванае для аналагічнага слова ў слоўніку У. Даля: *хо́хлики справлять* ‘ладзіць хаўтуры’ [42]. Гэты прыклад паходзіць са Смаленшчыны, а значыць можа і павінен быць разгледжаны ў адносінах да беларускага моўнага арэалу і да бел. *хохлік* ‘нячысцік’. Паміж паняццямі ‘нячысцік’ (як прадстаўнік «таго» свету) і ‘памінкі’, як справядліва зазначае М. Власава [43], сапраўды існуе пэўная сувязь, але яна, як здаецца, хутчэй інтуітыўная, і на самой справе не зусім відавочная. Вывядзенне імя нячысціка ад старажытнай назвы нізкай, мокрай мясціны, балаціны ў пэўнай ступені дазваляе патлумачыць гэту сувязь.

Яшчэ ў язычніцкую пару падобныя бязлюдныя, аддаленыя ад паселішчаў мясціны (таксама як і ўзвышшы ці астравы) нярэдка станавіліся месцамі язычніцкіх свяцілішчаў (капішчаў) [44]. Адно з такіх, у прыватнасці, існавала непадалёк ад маладзечанскага Хоўхлава («Год 400 таму, за ¼ вярсты ад с. Холхла, на ўзвышанай гары існаваў язычніцкі ахвярнік» (з кн.: Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии. – Вильна, 1893; цыт. па: [45]), каля буда-кашалёўскай вёскі Хоўхла, паводле даных 1910 г., існавалі курганы [46]. Магчыма, смаленскі выраз *хо́хлики справлять* нясе памяць аб старажытным звычаі ладзіць рытуальныя дзеянні на **холхле*, г. зн. балаціне, толькі яго семантыка звузілася з язычніцкага абраду ўвогуле да канкрэтнага абраду хаўтураў.

Як бачна, больш пільная ўвага да паходжання назвы хохліка дазваляе раскрыць новыя грані яго вобраза і прапануе новы погляд на месца гэтай дэманічнай істоты ў сістэме каардынат народнай культуры.

---

* Дзеяслоў *попалѧти*, прадстаўлены ў прыкладзе Сразнеўскага, уяўляе выдатны прыклад моўнага развіцця, аналагічнага апісанаму намі для **xolxoliti*/**xъlxъliti*, параўн.: прасл. **polpolati* (чэш. *plápolat* ‘палымнець’, стар.-рус. *попалати*), прасл. **xolxoliti/*xъlxъliti* (чэш. *chlácholit* ‘сунімаць, сцішваць’, стар.-рус. *хохловати*).

## Літаратура

1. Валодзіна, Т. Хохлік / Т. Валодзіна // Міфалогія беларусаў: энцыкл. слоўнік. – Мінск, 2011. – С. 499.

2. Беларуская драматургія. – Мінск, 1994. – Вып. 1. – С. 125.

3. Філаматы і філарэты: зб. – Мінск, 1998. – С. 353.

4. Храпавіцкі, І. Погляд на паэзію беларускага люду / І. Храпавіцкі // ХІХ стагоддзе: навук.-літаратурны альм. – Мінск, 2000. – Кн. другая. – С. 179.

5. Шейн, П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края / П. В. Шейн. – СПб., 1902. – Т. 3. – С. 13.

6. Пяткевіч, Ч. Рэчыцкае Палессе / Ч. Пяткевіч. – Мінск, 2004. – С. 472.

7. Валодзіна, Т. Хохлік. – С. 499.

8. Słowacki, J. Dzieła wybrane / J. Słowacki. – Wrocław; Warszawa; Kraków; Łódź, 1989. – T. 3: Dramaty. – S. 346.

9. Никифоровский, Н. Я. Нечистики. Свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе / Н. Я. Никифоровский // Виленский Временник. – Вильна, 1907. – Кн. ІІ. – С. 19.

10. Філаматы і філарэты. – С. 348.

11. Encyklopedyja powszechna. – Warszawa, 1861. – T. 5: C–Cul. – S. 374.

12. Wielka encyklopedya powszechna ilustrowana. – Warszawa, 1893. – T. XI: Cankow–Chomik. – S. 733.

13. Sławski, F. Słownik etymologiczny języka polskiego / F. Sławski. – Kraków, 1952. – T. 1. – S. 72.

14. Boryś, W. Słownik etymologiczny języka polskiego / W. Boryś. – Kraków, 2005. – S. 63.

15. Толковый словарь живого великорусского языка Владимира Даля.– 3-е изд., испр. и доп. – СПб., 1909. – Т. 4. – С. 1228.

Гриценко, П. Е. К вопросу о соотносительных восточнославянских диалектных зонах / П. Е. Гриценко // Региональные особенности восточнославянских языков, литератур, фольклора и методы их изучения: Тез. докл. и сообщений ІІІ респ. конф. – Гомель, 1985. – Ч. ІІ. – С. 114.

16. Черепанова, О. А. Мифологическая лексика русского севера / О. А. Черепанова. – Л., 1983. – С. 27.

17. Картатэка Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы, Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.

18. Власова, М. Новая Абевега русских суеверий / М. Власова. – СПб., 1995. – С. 286.

19. Королев, К. Энциклопедия сверхъестественных существ / К. Королев. – СПб., 2002. – С. 216.

20. Никифоровский, Н. Я. Нечистики. Свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе. – С. 8.

21. Черных, П. Я. Историко-этимологический словарь русского языка / П. Я. Черных.– 2-е изд. – М., 1994. – Т. 2. – С. 353.

22. Срезневский, И. И. Словарь древнерусского языка / И. И. Срезневский. – Репр. изд. – М., 1989. – Т. 3. – С. 1393.

23. Словарь церковно-славянского и русского языка.– 2-е изд. – СПб., 1867. – Т. 4. – С. 410.

24. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. – Мінск, 1986. – Т. 5. – С. 292.

25. Словарь церковно-славянского и русского языка. – С. 410.

26. Насовіч, І. І. Слоўнік беларускай мовы / І. І. Насовіч. – Рэпр. выд. – Мінск, 1983. – С. 683.

27. Аркушин, Г. Л. Словник західнополіських говірок / Г. Л. Аркушін. – Луцьк, 2000. – Т. 2: О – Я. – С. 228.

28. Пяткевіч, Ч. Рэчыцкае Палессе. – С. 473.
29. Картатэка Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы, Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.
30. Спиридонов, М. Ф. Населенные пункты Менского повета в 1567 г. М. Ф. Спиридонов // Актуальныя пытанні вывучэння і выдання Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага: матэрыялы Міжнар. навук. канф. – Мінск, 2005. – С. 189.
31. Alexandrowicz, S. Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. / S. Alexandrowicz // Acta Baltico-Slavica. – Białystok, 1970. – T. 7. – S. 78.
32. Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. – Warszawa, 1880. – T. 1. – S. 624.
33. Памяць: гіст.-дакум. хроніка г. Барысава і Барысаўскага р-на. – Мінск, 1997. – С. 792.
34. Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. – S. 624.
35. Мікратапанімія Беларусі: матэрыялы / рэд. М. В. Бірыла, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1974. – С. 244.
36. Вярэніч, В. Л. Палескі архіў / В. Л. Вярэніч. – Мінск, 2009. – С. 294.
37. Добровольский, В. Н. Смоленский областной словарь / В. Н. Добровольский. – Смоленск, 1914. – С. 966.
38. Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. – S. 550.
39. Этимологический словарь славянских языков: праславянский лексический фонд / под ред. О. Н. Трубачева. – М., 1981. – Вып. 8. – С. 60–61.
40. Срезневский, И. И. Словарь древнерусского языка. – С. 1393.
41. Толковый словарь живого великорусского языка Владимира Даля. – С. 1228.
42. Власова, М. Новая Абевега русских суеверий. – С. 286.
43. Зайкоўскі, Э. М. Свяцілішчы / Э. М. Зайкоўскі, Л. У. Дучыц, Э. А. Ляўко // Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. – Мінск, 1993. – С. 560.
44. Памяць: гіст.-дакум. хроніка Маладзечна і Маладзечанскага р-на. – Мінск, 2002. – С. 38.
45. Памяць: гіст.-дакум. хроніка Буда-Кашалёўскага р-на. – Мінск, 2001. – Кн. 1-я. – С. 43.

## Summary

The article summarizes ethnographical and lexicographical data about mythical being of Belarusian people’s culture *хохлік* and brings a new hypothesis on its etymology. The word could spring from Old Belarusian **холхло* ‘flush’ with initial meaning ‘demon of flush’, that was reconsidered as affected by common Slavic **xoxolъ* ‘cop’ later.

*Інстытут мовы і літаратуры*
*імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*20.05.2011 г.*

*УДК 811.161.3’367.622’06*

*К. Д. ШЧАСНАЯ*

# ДЫНАМІКА СЛОВАЗМЯНЯЛЬНАЙ НОРМЫ НАЗОЎНІКАЎ У СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Гісторыя той ці іншай літаратурнай мовы як рэальна функцыянуючай камунікатыўнай адзінкі з’яўляецца гісторыяй станаўлення і дынамічных пераўтварэнняў уласцівай ёй нормы [1]. У сваю чаргу, працэсы станаўлення і развіцця норм праходзяць у цеснай узаемасувязі з сацыялінгвістычнай сітуацыяй: грамадска-палітычнымі адносінамі, развіццём культуры і навукі, са статусам мовы ў дзяржаве. Названае датычыцца і сучаснай беларускай мовы. У пачатку XXI ст. ёсць усе падставы для аналізу і характарыстыкі моўных працэсаў з надзённага пункту погляду і дэталёвай перыядызацыі. Выразную карціну дынамікі норм можна прасачыць на прыкладзе назоўнікаў, чые граматычныя катэгорыі прадстаўлены шырокай скланяльнай парадыгмай і дзе назіраецца найбольшая колькасць варыянтных словаформ.

З улікам экстралінгвістычных і інтралінгвістычных фактараў можна выдзеліць наступныя перыяды ў развіцці сучаснай беларускай мовы.

**1. Зараджэнне новай беларускай мовы (XIX ст.)***. У XIX ст. на аснове развіцця агульных эканамічных сувязей пачынае фарміравацца беларуская нацыя (нягледзячы на нацыянальны ўціск з боку ўлад Расійскай імперыі). Новая пісьмовая традыцыя як мова мастацкай літаратуры, у адрыве ад старабеларускай мовы, якая па грамадска-палітычных прычынах была выцеснена і паступова спыніла сваё развіццё. Фарміраванне правіл адбывалася на базе народных гаворак, стыхійна, у апоры на ўласны густ аўтараў твораў. Рэдактарскія карэктывы былі мінімальнымі, як і самі тыражы беларускамоўных кніг. У гэты час пад уплывам палітычнай цікавасці да «Паўночна-Заходняга краю», ідэй рамантызму, пачынаецца даследаванне беларускага народа і яго мовы (Я. Чачот, І. Насовіч, А. Кіркор, П. Шэйн і інш.), але гэта было толькі апісанне гаворак беларусаў. Распрацаваныя П. Шпілеўскім (1846) і К. Нядзведскім (1853) граматыкі не былі апублікаваныя.

**2. «Нашаніўскі перыяд». Станаўленне норм (1903–1917)**. Этап варта распачаць выхадам манаграфіі Я. Ф. Карскага «Беларусы» (1903–1922), якая

---

* Існуюць розныя меркаванні адносна часу зараджэння новай літаратурнай беларускай мовы. Большасць даследчыкаў схільна лічыць гэтым часам у цэлым XIX ст., з моманту напісання твораў ананімнай літаратуры і выхаду твораў В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча.

зламала існуючыя стэрэатыпы аб беларускай мове як паўднёварускім, малароскім «наречии», паказаўшы адметнасць яе фанетычнага, граматычнага, сінтаксічнага ладу. Я. Карскі вызначыў гістарычныя прычыны ўзнікнення тых ці іншых флексій і іх варыянтаў, асаблівасцей дапасавання слоў з тым ці іншым склонам, паказаў узаемасувязі беларускай мовы з рускай, украінскай, польскай, літоўскай і іншымі мовамі.

Імпульсам для далейшага развіцця і пашырэння літаратурнага варыянту беларускай мовы стаў нацыяльнана-вызваленчы рух, арганізацыя беларускамоўных выдавецтваў, якія змаглі легалізаваць сваю дзейнасць пасля зацвярджэння царскім урадам «Закона аб свабодзе друку» (1905). Выдавецтвы «Наша хата», «Загляне сонца і ў наша аконца», «Мінчук», «Беларускае выдавецкае таварыства» ядналі нацыянальную інтэлігенцыю. Тут выходзілі кнігі беларускіх аўтараў, перыядычныя выданні, першыя падручнікі на роднай мове – Цёткі, К. Каганца, Я. Коласа. У той час у Беларусі адкрываюцца ўстановы па падрыхтоўцы настаўнікаў, аднак школьнае навучанне было рускамоўнае (акрамя прыватных школ). Менавіта перыядычныя выданні выступалі спосабам пашырэння мовы, спрыялі фарміраванню тыповых рыс беларускай мовы, выпрацоўцы правапісных норм [2]. Аднак адсутнасць кадыфікацыі на нацыянальным узроўні стварала для аўтараў прастору пры выбары моўных сродкаў, што прыводзіла да непаслядоўнасці і варыянтасці ў друку. Разнабой уносіла адначасовае карыстанне «кірыліцай» і «лацінкай», недасканалае арфаграфічнае афармленне.

У словазмяненні назоўнікаў назіраліся наступныя разыходжанні: а) напісанне назоўнікаў м. р. у Р. скл. адз. л. (*народу* і *народа, суду* і *суда, рэвольверу* і *рэвольвера*); б) ужыванне канчаткаў назоўнікаў ж. р. на *-а (-я)* у Р. скл. мн. л.: *зямель, кухань, сяліб, губерній* і *губернёў, вучэльняў*; в) лексемы м. р. у М. скл. адз. л. мелі да трох варыянтных канчаткаў пры адной аснове: *на сходзе – на сходзі, у гаду – у годзі, у домі – у дому*; *на бэрэзі, на гармоніку*; *у бровары, аб цару, на дварэ*; *у гандлю – у гандлі*; г) у ж. р. у Т. скл. адз. л. паралельна існавалі формы *зямлёю, соляю, злосцяй* і *зямлёй, соллю, злосцю*; д) у назоўнікаў трох родаў у М. скл. адз. л. адначасова ўжываліся флексіі *-і (у горадзі, на масьлі*[*]*, па дарозі)* і *-е (на сенакосе, у пчальніцтве, к абароне)*; е) непаслядоўная перадача акання стварала варыянтнасць у назоўніках м. р. у Т. скл. адз. л. (*ле́сам – ле́сом, наро́дам – наро́дом, зьве́рам, Бо́гом, выбралі дэпута́там, с кня́зям, звесілося ко́ласом, са сваім му́жэм*), м. і н. р. у Р. скл. мн. л. (*да пасе́воў, многа студэ́нтоў, а́ўтароў дробных ве́ршыко́ў і шмат пыта́ннёў, зборнік апавяда́ннёў(еў)*) і М. скл. мн. л. (*у гарадо́х, лясо́х*, *у сапёрах, на се́ймах* і *ў гая́х, луга́х*) [3]. У многім варыянтасць стварала арыентацыя на асаблівасці паўднёва-заходніх гаворак, наяўнасць рэшткаў старажытных форм скланення ў парадыгме.

[*] Тут і далей падаюцца лексемы з аўтарскай арфаграфіяй, характэрнай для пэўнага часу.

**3. Беларусізацыя і пачатак нармалізацыі мовы (1918–1930).** Істотным стымулам для развіцця беларускай мовы стала ўтварэнне ў Беларусі новай дзяржаўнай фармацыі – БССР з прынцыпова новымі эканамічнымі адносінамі. У сувязі з неабходнасцю падрыхтоўкі рабочых кадраў былі ўведзены праграма ліквідацыі непісьменнасці і бясплатнае навучанне, адкрываліся навучальныя ўстановы ўсіх профіляў. У Канстытуцыі БССР (1919) аб'яўляліся раўнапраўе народаў і народнасцей СССР, курс на падтрымку іх культурнага развіцця. Пасля 1921 г., калі разгарнулася афіцыйная праграма беларусізацыі, паўстала вострая неабходнасць у пашырэнні функцый беларускай мовы на ўсе сферы дзяржаўнага і адміністратыўнага справаводства, асветы, навукі, культуры і г. д. З'явілася патрэба ў акадэмічных слоўніках, падручніках, што было паспяхова вырашана, дзякуючы працы навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамата асветы і Інбелкульта. Інстытутам беларускай культуры (старшыня – С. Некрашэвіч) вялася таксама значная навуковая работа па вывучэнні дыялектаў, гісторыі мовы, арганізацыі краязнаўчага руху. У гэты час былі заснаваны буйныя перыядычныя выданні – «Звязда», «Савецкая Беларусь», «Чырвоная змена», шэраг абласных і раённых газет. Аднак артыкулы ў іх друкаваліся як на рускай, так і на беларускай мовах, што «паслужыла адной з прычын узнікнення «масавай трасянкі» [4]. Не на карысць унармаванню было і афіцыйнае шматмоўе (у БССР дзяржаўнымі былі беларуская, руская, польская, яўрэйская мовы), аддзяленне Заходняй Беларусі, дзе беларуская мова афіцыйна не ўжывалася.

Спробы прааналізаваць і кадыфікаваць беларускае словаўжыванне ў пачатку XX ст. («Hramatyka bielaruskaj mowy» Б. Пачобкі (1915), «Jak prawilna pisać pa biełarusku» А. Жучкевіча (1918)) не былі дасканалымі, перашкоду стварала афармленне лацінкай, складанасць тэрміналогіі. Найбольш удалым лічыцца выданне «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча, напісанай з улікам грунтоўнай філалагічнай падрыхтоўкі. «Замацаванне» і «выраўніванне» існуючага моўнага узусу [5] вырашаліся з арыентацыяй на жывое народнае маўленне, найперш, на асаблівасці цэнтральных гаворак. Б. Тарашкевіч зрабіў значную работу па сістэматызацыі назоўніка: выдзеліў «ажыўленныя» і «неажыўленныя», «собскія» назоўнікі, у скланяльнай парадыгме – сем склонаў і тры тыпы скланення паводле роду: мужчынскі, жаночы, ніякі. Важна, што была прасочана асаблівасць словазмянення ў залежнасці ад асновы назоўнікаў. Найбольш ярка гэта праявілася ў назоўніках м. р. у М. скл., якія пры цвёрдай аснове мелі канчатак *-е* (*на дубе*, *у кажусе*), пры зацвярдзелай – *-ы* (*на дажджы*, але *аб купцу*), мяккай – *-і* (*-ю*) (*пры прыяцелі, кані*), на *-к* – *-у* (*аб ваўку*, *аб чалавеку*). Канчаткі лексем м. р. у Р. скл. адз. л. вызначаліся паводле семантыкі: «жывыя творы» і найменні «прадметныя», назвы месяцаў года пісаліся з *-а* (*вала*, *злодзея*, *куста*, *марца*), усе астатнія – з *-у* (*болю*, *веку, пяску*). У м. р. М. скл. мн. л. было размежаванне флексій паводле націску: пад націскам ужываліся *-ох (-ёх): аб братох, вераб'ёх*, не пад націскам *-ах (-ях): конях, абычаях*, тое ж самае ў назоўніках

III скл. у Р. скл. мн. л.: *касьцéй, гусéй, мышэ́й (мы́шаў)*, але *вéдамасьцяў, дало́няў, пéчаў.* Варыянтнасць назіралася ў назоўніках ж. р. на *-а (-я)* у Р. скл. мн. л.: *галоў і галоваў, зямель і земляў, горак і горкаў.* Старажытны ўплыў праявіўся ў Т. скл. мн. л.: *конямі* і *коньмі, касьцямі, касьцьмі* і *касьцьма*, у ж. р. у Т скл. адз. л.: *касьцёю(й)* і *косьцю, крывёю(й)* і *кроўю.* У той жа час выходзіць «Беларуская мова» (1924), «Школьная граматыка беларускай мовы» (1926) Я. Лёсіка, якія прытрымліваліся падобных прынцыпаў.

Аднак узровень нармалізацыі беларускай мовы яшчэ не задавальняў навукоўцаў і карыстальнікаў. Задачы пашырэння мовы, яе даступнасці, спрашчэння паспрабавала вырашыць Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі (1926). Тут быў разгледжаны праект правапісу братоў А. і Я. Лёсікаў, якія прапаноўвалі ўстанаўленне толькі адной граматычнай формы, варыянтныя формы лічыць за «паветалізмы». Імі было выказана меркаванне аб пашырэнні прынцыпаў «акання» ў скланенні: у н. р. у Н. скл. адз. л. пры мяккай аснове (*поля, бацьвіння, смецьця* як і *мора, вока, неба*), у м. і н. р. у Д. і Т. скл. адз. л. (*локцям – з локцям*, *нашым звычаям – з гэтым звычаям*), назоўнікаў м. р. у Р. скл. мн. л. – *абычаяў, локцяў, коняй, крылляў*, у Д. скл. мн. л. – *абычаям, локцям, коням, крыллям*, у Т. скл. мн. л. – *абычаямі, локцямі, конямі, крыллямі.* У назоўніках усіх родаў у М. скл. адз. л. пры цвёрдай аснове пад націскам павінна была быць флексія *-е* (*на сталé, у вакнé, на вадзé*), не пад націскам – *-і* (*на дубі, на злодзеі, на масьлі, на кабеці*). Пры мяккай аснове – *-і* без уліку націску (*на кавалі, на зямлі, на камені, пры спатканьні*), пасля зацвярдзелых зычных – *-ы*: (*на нажы, на кітайцы, пры сястры, на вогнішчы*). У ж. р. у Т. скл. адз. л. прапаноўваліся канчаткі *-аю (-яю)* (*вішняю, доляю*) [6]. Як бачым, мовазнаўцы арыентаваліся на асаблівасці гаворак паўночна-заходняй і паўднёва-заходняй дыялектнай зоны.

Аднак многія пытанні, разгледжаныя на канферэнцыі, не мелі рэальнай сілы і не атрымалі замацавання. У канцы 1920-х гадоў паўстае пытанне аб далейшай распрацоўцы правапіснага зводу. У 1927 г. у Інбелкульце была створана Правапісная камісія, у якую ўвайшлі С. Некрашэвіч, А. Багдановіч, Я. Лёсік, В. Ластоўскі, П. Бузук, Я. Бялькевіч, Я. Купала, У. Чаржынскі. Камісія правяла 33 пасяджэнні, вынікам якіх стаў «Беларускі правапіс» (праект). Апрацаваны Камісіяй Беларускае Акадэміі Навук» (студзень, 1930).

**4. Узмацненне норм, інтэрнацыяналізацыя (1930–1941).** 1930-я гг. характарызуюцца рэзкім ідэалагічным пераломам, развіццём ідэй класавасці літаратуры і мастацтва, навукі. Задачы класавай барацьбы вырашаліся і на ўзроўні моўнай палітыкі. Беларусізацыя згарнулася, прыналежнасць да дзейнасці ў сферы беларускай мовы і культуры расцэньвалася як нацыянал-дэмакратызм, варожасць да савецкай улады. Гэтаму была аб’яўлена барацьба [7]. У лінгвістыцы быў узяты курс на збліжэнне моў народаў СССР, найперш – з рускай, уніфікацыю дыялектнай асновы, што павінна было адлюстроўвацца ў новым правапісе (зацверджаны пастановай СНК БССР у 1933 г.) і граматыках. З другога боку, выданне першага дакумента, які

ўстанаўліваў нормы мовы на дзяржаўным узроўні, спрыяла вызначанасці ў афармленні тэкстаў рознага стылю, адукацыі. У граматыцы беларускага назоўніка адбыліся наступныя змены: 1) пераважнае ўжыванне канчаткаў *-а* ў м. р. Р. скл. адз. л. Да гэтай групы, акрамя назоўнікаў, якія абазначаюць жывых істот і канкрэтныя прадметы, сталі адносіцца некаторыя абстрактныя назоўнікі: назвы устаноў, калектываў і фарміраванняў (*сельсавета*, *прэзідыума, палка*), назвы вынікаў дзейнасці, якія ўсведамляюцца як адзінка (*танца, даклада*, *верша, рыўка*), назвы сацыяльных фармацый, навуковых тэорый, стыляў і плыней (*сімвалізма, нігілізма, сацыялізма*). Раздзяляліся лексемы, якія абазначаюць прастору: прастора з акрэсленымі межамі (*горада, тропіка, участка*) і неакрэсленымі межамі (*гарызонту, стэпу, лесу*). Для назоўніка *народ* прапаноўваўся канчатак *-а,* пры ўмове, калі *-у* надае слову непажаданы сэнс. Былі ўніфікаваныя канчаткі назоўнікаў III скл. у Р. скл. мн. л. да *-эй (-ей): начэй, пячэй, касцей, арцелей*, ж. р. на *-а (-я),* у Т. скл. адз. л. да *-ай (-яй) – палатай, грэбляй*, назваў маладых істот у Р. скл. мн. л. да нулявога (*целят, парасят*, *жарабят*), іх жа ў Н. скл. адз. л. да *-я* (*целя, жарабя, каценя*). Зблізжэнне з рускай мовай закранула і лексіку: узнікае шэраг новай лексікі грамадска-палітычнага характару, так званых саветызмаў (*райком, пяцігодка, стаханавец*), пры засваенні новых слоў як навуковага, так і бытавога характару (*конус, гербарый, дэкаданс, стэнд*) пасрэдніцтва польскай мовы саступае месца рускай [8]. Разам з павелічэннем іншамоўнай лексікі ў парадыгме назоўніка вылучаецца група нескланяльных слоў – *дэпо, метро, радыё* (Ю. Шакаль, М. Жыркевіч, «Граматыка», 1938).

Аднак распачатыя рэпрэсіі ў дачыненні да беларускай інтэлігенцыі (у тым ліку членаў Правапіснай камісіі Інбелкульта), кардынальныя змены ў правапісе выклікалі негатыўную рэакцыю з боку прадстаўнікоў Заходняй Беларусі, эміграцыі, што на доўгія гады ўтварыла раскол і два варыянты беларускай літаратурнай мовы.

**5. Ваенны пасляваенны час. Нестабільнасць. 1941–1951 гг.** У ваенныя гады навуковая дзейнасць прыпынілася, да 1950 г. у БССР спецыяльных даследаванняў у філалагічнай галіне не праводзілася. У той жа час ішла актыўная публіцыстычная работа. Газеты «Савецкая Беларусь», «За Савецкую Беларусь», «За свабодную Беларусь», «Віцебскі рабочы», газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну» выступалі ў якасці інфарматараў і агітатараў. Навучання ў школах амаль не было. Неадназначную ацэнку гісторыкаў заслужыла адкрыццё беларускіх школ калабарантамі пры нямецкай акупацыі. У той жа час па прычыне адсутнасці адзінай улады і ідэалогіі, пры актыўнай дзейнасці Я. Станкевіча, Ант. Адамовіча, А. Лёсіка і іншых выпрацоўваецца альтэнатыўны варыянт беларускай мовы, які адштурхоўваецца ад правапісу 1934 г. («Беларускі правапіс», Мінск, 1943). Дапускаюць варыянтнасць і ўласныя граматыкі («Граматыка беларускай мовы» Ю. Шакаля, М. Жыркевіча (1940), «Граматыка беларускай мовы»

М. Жыркевіча, А. Карзона (1948)). Так, у назоўнікаў трох родаў у Р. скл. мн. л. (акрамя III скл.) – паралельна нулявы канчатак і *-аў (-яў)*: *хваль* і *хваляў*, *веж* і *вежаў, пушч* і *пушчаў, год* і *гадоў, азёр* і *азёраў, імён* і *імёнаў, цялят* і *цялятаў, сёл і сёлаў*; у III скл. – *-эй (-ей)* і *-аў (-яў)*: *арцелей і арцеляў, нацыянальнасцей і нацыянальнасцяў, верфей і верфяў, мышэй і мышаў.*

**6. Актыўная мовазнаўчая дзейнасць. Нармалізацыя. 1951–1985 гг.** У 1950-я гг. беларускую навуку давялося адраджаць наноў. Была страчана пераемнасць, рэпрэсіі і войны забралі многіх дзеячаў. Нягледзячы на развенчванне культу асобы Сталіна (1956), пачатак лібералізацыі жыцця, у адносінах да беларускай мовы напрамак па яе збліжэнні з рускай не мяняецца, а ўзмацняецца. У 1958 г. былі апублікаваны тэзісы ЦК КПСС і СМ СССР «Аб умацаванні сувязі школы з жыццём і аб далейшым развіцці сістэмы народнай адукацыі ў краіне» (1958), паводле якіх бацькі маглі выбіраць мову навучання дзяцей (часцей выбіралася руская). Адбывалася рэзкае скарачэнне тыражоў перыядычных выданняў і мастацкай літаратуры на беларускай мове. У сувязі з масавым адтокам маладога насельніцтва ў гарады ўмацоўвалася беларуска-рускае двухмоўе. У лінгвістыцы працягвалася крытыка «варожай дзейнасці беларускіх буржуазных нацыяналістаў», першых граматык, якія «не адлюстроўвалі сапраўднага фанетычнага і марфалагічнага стану беларускай мовы» [9]. Яшчэ адзін напрамак у лінгвістыцы – павышэнне ролі пісьменнікаў у нармалізацыі мовы, поўная адсутнасць варыянтнасці. Аднак новае «філалагічнае пакаленне» пісьменнікаў, прытрымліваючыся норм, часта ўводзіць дыялектныя формы.

Новым крокам у нармалізацыі мовы стала распрацоўка Праекта правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі (1951), яго зацвярджэнне пастановай Савета Міністраў БССР (1957), выхад «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959), дзе быў улічаны стан і асаблівасці зменેнай пасляваеннай беларускай мовы. Была прадстаўлена больш дэталёвая лексіка-семантычная парадыгма. У групу назоўнікаў м. р., якія ў Р. скл. адз. л. ужываліся з канчаткам *-у* дадаліся назвы хімічных элементаў і злучэнняў (*кіслароду, цынку, фасфарыту, аміяку*), назоўнікі, якія ўваходзяць у склад устойлівых выразаў (*з году у год, не засталося і следу, з краю ў край, адбою няма, ні роду ні племені*). Сталі ўжывацца з *-у (-ю)* назвы грамадскіх і навуковых плыней, тэорый, назоўнікі дзеяння і стану (*дарвінізму, капіталізму, уздыму, шуму*, але «па традыцыі» – *камунізма, сацыялізма, марксізма, ленінізма*), вытворныя памяншальна-ласкальныя формы групы рэчыўных назоўнікаў (*пясочку, цукрыку, гарошку*, але *хлеба*, *аўса*)*, назоўнікі, якія абазначаюць калектывы людзей: *пралетарыяту, хору, гурту*. У залежнасці ад семантыкі адзін і той жа назоўнік мог мець канчатак *-у (-ю)* і *-а (-я): Стол зроблены з дубу* і *Мы прыпыніліся каля дуба*; *Сабралося многа народу* і *Гісторыя беларускага народа*.

* Вызначэнне *хлеба, аўса* з канчаткамі *-а* было яшчэ ў Б. Тарашкевіча.

У цэлым 1950–1980-я гг. былі вельмі плённымі для навукі: выйшлі грунтоўныя манаграфіі па марфалогіі, сінтаксісе, дыялекталогіі і інш., энцыклапедычныя выданні. Мовазнаўства адкрыла імёны М. В. Бірылы, М. Г. Булахава, М. А. Жыдовіч, П. П. Шубы, А. І. Наркевіча, А. А. Крывіцкага, Ю. Ф. Мацкевіч, А. К. Юрэвіча, Д. А. Лявончанкі. Выйшаў шэраг вучэбных дапаможнікаў, «Арфаграфічны слоўнік» М. Лобана і М. Судніка (1961). Значную ролю ў пашырэнні і практычным прымяненні норм адыгралі «Граматыка беларускай мовы» (1962; 1966), «Беларуская граматыка» (1985; 1986), якія вызначаліся дэталёвай распрацоўкай прынцыпаў ужывання канчаткаў назоўнікаў (ж. р. усіх тыпаў у Р. скл. мн. л., м. р. у Р. скл. адз. л. і М. скл. адз. л.). Аднак у «Беларускай граматыцы» (1985) назіраецца павелічэнне выключэнняў для некаторых тыпаў назоўнікаў ж. р.: канчатак *-аў* у Р. скл. мн. л. для двускладовых слоў – *роляў, доляў, рэяў*, паралельнае ўжыванне *ø* і *-аў (-яў)* для назоўнікаў са збегам зычных, лёгкіх для вымаўлення – *губерань і губерняў, парт і партаў, гірлянд і гірляндаў*, канчатак *-аў (-яў)* не пад націскам для назоўнікаў III скл. *шчо́лачаў, гра́няў, бандэро́ляў,* варыянтныя флексіі *-у (-е)* для лексем *дзед* і *прадзед* у М. скл. адз. л.

**6. Мова «разлому» і новая беларусізацыя. 1986–1998 гг.** У сярэдзіне 80-х – пачатку 90-х гг. XX ст. адбыўся пералом у грамадска-палітычным і эканамічым плане. У мове і літаратуры назіраецца «разняволенасць», адмаўленне ад шматгадовых савецкіх ідэалаў, цікавасць да схаваных фактаў гісторыі, у прыватнасці, да перыяду 1920-х гг. Утвараецца Таварыства беларускай мовы (1989), літаратурныя суполкі. Набыццё палітычнай незалежнасці (1991), прызнанне беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай (Закон «Аб мовах у Беларускай ССР», 1990) каталізіруе нацыянальныя ідэі. «Праграма развіцця беларускай мовы» ТБМ (1990) прадуглежджвае пераход на родную мову да 2000 г. грамадскіх устаноў, адукацыі, СМІ. На пачатку 1990-х беларуская мова становіцца рабочай мовай для навучальных устаноў, міністэрстваў і ведамстваў. Шырокія меры па развіцці беларускай мовы прымаліся па лініі прэсы, тэлерадыёвяшчання [10], прадугледжвалася фінансаванне і тэхнічная падтрымка беларускамоўнага друку. У прэсе ішла актыўна падтрымка асоб, якія пашыраюць беларускую мову, абмеркаванні стану мовы ў грамадстве, праблем культуры мовы, публікуюцца новыя лексікаграфічныя выданні. У гэты час адбываецца раскол, утвараюцца тры правапісы: адзін падтрымлівае нормы 1957 г., другі – аднаўляе «тарашкевіцу», трэці – сумяшчае ў сабе два правапісы. Часам сумяшчэнне дзвюх норм сустракалася нават на старонках аднаго і таго ж выдання. Варыянтасць стварала і дэмакратычнае стаўленне да слова, пошук публіцыстамі і літаратарамі новых форм выражэння думкі.

У чарговы раз узнікае неабходнасць рэфармавання мовы. Пытанні нармалізацыі вырашаліся на «Навуковым савеце па мовазнаўству» (1991), рэспубліканскай навуковай канферэнцыі «Праблемы беларускага правапісу» Акадэміі навук (1992). На той час больш закраналіся пытанні арфаграфіі, адаптацыі іншамоўных запазычанняў. У граматыцы дыскусіі выклікала па-

велічэнне ўжывання канчаткаў *-аў (-яў)* ва ўсіх тыпах назоўнікаў (*салдатаў*, *цялятаў*, *гадзінаў*, *нормаў*, *здольнасцяў*). Аднак падобная варыянтнасць дапускалася на ўзроўні ўніверсітэцкіх дапаможнікаў і акадэмічных слоўнікаў («Слоўнік беларускай мовы» пад рэд. М. В. Бірылы, «Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы» пад рэд. Г. У. Арашонкавай, В. П. Лемцюговай).

У 1993 г. была створана Дзяржаўная камісія па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы (у складзе мовазнаўцы А. І. Падлужнага, літаратара Н. С. Гілевіча, прадстаўнікоў Міністэрства адукацыі і інш.), якая павінна была падрыхтаваць новы звод правіл [11]. Аднак працуючы з наяўным моўным матэрыялам, прадстаўнікі Камісіі прыйшлі да думкі аб немэтазгоднасці правядзення рэформы правапісу, бо на той час не было аднадумства, матэрыяльнай падтрымкі. Было вырашана прытрымлівацца норм 1959 г., а Акадэміі навук да канца 1995 г. падрыхтаваць да выдання новую рэдакцыю «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі».

**7. Рэфарміраванне беларускай мовы, касмапалітызацыя (з 1999 г.).** Пасля рэферэндуму 1995 г. новай рэдакцыяй «Закона аб мовах» (1998) быў абвешчаны роўны статус беларускай і рускай мовам. З аднаго боку, пачалося паступовае выцясненне беларускай мовы з многіх грамадскіх сфер. З другога – сур'ёзны уплыў пачалі аказваць замежныя мовы, як славянскага, так і неславянскага паходжання. Як рэакцыя на гэтыя працэсы ўзрос нацыянальны фактар. Гэтыя акалічнасці, а таксама пранікненне лексікі гутарковай сферы, рост індывідуальнай ролі аўтара пры выбары лексіка-граматычных сродкаў пашырыла колькасць вар'іраванняў словаформ. З 1997 г. пачаў распрацоўвацца праект новага правапісу, які павінен быў унармаваць існуючыя разыходжанні, напісанне новых слоў. Трэба адзначыць, што пасля зацвярджэння праекта новых «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (2008), іх уступлення ў сілу (2010), выхаду «Граматычнага слоўніка назоўніка» (2008), «Беларускага арфаграфічнага слоўніка» (2009), аўтары сталі больш прытрымлівацца афіцыйных норм напісання назоўнікаў.

Як вядома, «Правілы» непасрэдна не закранаюць напісання склонавых канчаткаў назоўнікаў, што пакідае аўтарам публіцыстычных і літаратурных тэкстаў прастору для ўжывання тых ці іншых варыянтаў словаформ. Зараз відавочна разыходжанне рэальнага моўнага ўзусу і нарматыўных крыніц, уплыў жывой мовы на нормы. Гэта праявілася ў наступным: а) ужыванне абстрактных назоўнікаў м. р. у Р. скл. адз. л., у прыватнасці, назваў відаў спорту, стыляў музыкі і танцаў (*велатрыяла, фрыджаза*, *джайва*, але *роуп джампінгу, трэшу, брэйку*), супольнасцей людзей (*бізнес-класа, бойз-бэнда,* але *бэк-вакалу, персаналу*), арганізаваных мерапрыемстваў (*оўпэн-эйра*, *мюзікла*, але *гала-паказу, суперфіналу*); б) павелічэнне колькасці канчаткаў *-аў (-яў)* у назоўніках ж. р. на *-а (-я)* з асновай на адзін зычны (*раслінаў*, *ліцэнзіяў, схемаў*), на збег зычных з санорным (*кавярняў, дзяснаў, нормаў*), у III скл. (*якасцяў, мадэляў, начаў*); в) неаднастайнае ўжыванне асабовых назоўнікаў м. р. у М. скл. адз. л. пры асновах на *р, ж, ш, ц* і мяккай: *у хлопцы, аб трэнеры, аб вучні* (пры норме *-у (-ю)*); і, наогул, тэндэнцыя да пазбя-

гання гэтых спрэчных граматычных форм, іх замена канструкцыяй *пра* + В. скл.: *пра спартсмена, пра менеджара, пра вучня*; г) адбылася замена канструкцый па + назоўнік м. і н. р. у Д. скл. на М. скл.: *па сігнале, тур па музеі, па гэтым кірунку, аўтамат па продажы малака* (а не *па кантракту, па ўзроўню, па вялікаму рахунку, па долару*); д) беларуская мова стала набываць элементы аналітычнасці: варыятнасць скланяльнасці-нескланяльнасці (у *жанры экшн* і *без экшна*, *комікса-мангі і каляровыя манга*), паяўленне нескланяльных азначэнняў (*сістэма долбі, серыя плей-офф*), калькіраванне замежных словаўтваральных мадэлей (*фрэнд-лента, смарт-картка*), ужыванне роду нескл. назоўнікаў паводле іх значэння: *паці* 'вечарынка' – ж. р., *махіта* 'кактэйль' – м. р., *маскарпоне* 'сыр' – м. р.

«Кароткая граматыка беларускай мовы» (2007) з улікам моўнай практыкі дапускае канчатак *-аў (-яў)* для назоўнікаў ж. р. на *-а (-я)* з асновай на адзін зычны ў мастацкім і гутарковым стылі (*зімаў, алеяў*), канчатак *-е* ў іншамоўных назоўніках м. р. на *г* у М. скл. адз. л. (*аб допінзе, на мітынзе*).

## Літаратура

1. Демина, Е. И. Проблема динамики литературно-языковой нормы / Е. И. Демина // Традиции и новые тенденции в развитии славянских литературных языков: проблема динамики нормы / под ред. Е. И. Деминой, Л. Н. Смирновой, В. С. Ефимовой. – М.: Ин-т славяноведения и балканистики РАН, 1994. – С. 3.

2. Падлужны, А. І. Мова і грамадства: зб. арт. / А. І. Падлужны. – Мінск: Беларус. кнігазбор. – С. 76.

3. Мова «Нашай нівы» (1905–1915). Варыянтнасць. Сінанімія / В. П. Лемцюгова [і інш.]. – Мінск: Беларус. навука, 2005. – С. 110–116.

4. Плотнікаў, Б. А. Беларуская мова: Лінгвістычны кампедыум / Б. А. Плотнікаў, Л. А. Антанюк. – Мінск: Интерпрессервис, Книжный Дом, 2003. – С. 69.

5. Губкіна, А. В. Бацька «Беларускай граматыкі»: да 110-годдзя з дня нараджэння Браніслава Тарашевіча / А. В. Губкіна // Роднае слова. – 2002. – № 1. – С. 59.

6. Лёсік, Я. 1921–1930: зб. тв. / Я. Лёсік; уклад., прадм. і камент. А. Жынкіна. – Мінск: Выд-ва «Логвінаў», 2003. – С. 214–215.

7. Брыгадзій, Д. І. Гісторыя беларускай мовы: у 2 ч. / Д. І. Брыгадзій, І. Ф. Хадыгаў, П. І. Зялінскі. – Мінск: РІВШ, БДУ, 2002. – Ч. ІІ: ХІХ–ХХ стагоддзі. – С. 349–350.

8. Баханькоў, А. Я. Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд / А. Я. Баханькоў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – С. 182–183.

9. Лобан, М. Некаторыя заўвагі аб мове / М. Лобан // Полымя. – 1951. – № 3. – С. 135–140.

10. Зьмены беларускага правапісу ў Савецкай Беларусі / уклад. В. Мухін. – Мінск: рэд. газеты Радавая Беларусь, 2004. – С. 21.

11. Беларуская мова / A. Lukašanec, M. Prygodzič, L. Siameška. – Opole: Univeritet Filologii Polskej. – С. 156.

## Summary

This article touches up the question of developing and dynamics of norms in changing nouns` forms, which observes on the comparative characteristic of politic, society and linguistic situation in Belarus during XX – beginning XXI c.

*Інстытут мовы і літаратуры*
*імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*29.06.2011 г.*

*УДК 811.161.3’373.45+811.172’373.45*

*А. М. НІКАНЧУК*

# НЕКАТОРЫЯ ЗАЎВАГІ АБ ГІСТОРЫІ І ПЕРСПЕКТЫВАХ ВЫВУЧЭННЯ БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІХ КАЛЕК

Гістарычныя сувязі народаў Беларусі і Літвы яскрава адлюстраваліся не толькі ў помніках гісторыі, культуры, мастацтва, але, як вядома, значна паўплывалі на носьбітаў беларускай і літоўскай моў, на характар іх узаемаадносін, традыцыі і звычаі. У паўночна-заходнім этнакультурным рэгіёне Беларусі і па сённяшні час у гаворцы мясцовых жыхароў дастаткова слоў літоўскага паходжання. Пытанні беларуска-літоўскіх моўных узаемадачыненняў працяглы час знаходзяцца ў сферы даследчыцкіх інтарэсаў не толькі лінгвістаў Беларусі і Літвы, але таксама Польшчы, Украіны, Расіі, Германіі і інш.

З другой паловы XIX ст. у артыкулах і манаграфіях шэрагу вядучых мовазнаўцаў-кампаратывістаў таго часу, менавіта Я. Карловіча, А. Брукнера, Э. А. Вольтэра, І. Міккалы, І. Эндзеліна [1], пачынаецца разгляд моўных запазычанняў літоўцаў і латышэй у славян. Разам з тым у гэтых працах таксама магчыма знайсці нешматлікія заўвагі адносна балтызмаў у мове беларусаў [2].

Аднак і навуковае абгрунтаванне ідэі вывучэння ўплыву балтыйскіх моў на гаворкі беларускай мовы, і першыя спробы яе ажыццяўлення належаць Я. Карскаму. У артыкуле 1902 г. «К вопросу о влиянии литовского и латышского языков на белорусское наречие» даследчык разглядае лексічныя балтызмы*, паколькі «беларускія запазычанні амаль выключна распаўсюджваюцца на слоўнік, часткова на словаўтварэнне (некаторыя суфіксы) і, верагодна, ні ў якой ступені не закранулі фанетыку мовы і флексію» [4]. Так, абапіраючыся на здабыткі сваіх папярэднікаў, Я. Ф. Карскі складае спіс з 36 слоў агульнавядомых і 56 слоў, вядомых толькі паўночна-заходняй часткі насельніцтва альбо зафіксаваных у юрыдычных помніках. «Словы гэтыя ў большасці азначаюць прадметы земляробства, рыбнай лоўлі, паўсядзённага побыту, і толькі некаторыя адносяцца да разумовых інтарэсаў чалавека» [5]. Як мяркуе даследчык, колькасць гэтых запазычанняў могуць павялічыць імёны, прозвішчы і геаграфічныя назвы.

У 1925 г. выдатны літоўскі мовавед К. Буга друкуе ў славістычным часопісе «Zeitschrift für Slavische Philologie» артыкул «Die litauisch-weißrussischen

* Гл. таксама [3].

Beziehungen und ihr Alter» [6], у якім адзначае, што ў слоўнікавым складзе літоўскай мовы акрамя ўласналітоўскіх кампанентаў існуе і вялікая колькасць беларускіх элементаў. К. Буга праводзіць падрабязны гістарычны, этымалагічны і фанетычны аналіз шэрагу запазычанняў, менавіта апелятываў, этнонімаў, антрапонімаў, гідронімаў і тапонімаў.

У 1935–1936 гг. у італьянскім часопісе «Studi Baltici» з'яўляецца артыкул латышскага даследчыка Э. Блесэ «Alcuni rapporti fra il bianco russo e le linve baltische». Падсумоўваючы вынікі прац сваіх папярэднікаў, Э. Блесэ яшчэ раз падкрэслівае, што «старажытная этнічная і палітычная сітуацыя на сучаснай беларускай тэрыторыі павінна была справакаваць лінгвістычны ўплыў з боку балтыйскіх на беларускую» [7]. Прадмет даследавання артыкула скіраваны на ўстанаўленне «рэальных балтызмаў» для беларускай мовы, што значыць размежаванне фактаў запазычання і «парадненя» балтыйскага слова з беларускім, якое сустракаецца і ў іншых рускіх (так у аўтара. – *А. Н.*) дыялектах [8]. Крыніцамі фактычнага матэрыялу сталі «Беларуска-расійскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча (1926) і «Віцебскі краёвы слоўнік» М. Каспяровіча (1927). Упершыню ў гэтым артыкуле ўздымаецца пытанне калек* – наяўнасць выразаў і назваў, «якія ў латышскай і беларускай мовах набываюць тыя ж семантычныя элементы» [9]. Аднак, нягледзячы на канстатацыю цесных кантактаў, застаецца адкрытым і нявырашаным пытанне: якая з дзвюх моў мова-крыніца, а якая мова-рэцыпіент. Сярод 80 прааналізаваных Э. Блесэ балтызмаў ёсць словы, якія сёння можна трактаваць як паўкалькі – гэта, напрыклад, *пячку́р* 'той, хто распальвае печ' ад *пе́ч* і літ. дзеяслова *kùrti* 'распальваць вогнішча' ці *паўпу́рык* 'мера вагой 1 пуд' ад лат. *pus* 'палова' (= *паў-*) + *pura* 'мера' шляхам далучэння беларускага дымінутыўнага суфікса *-ык*.

«Пазыкі» з мовы літоўскай, «спатканыя пераважна ў Ашмянскім павеце, у валасцях: Крэўскай, Куцявіцкай, Гальшанскай, Смаргоньскай», даследуе Адам Станкевіч у артыкуле «З літуанізмаў у беларускай мове», які быў надрукаваны ў віленскім часопісе «Калоссе». Ён вылучыў 102 запазычанні, сярод якіх і ўласныя назвы. Праўда, сам аўтар дастаткова карэктна ацэньвае свае высновы: «Надта магчыма, што знойдуцца ў гэтай працы «літуанізмы», якія такімі ня будуць» [10]. Натуральна, што Адам Станкевіч на той час не меў дакладнай упэўненасці ў тым, што разглядаемыя ім словы з'яўляюцца дакладна літуанізмамі, відавочна таму, што яшчэ не было сур'ёзнай тэарэтычнай базы для вызначэння такіх запазычанняў, ды і ўзровень беларускай лексікаграфіі быў недастатковым для складання поўнага спіса балтызмаў. Але ўсё ж такі, на думку аўтара, «зборнік літуанізмаў можа некалі прыдацца пры ўкладаньні сучаснага навуковага слоўніка беларускай мовы» [11].

У 1941 г. у Каўнасе пабачыла свет манаграфія літоўскага даследчыка К. Яблонскіса «Lietuviški žodžiai senosios Lietuvos raštinių kalboje». У прад-

* Спіс прапанаваных Э. Блесэ калек, а таксама іх навуковае абгрунтаванне гл. ніжэй.

мове да кнігі аўтар піша, што «слоў літоўскага паходжання прыйшлося адзначыць многім мовазнаўцам і гісторыкам; усе тыя словы выбраны з надрукаваных гістарычных крыніц, а тыя крыніцы мала дзе вядомыя, таму спіс слоў, устаноўленых раней моваведамі, быў недастаткова поўны, таму трэба тыя словы выбраць не толькі з надрукаваных, але і не з надрукаваных тэкстаў» [12]. Так, асноўнай крыніцай для сістэматызацыі і вытлумачэння слоў літоўскага паходжання сталі найменні, якія адлюстроўвалі ў першую чаргу сацыяльныя адносіны і якія былі выбраны з надрукаваных старажытных тэкстаў (у асноўным з помнікаў дзелавой пісьменнасці) канца XIV – канца XVIII ст., за рэдкім выключэннем XIX ст. К. Яблонскіс звярнуў увагу не толькі на храналагічныя, але і на тэрытарыяльныя межы ўжывання слова. «У большасці гэта былі дакументы паўднёвай Літвы, значна менш – усходняй, а беларускіх і ўкраінскіх зямель ВКЛ зусім не шмат» [13].

Падрыхтоўка лексічных матэрыялаў для «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (1963), для рэгіянальных дыялектных слоўнікаў, выхад у свет «Litauisches etymologisches Wörterbuch» Э. Фрэнкеля (1955–1965 гг.) і з'яўленне чарговых тамоў «Lietuvių kalbos žodynas» значна паўплывала на вывучэнне славяна-балтыйскага моўнага ўзаемадзеяння. З 60-х гадоў XX ст. даследчыкамі ўсё больш актыўна разглядаецца лексіка балтыйскага паходжання на розных узроўнях мовы. Асноўныя працы гэтага перыяду падаюцца ў артыкуле Э. Смулковай «К вопросу о белорусских балтизмах: (проблема статуса балтизмов в белорусских говорах)» [14]. Многія матэрыялы па заяўленай балта-славянскай праблеме знайшлі сваё адлюстраванне ў вядомых слоўніках Ю. Лаўчутэ [15] і А. Я. Анікіна [16].

Вельмі значны пласт беларускіх літуанізмаў быў пададзены ў «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (1979–1986 гг.) [17]. Аднак відавочна, што пазначаныя ў слоўніку паметай *літ.* лексемы зараз патрабуюць пэўных удакладненняў, у прыватнасці: ці могуць яны разглядацца як непасрэдныя запазычанні, ці з'яўляецца літоўская мова асноўнай крыніцай запазычанай лексемы, ці ёсць сярод іх калькі. Як адзначае В. Астрэйка, «значны фрагмент слоўніка паўночна-заходніх гаворак утвараюць рознага роду калькі з балцкіх моў», і якраз гэты шлях папаўнення слоўніка насельнікаў беларуска-літоўскага пагранічча «можна лічыць адным з найбольш прадукцыйных» [18]. Таму цалкам зразумела, што асноўнае пытанне, якое ўздымаецца многімі даследчыкамі ў сувязі з беларуска-літоўскімі малькамі, – гэта ўстанаўленне крытэрыяў для іх вылучэння.

У артыкуле «Балтызмы ў беларускай мове (метадалогія і крытэрыі даследавання)» А. Вяржбоўскі ўпершыню паспрабаваў максімальна поўна на той час прааналізаваць запазычанне як моўную з'яву на тэарэтычным узроўні. Пры гэтым каштоўным з'яўляецца тое, што даследчык вызначае «існаванне разам з непасрэднымі запазычаннямі калек рознага роду» [19]. Да калькавання значэння і марфалагічнай будовы аўтар адносіць ст.-бел. *ужкýр (ушкýр)* 'прымак' (літ. *užkur̃ys*) з калькаю *улáз* 'прымак' ад бел. *улáзіць*

‘забірацца ў (чужы) дом, размяшчацца у чужым доме’ (= літ. *už-si-kùrti*); да калькавання значэння – ст.-бел. *стенá* ‘мяжа, граніца’ і літ. *síena* ‘I. сцяна. II. мяжа, граніца’; да фразеалагічных калек – *мéти* (*дáти, взя́ти* і да т. п.) *пчóлы напóлы* = *мéти* (і да т. п.) *себрóвство пчóл* = *мéти бицюлéвсто пчóл* або *мéти себрéные (бицюлéвские) пчóлы (напóлы)* < літ. *turéti bičiulìstė*.

Важным этапам у даследаванні беларускіх балтызмаў з’явілася навуковая канферэнцыя «Лексічныя балтызмы ў беларускай мове» (1969) – адна з шэрагу этымалагічных канферэнцый, праведзеных у тагачасным Інстытуце мовазнаўства. У зборнік з аднайменнай назвай, які быў апублікаваны напярэдадні канферэнцыі, увайшло 15 артыкулаў айчынных і замежных даследчыкаў (А. Врачу, В. Кіпарскі, Б. Лаўмане, Ю. Лаўчутэ, В. Мартынаў, А. Непакупны, А. Супрун, М. Талстой, Г. Цыхун і іншыя), якія з’яўляюцца адказамі на разасланую раней анкету. Адным з пытанняў анкеты было пытанне пра крытэрыі для выяўлення беларускіх калек з балтыйскіх моў. В. Кіпарскі (дарэчы, адзін з нешматлікіх, хто адгукнуўся на пытанне аб кальках) адзначае, што крытэрыем для вызначэння беларускай калькі з балтыйскіх моў можа быць «адсутнасць для беларускага выражэння дакладнага аналага ў польскай і рускай мовах» [20]. У якасці прыклада В. Кіпарскі прыводзіць беларускі выраз *казлы́ дрáць* ‘ванітаваць’*. У процівагу гэтаму М. Талстой асноўным крытэрыям для вызначэння балтызмаў лічыць лінгвагеаграфічны, а для ўстанаўлення калек даследчык прапаноўвае «вызначэнне ступені ідыяматычнасці і ўніверсальнасці». Напрыклад, выраз *пайшóў у балóта* ‘пайшоў к чорту’, па меркаваннях даследчыка, «цяжка вызначыць як балтызм ці славізм, дакладней гэта – агульная балтыйска-славянская з’ява», параўн. літ. *balà žìno* ‘балота ведае’, разм. ‘чорт ведае!’ [22].

Пра выяўленне калек піша В. Мартынаў у артыкуле «Беларуская этымалогія. Некаторыя аспекты»: «Этымалагічны слоўнік павінен адлюстроўваць усю экспрэсіўную лексіку, арыгінальную і запазычаную… Яшчэ больш цяжкая праблема – праблема калек у народнай экспрэсіўнай лексіцы. Ясна, што кантактна-субстратны ўплыў праходзіў не толькі ў межах лексічных пранікненняў, інфільтрацый. Ва ўмовах білінгвізму калькаванне не менш распаўсюджана, чым інфільтрацыя, але выявіць калькі значна цяжэй» [23]**. Наступны прыклад, на думку аўтара, можна трактаваць як кальку. Бел. *агóраць* ‘з цяжкасцю што-небудзь набыць, зрабіць’***, *агóраны* ‘цяжка набыты’ (цэнтральная частка Беларусі) генетычна суадносіцца з *гóра*, але нерэгулярнасць семантычных і словаўтваральных працэсаў наводзіць на думку

* Гэта, аднак, пазней паставіць пад сумненне В. Чэкман, які звярнуў увагу на аналагічную рускую фразему: «Блр. *казлы драць*, безумоўна, сведчыць пра балцкі ўплыў, але ў рускіх гаворках вядома *лісіц драць* ‘ванітаваць’ (Даль); узнікае пытанне, ці запазычаны беларускі выраз поўнасцю, альбо тут кантамінацыя рускіх і беларускіх выразаў» [21].

** Аб тым жа гл. ва ўступным артыкуле да першага тома «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (Мінск, 1978 г.; далей ЭСБМ).

*** Калька *агóраць* пазней будзе аднесена В. Мартынавым да групы субстратных калек з вузкім арэалам [24].

аб кантамінацыі альбо калькаванні. Параўн. літ. *var̃gti* ‘пакутаваць, гараваць, цяжка працаваць’, *var̃gas* ‘гора, пакута, цяжкая праца’. На словаўтваральную структуру не выключаны ўплыў *асíліць* [25]. Такім чынам, лексему *агóраць* В. Мартынаў адносіць да беларуска-літоўскай калькі на падставе семантычнага і словаўтваральнага крытэрыяў.

Звернемся ячшэ да аднаго прыкладу, разгледжанага В. Мартынавым ва ўступным артыкуле да першага тома «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы». Бел. (гродз.) *абертýха* ‘вялікі кавалак хлеба’, зах.-палес. *обэртýха* ‘тс’, усх.-палес. *обéртка, обэртýшка, абíртня, абя́рня* ‘скібка хлеба праз усю круглую булку’*; сюды ж *абэ́льтух* ‘абжора’. Аўтар задаецца пытаннем, ці не працягвае найменне праславянскае **ob-vьr-ti* ‘абгарнуць’ (‘абгарнуць’ – ‘кругом бохана, абрэзаць лусту’). Ва ўсякім разе з пункту погляду рэгулярнага словаўтварэння, *абертýха* і *абертýх (> абельтух*) < *абéрт* – <**ob-vьr-t-*, аднак семантычная матывацыя, на яго думку, цяжкая. Таму трэба ўлічваць магчымасць калькавання, і крыніцай калькі было б тады літ. *gãbalas* ‘вялікі кавалак’, *gobùs* ‘прагны’, *góbti* ‘абгортваць, ахопліваць’. Параўн. бел. *абвяртáць* і літ. *apgóbti*. Верагоднасць калькавання можа падмацоўвацца арэалам лексемы [27]. Такім чынам, як бачым з прыкладу, асноўнымі паказчыкамі для калькі могуць быць семантычны і лінгвагеаграфічны крытэрыі, а словаўтваральны можа выступаць у якасці дадатковага.

На аснове лінгвагеаграфічнага крытэрыя ў артыкуле «Типы лексических балтизмов в белорусских диалектах»** В. Мартынаў прапануе аднесці беларускія калькі літоўскага паходжання да трох тыпаў: субстратныя з шырокім арэалам (які звычайна ахоплівае суседнія рускія, украінскія, польскія гаворкі); субстратныя з вузкім арэалам (цэнтральныя, усходнія, паўднёваўсходнія ці ўсходнепалескія); кантактныя (на сумежжы) [28]. На яго думку, большасць калек павінна быць у групе кантактных (сумежных) балтызмаў. Аднак, польская даследчыца Э. Смулкова падчас дыскусіі па дакладзе праф. В. Мартынава выказала думку, што аднаго прапанаванага лінгвагеаграфічнага крытэрыя можа быць недастаткова па прычыне «вядомых фактаў перамяшчэнне лексікі», таму значным пераканаўчым доказам калькавання можа служыць калькаванне цэлага гнязда. «Дадатковым знешнелінгвістычным аргументам можа быць сітуацыя, калі ў якой-небудзь галіне, асабліва матэрыяльнай культуры, мы можам назіраць вялікую колькасць балтызмаў у назвах блізкіх рэалій. Напрыклад, на фоне сельскагаспадарчых назваў пабудоў і іх частак *клýня* (літ. *klúonas*), *пýня* (літ. *pū̃nė*), *ё́ўня* (літ. *jáuja*), *тарпá* (літ. *tárpas*), *свéран* (літ. *svir̃nas*) беларуская *старанá* (літ. *šalìnė*) як літоўская калька гучыць больш пераканальна» [29].

---

* У іншай працы гродз. *абертýха* В. Мартынаў адносіць да групы кантактных (сумежных) калек [26].

** Першапачаткова даклад на навуковай сесіі Камісіі па даследаванні балта-славянскіх дачыненняў Міжнароднага камітэта славістаў (Белавежа, жн. 1973 г.).

У артыкуле «К проблеме литовско-белорусских лексических связей» (1972) В. Чэкман таксама спыняецца на актуальнай праблеме – як адрозніць «іншамоўнае ўздзеянне ад самастойных наватвораў» [30]. Прааналізаваўшы вызначаныя калькі Э. Блесэ (бел. дыял. *казлы́ дра́ць* 'бляваць' (літ. *óžius káuti, ráuti, bie͂lyti, nérti), сам, сама́* 'гаспадар, гаспадарка' (літ. *pats, patì*) і інш., а таксама адзначаную К. Моркунасам і А. Відугірысам мікраструктуру *магіла – магілкі (мо́гілкі, магільнік)* 'могілкі' (літ. *kãpas – kapaĩ*), В. Чэкман сцвярждае, што іншамоўны ўплыў практычна недаказальны (нават калі ён і быў), калі дадзеная форма або значэнне вядома на значнай тэрыторыі ці гэтае новаўтварэнне можна растлумачыць з улікам фактаў разглядаемай мовы (у дадзеным выпадку беларускай) [31]. Гэта значыць, што такі крытэрый, як наяўнасць аналага ў балтыйскіх мовах не дастатковы і не можа быць вырашальным у перавагу калькі. Паводле В. Чэкмана, лексіка, якая разглядаецца ў якасці калек, павінна адпавядаць наступным патрабаванням: 1) дадзенае значэнне слова, марфалагічная форма альбо сінітаксічная канструкцыя распаўсюджана ў арэале, які непасрэдна прымыкае да іншамоўных гаворак; 2) новаўтварэнне павінна быць нетыповым для гэтай мовы і ёй роднасных моў; 3) у мяркуемай мове-крыніцы аналагічнае значэнне, форма і канструкцыя з'яўляюцца звыклымі і пашыранымі [32]. З лексічных матэрыялаў цэнтральных і паўночна-заходніх раёнаў Беларусі В. Чэкман адабраў 20 новаўтварэнняў, падзяліўшы іх на тры групы: семантычныя, словаўтваральныя і марфалагічныя. Прыкладам уплыву семантыкі літоўскага слова на значэнне беларускага можа быць дзеяслоў *затума́ніць* 'закурыць', дзе ў літ. мове *rūkýti* 'дыміць, капціць', а *rū͂kas* 'туман', больш таго ў мове-крыніцы пашырана форма *užsirūkýti* 'закурыць/закурваць', і, такім чынам, «унутранае значэнне літоўскага слова і было, магчыма, перададзена сродкамі беларускай мовы» [33].

Сярод наватвораў, якія не маюць адпаведнікаў у структуры і значэнні ў славянскіх мовах, В. Чэкман вылучае дыялектныя лексемы *вы́нашай* 'пук сухога льну, які вынесены за адзін раз', зафіксаваныя ў в. Такарышкі Іўеўскага р-на, в. Нізок і Вялікая Уса Узденскага р-на, *вы́нашая* – у в. Дукора Пухавіцкага р-на, якія ён суадносіць з літ. *ìšnaša* 'тое, што выносіцца з дому', адзначаючы далей: «Літоўскі назоўнік утвораны ад дзеяслова *išnèšti* 'выносіць' па вельмі прадукцыйнай словаўтваральнай мадэлі і, акрамя таго, захоўвае націск на *вы́*-, і, у некаторых выпадках, захоўвае жаночы род, як і ў літоўскай» [34]. У «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» *вынаша́й, вынаша́йка* (Іўеўскі і Лідскі р-ны) зафіксаваны яшчэ ў значэнні 'вялікі сноп трасты льну» [35]. У сваю чаргу, ЭСБМ адзначае і іншыя варыянты гэтай лексемы: *вы́нашай* (Іўеўскі і Уздзенскі р-ны), *вынаша́й* (Навагрудскі р-н), *вынашэ́й* (Петрыкаўскі, Мазырскі, Лельчыцкі р-ны), *вы́нашая* (Пухавіцкі р-н). Семантычна ўсе ўказаныя найменні прыкладна супадаюць ('пук сухога льну, вынесены з сушкі адзін раз' [36]), аднак арэал іх распаўсюджання ахоплівае апрача зоны беларуска-

літоўскага пагранічча, таксама цэнтральныя раёны Беларусі і усходнепалескі рэгіён. З улікам лінгвагеаграфічнага крытэрыя *вы́нашай і вынаша́й* могуць быць вылучаны як калька, паколькі знаходзяцца ў зоне магчымых цесных кантактаў беларусаў і літоўцаў, а яго варыянты *вынашэ́й, вы́нашая* правільней, відаць, лічыць самастойным беларускім новаўтварэннем ад дзеяслова *выно́сіць*.

Лексему *вайлакі́* 'мяккія валёнкі', як мяркуе В. Чэкман, можна аднесці да марфалагічнай літоўскай калькі. «Некаторыя беларускія словы маюць нетыповыя для славянскіх моў марфалагічныя паказчыкі і таму аформлены пад уплывам літоўскай мовы» [37]. Рус. *во́йлак* ад цюрк. *ojlyk* і пол. *wójłok* (паводле А. Брукнера, запазычана праз рускую мову) вядомы толькі ў адзіночным ліку і не азначаюць 'валёнкі'. Аднак, згодна з ЭСБМ, назоўнік *вайлакі́* ўтварыўся ад *во́йлак* і яго ўжыванне ў множным ліку адбылося пад уплывам слоў *валёнкі*, *боты**. Калі ўсё ж такі меркаваць аб літоўскім паходжанні беларускага дыялектызма, то трэба мець на ўвазе, што ў літаратурнай літоўскай мове ўжываецца *veltìniai*, утворанае ад *veltìnis*, *veltinỹs* 'войлак', але ж у дыялектнай мове сустракаюцца найменні *veĩlokas* ці *vaĩlokas* 'войлак', якія маюць таксама адзіночны лік [38]. На нашу думку, апошняе найменне магло быць прамой крыніцай запазычання для *вайлакі́* (з улікам далейшых магчымых уплываў), а не калькай.

Такім чынам, ёсць падставы лічыць, што вызначаныя амаль чатыры дзесяцігоддзі таму назад В. Чэкманам беларуска-літоўскія калькі патрабуюць сёння дадатковага разгляду і новага пераасэнсавання.

У артыкуле Э. Грынавецкене і Ю. Мацкевіч «Lietuviškos kilmės leksiniai vertiniai baltarusių paribio šnektose» (1990) на прыкладах, узятых са «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (т. 1–5), а таксама на аснове сабраных уласных дыялектных матэрыялаў прыводзяцца 66 лексічных калек літоўскага паходжання, сярод якіх ёсць і ўстойлівыя выразы. Напрыклад, бел. *дача́нка, даччані́ца* 'пляменніца' – літ. *dukterė́čia* 'дачка сястры, пляменніца', бел. *ліпля́вы (ліпу́шчы)* 'заразны' – літ. *lim̃pantis* 'заразны', бел. *падо́брыцца* 'памірыцца' – літ. *susitáikinti* 'прымірыцца', бел. *саба́ка вільча́к* 'аўчарка' – літ. *vilkìnis šuõ* 'воўчы сабака', *за́ячы піро́г* 'гасцінец дзецям' – літ. *kìškio (zuĩkio) pyrãgas* 'гасцінец дзецям' [39]. У якасці асноўных крытэрыяў для вызначэння такіх калек аўтары прапануюць наступныя: 1) словаўтваральна-семантычны; 2) лінгвагеаграфічны; 3) адсутнасць іх у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы».

Многія даследчыкі, звяртаючыся ў сваіх працах да пытання калек, часта цытуюць выказванне М. Фасмера ў аўтарскім пасляслоўі да «Этымало-

* ЭСБМ (2, 26) не падае для *вайлакі́* крыніцы, аднак картатэка слоўніка ўтрымлівае адпаведную картку, якая паказвае на першы выпуск «Матэрыялаў для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак» (Мінск, 1970. С. 27), дзе разам з асноўнай формай прыводзяцца і яе варыянт *байлакі́*, і форма адз. л. *вайлак* (без націску), а таксама месца фіксацыі – Варняны Астравецкага р-на.

гического словаря русского языка»: «Калі б мне давялося пачынаць работу зноў, я аддаў бы больш увагі калькам і семасіялагічнаму боку» [40]. А. П. Непакупны ў вядомай манаграфіі 1976 г. «Балто-северославянские языковые связи» канстатуе, што «блізкасць моў праяўляецца не толькі ў лексіцы, але і ў семантыцы» [41], і прапануе аналізаваць словы ў лексіка-семантычным і ўласна семантычным аспектах. Зразумела, што першы аспект будзе цесна звязаны з наяўнасцю агульных лексем у «балта-славянскіх мовах», дзе шляхам геаграфічнай «развёрсткі» назіраецца альбо семантычная тоеснасць, альбо семантычныя зрухі з улікам іх тэрытарыяльнага размежавання. Адзначым, што семантычныя паралелі разглядаюцца ў межах аднолькавых марфалагічных паказчыкаў. Напрыклад, семантычны пераход дзеяслова*$stāiō$ ад ‘уздымаць’ → ‘ставіць’ (да ‘будаваць’) адбыўся не толькі ў славянскіх (параўн. бел. *стáвіць*, укр. *стáвити*, пол. *stáwić* і г. д.), але і ў балтыйскіх мовах (параўн. літ. *statýti* ‘ставіць’ і ‘будаваць’, лат. *státīt* ‘уздымаць’ → ‘будаваць’) [42].

Ва ўласна семантычным аспекце назіраецца «паралельнае развіццё значэнняў ва ўмовах поўнага несупадзення лексем, а назоўнікі і дзеясловы з’яўляюцца першаснымі не толькі ў семантычных, але і ў словаўтваральных адносінах: разам з імі звязаны і іншыя часціны мовы» [43]. З дапамогай тыпалагічнага аналізу і тэрытарыяльнага фактару А. П. Непакупны аналізуе рознalexeмную семантычную тоеснасць на прыкладзе ‘лес’/‘поле’ → ‘па-за (домам)’; ‘дзікі’; ‘паляваць’. Літ. *laũkas* акрамя семы ‘поле’ азначае ‘месца пад адкрытым небам, звонку’ (параўн. лат. *laukā* ‘звонку, на дварэ’). Утвораны ад яго літоўскі прыметнік *laukìnis* адлюстроўвае семантычны пераход ‘палявы’ → ‘дзікі’ і з’яўляецца больш тыповым для славянскіх моў, чым латышскі ‘лясны’ → ‘дзікі’. Бел. *палявáць* ад семы ‘поле’ суадносіцца з літ. *medžióti* ад *mẽdis* ‘дрэва’ → ‘лес’ і лат. *medīt* ад *mežs* ‘лес’, што літаральна ‘лесаваць’. Паводле А. П. Непакупнага, «лясны» характар тэрміналогіі палявання сустракаецца ў рускіх гаворках Літвы і Латвіі, пскоўска-віцебскіх, а таксама часткова ў беларускіх карэліцкіх [44]. Для большасці славянскіх моў характэрна дзеяслоўнае ўтварэнне ад *поле,* аднак «ні для літоўскай, ні для латышскай мовы такога тыпу ўтварэнне невядома» [45]. Такім чынам, разгляд семантычных зрухаў у пэўнай ступені можа адыграць ролю не толькі пры вылучэнні калек, але і пры вызначэнні тэрытарыяльных меж балта-славянскага этнамоўнага кантактавання.

Развіццё семантычнага пашырэння або звужэння разглядаецца таксама і ў артыкуле Т. М. Суднік «Об одной литовско-белорусской семантической параллели (oras: *надвор’е* ‘пространство’, ‘погода’)» (1995). Але асноўная ўвага даследчыцы сканцэнтравана на семантычных пераходах найменняў *надвóр’е/павéтра* і семантычны змест літ. *óras* у гаворках літоўска-беларускага пагранічча. Семантычная матывацыя літ. *óras* ‘атмасфера’; ‘адкрытая прастора (поле); паветра (неба); надвор’е’ знаходзіць сваю паралель у бел. *надвóр’е* ‘адкрытая прастора’ і ‘надвор’е’. Як бачым, беларускаму слову

не стае значэння ‘паветра’ «ў развіцці паняцця *надвóр’е* ў адрозненнні ад *óras*» [46]. Гэтае паняцце ў беларускай мове выражаецца лексемай *павéтра* ‘адкрытая прастора’ і ‘паветра’, але без значэння ‘надвор’е’. «На літоўска-беларускім пагранiччы, у зоне жывых і цесных кантактаў, дзе канвергенцыя адбываецца на нашых вачах, абодва значэнні прысутнічаюць – устанаўліваецца семантычная тоеснасць беларускіх слоў і літоўскага *óras*», – адзначае Т. М. Суднік [47]. Акрамя семантычнага збліжэння *надвóр’е: óras* аўтар указвае і на іх марфалагічнае падабенства: беларускія адвербіялізаваныя формы *знадвóрку* ‘звонку’, *надвóр* ‘вонкі’, *на дварэ́* ‘звонку, на вуліцы’ з’яўляюцца эквівалентамі літоўскіх *iš óro*, *orañ*, *orè*, *oriẽ*.

Пра семантычныя новаўтварэнні згадвае і А. Я. Анікін у прадмове да працы «Опыт словаря балтизмов в русском языке» (2005). На думку аўтара, пад калькаваннем трэба разумець «розналексемнасць», у працэсе якой могуць адбывацца семантычныя інавацыі (кшталту *головá* ‘верхняя частка вулля’) альбо семантычнае змяшчэнне (напрыклад, ‘вéра’ > ‘абрад, звычка’) [48]. Адным з актуальных пытанняў у вывучэнні калек А. Я. Анікін лічыць «напрамкі ўздзеяння і магчымасці незалежнага развіцця» [49]. Яскравым прыкладам гэтага з’яўляецца рускае наўгародскае *облóм* са значэннем ‘нікчэмны чалавек’, якое пад уплывам літ. *ãplamas* ‘нерасторопны, разіня’ (у дыялектах таксама ‘прыдуркаваты’) і лат. *aplams* ‘дурны, бессэнсоўны’ атрымала ў арлоўскіх, архангельскіх, валагодскіх гаворках значэнне ‘лянівы чалавек’, паколькі знаходзяцца «ў зоне нагародскай каланізацыі» [50]. Пры выяўленні калек А. Я. Анікін у першую чаргу зыходзіць з наступных крытэрыяў: 1) розналексемнасць; 2) наяўнасць паралельных лексем у другіх гаворках (мовах) рускай альбо іншай мовы, якія ўзніклі пад уплывам балтыйскіх; 3) семантыка і развіццё новых значэнняў.

Падагульваючы вынікі ранейшага даследавання літоўскіх калек, Г. А. Цыхун у артыкуле «Беларуска-літоўскія калькі» (2009) канстатуе, што «з’яўленне наватвораў, беларуска-літоўскіх калек адбывалася ў пэўны перыяд на тых тэрыторыях, дзе быў магчымы жывы моўны кантакт паміж носьбітамі дзвюх сістэм» [51]. Трэба, аднак, дадаць, што кантакт гэты патрабуе актыўнай міжмоўнай інтэрферэнцыі, наяўнасці пэўных сацыяльных абставін, урэшце нават і жадання саміх носьбітаў у далейшым ужываць новы, «чужы» інварыянт замест «свайго». На падставе суцэльных арэалаў запазычанняў тыпу *клýня** могуць быць акрэслены для кожнага перыяду паўднёвыя, усходнія і, магчыма, паўночныя межы тэрытарыяльных балта-славянскіх кантактаў. Запазычанае палескае *клуня* і ўсходнебалтыйскі арэал літ. *klúonas* і лат. *kluõns* утвараюць «тэрытарыяльны прагал, які запаўняецца вядомымі славянскімі лексемамі *гумно, ток, адрына*» [52]. Другім шляхам запаўнення гэтага прагалу, на думку аўтара, можа быць інавацыя тыпу *дзянні́к* ‘загарадка, дзе стаіць карова’. Што тычыцца апошняй лексемы,

* Таксама гл. вышэй аб магчымай кальцы *старанá* на фоне іншых запазычанняў лексіка-семантычнай групы ‘сельскагаспадарчыя пабудовы’.

то, верагодна, ёсць падставы параўнаць яе са складаным літоўскім найменнем *diẽndaržis* ‘1. агароджанае месца для жывёлы ў полі, агароджа; 2. агароджанае месца для жывёлы каля хлева; 3. уласна хлеў’ [53], дзе *dienà* ‘дзень’ + *dar̃žas* ‘агарод’. Трэба ўдакладніць, што назва *дзяннік* ужываецца не толькі на Гродзеншчыне, але адзначана ў Ахрэмаўцах Браслаўскага р-на, а таксама ў Лайпушках Ігналінскага р-на (Літва) і ў в. Рагулішкі Даўгаўпілскага р-на (Латвія) са значэннем ‘агароджаная частка двара, дзе знаходзіцца жывёла ў дзень і ў добрае надвор’е’ [54]. У сучаснай літоўскай мове *diẽndaržis* мае сінонім *bandódaržis* ‘двор для жывёлы, загон’. Такім чынам, «сумесная арэальная інавацыя, якая ўзнікла на моўным пагранiччы, распаўсюдзілася на абедзьве моўныя тэрыторыі» [55], што дае нам падставу разглядаць *дзяннік* як кальку з літоўскай мовы. Акрамя таго, на думку Г. А. Цыхуна (які тут працягвае меркаванне С. Санько), «уплыў адной мовы на другую можа мець характар моўнай атракцыі, калі фармальнае падабенства слоў прыводзіць да семантычных зрухаў» [56], а для іх тлумачэння патрабуецца прыцягненне экстралінгвістычных фактараў: *перакінуцца, скінуцца, укінуцца* ‘ператварыцца, перавярнуцца ў кагосьці’ (напрыклад, міфалагічны ваўкалак у ваўка) ад літ. *kìsti* ‘мяняцца, змяняцца’.

У тэрытарыяльных кантактных межах таксама адбываюцца кантамінацыі, якія можна лічыць паўкалькамі (параўн. *Відзíбор* і аналагічнае літ. *vidùgiris* ‘сярэдзіна леса’) [57].

Крыніцай калькавання, апрача вылучаных, могуць таксама служыць агульныя здабыткі матэрыяльный і духоўнай культуры беларусаў і літоўцаў. Гэта «звычай дзяліцца з суседзямі свежанінай, садавінай, мёдам» [58], лексіка каляндарна-абрадавых свят, прадметы побыту, назвы страў, экспрэсіўная лексіка і г. д. Напрыклад, побач з запазычаннямі *сквярсты́, скірстуны́* ‘частаванне з нагоды заколвання кабана’, верагоднай калькай можна лічыць докшыцкі, пастаўскі і мядзельскі дыялектызм *пагало́ўшчына* ‘свежына, якою частавалі суседзяў’ ад магчымага літ. *pagalỹs* ‘дубіна, доўбня’ праз *адо́ўбіны* ‘рытуал, гасціна, звязаная з свежанінай’ [59].

Як паказвае аналіз прац, славяна-балтыйскае моўнае ўзаемадзеянне адбываецца рознымі шляхамі – праз непасрэднае запазычанне ці калькаванне. Але ж калі першы з іх сёння адносна поўна вывучаны і разгледжаны ў мовазнаўчай літаратуры, то праблема вызначэння калек па-ранейшаму застаецца актуальнай. У лінгвістычнай навуковай літаратуры пад тэрмінам калька разумеюць «утварэнне новага фразеалагізма, слова альбо новага значэння слова шляхам літаральнага перакладу адпаведнай іншамоўнай адзінкі» [60]. Дадзенае вызначэнне з’яўляецца агульным, таму тэарэтычнымі задачамі ў дачыненні да беларуска-літоўскіх моўных працэсаў стаіць пытанне аб увядзенні паняцця л і т о ў с к а й калькі і канкрэтызацыі крытэрыяў для яе выяўлення. Верагодна, што першапачатковым азначэннем літоўскай калькі можа быць наступнае: гэта лексічнае альбо семантычнае беларускае новаўтварэнне, якое ўзнікла ў межах беларуска-літоўскай кантактнай моўнай

зоны і ўтворана па літоўскай мадэлі з захаваннем беларускіх элементаў. Устаноўленыя даследчыкамі літоўскія калькі ў большасці сваёй абгрунтаваныя лінгвагеаграфічным і словаўтваральна-семантычным крытэрыямі, пашыранасцю іх ужывання ў мове-крыніцы. Па зробленых намі падліках беларускіх-літоўскіх калек вылучана зараз каля 100, хаця відавочна, што частка з іх патрабуе перагляду або ўзнаўлення атрыбуцыі. Паколькі беларуска-літоўскія моўныя кантакты адбываюцца пераважна на дыялектным узроўні, таму надзённай практычнай задачай з'яўляецца выяўленне поўнага корпуса літоўскіх калек у беларускіх гаворках, выбраных з адпаведных крыніц.

У тэарэтычным плане з'яўленне такога корпуса дасць падставы больш прадметна асэнсаваць уласна беларуска-літоўскія моўныя дачыненні ў межах балта-славянскага моўнага саюза, рэальнасць якога ўжо абмяркоўвалася ў навуковай літаратуры [61]. Пры гэтым вельмі слушнай трэба лічыць думку Г. Цыхуна аб тым, што «ў аснове моўных працэсаў, якія прыводзяць да ўтварэння моўнага саюза, ляжыць калькаванне ў шырокім сэнсе слова (у тым ліку – сінтаксічнае, марфалагічнае і у першую чаргу лексічнае)» [62].

## Літаратура

1. Karłowicz, J. O języku litewskim / J. Karłowicz // Rozprawy i sprawozdania z posiedzeń wydziału filologicznego Akademii umięjetnósci. – W Krakowie, 1875. – T. II. – S. 324; Brückner, A. Die slavische Fremdwörter im litanischen / A. Brückner. – Weimar, 1877. – Vol. 18–19. – S. 23, 201; Wolter, E. A. Einfluss Westrusslands anf Litauen vor dem 12. Jahrhundert / E. A. Wolter // Mitteilungen der litauischen litterarischen Gesellschaft. – Heidelberg, 1886. – II. – 5. – S. 308–309; Mikkola, I. Litauische Lehnwörter im slavischen / I. Mikkola // Beiträge zur Kunde der indogermanischen Sprachen herausgegeben von Dr. Ad. Bezzenberger und Dr. W. Prellwitz.– Göttingen, 1895. – XXI. – S. 118–121; Эндзелин, I. Латышские заимствования из славянских языков / I. Эндзелин // Живая Старина. – 1899. – Вып. III. – С. 285–312.

2. Карский, Е. Ф. К вопросу о влиянии литовского и латышского языков на белорусское наречие / Е. Ф. Карский // Русский филологический вестник. – 1903. – Т. 49, № 1–2. – С. 8–10.

3. Карский, Е. Ф. Введение в изучение языка и народной словесности / Е. Ф. Карский // Белорусы: в 3 т. – Варшава, 1903. – Т. 1. – С. 125–137.

4. Карский, Е. Ф. К вопросу о влиянии литовского и латышского языков на белорусское наречие. – С. 7–8.

5. Карский, Е. Ф. К вопросу о влиянии литовского и латышского языков на белорусское наречие. – С. 23.

6. Buga, K. Die litauisch-weißrussischen Beziehungen und ihr Alter / K. Buga // Zeitschrift für Slavische Philologie. – 1925. – I. – S. 26–55.

7. Blese, E. Alcuni rapporti fra il bianco russo e le linve baltische / E. Blese // Studi Baltici. – 1935–1936. – Vol. 5. – P. 2.

8. Blese, E. Alcuni rapporti fra il bianco russo e le linve baltische. – C. 5.

9. Blese, E. Alcuni rapporti fra il bianco russo e le linve baltische.

10. Станкевіч, А. З літуанізмаў у беларускай мове / А. Станкевіч // Калоссе. – 1938–1939. – № 3 (16). – С. 173.

11. Станкевіч, А. З літуанізмаў у беларускай мове. – С. 173.

12. Jablonskis, K. Lietuviški žodžiai senosios Lietuvos raštinių kalboje / K. Jablonskis // Tekstai. – Kaunas, 1941. – I dalis. – P. 4–5.

13. Jablonskis, K. Lietuviški žodžiai senosios Lietuvos raštinių kalboje. – P. 4–5.

14. Смулкова, Э. К вопросу о белорусских балтизмах (проблема статуса балтизмов в белорусских говорах) / Э. Смулкова // Балто-славянские исследования 1980. – М., 1981. – С. 203–214.

15. Лаучюте, Ю. Словарь балтизмов в славянских языках / Ю. Лаучюте. – Л., 1982. – 213 с.

16. Аникин, А. Е. Опыт словаря балтизмов в русском языке / А. Е. Аникин. – Новосибирск, 2005. – 394 с.

17. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. – Мінск, 1979–1986. – Т. 1–5.

18. Астрэйка, В. Д. Славяна-балцкае лексічнае ўзаемадзеянне ў гаворках паўночна-заходняй дылектнай зоны беларускай мовы / В. Д. Астрэйка // Беларуская лінгвістыка. – 2010. – Вып. 65. – С. 15.

19. Вяржбоўскі, А. А. Балтызмы ў беларускай мове (метадалогія і крытэрыі даследавання) / А. А. Вяржбоўскі // Вес. Акад. навук БССР. Сер. грам. навук. – 1959. – № 2. – С. 121.

20. Лексічныя балтызмы ў беларускай мове (матэрыялы для абмеркавання). – Мінск, 1969. – С. 15.

21. Чекман, В. Н. К проблеме литовско-белорусских лексических связей / В. Н. Чекман // Baltistica. – 1972. – Т. VIII, № 2. – С. 147.

22. Лексічныя балтызмы ў беларускай мове. – С. 49.

23. Мартынаў, В. У. Беларуская этымалогія. Некаторыя аспекты / В. У. Мартынаў // Беларуская лінгвістыка. – 1972. – Вып. 1. – С. 19.

24. Мартынов, В. В. Типы лексических балтизмов в белорусских диалектах / В. В. Мартынов // Acta Baltico Slavica. – 1976. – Т. 9. – С. 93.

25. Мартынаў, В. У. Беларуская этымалогія. Некаторыя аспекты. – С. 19.

26. Мартынов, В. В. Типы лексических балтизмов в белорусских диалектах. – С. 93.

27. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Мінск, 1978. – Т. 1. – С. 11–12.

28. Мартынов, В. В. Типы лексических балтизмов в белорусских диалектах. – С. 90, 93.

29. Acta Baltico-Slavica. – С. 94–95.

30. Чекман, В. Н. К проблеме литовско-белорусских лексических связей. – С. 148.

31. Чекман, В. Н. К проблеме литовско-белорусских лексических связей.

32. Чекман, В. Н. К проблеме литовско-белорусских лексических связей. – С. 149.

33. Чекман, В. Н. К проблеме литовско-белорусских лексических связей. – С. 151.

34. Чекман, В. Н. К проблеме литовско-белорусских лексических связей. – С. 152.

35. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. – Т. 1. – С. 360.

36. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Т. 2. – С. 271.

37. Чекман, В. Н. К проблеме литовско-белорусских лексических связей. – С. 152.

38. Lietuvių kalbos žodynas. – Vilnius, 1996. – T. XVII. – P. 907.

39. Grinaveckienė, E. Lietuviškos kilmės leksiniai vertiniai baltarusių paribio šnektose / E. Grinaveckienė, J. Mackevič // Baltistica. – 1990. – T. XXVI, № 2. – P. 166–172.

40. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка: в 4 т. / М. Фасмер. – СПб., 1996. – Т. 1 (А–Д). – С. 14.

41. Непокупный, А. П. Балто-северославянские языковые связи / А. П. Непокупный. – Киев, 1976. – С. 51.

42. Непокупный, А. П. Балто-северославянские языковые связи. – С. 68.

43. Непокупный, А. П. Балто-северославянские языковые связи.

44. Непокупный, А. П. Балто-северославянские языковые связи. – С. 78–79.

45. Непокупный, А. П. Балто-северославянские языковые связи. – С. 88.

46. Судник, Т. М. Об одной литовско-белорусской семантической параллели (oras: *надвор'е* 'пространство', 'погода') / Т. М. Судник // Dialectologia slavica*:* Исследования по славянской диалектологии. – М., 1995. – С. 249–257.

47. Судник, Т. М. Об одной литовско-белорусской семантической параллели (oras: *над-вор'е* 'пространство', 'погода'). – С. 250.
48. Аникин, А. Е. Опыт словаря балтизмов в русском языке. – С. 4.
49. Аникин, А. Е. Опыт словаря балтизмов в русском языке. – С. 5.
50. Аникин, А. Е. Опыт словаря балтизмов в русском языке. – С. 29–31.
51. Цыхун, Г. А. Беларуска-літоўскія калькі / Г. А. Цыхун // Slavistica Vilnensis. – 2005–2009. – Kalbotyra. – Т. 54, № 2. – С. 109.
52. Цыхун, Г. А. Беларуска-літоўскія калькі. – С. 108.
53. Lietuvių kalbos žodynas. – Kaunas, 1947. – Т. II. – P. 346.
54. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. – Мінск, 1980. – Т. 2. – С. 67.
55. Цыхун, Г. А. Беларуска-літоўскія калькі. – С. 109–110.
56. Цыхун, Г. А. Беларуска-літоўскія калькі. – С. 110.
57. Цыхун, Г. А. Беларуска-літоўскія калькі. – С. 109.
58. Цыхун, Г. А. Беларуска-літоўскія калькі. – С. 110.
59. Цыхун, Г. А. Беларуска-літоўскія калькі.
60. Арапова, Н. С. Кальки / Н. С. Арапова // Большой энциклопедический словарь. Языкознание / гл. ред. В. Н. Ярцева. – М., 1998. – С. 211.
61. Гл.: Судник, Т. М. К характеристике южной части балтийско-славянского языкового союза / Т. М. Судник, С. М. Толстая, В. Н. Топоров // Советское славяноведение. – 1967. – № 2. – С. 38–40; Невская, Л. Г. Диалектные контакты в зоне современного балтийско-славянского этноязыкового пограничья / Л. Г. Невская, Т. М. Судник // Докл. советской делегации: VIII Междунар. съезд славистов, Загреб–Любляна, сентябрь 1978 г. – М., 1978. – С. 285–307; Судник, Т. М. К типологическому сопоставлению механизмов двуязычия (балто-славянский и балканский языковые союзы) / Т. М. Судник, Т. В. Цивьян // Славянское языкознание: докл. советской делегации: IX Междунар. съезд славистов, Киев, сентябрь 1983 г. – М., 1983. – С. 199–213.
62. Цыхун, Г. А. О балтийско-славянском языковом союзе / Г. А. Цыхун // Тез. докл: Междунар. конф. балтистов 9–12 окт. 1985 г. – Вильнюс, 1985. – С. 237.

## Summary

The article gives a brief analysis of the scientific research on the study of Balticisms in the Belarusian language. The focus is made on one of the specific problems of Balto-Slavic relations, which is Belarusian-Lithuanian calques. We offer a thorough review of the papers suggesting criteria of defining Belarusian-Lithuanian calques and highlighting the analyses of the existing (around 90) calques, which appeared as a result of close linguistic ties in the bordering regions of Belarus and Lithuania.

*Ваенная акадэмія Рэспублікі Беларусь* *29.08.2011 г.*

*УДК 811.161.3’373.72+811.111’373.72*

*В. А. АРЦЁМАВА*

# БЕЛАРУСКІЯ І АНГЛІЙСКІЯ ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ З ПРАСТОРАВЫМ ЗНАЧЭННЕМ У ПАРАЎНАЛЬНА-СУПАСТАЎЛЯЛЬНЫМ АСПЕКЦЕ

Прастора – усеагульная катэгорыя быцця і культуры, «фізічны закон існавання любога аб’екта, і натуральна, што моўная дзейнасць чалавека павінна адлюстроўваць ва ўсіх відах камунікацыі часавае і прасторавае існаванне прадметаў і фактаў» [1]. Моўныя сродкі вербалізацыі прасторавых уяўленняў эксплікуюць асаблівасці катэгарызацыі і канцэптуалізацыі прасторы пэўным этнасам пад уплывам экстра- і інтралінгвістычных фактараў. Гэта абумоўлівае неабходнасць даследавання спосабаў намінацыі прасторы як сходнаструктурных, так і рознаструктурных моў у супастаўляльным аспекце з выяўленнем універсальных рыс, а на іх фоне – нацыянальных, этнаспецыфічных асаблівасцей прасторавых уяўленняў.

У беларускай лінгвістыцы і літаратуразнаўстве моўныя эксплікатары катэгорыі прасторы аналізуюцца ў працах П. В. Васючэнкі (вывучэнне топасаў у творах беларускіх пісьменнікаў), І. А. Жылінскай (прасторава-часавая мадэль свету ўсходніх славян на матэрыяле рускіх і беларускіх замоў), П. Р. Кошмана (прасторава-часавыя вымярэнні нацыянальнага свету ў беларускай літаратуры ), Л. Я. Мазур (найменні месца), М. С. Яўневіча (канкрэтызацыя акалічнасных адносін), І. С. Роўды (фрагменты дэрывацыйнага поля лакатываў у сувязі з праблемай лексічных лакун), В. Прыемкі (прасторава-часавыя матывы ў пінскіх вясельных песнях), А. Алфёравай (семантыка канцэпту «двор»), М. Латышкевіч (вывучэнне іншасветных існасцей як знакаў прасторы), У. М. Тапарова (параўнальна-гістарычнае даследаванне лакатыва ў беларускай мове), А. Шамякінай (прастора ў творчасці Я. Коласа), І. Н. Казароз (прастора ў творах К. Тураўскага) і іншых.

Разам з аднаслоўнымі найменнямі ў мове існуюць вобразныя сродкі рэпрэзентацыі прасторавых уяўленняў другаснай намінацыі – фразеалагічныя адзінкі (ФА). Фразеалагізмы з прасторавай семантыкай на матэрыяле славянскіх моў даследуюцца ў працах П. А. Рэдзіна (украінская мова), Г. В. Саўчук, Н. А. Сабуравай, В. П. Ігнаценкі, В. П. Піваваравай, Т. М. Філаненкі (руская мова) і іншых. У супастаўляльным аспекце прасторавыя ФА вывучаюцца ў працах В. У. Бяскроўнай, М. Э. Ігнацьевай (англійская і руская мовы) і іншых.

Але беларускія фразеалагічныя сродкі вобразнай намінацыі прасторы ў супастаўленні з іншымі мовамі пакуль не сталі асобным прадметам даследавання навукоўцаў. У сувязі з гэтым нам уяўляецца перспектыўным прааналізаваць і параўнаць успрымаемую чалавекам прастору ў рамках тых пачуццёва-абстрактных мадэляў, якія захаваны ў фразеалогіі дзвюх моў – беларускай і англійскай, што, у сваю чаргу, дае магчымасць дэталёва даследаваць сувязі паміж успрыманнем і вербалізацыяй прасторы і выявіць універсальныя рысы, а на іх фоне – нацыянальныя, этнаспецыфічныя асаблівасці прасторавых уяўленняў у беларускай і англійскай лінгвакультурах.

Метадам суцэльнай выбаркі на аснове семнага аналізу фразеалагічнай семантыкі з беларускіх і англійскіх фразеалагічных слоўнікаў [2–10] было вылучана 1070 беларускіх і 1016 англійскіх ФА з прасторавай семантыкай. На падставе сістэматызацыі лексікі і фразеалогіі А. С. Баранава [11] і семантычнай класіфікацыі фразеалагізмаў А. М. Баранава і А. Д. Дабравольскага [12] намі распрацавана таксанамія катэгорыі прасторы ў фразеалагічных фондах беларускай і англійскай моў, заснаваная на анамасіялагічных прынцыпах, якія «даюць магчымасць згрупаваць фразеалагічныя адзінкі па пэўных семантычных варыянтах» [13]. У залежнасці ад наяўнасці ў дэфініцыі ФА дынамічных ці статычных прасторавых маркёраў былі пабудаваны беларускае і англійскае фразеасемантычныя прасторавыя палі з двума цэнтрамі – мікраполем дынамікі і мікраполем статыкі. Атрыманыя дадзеныя прадстаўлены ў табліцы:

**Фразеасемантычныя палі прасторы ў беларускай і англійскай мовах**

| 1. Мікраполе дынамікі | Беларускія ФА | Колькасць/% | Англійскія ФА | Колькасць/% |
|---|---|---|---|---|
| Пачатак руху, перамяшчэння – канец, спыненне, адсутнасць руху, стоп | *Знімацца з якара, па конях, пайшла пісаць – на прыколе, кідаць якар, як укопаны, стоп машына* | 52 / 4,9 | *Get under way, gird up one's loins, hit the road – be at a standstill, fall all one's length, lie doggo, cast anchor* | 57 / 5,6 |
| Спосаб, характар перамяшчэння | *Ісці на вушах, паўзці на карачках, на сваіх дваіх, рука ў руку* | 61 / 5,7 | *Dot and carry, egg and flow, fall into step, go on Shank's pony / mare* | 116 / 11,4 |
| Хуткі рух – павольны рух | *Аж пыл курыць, на зламанне карку – маслёнку везці, з нагі на нагу* | 136 / 12,7 | *At the top of one's speed, at a rate of knots, hell for leather – at a snail's pace, at a snail's gallop* | 112 / 11 |
| Напрамак руху | *З канца ў канец, з краю ў край, з кута ў кут, да купы, за бугор, за мяжу* | 88 / 8,2 | *Follow one's nose, that way, make a bee-line, the wrong way round, by airline* | 38 / 3,7 |
| Прыход, прыезд, з'яўленне – адыход, ад'езд, знікненне | *Як Піліп з канапель, нялегкая гоніць – даваць драла, зматваць вудачкі* | 164 / 15,3 | *Come in the carpet, come into view, appear on the scene – make oneself scarce, pack your bags, turn tail* | 128 / 12,6 |
| **агульная колькасць ФА мікраполя дынамікі** | | **501 / 46,8** | **агульная колькасць ФА мікраполя дынамікі** | **451 / 44,3** |

*Працяг табліцы*

| 2. Мікраполе статыкі | Беларускія ФА | Колькасць/% | Англійскія ФА | Колькасць/% |
|---|---|---|---|---|
| Месца | *За бугром, за мяжой, за кратамі, за вуглом, за кулісамі, у нагах, на дварэ* | 51 / 4,7 | *Under lock and key, (sit) above the salt, (sit ) below the salt, on the anxious bench(seat)* | 42 / 4,1 |
| Добрае, роднае, вядомае месца – дрэннае, чужое, невядомае месца | *Абацяная зямля, дзе бог начуе – богам пракляты, немач яго ведае, кадук яго ведае* | 75 / 6,9 | *At home ground, heaven (paradise) on earth – the great beyond, a hell on (upon) earth* | 125 / 12,3 |
| Прыродныя аб'екты – аб'екты, створаныя чалавекам | *Млечны шлях, Вялікая Мядзведзіца, дзявяты вал – альма матар, каменны мяшок* | 71 / 6,6 | *White squall, the seven stars, the roof of the world – the silver screen (cinema), God's house, a public house* | 101 / 10 |
| Абмежаваная прастора – бязмежная прастора | *Свет цесны, зямлі як старой бабе сесці – на кожным кроку, куды ні кінеш вокам* | 36 / 3,4 | *Nooks and crannies, sit on the thin edge of nothing – all over the place, all over creation* | 45 / 4,4 |
| Запоўненая прастора (цесна, шмат) – незапоўненая прастора (рэдка, мала, нічога) | *Без ліку, вуж галавы не ўткне – адзін як вока ў ільбе, дзірка ад баранка, ні грана, ні сінь пораху,* | 143 / 13,3 | *A good many, no room to swing a cat – a drop in the ocean, dribs and drabs, not a (living) soul, not a thing, not a rag of something* | 71 / 7 |
| Далёка – блізка | *У чорта ў зубах, за дзясятай гарой – за два крокі, адзін крок* | 90 / 8,4 | *Down under, out of the way, a far cry – at hand, at a stone's throw* | 116 / 11,4 |
| Рост: высокі – нізкі | *Вярста каломенская, гаманіць з небам – ад гаршка паўвяршка, з вузел ростам* | 33 / 3,1 | *A long drink of water, as tall as a maypole, be tall as a steeple, larger than life – knee – high (to) the (a) grasshopper* | 6 / 0,6 |
| Памер (аб'ём): вялікі – малы | *Як мяхі, як плаха, у калене – варона ў дзюбе панесці можа, пяшком пад стол хадзіць, у мініяцюры* | 24 / 2,2 | *Built like a tank, Big Bertha (woman), broad in the beam, to look like the side of the house – a little thing, Jack Sprat* | 12 / 1,2 |
| Форма | *Круглы як бервяно, круглы як качан, пад гаршок* | 6 / 0,6 | *(As) round as a barrel, (as) straight as a die, as flat as a pancake* | 10 / 1 |
| Якасць паверхні | *Востры як брытва востры як кінжал, роўны як столь, як шоўк* | 5 / 0,5 | *As smooth as satin, (as) hard as a stone, as slippery as an eel, (as) smooth as a billiard ball* | 18 / 1,8 |
| Становішча ў прасторы | *Дагары нагамі, дагары дрынам, стаяць на чацвярэньках* | 35 / 3,3 | *Head over heels, sit (stand) bolt upright, stand on end, be on one's feet* | 19 / 1,9 |
| **агульная колькасць ФА мікраполя статыкі** | | **569 / 53,2** | **агульная колькасць ФА мікраполя статыкі** | **565 / 55,7** |
| **агульная колькасць беларускіх ФА з прасторавай семантыкай** | | **1070 / 100** | **агульная колькасць ФА з прасторавай семантыкай** | **1016 / 100** |

У выніку кампаратыўнага аналізу фразеасемантычных палёў прасторы беларускага і англійскага фразеалагічных фондаў былі выяўлены наступныя агульныя рысы:

– у абедзвюх мовах назіраецца прыкладна аднолькавая колькасць ФА з прасторавай семантыкай (у беларускай – 1070 ФА, у англійскай – 1016 ФА), што складае значную частку беларускага і англійскага фразеалагічных фондаў і сведчыць аб важнасці катэгорыі прасторы ў даследуемых лінгвакультурах;

– беларускія і англійскія ФА з прасторавым значэннем раўнамерна размяркоўваюцца па мікрапалях статыкі і дынамікі: у беларускай мове выяўлена 501 ФА (46,8%) мікраполя дынамікі і 569 ФА (53,2%) мікраполя статыкі, у англійскай – 451 ФА (44,3%) мікраполя дынамікі і 565 ФА (55,7%) мікраполя статыкі. Колькасная сіметрыя двух мікрапалёў падкрэслівае важнасць як дынамічных так і статычных прасторавых адносін у беларускай і англійскай лінгвакультурах;

– назіраецца аднолькавы набор фразеасемантычных груповак (16 груповак) і прыкладна супадае іх колькасная напаўняльнасць;

– рэпрэзентаваная фразеалагізмамі прастора ў беларускай і англійскай мовах – антрапацэнтрычная, што праяўляецца:

1) яе арганізацыяй вакол чалавека з яго светаўспрыманнем;

2) наяўнасцю ў структуры прасторавых ФА лексем, якія абазначаюць часткі цела чалавека (саматызмы): бел. *рука, твар, плячо,* англ. *hand* ‘рука’ *face* ‘твар’, *shoulder* ‘плячо’ і інш. Яны выкарыстоўваюцца для прасторавых вымярэнняў: бел. *твар у твар,* англ. *face to face* ‘блізка’, бел. *плячом к плячу* англ. *shoulder to shoulder* ‘блізка, побач’. У. М. Макіенка тлумачыць саматычны характар вобразнай асновы ФА «спрадвечнай славянскай звычкай параўноўваць навакольнае асяроддзе з часткамі цела» [14];

– прасторавыя ўяўленні, адлюстраваныя ў семантыцы ФА, фарміруюць бінарныя апазіцыі, што, на думку В. У. Іванава, з’яўлялася характэрнай рысай славянскага ўспрымання дадзенай катэгорыі [15]. Але, як паказала наша даследаванне, бінарнасць прасторавых уяўленняў уласціва таксама і прадстаўнікам англійскай лінгвакультуры:

1) пачатак руху, перамяшчэння – канец, спыненне, адсутнасць руху, стоп: бел. з*німацца з якара* ‘адпраўляцца, ад’язджаць’*,* англ. *get under way* ‘пачаць вандраванне, рух’ – бел. *ні з месца* ‘не рухацца, стаяць на месцы’, англ. *to be at a standstill* ‘быць у нерухомым стане’;

2) хуткі рух – павольны рух: бел. *аж пыл курыць* ‘вельмі хутка бегчы, ехаць’, англ. *run at a breakneck speed* ‘бегчы вельмі хутка’ – бел. *маслёнку везці* ‘вельмі марудна рухацца’, англ. *at a snail’s pace* ‘рухацца павольна, паслядоўна’;

3) прыход, прыезд, з’яўленне – адыход, ад’езд, знікненне: бел. *тут як тут* ‘адразу, раптам, у гэты момант з’явіўся, апынуўся’*,* англ. *beat up somebody’s quarters* ‘нечакана прыходзіць, з’яўляцца’, бел. *як пілiп з канапель*

‘нечакана, неспадзявана, знянацку выскачыць, з’явіцца’, англ. *drop from the clouds (the skies)* ‘нечакана з’явіцца’ – бел. *выносіць ногі*, англ. *show a clean pair of heels* ‘уцякаць’, бел. *як скрозь зямлю праваліўся* ‘нечакана прапаў, знік’, англ. *make oneself scarce* ‘хутка знікнуць’;

4) добрае, роднае, вядомае месца – дрэннае, чужое, невядомае месца: бел. *абяцаная зямля* ‘край, месца, што з’яўляецца ўвасабленнем шчасця, багацця’, англ. *the land of Cockaigne* ‘казачная краіна багацця і бяздзейнасці, рай зямны’, бел. *родны кут* ‘радзіма, родныя мясціны, месца нараджэння’, англ. *at home ground* ‘дома’ – бел. *адзін Хрыстос жыве* ‘месца, дзе назіраецца заняпад, апусценне’, англ. *hell’s kitchen* ‘небяспечнае месца’, англ. *the next world* ‘той свет’, бел. *адзін чорт ведае (знае) дзе* ‘нікому невядома дзе’;

5) цесна, шмат – рэдка, мала, нічога: бел. *яблыку няма (не было) дзе ўпасці* ‘мноства людзей у якім-небудзь месцы’, англ. *packed like sardines* ‘мноства людзей у памяшканні’ – бел. *кропля ў моры* ‘вельмі нязначная колькасць’, англ. *a drop in the bucket* ‘вельмі мала’, бел. *дзірка ад баранка* ‘нічога’, англ. *not a rag of something* ‘нічога’;

6) далёка – блізка: бел. *у чорта ў зубах* ‘вельмі далёка’, англ. *at the end of the earth* ‘далёка’ – бел. *каля бока* ‘блізка’, англ. *close at hand* ‘блізка, побач’;

7) высокі – нізкі: бел. *вярста каломенская* ‘вельмі высокі’, англ. *a long drink of water* ‘вельмі высокі’ – бел. *ад гаршка паўвяршка* ‘нізкі’, англ. *knee – high (to) the (a) grasshopper* ‘нізкі’;

8) вялікі – малы (аб’ём): бел. *касы сажань у плячах* ‘рослы, плячысты’ магутнага складу’, англ. *built like a castle* ‘вялікі, здаровы’ – бел. *варона ў дзюбе панесці можа* ‘невялічкі, шчупленькі’, англ. *Jack Sprat* ‘маленькі’.

– у семантыцы некаторых беларускіх і англійскіх ФА назіраецца сінкрэтызм прасторавых і часавых значэнняў, што, на думку навукоўцаў (У. Р. Гак, А. С. Кубракова), звязана з узнікненнем часавых паняццяў на аснове прасторавых: бел. *не за гарамі* азначае ‘блізка па адлегласці’ і ‘хутка па часе’, англ. *long haul* мае значэнне ‘параўнальна вялікая, значная адлегласць’ і ‘параўнальна вялікі тэрмін’. Такім чынам, дыфузнасць часавых і прасторавых уяўленняў (хранатоп у тэрміналогіі М. М. Бахціна [16] і біфуркацыя ў тэрміналогіі В. М. Тэліі [17]), назіраецца не толькі на граматычным, лексічным ці сінтаксічным узроўнях моўнай сістэмы, але, як паказала наша даследаванне, таксама і на фразеалагічным;

– найбольшая колькасць беларускіх ФА назіраецца ў групах «хуткі – павольны рух» (136 ФА, 12,7%) і «прыход, прыезд, з’яўленне – адыход, ад’езд, знікненне» (164 ФА 15,3%). У англійскім фразеалагічным фондзе добра прадстаўлена група «характар руху» (116 ФА, 11,4%) і «прыход, прыезд, з’яўленне – адыход, ад’езд, знікненне» (128 ФА, 12,6%). Усё гэта сцвярджае погляд на рух у беларускай і англійскай лінгвакультурах, нароўні з часам і прасторай, як на адну з фундаментальных форм існавання матэрыі;

– пэўныя беларускія і англійскія ФА, напрыклад бел. *быць на сёмым небе* і англ. *to be on cloud nine,* нягледзячы на наяўнасць у іх структуры прасторавых лексем *неба* і *cloud* і прыназоўнікаў месцазнаходжання *на* і *on*, маюць непрасторавае значэнне і ўваходзяць у фразеасемантычнае поле чалавечых пачуццяй і эмоцый, што сцвяржае гіпотэзу Д. Лакафа аб катэгарызацыі абстрактных паняццяў у свядомасці чалавека па аналогіі з прасторавымі ўяўленнямі пры дапамозе арыентацыйнай метафары [18];

– невялікая колькасць ФА, якія эксплікуюць тапалагічныя характарыстыкі аб'ектаў (форма, памер і якасць паверхні), у беларускім і англійскім фразеалагічных фондах у параўнанні з іншымі прасторавымі характарыстыкамі сведчыць аб невыкарыстанні законаў геаметрыі Эўкліда і дакладных прасторавых вымярэнняў пры вербалізацыі іх фразеалагізмамі, паколькі ў семантыцы ФА адлюстроўваюцца толькі жыццёва неабходныя для паспяховай жыццядзейнасці чалавека прасторавыя характарыстыкі [19].

Відавочна, што наяўнасць падобных рыс у рэпрэзентацыі катэгорыі прасторы ў беларускай і англійскай фразеалогіі яшчэ раз падкрэслівае ўніверсальнасць і ўсеагульнасць механізмаў успрымання і адлюстравання прасторавых уяўленняў і сведчыць пра сувязь беларускага і англійскага фразеалагічных фондаў.

Але, нягледзячы на падабенствы беларускіх і англійскіх прасторавых уяўленняў, рэпрэзентаваных ФА, былі выяўлены наступныя адрозненні:

– у беларускім фразеалагічныя фондзе назіраецца значная колькасць ФА, якія характарызуюць прастору з пазіцыі запоўненасці (цесна, шмат) і незапоўненасці (мала, нічога) – 143 ФА (13,3%). У англійскай мове дадзеная характарыстыка прадстаўлена толькі 71 ФА (7%);

– фразеасемантычная групоўка «напрамак руху» прадстаўлена 88 беларускімі ФА (8,2%), у той час як ў англійскай – 38 ФА (3,7%);

– назіраюцца адрозненні і ў рэпрэзентацыі тапалагічных характарыстык аб'екта (памер, рост, форма): у беларускім фразеалагічныя фондзе шырэй прадстаўлены памер (аб'ём) (24 ФА, 2,2%) і рост (33 ФА, 3,1%) у параўнанні з англійскім, дзе памер прадстаўлены 12 ФА (1,2%) і рост – 6 ФА (0,6%). Форма аб'екта падаецца 6 беларускімі ФА (0,6%) і 10 англійскімі ФА (1%), дзе найбольшая колькасць ФА пазначае форму кола: бел. *круглы як бервяно*, англ. *(as) round as a barrel.* Гэта сведчыць аб сакральнасці дадзенай геаметрычнай фігуры ў беларускай і англійскай лінгвакультурах: «кола – адзін з найбольш значных міфапаэтычных сімвалаў, які адлюстроўвае ўяўленні аб цыклічным часе («кола жыцця», «гадавое кола») і асноўных формах структуравання прасторы (падзел на «сваё» і «чужое», дзе кола выступае як мяжа замкнёнай, ахоўваемай прасторы)» [20];

– у групоўцы «добрае, роднае, вядомае месца – дрэннае, чужое, невядомае месца» і апазіцыі «далёка – блізка» беларускія ФА маюць лексемы са значэннем феноменаў беларускай міфалогіі *чорт, каланіца, халера, чамярыца, хвароба (ведае дзе),* назвы жывёл, птушак і насякомых *мядзведзь*

*(мядзвежы куток), крумкач (куды крумкач касцей не зносіў), камар (дзе камар козы пасе)* для ўказання на невядомае ці вельмі аддаленае месцазнаходжанне аб’екта. Вобразы гэтай сферы сведчаць пра пэўную міфалагізацыю далёкага, невядомага месца па прычыне ўспрымання яго як чужога, незасвоенага, што часта праяўляецца ў негатыўнай экспрэсіі гэтых ФА. У той жа час у структуры англійскіх ФА дадзеных груповак падобныя лексемы не сустракаюцца, яны пазбаўлены канатацыі і з’яўляюцца нейтральнымі: англ. *down under* ‘вельмі далёка, на іншым канцы света’, *out of the way* ‘аддаленае месца’, *the back of beyond* ‘вельмі далёка’;

– у фразеасемантычных групоўках «блізка – далёка» і «добрае, роднае, вядомае месца – дрэннае, чужое, невядомае месца» беларускія ФА адлюстроўваюць не толькі прасторавыя характарыстыкі (адлегласць, памер, характар перамяшчэння і г. д.), але і іх ацэнку моўцам: бел. *у чорта на рагах* ў пэўных кантэкстах нясе негатыўную канатацыю, што выяўляецца ў нежаданні прыкладаць фізічныя намаганні для пераадолення вялікай адлегласці. Блізкая адлегласць, дзе фізічныя намаганні мінімальныя, наадварот, характарызуецца станоўчай ацэнкай моўцы. У дадзеным выпадку яскрава праяўляецца прынцып эканоміі энергіі. Англійскія ФА падобных груповак з’яўляюцца нейтральнымі;

– у беларускіх фразеасемантычных групоўках «блізка – далёка», «абмежаваная – бязмежная прастора», «добрае, роднае, вядомае месца – дрэннае, чужое, невядомае месца», «запоўненая прастора – незапоўненная прастора» сустракаюцца як размоўныя, так і прастамоўныя фразеалагізмы. Англійскіх ФА дадзеных груп – часцей размоўныя;

– у англійскім фразеалагічным фондзе былі выяўлены ФА, якія абазначаюць здольнасць чалавека арыентавацца на мясцовасці: англ. *the bump of locality* ‘здольнасць арыентавацца на мясцовасці’, англ. *get one’s eye (well) in* ‘дакладна ацэньваць адлегласць і кірунак (у стральбе, гульні на більярдзе і г. д.)’, у адрозненне ад беларускага, дзе такіх ФА не было выяўлена;

– у фразеалогіі англійскай мовы значна шырэй прадстаўлена такая прасторавая характарыстыка, як якасць паверхні аб’екта – 18 ФА (1,8%), у беларускай – 5 ФА (0,5%), прычым найбольшая колькасць ФА дадзенай групоўкі рэпрэзентуе гладкую, роўную паверхню: бел. *гладкі як шоўк*, англ. *as smooth as velvet* ‘вельмі гладкі, роўны’;

– у англійскіх ФА блізкае знаходжанне аб’екта на чарзе са зрокавым успрыманнем сувымяраецца з тым, што знаходзіцца ў межах слыху: англ. *within call, within cry, within earshot, within hail, within hearing* ‘блізка’. У беларускім фразеалагічным фондзе дамінуе зрокавае ўспрыманне прасторавых характарыстык: бел. *перад вачыма, куды не кінеш вокам, як вокам згледзець (кінуць)*;

– у структуры пэўных англійскіх ФА маюцца лексемы, запазычаныя з марской тэрміналогіі. Напрыклад, англ. *an anchor* ‘якар’, *a port* ‘порт’, *a berth* ‘якарнае месца, прычал, дзе карабель можа бросіць якар’, *sea* ‘мора’

уваходзяць у руктуру англійскіх фразеалагізмаў з прасторавым значэннем: *to come to anchor* ‘перастаць рухацца, спыніцца’, *a port in a storm* ‘прытулак, спакойнае, бяспечнае месца’, *give a wide berth* ‘трымацца на пэўнай адлегласці ад каго-небудзь, чаго-небудзь’, *the seven seas, the four seas* ‘вялікая водная прастора’. Дадзеныя ФА сведчаць аб актуальнасці мараплавання ў Вялікабрытаніі, дзякуючы чаму марская тэрміналогія становіцца агульнаўжывальнай і выкарыстоўваецца ў іншых сферах. У беларускім фразеалагічным фондзе падобных ФА значна менш: *мора разліўное* ‘шмат’ з лексемай *мора* і *ад мора да мора* ‘тэрыторыя, якая прасціраецца на вялікую адлегласць’, *кідаць якар* ‘спыняцца’, *знімацца з якара* ‘пачаць рух’ з лексемай *якар, на прыколе* ‘у нерухомым стане’ з лексемай *прыкол* ‘паля, кол, убітыя ў зямлю для прычала судоў’. Невялікая колькасць беларускіх фразеалагізмаў з марской тэрміналогіяй, на наш погляд, тлумачыцца адсутнасцю вялікіх водных прастораў (мора, акіян) і, як следства, марской навігацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Па меркаванні А. К. Бірыха, падобныя ФА з’яўляюцца выразамі інтэрнацыянальнага паходжання і, магчыма, запазычаны з англійскай мовы [21]. Такім чынам, можна зрабіць вывад аб уплыве геаграфічных асаблівасцей на фарміраванне вобразнай асновы ФА з прасторавай семантыкай у беларускай і англійскай мовах.

Відавочна, што, нягледзячы на ўніверсальнасць успрымання катэгорыі прасторы, якая забяспечвае разуменне паміж прадстаўнікамі розных лінгвакультур, пры супастаўляльным даследаванні сучасных фразеалагічных фондаў беларускай і англійскай моў выяўляюцца нацыянальна-спецыфічныя асаблівасці, якія падкрэсліваюць унікальнасць прасторавых уяўленняў даследуемых этнасаў. У перспектыве вынікі кампаратаўнага вывучэння катэгорыі прасторы на матэрыяле фразеалагічных фондаў беларускай і англійскай моў дадуць важны матэрыял для разумення асаблівасцей вобразнага засваення прасторы і выяўлення механізмаў, якія ляжаць у аснове яе катэгарызацыі і канцэптуалізацыі.

## Літаратура

1. Колшанский, Г. В. Объективная картина мира в познании и языке / Г. В. Колшанский. – М., 2005. – С. 90.

2. Аксамітаў, А. С. Фразеалагічны слоўнік мовы твораў Я. Коласа / А. С. Аксамітаў. – Мінск, 1993. – 655 с.

3. Лепешаў, І. Я. Слоўнік фразеалагізмаў: у 2 т. / І. Я. Лепешаў. – Мінск, 2008.

4. Янкоўскі, Ф. М. Фразеалагічны слоўнік / Ф. М. Янкоўскі. – Мінск, 1973. – 352 с.

5. Янкоўскі, Ф. М. Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы / Ф. М. Янкоўскі. – Мінск, 2004. – 494 с.

6. Кунин, А. В. Большой англо-русский фразеологический словарь. – М., 2005. – 1224 с.

7. Cowie, A. P. Oxford Dictionary of Current Idiomatic English / A. P. Cowie, I. R. Vacin. – Oxford, 1983. – Vol. 2: Phrase, Clause and Sentence Idioms. – 685 p.

8. Daphne, M. G. The Penguin Dictionary of English Idioms / M. G. Daphne, D. Hinds – Howell. – London, 2001. – 378 p.

9. Freeman, W. A Concise Dictionary of English Idioms / W. Freeman. – London, 1982. – 215 p.

10. Sinclair, J. Cobuild Dictionary of Idioms / J. Sinclair. – London, 1995. – 493 p.

11. Баранов, О. С. Идеографический словарь русского языка / О. С. Баранов. – М., 1995. – С. 86–113.

12. Баранов, А. Н. Словарь – тезаурус современной русской идиоматики / А. Н. Баранов, О. Д. Добровольский. – М., 2007. – С. 28–32.

13. Аксамітаў, А. С. Беларуска-славянскія і беларуска-неславянскія ізафраземы – падабенства і адрозненне / А. С. Аксамітаў // Slavia Orientalis. – 1999. – Т. XLVIII, № 2. – С. 269–279.

14. Мокиенко, В. М. Образы русской речи: историко-этимологические и этнолингвистические очерки фразеологии / В. М. Мокиенко. – Л., 1986. – С. 73.

15. Иванов, В. В. Славянская мифология / В. В. Иванов // Мифы народов мира: энцикл. – М., 1980. – Т. 2. – С. 450–456.

16. Бахтин, М. М. Формы времени и хронотопа в романе. Очерки по исторической поэтике / М. М. Бахтин // Вопросы литературы и эстетики. – М., 1975. – С. 234–407.

17. Телия, В. Н. Русская фразеология. Семантический, прагматический и лингвокультурологический аспекты / В. Н. Телия. – М., 1996. – С. 175.

18. Лакофф, Дж. Метафоры, которыми мы живем / Дж. Лакофф, М. Джонсон; пер. с англ. А. Н. Баранова, А. В. Морозовой; под ред. и с предисл. А. Н. Баранова. – М., 2004. – С. 35.

19. Talmy, L. The Relation of Grammar to Cognition / L. Talmy // Topics in Cognitive Linguistics / Ed. Rudzka-Ostin B. – Amsterdam, 1988. – P. 165–205.

20. Славянские древности: этнолингвистический словарь / под ред. Н. И. Толстого. – М., 1995. – Т. 3. – С. 11.

21. Бирих, А. К. Русская фразеология. Историко-этимологический словарь / А. К. Бирих. – М., 2005. – С. 784.

## Summary

In the given article the author presents the results of the comparative research of the category of space in Belorussian and English phraseology and reveals common features and idioethnical peculiarites in space perception and its verbalization.

*Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт*

*22.12.2010 г.*

*УДК 81:008+81'23+81'27*

*Т. А. ЯЧНАЯ*

# АНАЛІЗ АСАЦЫЯТЫЎНАГА ПОЛЯ *'МАРАЛЬНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ'* ЯК ІНСТРУМЕНТ ДАСЛЕДАВАННЯ МОЎНАЙ СВЯДОМАСЦІ

У эпоху глабалізацыі грамадства, калі адбываецца агульная сусветная палітычная, эканамічная і культурная інтэграцыя і ўніфікацыя, даводзіцца назіраць і своеасаблівую пераацэнку каштоўнасцей, у тым ліку і маральных. Гэты працэс знаходзіць сваё адлюстраванне ў мове і не можа заставацца па-за ўвагай лінгвістаў.

Як прынята лічыць, на станаўленне еўрапейскай этычнай традыцыі найбольшы ўплыў аказала філасофская сістэма Арыстоцеля, які вылучыў наступныя «вышэйшыя» маральныя каштоўнасці: шчасце і сэнс жыцця, дабро і зло, свабода і адказнасць, сумленне і абавязак, гонар і годнасць, любоў, цнота і загана. Усё вышэйпералічанае, згодна з Арыстоцелем, праяўляецца ў чалавеку як вынік выхавання (сям'ёй, асяроддзем, дзяржавай). І хоць каштоўнасці на сённяшні дзень характарызуюцца ў гуманітарных даследаваннях як дынамічная сістэма, можна меркаваць, што за ўвесь гэты час арыстоцелеўская катэгарызацыя кардынальным чынам не памянялася.

Тыповае для сучасных гуманітарных ведаў вызначэнне «маральных каштоўнасцей» гучыць наступным чынам: «Маральныя каштоўнасці – гэта перакананні людзей, якія вызначаюць іх светапогляд і ўчынкі» [1]. Пад дынамічнасцю сістэмы разумеюць зменлівую суб'ектыўную напоўненасць існуючых аб'ектыўных катэгорый. Аднак наяўнасць аб'ектыўных каштоўнасцей зусім не азначае таго, што грамадства аўтаматычна прымае іх у якасці жыццёвых рэгулятываў. Каб гэта адбылося, неабходна зрабіць гэтыя паняцці часткай чалавечай свядомасці.

Мова з'яўляецца адным з асноўных прылад фарміравання свядомасці чалавека. Яе роля настолькі вялікая, што ў апошнія дзесяць гадоў у навуцы нават вылучылася такое паняцце, як '*моўная свядомасць*'. Я. Ф. Тарасаў вызначае моўную свядомасць як «сукупнасць вобразаў свядомасці, якія фарміруюцца і рэалізуюцца з дапамогай моўных сродкаў – слоў, свабодных і ўстойлівых словазлучэнняў, сказаў, тэкстаў і асацыятыўных палёў» [2]. У якасці матэрыялу для аналізу моўнай свядомасці выкарыстоўваецца асацыятыўнае поле [3]. Наяўнасць таго ці іншага слова ў моўнай свядомасці паддоследных суб'ектаў, засвоенага ў поўным семантычным аб'ёме, сведчыць

аб сфарміраванасці яго паняційнага апарату і ўсвядомленым карыстанні доследным паняццем. Такім чынам, калі слова прысутнічае ў мове, яно становіцца часткай свядомасці. Каштоўнасці, якія існуюць у моўнай свядомасці – гэта, як правіла, так званыя адносныя, суб'ектыўныя каштоўнасці, якія кожны індывід свядома ці неўсвядомлена выбірае, як найбольш прыдатныя менавіта для яго, беручы за аснову назапашаны сацыяльны капітал.

У нашым даследаванні мы ставілі мэту адлюстраваць наяўнасць у моўнай свядомасці носьбітаў беларускай мовы слоў са значэннем '*маральныя каштоўнасці*' і прасачыць змены, якія выяўляе семантычная структура ядра псіхалагічна-рэальнага значэння словазлучэння '*маральныя каштоўнасці'* ў залежнасці ад узросту. Для дасягнення гэтай мэты мы правялі ланцужковы асацыятыўны эксперымент, у якім удзельнічалі прадстаўнікі трох узроставых груп: падлеткі (12–18 гадоў), моладзь (17–22 гады), дарослыя (больш за 22 гады).

Паддоследным прапанавалася запоўніць анкету, дзе трэба было пазначыць максімальна магчымую колькасць слоў, якія асацыіруюцца ў іх з паняццем *'маральныя каштоўнасці'*. Час правядзення эксперымента фармальна не абмяжоўваўся, але, паводле нашых назіранняў, сярэдні час запаўнення анкеты не перавышаў трох хвілін. Паддоследных прасілі рэагаваць хутка, не разважаючы. Анкеты запаўняліся па-беларуску. Удзельнікамі эксперымента былі вучні і настаўнікі беларускамоўных гімназій г. Мінска, студэнты і выкладчыкі філалагічнага і гістарычнага факультэтаў БДУ, студэнты БДТУ і БДАТУ, МДЛУ, супрацоўнікі НАН Беларусі, наведвальнікі сустрэч, якія арганізуе ТБМ і г. д. Усе паддоследныя вызначалі сваю ступень валодання беларускай мовай як «высокая».

У ходзе эксперымента быў апытаны 201 чалавек у групе I («Падлеткі»), 232 чалавекі у группе II («Моладзь») і 224 – у групе III («Дарослыя»). Было атрымана 992 рэакцыі (I група), 1288 рэакцый (II група) і 1567 рэакцый (III група).

Паводле матэрыялаў, атрыманых у час эксперымента, былі пабудаваны асацыятыўныя палі, аналіз ядра якіх і прыводзіцца ў дадзенай працы.

Мы лічым, што палевую структуру мае не толькі асацыятыўнае поле, але і само яго ядро, таксама арганізаванае паводле палевага прынцыпу. Найбольш частотная рэакцыя (радзей, рэакцыі) утварае цэнтр ядра, далей, грунтуючыся на прынцыпе частотнасці, вылучаюцца блізкая, далёкая і крайняя перыферыя [4].

Зыходзячы з гэтага меркавання, мы прадставілі частку матэрыялаў, атрыманых у ходзе нашага эксперымента, у выглядзе табліцы, якая ілюструе своеасаблівае міні-поле, утворанае найбольш частотнымі рэакцыямі на зададзены стымул.

У табл. 1 прадстаўлены **цэнтр ядра** асацыятыўных палёў, пабудаваных у выніку працы з трыма групамі (у дужках прыведзеная агульная колькасць рэакцый).

*Табліца 1.* **Цэнтр ядра асацыятыўных палёў**

| Цэнтр ядра | | |
|---|---|---|
| падлеткі | моладзь | дарослыя |
| Павага (54)<br>Дабрыня (55) | Павага (80) | Павага (60) |

У табл. 2 прадстаўлена **блізкая перыферыя** асацыятыўных палёў.

*Табліца 2.* **Блізкая перыферыя асацыятыўных палёў**

| Блізкая перыферыя | | |
|---|---|---|
| падлеткі | моладзь | дарослыя |
| Сям’я (39) | Дабрыня (56) | Дабрыня (59) |
| Чалавек (38) | Любоў (55)<br>Сяброўства (58) | Любоў (56)<br>Добразычлівасць (51) |

У табл. 3 прадстаўлена **далёкая перыферыя** асацыятыўных палёў.

*Табліца 3.* **Далёкая перыферыя асацыятыўных палёў**

| Далёкая перыферыя | | |
|---|---|---|
| падлеткі | моладзь | дарослыя |
| Радзіма (26)<br>Любоў (23)<br>Добразычлівасць (22)<br>Сумленнасць (21)<br>Сяброўства (20)<br>Адносіны (19)<br>Мова (19) | Каханне (42)<br>Сям’я (39)<br>Добразычлівасць (39)<br>Справядлівасць (35)<br>Радзіма (33)<br>Сумленнасць (31)<br>Адказнасць (27)<br>Патрыятызм (21)<br>Ветлівасць (21)<br>Шчырасць (20) | Адказнасць (41)<br>Сумленнасць (35)<br>Свабода (31)<br>Гонар (29)<br>Каханне (28)<br>Шчырасць (27)<br>Сумленне (24)<br>Духоўнасць (24)<br>Нормы (24)<br>Сям’я (24)<br>Мужнасць (21)<br>Праўдзівасць (21)<br>Сціпласць (21)<br>Словы з прыстаўкай узаема-<br>(напр. узаемадапамога) (21)<br>Міласэрнасць (21) |

У табл. 4 прадстаўлена **крайняя перыферыя** асацыятыўных палёў.

*Табліца 4.* **Крайняя перыферыя асацыятыўных палёў**

| Крайняя перыферыя | | |
|---|---|---|
| школьнікі | студэнты | дарослыя |
| Людзі (17)<br>Дапамога (17)<br>Мараль (17)<br>Каштоўнасці (17)<br>Жыццё (17) | Міласэрнасць (17)<br>Свабода (17)<br>Каштоўнасці (17)<br>Словы з прыстаўкай узаема-<br>(напр. узаемадапамога) (17) | Вернасць (17)<br>Годнасць (17)<br>Патрыятызм (17)<br>Прыстойнасць (17)<br>Чуласць (17) |

*Працяг табл. 4*

| Крайняя перыферыя | | |
|---|---|---|
| школьнікі | студэнты | дарослыя |
| Паводзіны (16)<br>Свабода (15)<br>Словы з прыстаўкай сама- (напр. самасвядомасць) (14)<br>Душа (13)<br>Шчырасць (13)<br>Ветлівасць (12)<br>Розум (12)<br>Свой (і яго словаформы: свае, сваё и т. д.) (11)<br>Культура (11)<br>Родныя (10)<br>Адукацыя (10)<br>Адказнасць (10)<br>Грамадазнаўства (10)<br>Гонар (10)<br>Міласэрнасць (10)<br>Каханне (10) | Гонар (15)<br>Гуманнасць (15)<br>Словы з прыстаўкай сама- (15)<br>Цярплівасць (15)<br>Старэйшыя (14)<br>Вернасць (14)<br>Мужнасць (13)<br>Працавітасць (12)<br>Мова (11)<br>Спагадлівасць (10)<br>Жыццё (10)<br>Кемлівасць (10) | Чэснасць (17)<br>Ветлівасць (14)<br>Талерантнасць (14)<br>Хрысціянства (14)<br>Культура (14)<br>Справядлівасць (14) |

У ходзе нашага даследавання была эксперыментальна выяўлена семантычная структура псіхалагічна-рэальнага значэння словазлучэння ‘*маральныя каштоўнасці’*. Даследаванне псіхалагічна-рэальнага значэння слова (а ў нашым выпадку – словазлучэння) з’яўляецца надзвычай перспектыўным, паколькі дае магчымасць падысці да вывучэння семантычнай напоўненасці таго ці іншага культурнага канцэпта. Такія даследаванні дазваляюць прасачыць не толькі працэс станаўлення паняцця ‘*маральныя каштоўнасці*’ ў моўнай свядомасці беларусаў, але і, грунтуючыся на тым, што «значэнне слова ўяўляе сабой дынамічнае, а не статычнае ўтварэнне» [5], непасрэдна назіраць за яго развіццём у сінхраніі.

У табл. 5 мы ў алфавітным парадку прадставілі найбольш частотныя словы са значэннем ‘*маральныя каштоўнасці*’, выяўленыя ў часе нашага эксперымента. Так, на прыкладзе розных узроставых груп, наглядна прадстаўленыя змены, што адбываюцца ў семантычнай структуры дадзенага словазлучэння.

*Табліца 5.* **Самыя частотныя словы са значэннем *‘маральныя каштоўнасці’***

| Слова | Падлеткі | Моладзь | Дарослыя |
|---|---|---|---|
| Адказнасць | КП 17 (10) | ДП 7 (27) | ДП 1 (41) |
| Адносіны | ДП 6 (19) | – | – |
| Адукацыя | КП 16 (10) | – | – |
| Вернасць | – | КП 10 (14) | КП 1 (17) |
| Ветлівасць | КП 11 (12) | ДП 10 (21) | КП 7 (14) |
| Годнасць | – | – | КП 2 (17) |

*Працяг табл. 5*

| Слова | Падлеткі | Моладзь | Дарослыя |
|---|---|---|---|
| Гонар | КП 19 (10) | КП 5 (15) | ДП 4 (29) |
| Грамадазнаўства | КП 18 (10) | – | – |
| Гуманнасць | – | КП 6 (15) | – |
| Дабрыня | ЦЯ 2 (55) | БП 1 (56) | БП 1 (59) |
| Дапамога | КП 2 (17) | – | – |
| Добразычлівасць | ДП 3 (22) | ДП 3 (39) | БП 3 (51) |
| Духоўнасць | – | – | ДП 8 (24) |
| Душа | КП 9 (13) | – | – |
| Жыццё | КП 5 (17) | КП 15 (10) | – |
| Каханне | КП 21 (10) | ДП 1 (42) | ДП 5 (28) |
| Каштоўнасці | КП 4 (17) | КП 3 (17) | – |
| Кемлівасць | – | КП 16 (10) | – |
| Культура | КП 14 (11) | – | КП 10 (14) |
| Любоў | ДП 2 (23) | БП 2 (55) | БП 2 (56) |
| Людзі | КП 1 (17) | – | – |
| Мараль | КП 3 (17) | – | – |
| Міласэрнасць | КП 20 (10) | КП 1 (17) | ДП 15 (21) |
| Мова | ДП 7 (19) | КП 13 (11) | – |
| Мужнасць | – | КП 11 (13) | ДП 11 (21) |
| Нормы | – | – | ДП 9 (24) |
| Павага | ЦЯ 1 (54) | ЦЯ 1 (80) | ЦЯ 1 (60) |
| Паводзіны | КП 6 (16) | – | – |
| Патрыятызм | – | ДП 8 (21) | КП 3 (17) |
| Праўдзівасць | – |  | ДП 12 (21) |
| Працавітасць | – | КП 12 (12) |  |
| Прыстойнасць | – | – | КП 4 (17) |
| Радзіма | ДП 1 (26) | ДП 5 (33) | – |
| Родныя | КП 15 (10) |  |  |
| Розум | КП 12 (12) |  |  |
| Свабода | КП 7 (15) | КП 2 (17) | ДП 3 (31) |
| Свой (і яго словаформы: свае, сваё і г. д.) | КП 13 (11) | – | – |
| Словы з прыстаўкай сама- (напр. самасвядомасць) | КП 8 (14) | КП 7 (15) | – |
| Словы з прыстаўкай узаема- (напр. узаемадапамога) | – | КП 4 (17) | ДП 14 (21) |
| Спагадлівасць | – | КП 14 (10) | – |
| Справядлівасць | – | ДП 4 (35) | КП 11 (14) |
| Старэйшыя |  | КП 9 (14) | – |
| Сумленнасць | ДП 4 (21) | ДП 6 (31) | ДП 2 (35) |
| Сумленне | – | – | ДП 7 (24) |
| Сціпласць | – | – | ДП 13 (24) |
| Сяброўства | ДП 5 (20) | БП 3 (58) | – |
| Сям’я | БП 1 (3) | ДП 2 (39) | ДП 10 (24) |
| Талерантнасць | – | – | КП 8 (14) |

*Працяг табл. 5*

| Слова | Падлеткі | Моладзь | Дарослыя |
|---|---|---|---|
| Хрысціянства | – | – | КП 9 (14) |
| Цярплівасць | – | КП 8 (15) | – |
| Чалавек | БП 2 (38) | – | – |
| Чуласць | – | – | КП 5 (17) |
| Чэснасць | – | – | КП 6 (17) |
| Шчырасць | КП 10 (13) | ДП 10 (20) | ДП 6 (27) |

* З а ў в а г а. ЦЯ – цэнтр ядра, БП – блізкая перыферыя, ДП – далёкая перыферыя, КП – крайняя перыферыя; лічба, якая ідзе непасрэдна за абрэвіятурай, сведчыць аб месцазнаходжанні слова ў межах указанай перыферыі; лічба ў дужках паказвае агульную колькасць рэакцый, атрыманых у ходзе эксперымента.

Пры станаўленні паняцця (эксперымент у групе «Падлеткі») пераважае сістэма асабістых каштоўнасцей. Вялікая колькасць рэакцый, якія змяшчаюць формы слова *свой*, сведчаць аб дамінаванні індывідуальна значнага вопыту над грамадска значным. Наяўнасць такіх рэакцый, як *адносіны, адукацыя, грамадазнаўства* (школьны прадмет), *паводзіны, розум, родныя* дэманструе кірунак каштоўнастных арыенціраў школьнікаў. З узростам прынцып рэагавання мяняецца, рэакцыі набываюць большую абстрактнасць і ўніверсальнасць [6].

43% рэакцый (13 слоў) супадаюць у ядрах усіх трох палёў: *адказнасць, ветлівасць, гонар, дабрыня, добразычлівасць, каханне, любоў, міласэрнасць, павага, свабода, сумленнасць, сям'я, шчырасць*, аднак у залежнасці ад групы займаюць у структуры ядра рознае становішча. Так, напрыклад, рэакцыя *павага* з'яўляецца своеасаблівым цэнтрам ядра асацыятыўнага поля '*маральныя каштоўнасці*' ў моўнай свядомасці беларусаў. Наступным па частотнасці ва ўсіх узроставых групах з'яўляецца рэакцыя *дабрыня*. А вось рэакцыя *сям'я*, якая ў групе «Падлеткі» ідзе следам за імі і складае частку блізкай перыферыі ядра гэтай групы, сыходзіць на далёкую перыферыю ў групах «Моладзь» і «Дарослыя» з паступовым памяншэннем частотнасці рэагавання.

Цікавай падаецца эвалюцыя значнасці рэакцый *гонар, адказнасць, свабода, добразычлівасць, дабрыня, шчырасць, міласэрнасць* (усяго 9 слоў з 13 агульных для ўсіх трох палёў). Калі сярод рэакцый у групе «Падлеткі» дадзеныя словы знаходзяцца ў далёкай і крайняй перыферыі, то с узростам адбываецца іх зрушэнне ў раён блізкай і далёкай перыферыі (альбо ў верхнія пазіцыі крайняй перыферыі), пры гэтым частотнасць ужывання дадзеных рэакцый значна павялічваецца (рэакцыя *адказнасць*: «Падлеткі» – 10; «Моладзь» – 27; «Дарослыя» – 41; рэакцыя *гонар*: «Падлеткі» – 10; «Моладзь» – 15; «Дарослыя» – 29; рэакцыя *свабода*: «Падлеткі» – 15; «Моладзь» – 17; «Дарослыя» – 34).

Ёсць група рэакцый, якія дасягаюць піку частотнасці ў сярэдняй групе, сярод іх *павага*, *сям'я, каханне, ветлівасць*. Так, напрыклад, слова *каханне* знаходзіцца на крайняй перыферыі ў групе «Школьнікі» (10 рэакцый), а ў групе «Студэнты» перамяшчаецца на першую пазіцыю далёкай перыферыі (42 рэакцыі), у групе «Дарослыя» яно захоўвае сваё месца ў рамках да-

лёкай перыферыі, але яго частотнасць значна скарачаецца (28 рэакцый). Рэакцыя *сям’я* мае аднолькавую частотнасць (39) і адносіцца да блізкай і далёкай перыферыі як у групе «Падлеткі» так і ў групе «Моладзь», а у групе «Дарослыя» частотнасць гэтай рэакцыі рэзка падае (24) і яна змяшчаецца ў ніжнія слаі далёкай перыферыі.

Рэакцыя *сумленнасць* займае асаблівае становішча: яна ва ўсіх трох групах, з аднаго боку, нібыта застаецца ў межах далёкай перыферыі, але, з іншага боку, у групе «Дарослыя» прадстаўленая двума аднакарэннымі словамі *сумленнасць* і *сумленне*, якія, пры сумаванні колькасці рэакцый, выводзяць гэтае слова на першую па частотнасці пазіцыю.

Ёсць пэўная колькасць рэакцый, якія сустракаюцца ў дзвюх групах і якіх няма ў трэцяй. Так, у групах «Падлеткі» і «Моладзь» такіх рэакцый шэсць: *радзіма, сяброўства, мова, каштоўнасці, жыццё, словы з прыстаўкай сама-*, у групах «Моладзь» і «Дарослыя» іх пяць: *патрыятызм, вернасць, мужнасць, словы з прыстаўкай узаема-*, *справядлівасць* і, нават, ёсць адно слова, якое аб’ядноўвае групы «Падлеткі» і «Моладзь», – *культура*.

Цікава, што частотнасці некаторых рэакцый з узростам павялічваецца. Так, калі ў групе «Падлеткі» слова *сяброўства* складала 20 рэакцый, то ў групе «Моладзь» яно склала ўжо 58 рэакцый. Рэакцыя мужнасць з’яўляецца ў крайняй перыферыі групы «Моладзь» (13), а ў групе «Дарослыя» дадзенае слова перамяшчаецца ў раён далёкай перыферыі, і колькасць рэакцый павялічваецца да 21. Выключэнні (памяншэнне колькасці рэакцый) складаюць словы *мова* («Падлеткі» – 19, «Моладзь» – 11) і *патрыятызм* («Моладзь» – 21, «Дарослыя» – 17).

Таксама асобную групу складаюць рэакцыі, унікальныя для кожнай узроставай групы. У групе «Падлеткі» такіх рэакцый 12, у групе «Моладзь» – 6, а ў групе «Дарослыя» – 10.

Адной з істотных праблем, з якой мы сутыкнуліся падчас правядзення эксперымента, было тое, што працэсу асацыіравання падлягала ўстойлівае славазлучэнне, якое належыць да абстрактнай лексікі. Такім чынам, шмат рэспандэнтаў (асабліва ва ўзроставай групе «Падлеткі») рэагавалі не так на самое паняцце «*маральныя каштоўнасці*», як на яго складнікі. У шматлікіх выпадках асацыяванне зводзілася да з’яўлення такіх рэакцый, як *мараль* альбо *каштоўнасці*, прычым дадзеныя рэакцыі былі дастаткова частотнымі. Аднак, што сцвярджаецца і даследаваннямі іншых аўтараў у больш сталым узросце падобныя рэакцыі паступова знікаюць (у групе «Дарослыя» ўжо не сустракаецца рэагавання, непасрэдна звязанага са стымулам) [7].

Як адзначалася вышэй, 13 слоў (43%) сустракаюцца ў рэакцыях усіх узроставых груп. Дадзеныя словы з’яўляюцца найбольш частотнымі, паколькі яны складаюць большасць (1193) з усёй сукупнасці аналізаваных рэакцый (2144) – больш за 55%. І, нягледзячы на тое, што мы атрымалі даныя эксперыментальным шляхам, а не агульнапрынятым аналізам артыкулаў энцыклапедычных і тлумачальных слоўнікаў, амаль усе частотныя рэакцыі нашага эксперымента абавязкова ўтрымліваюць у сваёй структуры

сему *мараль*, радзей – сему *каштоўнасць*, яшчэ радзей – абедзве семы адначасова. Для верыфікацыі дадзенага зацвярджэння мы пры дапамозе метаду кампанентнага аналізу вывучылі розныя слоўнікавыя артыкулы, прысвечаныя вышэйпералічаным словам, і вызначылі, што дэнататыўнай інтэгральнай семай (архісемай – паводле класіфікацыі В. Г. Гака [8]) большасці ўсіх вышейпералічаных частотных рэакцый з’яўляецца сема *мараль* (*маральны*). Разгледзім некаторыя вызначэнні: «*Адказнасць. У жыцці кожны чалавек амаль няспынна робіць пэўныя дзеянні і ўчынкі – на службе, дома, у грамадскіх месцах, за межамі краіны і г. д. Усе яны рэгламентаваны адпаведнымі нормамі* ***маралі*** *і права. <…> Пачуццё адказнасці – адна з важнейшых якасцей асобы. Яна непарыўна звязана з такімі рысамі, як чалавечы гонар, чалавечая годнасць, сумленнасць, прыстойнасць, абавязковасць. Таму любы ўчынак найперш заснаваны на* ***маральнай*** *адказнасці. <…> Для павышэння адказнасці найперш неабходна* ***маральнае, духоўнае*** *аздараўленне грамадства*» [9]. Цікава, што ў слоўніку звязваюцца паняцці *адказнасць, гонар і сумленнасць*, якія складаюць больш за 20% ад найбольш частотных рэакцый. Таксама ў іншым слоўніку *адказнасць* падаецца як «*катэгорыя, якая адлюстроўвае асаблівыя сацыяльныя і* ***маральна****-прававыя адносіны асобы да грамадства ў плане выканання свайго маральнага абавязку і прававых норм*» [10]. А вось што было знойдзена пры пошуках вызначэння паняцця «ветлівасць»: « <…> стрыжнем характару з’яўляюцца ***маральна***-валявыя якасці. <…> ***Маральныя*** рысы характару могуць быць як станоўчыя (працавітасць, акуратнасць, стараннасць, беражлівасць, гуманнасць, чуласць, справядлівасць, спагадлівасць, уважлівасць, *ветлівасць*, шчырасць, дабрыня), так і адмоўныя» [11] і г. д.

Праблема вылучэння архісемы значэння цесна звязаная з праблемай катэгарызацыі прадметаў наогул, паколькі архісема – гэта сема, якая дазваляе аднесці прадмет да вызначанага класу [12].

Такім чынам, цягам засваення паняцця адбываецца своеасаблівае ўшчыльненне ядра: выкрышталізоўваецца цэнтр ядра, павялічваецца далёкая перыферыя і памяншаецца крайняя. Так, у групе «Падлеткі» ядро складаецца з 2 рэакцый, далёкая перыферыя з 7, а крайняя перыферыя з 21; у групе «Моладзь» ядро складаецца ўжо толькі з адной рэакцыі, далёкая перыферыя павялічваецца да 10, а крайняя памяншаецца да 16; у групе «Дарослыя» – змены тычацца толькі далёкай і крайняй перыферый, якія ўтрымліваюць 15 і 11 слоў адпаведна.

Паняцце засвойваецца і (зыходзячы з таго, што маральныя каштоўнасці – паняцце дынамічнае) развіваецца. У сувязі з гэтым змяняецца і колькасць унікальных рэакцый. У группе «Падлеткі» колькасць унікальных рэакцый максімальная. Гэта звязана з тым, што і само паняцце яшчэ цалкам не сфарміраванае ў моўнай свядомасці паддоследных, аднак працэс яго фармавання ўжо пачаўся. Гэта пацвярджаецца тым, што ўнікальныя рэакцыі ў асноўным знаходзяцца ў раёне крайняй перыферыі (10 слоў з 12). У групе «Моладзь» колькасць унікальных рэакцый мінімальная, і ўсе яны таксама знаходзяцца ў раёне крайняй перыферыі (6 слоў з 6). Гэта тлумачыцца тым, што ў моў-

най свядомасці паняцце ўжо цалкам сфарміравалася. А ў групе «Дарослыя» колькасць унікальных рэакцый зноў павялічваецца. Прычым яны з'яўляюцца не толькі ў раёне крайняй перыферыі (6 слоў), але таксама і ў далёкай перыферыі (4 словы). Дадзеная з'ява сведчыць аб тым, што псіхалагічна-рэальнае значэнне словазлучэння *'маральныя каштоўнасці'* працягвае развівацца, набываючы ў моўнай свядомасці новы статус (аб гэтым сведчыць з'яўленне такіх рэакцый, як *норма, духоўнасць, хрысціянства*). Грунтуючыся на выніках эксперымента, можна выказаць меркаванне, што развіццё псіхалагічна-рэальнага значэння адбываецца хвалепадобна: працэс станаўленне – развіццё – засваенне – ускладненне.

Метадам кампанентнага аналізу (шляхам аналізу адпаведных дэфініцый з тлумачальных слоўнікаў і энцыклапедычных даведнікаў) мы вылучылі ў найбольш частотных рэакцыях, атрыманых у ходзе эксперымента, архісему *мараль*, якая сведчыць аб тым, што гэтыя словы маюць дачыненне да маральна-этычнай лексікі.

## Літаратура

1. Рождественский, Ю. В. Словарь терминов. Мораль. Нравственность. Этика / Ю. В. Рождественский. – М., 2002. – 88 с.

2. Тарасов, Е. Ф. Языковое сознание и его познавательный статус / Е. Ф. Тарасов // Проблемы психолингвистики: теория и эксперимент. – М., 2001. – С. 306.

3. Тарасов, Е. Ф. Языковое сознание и его познавательный статус. – С. 309.

4. Клименко, А. П. Лексическая системность и ее психолингвистическое изучение: учеб. пособие / А. П. Клименко. – Минск, 1974. – 108 с.

5. Выготский, Л. С. Мышление и речь / Л. С. Выготский. – 5-е изд. – М., 1999. – 352 с.

6. Титова, А. И. Устойчивые ассоциации лексем в некоторых славянских языках: дис. ... канд. филол. наук: 10.02.19 / А. И. Титова. – Минск, 1975. – 120 л.

7. Грищук, Е. И. Абстрактная лексика в языковом сознании: Экспериментальное исследование языкового сознания старшеклассников: дис. ... канд. филол. наук: 10.02.19 / Е. И. Грищук. – Воронеж, 2002. – 248 л.

8. Гак, В. Г. Семантические структуры слова как компонент семантической структуры высказывания / В. Г. Гак // Семантическая структура слова. Психолингвистические исследования. – М., 1971. – С. 78–95.

9. Чалавек і грамадства: Энцыклапедычны даведнік. – Менск: БелЭН, 1998 [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://slounik.org/155277.html. – Дата доступу: 04.10.2011.

10. Кароткі тлумачальны слоўнік філасофскіх, сацыяльных і культуралагічных тэрмінаў / Гродзен. дзярж. ун-т ім. Я. Купалы; склад. М. Н. Бяспамятных [і інш.]. – Гродна, 1992. – 51 с.

11. Чалавек і грамадства: энцыклапедычны даведнік.

12. Keil, F. C. A characteristic to defining shift in the development of word meaning / F. C. Keil, N. Batterman // Journal of Verbal Learning and Verbal Behaviour. – Cambridge, 1984. – P. 221–236.

## Summary

The nucleus of the associative field of the word-combination 'maralnye kashnounastsi' (moral values) is being analyzed in the article. The author describes the results of the associative experiment realized in three age-groups of the Byelorussian native speakers. The changes of the structure of the associative field and the dynamic of the development of the psychological and real meaning are being studied in synchronicity.

*Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт* *19.01.2011 г.*

*УДК 811.161.3’342.42*

*В. А. МАНДЗІК*

# ФАНЕТЫЧНАЯ ВАРЫЯНТНАСЦЬ У ГАЛІНЕ КАНСАНАНТЫЗМУ (НА ПРЫКЛАДЗЕ МАЎЛЕННЯ ДЫКТАРАЎ І КАРЭСПАНДЭНТАЎ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ)

Строгае захаванне лексічных, граматычных і фанетычных норм у вуснай і пісьмовай формах літаратурнай мовы з’яўляецца неабходнай умовай, якая забяспечвае адназначнасць і агульназразумеласць інфармацыі, што перадаецца і ўспрымаецца. У адносінах да гукавога ладу вуснай мовы паняцце правільнасці звычайна з’яўляецца менш дакладным і акрэсленым, чым гэта назіраецца ў адносінах да іншых узроўняў. На сённяшні дзень сфармуляваны асноўныя правілы беларускага літаратурнага вымаўлення прадпісальнага характару, аднак даследчыкі адзначаюць, што ў рэальнасці норма і узус часта не супадаюць [1; 2]. Кадыфікацыя звычайна адстае ад нормы і фіксуе толькі тое, што існуе на працягу доўгага часу і, на думку нармалізатараў, мае падставы для замацавання ў літаратурнай мове. Літаратурнае маўленне не можа быць цалкам аднастайным, аднолькавым ва ўсіх носьбітаў мовы, але ў той ці іншай ступені дазваляе індывідуальную варыятыўнасць, спецыфічныя гукавыя рэалізацыі рознага паходжання. Даследаванне фанетычнай варыянтнасці ў маўленні носьбітаў беларускай літаратурнай мовы дазволіць выявіць дынаміку арфаэпічных норм і тэндэнцыі іх развіцця на сучасным этапе.

Сучасная беларуская сацыялінгвістычная сітуацыя не спрыяе выпрацоўцы і замацаванню адзіных вымаўленчых норм: «Валоданне нормамі вуснай літаратурнай мовы і ўменне выкарыстоўваць моўныя сродкі ў розных камунікатыўных актах у адпаведнасці з унутраным зместам і мэтамі выказвання ў сучаснай моўнай сітуацыі сустракаюцца ў вельмі абмежаванага кола носьбітаў мовы» [3]. Таму так важна даследаваць вусную беларускую мову, якая гучыць у электронных сродках масавай інфармацыі. Як вядома, іх асноўная функцыя заключаецца ў своечасовым і аб’ектыўным інфармаванні пра падзеі, з’явы, факты ў розных сферах жыцця грамадства. Важным з’яўляецца і тое, што ЭСМІ ўздзейнічаюць на маўленча-мысліцельныя паводзіны чалавека, выражаюць і фарміруюць маўленчы ідэал асобы. Радыёвяшчанне – гэта якраз той сродак масавай інфармацыі, які выкарыстоўвае мову толькі ў яе вуснай форме. Маўленчы воблік беларускага радыё ствараюць прафесійныя носьбіты літаратурнай мовы, для якіх галоўным інструментам

працы з’яўляецца вуснае слова. Дыктары і карэспандэнты пераважна дэманструюць высокую культуру маўлення, што дазваляе грамадству арыентавацца на мову радыё як на ўзорную. Жывая мова ў эфіры з’яўляецца цяпер найбольш буйным пластом нацыянальнай культуры. Таму ёсць падстава сцвярджаць, што «лінгвістычны аспект дзейнасці электронных сродкаў інфармацыі з расшырэннем іх уздзеяння на сучаснае грамадства набывае асаблівую актуальнасць» [4].

Першая ў Беларусі радыёстанцыя пачала весці свае перадачы ў 1925 г. З таго часу і да сённяшняга дня радыё выпрацоўвае практычна неабходныя формы класіфікацыі вуснага матэрыялу, узмацняе сувязі розных форм мовы з патрэбамі практыкі, дазваляе паслядоўна рэалізавацца імкненню да як мага больш поўнай узгодненасці і гарманічнасці гучання беларускага слова.

Як вядома, дыктары радыё пазбаўлены магчымасці выкарыстоўваць міміку і жэсты, таму яны найбольш поўна рэалізуюць усе рэсурсы свайго голасу (дыяпазон, магчымасці тонавай, меладычнай і рытмічнай варыянтнасці), а таксама веданне правіл вымаўлення. Тым не менш назіранні паказваюць, што на фанетычны бок маўлення часам не звяртаецца належная ўвага. Між тым менавіта ён з’яўляецца важным паказчыкам агульнага ўзроўню моўнай культуры і ўплывае на ўспрыманне інфармацыі слухачом. Пры аналізе мовы радыё можна прасачыць пэўныя заканамернасці ў функцыянаванні варыянтаў вымаўленчай нормы. Функцыянаванне арфаэпічных варыянтаў «уцягваецца ў абсяг дзеяння нормы і ў той жа час змяняе саму гэту норму і ў колькасных, і ў якасных адносінах» [5]. Таму перш чым праводзіць строгую нарматыўную кадыфікацыю, неабходна прааналізаваць фанетычныя варыянты ў беларускім літаратурным маўленні.

З гэтай мэтай на працягу двух тыдняў (з 15 па 31 сакавіка 2011 г.) мы запісвалі беларускае маўленне дваццаці чатырох дыктараў і карэспандэнтаў радыё: Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і канала «Культура». Такім чынам, інфармантамі сталі 6 мужчын і 18 жанчын. Агульная працягласць запісанага матэрыялу склала дзве з паловай гадзіны. У асноўным гэта інфармацыйныя выпускі: «Навіны», «Падзеі дня», «Пастфактум», «Спорт 24», а таксама праграмы «У рытме дня», «Помні імя сваё», «Высокія тэхналогіі» і інш. Два праекты Першага нацыянальнага канала непасрэдна накіраваны на папулярызацыю і замацаванне літаратурных норм: «Роднае слова» (гучыць кожную сераду на працягу дваццаці мінут) і «Моўная хвілінка» (выходзіць тройчы кожны дзень). Такія ж задачы выконвае і праграма «Гаворым па-беларуску» (канал «Культура»).

Пасля шматразовага праслухоўвання запісаных тэкстаў была зроблена выбарачная транскрыпцыя слоў з фанетычнымі з’явамі, якія фарміруюць гукавы фон беларускай мовы, праведзена іх класіфікацыя і апісанне. Сабраны матэрыял абагульнены і прадстаўлены ў дадзеным артыкуле, мэта якога – выявіць заканамернасці ў функцыянаванні арфаэпічных варыянтаў, прааналізаваць фактары, якія ўплываюць на іх узнікненне.

Пры разглядзе асаблівасцей маўлення дыктараў і карэспандэнтаў трэба мець на ўвазе некалькі акалічнасцей. Па-першае, яно мае папярэдне прадуманы характар, а значыць, фанетычная варыянтнасць тут будзе менш адчувальнай, чым у нязмушаным спантанным маўленні. Аднак дыктары як правіла чытаюць загадзя падрыхтаваныя тэксты, а значыць, часцей будуць сустракацца адхіленні ад арфаэпічных норм, выкліканыя ўплывам арфаграфіі. Па-другое, трэба ўлічыць той факт, што даследчыкі адрозніваюць два стылі вымаўлення: размоўны і поўны [6]. Першы характарызуе звычайную размову, калі людзі менш выразна артыкулююць гукі, дапускаюць больш поўную іх асіміляцыю. Поўным стылем карыстаюцца ў афіцыйных абставінах, калі дыкцыя больш выразная, кожны гук вымаўляецца дакладна. Абодва стылі з’яўляюцца літаратурнымі, аднак іх арфаэпічныя нормы не цалкам супадаюць. Напрыклад, перад свісцячымі [з], [с], [з’], [с’] змычныя [д], [т] у поўным стылі не мяняюць сваёй якасці, толькі могуць набываць шчылінны элемент: [*пад*$^{з}$*зо́рны*], [*пат*$^{с}$*садз’і́ц’*]; на пісьме – *падзорны*, *падсадзіць*. У размоўным жа стылі гэтыя гукі могуць вымаўляцца як афрыкаты: [*падз’з’ам’е́л’:е*], [*падз’з’ел’ан’і́ц’*], [*пац’с’ін’і́ц’*], [*пацсадз’і́ц’*]; на пісьме – *падзямелле, падзеляніць, падсініць, падсадзіць* [7]. Наколькі правамернае ўжыванне норм размоўнага стылю ў маўленні дыктараў радыё – пытанне спрэчнае. І ўсё ж ёсць падставы сцвярджаць, што «маўленчы воблік сучасных СМІ складваецца пад істотным уплывам размоўнасці» [8].

Нягледзячы на тое, што дыктары свядома імкнуцца прытрымлівацца ўніфікаванага маўлення, сустракаюцца і адхіленні ад норм літаратурнай мовы на ўсіх узроўнях. У першую чаргу гэта ўжыванне няправільных граматычных форм, напрыклад: *героі Фаўлза нясуць у* ***сябе*** (замест *у сабе*) *таямніцу* (праграма «У рытме дня»), *мы не можам дазволіць* ***сябе*** (замест *сабе*) *паўтарыць гэта ў Лівіі* («Пастфактум»), *у экспазіцыі больш за* **паўтысяч** (замест *паўтысячы*) *работ* («Навіны культуры»), *у першым матчы* ***мацней*** *былі* (замест *былі мацнейшымі*) *хакеісты «Атланта»* («Спорт 24»), *пасяджэнне вясенняй сесіі пачнецца з* ***разгляда*** (замест *разгляду*) *блока міжнародных дакументаў* («Пастфактум»). Сустракаюцца і акцэнталагічныя памылкі: *у тысяча дзевяцьсот* ***шэ́сцьдзясят*** (замест *шэсцьдзяся́т*) *сёмым годзе* («Помні імя сваё»), *кіраўнікі ВНУ* ***сабралі́ся*** (замест *сабра́ліся*) *разам* («Падзеі дня»), ***бы́лі*** (замест *былі́*) *таксама разгледжаны актуальныя пытанні* («Пастфактум»). Разбураецца лагічнасць маўлення ў фразах тыпу: *Можна ўбачыць вялікія вочы мурашоў альбо спевы цыкад* (спевы можна пачуць, а не ўбачыць) – праграма «Высокія тэхналогіі»; *Не выключэннем стаў і ансамбль цымбалістаў «Лілея»* (трэба *Не стаў выключэннем)* – праграма «У рытме дня».

Ступень арфаэпічнай унармаванасці ў значнай ступені залежыць ад тэмпу маўлення: «Змяненне хуткасці артыкуляцыі адбіваецца на ўласцівасцях вымаўленых гукаў» [9]. Сярод носьбітаў мовы звычайна выдзяляюцца групы хутка, павольна і сярэдне гаворачых асоб. Тэмпавыя паказчыкі, што характарызуюць маўленне дыктараў радыё, адпавядаюць і асаблівасцям тэксту, і індывідуальнаму стылю маўлення кожнага дыктара. Так, вядучыя

праграмы «Помні імя сваё» павінны данесці да слухачоў дакладную інфармацыю – прозвішчы, назвы населеных пунктаў, гады нараджэння і г. д. Гэта вымагае выразнай артыкуляцыі і павольнага тэмпу маўлення. Фанетычная варыянтнасць у маўленні гэтых дыктараў носіць спарадычны характар. Вядучыя інфармацыйных праграм часцей праяўляюць індывідуальны тэмп маўлення, фанетычная варыянтнасць мае больш рэгулярны характар. Выявілася, што пры хуткім і нават сярэднім тэмпе маўлення многія дыктары рэдукуюць у словах пэўныя гукі і нават цэлыя склады: [***с’э́мс’ат, шэдз’ас’а́т, во́с’эмс’ат, вас’м’і́дз’эс’ц’і, ты́шчы, г’ідраметацэ́нтра, п’эрагру́жанас’***] замест поўнага вымаўлення [*с’э́мдз’эс’ат, шэс’ц’дз’ас’а́т, во́с’эмдз’эс’ат, вас’м’і́дз’эс’ац’і, ты́с’ачы, г’ідрам’этэацэ́нтра, п’эрагру́жанас’ц’*]; на пісьме – *семдзесят, шэсцьдзясят, восемдзесят, васьмідзесяці, тысячы, гідраметэацэнтра, перагружанасць.* Спалучэнне гукаў, што ўзнікае ў выніку рэдукцыі, не скажае слова да непазнавальнасці, а значыць, часцей за ўсё не ўплывае на ўспрыняцце сэнсу выказвання. Аднак такая з’ява характэрная для размоўнага стылю і не павінна дапускацца ва ўнармаванай мове ЭСМІ.

Найбольш распаўсюджанае ў маўленні дыктараў адхіленне ад арфаэпічнай нормы – адсутнасць перадачы якання ў словах з праклітычнай часціцай **не: [*н’эна́тта, н’это́л’к’і, н’эмо́гуц’*]** замест [*н’ана́тта, н’ато́л’к’і, н’амо́гуць*]; на пісьме – *не надта, не толькі, не могуць.* Гэта тлумачыцца і ўплывам арфаграфіі, і паскарэннем у маўленні. На вымаўленне дыктарамі зычных, акрамя тэмпу, істотны ўплыў аказваюць такія фактары, як якасць гукавога акружэння зычнага або спалучэння зычных і іх становішча (стык слоў, пачатак і сярэдзіна слова, марфемная граніца) [10].

Назіранні паказалі, што дыктары і радыёкарэспандэнты пераважна захоўваюць нормы літаратурнага вымаўлення зычных гукаў, у тым ліку і тых, якія фарміруюць характэрныя фанетычныя ўласцівасці беларускай мовы (фрыкатыўны [г], цвёрдыя [р], [ж], [ш], [ч], вымаўленне як аднаго гука афрыкат [дж], [дз], [дз’], вымаўленне падоўжаных зычных у інтэрвакальным становішчы і інш.). Між тым даследаванне арфаэпічных асаблівасцей радыёмовы, праведзенае Л. Ц. Выгоннай (у 1992–1995 гг.), паказала, што парушэнні ў галіне кансанантызму ў той час былі даволі істотнымі [11]. Так, лінгвістам адзначаны выпадкі мяккага і паўмяккага вымаўлення зацвярдзелага [ч], рэалізацыі мяккай афрыкаты [дз’] як спалучэння [д+з’] і [ц’] як [т’], афрыкаты [дж] – як спалучэння [д+ж], перадачы падоўжаных зычных як простых і г. д. На сённяшні дзень маўленне дыктараў амаль цалкам пазбаўлена такіх хібаў. Намі заўважаны толькі спарадычныя выпадкі адхілення ад арфаэпічнай нормы. Гэта вымаўленне падоўжанага гука ў неўласцівым становішчы (*натхнё́[н:]а* замест *натхнё́[н]а*), адсутнасць перадачы падаўжэння зычнага ў інтэрвакальным становішчы (*жы[ц’]я́* замест *жы[ц:’]я́*), ужыванне выбухнога [g] (*на даро́[g]ах*), а таксама вымаўленне слова *снег* з канцавым гукам [к], які з’яўляецца парным па глухасці выбухному [g] (што адпавядае арфаэпіі рускай мовы).

Асобна варта звярнуцца да вымаўлення мяккіх свісцячых [з'] і [с']. Іх артыкуляцыя ў беларускай мове мае пэўныя асаблівасці: «Зычныя *зь*, *сь* у беларускай мове значна мякчэйшыя, чым у іншых славянскіх мовах, аднак яны не такія мяккія, як польскія *сь, зь.* Эфект іх мяккасці дасягаецца тым, што кончык языка пры іх вымаўленні апускаецца да ніжніх зубоў, месца ўтварэння шчыліны ссоўваецца да сярэдзіны цвёрдага паднябення, сама шчыліна ў канцавой фазе артыкуляцыі становіцца вельмі шырокай. На слых гэтыя гукі робяць уражанне не чыста свісцячых, а шапяляватых зычных» [12]. Аднак у маўленні дыктараў і радыёкарэспандэнтаў названыя гукі часта гучаць як мяккія зубныя [з'], [с'] без шапяляватага адцення і «ўспрымаюцца натуральным носьбітам беларускай мовы як цвёрдыя» [13]. Гэтая з'ява распаўсюджваецца і на асімілятыўнае памякчэнне [з], [с], што прыводзіць да значнай варыятыўнасці ў вымаўленні дадзеных гукаў перад наступнымі мяккімі зычнымі: яны могуць гучаць як мяккія шапяляватыя [з''], [с''], як мяккія зубныя [з'], [с'] або ўвогуле як цвёрдыя.

Асімілятыўнае змякчэнне зычных – адна з вызначальных, характэрных рыс беларускага маўлення. Пад уздзеянне наступных мяккіх зычных у беларускай мове падпадаюць гукі [з], [с], [дз], [ц], [н]. Назіранні за маўленнем дыктараў і радыёкарэспандэнтаў дазваляюць выявіць пэўныя заканамернасці ў перадачы асімілятыўнай мяккасці. Так, незалежна ад становішча ў слове нязначная варыянтнасць назіраецца ў перадачы спалучэнняў **[с+ц'], [з+дз']**: *ча[с'ц']éй, бóльша[с'ц'], [с'ц']я́г, у[з'дз']éяння, вы́е[з'дз']е*, *[з'дз']ярская* (прозвішча). Прычым у такой фанетычнай пазіцыі [з'], [с'] часцей гучаць менавіта як шапяляватыя. Відаць, гэта тлумачыцца тым, што шапяляватае адценне гучання наступных мяккіх зычных [дз] і [ц] істотна адрознівае іх артыкуляцыю ад адпаведных цвёрдых, што аказвае дадатковае ўздзеянне на палаталізацыю папярэдніх [з] і [с] [14]. Заўважым, што «ў канцавых спалучэннях у выніку спрашчэння спалучэнняў зычных яна (асімілятыўная мяккасць. – *В. М.*) часта набывае самастойны характар, асабліва ў мясцовых гаворках, параўн.: літаратурнае [*радасьць*] і дыялектнае [*радась*]» [15]. Такая інтэнцыя назіраецца і ў аднаго з дыктараў (умоўна МА, праграма «Пастфактум»): *неабхóдна[с'], гатóўна[с'], бóльша[с']* замест літаратурнага вымаўлення *неабхóдна[с'ц'], гатóўна[с'ц'], бóльша[с'ц'].* Выпадкі адсутнасці памякчэння сустракаюцца ў некаторых дыктараў і радыёкарэспандэнтаў пры сярэднім і хуткім тэмпе маўлення: *Ка[сц']í цын* (прозвішча), *абла[сц']éй, ка[сц']ё́р, [здз']éлак, [здз']евятнáццаці.* Варта адзначыць, што ў маўленні аднаго з дыктараў (умоўна ВА, праграма «Высокія тэхналогіі») перманентна выяўляецца недастатковая ступень мяккасці пярэднепалатальнага прэдарсальнага [с'], які гучыць як паўмяккі зубны або часцей як цвёрды: *запу[сц']íў, хала[сц']якý, кóлька[сц']і, зрýчна[сц']* і інш. Прыведзеныя вышэй факты пацвярджаюць думку, што «асімілятыўнае памякчэнне з'яўляецца такой фанетычнай рысай у сучаснай літаратурнай мове, якая істотна залежыць ад індывідуальных уласцівасцей носьбіта літаратурнай мовы» [16].

Значная варыятыўнасць назіраецца ў рэалізацыі спалучэнняў зубных **[з]**, **[с]** з наступнымі мяккімі губнымі **[б’]**, **[п’]**, **[м’]**. Трое з шасці дыктараў канала «Культура», чыё маўленне было запісана, паслядоўна змякчаюць дадзеныя гукі незалежна ад пазіцыйнага становішча ў слове. Столькі ж інфармантаў паказваюць прыклады варыятыўнай передачы мяккасці зычных у ідэнтычным фанетычным акружэнні: *[с’п’]éршым* і *[сп’]і́с*, *[з’б’]ірáюць* і *[зб’]еларýсаў*, *па[с’п’]яхóвае* і *пра[сп’]éктам*, *[з’м’]éны* і *[зм’]éст*, *ра[з’м’]éсціцца* і *ра[зм’]еркавáнне*. Цвёрдыя варыянты часцей сустракаюцца ў запазычаных словах і на стыку прыназоўніка з іменнымі часцінамі мовы: *эк[сп’]ерымéнт, [сп’]ецыя́льнасць, ін[сп’]éктар, эк[сп’]ерты́зы, ка[см’]і́чнай, [сп’]éршага, [сп’]éнзенскай, [зб’]еларýссю, [зб’]éжанцамі.* Калі казаць пра становішча пачатку слова, то «ў літаратурным вымаўленні *з, с* перад мяккімі губнымі *б, п, м, в* ва ўсякім разе павінны змякчацца рэгулярна: *збег [зьбех], спеў [сьпеў], смех [сьмех], свет [сьвет].* Цвёрдае вымаўленне *с, з* тут магчыма таму, што ў гэтай пазіцыі цвёрдыя і мяккія зычныя не могуць адрозніваць словы» [17]. Такім чынам, варыянты цвёрдага вымаўлення [з], [с] сустракаюцца таму, што моўная сістэма іх не забараняе.

Зычныя **[з]**, **[с]**, **[дз]**, **[ц]** – і каранёвыя, і прыставачныя, і прыназоўнікавыя – паслядоўна памякчаюцца перад мяккім санорным **[в’]** у пачатку слова: *[с’в’]éту, [дз’в’]éсце, [с’в’]ярдлóўская, [з’в’]éрнемся, [з’в’]éстак, [з’в]ялікабрытáніі, [з’в’]ё́скі, [ц’в’]ё́рдых.* У двух дыктараў адзначана варыянтнае вымаўленне ў ідэнтычных словаформах: *[с’в’]і́слачы* і *[св’]і́слачы*, *[с’в’]éту* і *[св’]éту*, *[дз’в’]é* і *[дзв’]é.* Спарадычныя выпадкі цвёрдага вымаўлення [з] і [с] сустрэліся на марфемнай граніцы словаформ *[зв’]ярнýў* і *[зв’]ярж́эння,* а таксама ў лексеме *[св’]ідраві́на.* У сярэдзіне слова варыянтнасць передачы мяккасці больш прыкметная. Пры пераважнай палаталізацыі зычных даволі часта сустракаюцца варыянты цвёрдага вымаўлення **[з]** прыставачнага: *ра[зв’]іцця́, ра[зв’]івáецца, ра[зв’]я́зак*, *ра[зв’]éдачных, ра[зв’]éдкі, у[зв’]ядзéнне.* Адсутнасць памякчэння выяўлена і ў формах *су[св’]éтную* і *за[цв’]éрджана*.

У даведачнай літаратуры зафіксавана варыянтнасць передачы мяккасці **[с]** перад наступным **[ф’]**: [сф’éра] і [с’ф’éра], [атмасф’éра] і [атмас’ф’éра], [сф’і́нкс] і [с’ф’і́нкс] [18]. Слоўнік беларускай мовы (1987) падае толькі цвёрдае вымаўленне: [сф’éра], [сф’і́нкс], [атмасф’éра], [трансф’éрт], [фасф’і́д]. І хоць слоў з такім спалучэннем гукаў у беларускай мове няшмат, аднак па меншай меры два з іх з’яўляюцца высокачастотнымі ў мове ЭСМІ (гэта словы *сфера* і *атмасфера*). Пераважная большасць дыктараў памякчае [с] у дадзеных словах у адзначанай пазіцыі. Так, у запісаных тэкстах словаформы назоўніка *сфера* ўжываліся дзевяць разоў, і толькі пры хуткім тэмпе маўлення ў аднаго з дыктараў памякчэнне не было вытрымана. Рэгулярна змякчаецца [с] пры вымаўленні слова *атмасферны* (у словазлучэнні *атмасферны ціск*). Не вытрымліваецца памякчэнне на стыку прыназоўніка з назоўнікам: *[сф’]і́нкамі* (у словазлучэнні *пазмагаюцца з фінкамі,* праграма «Спорт 24»).

Даволі аднастайна перадаецца асімілятыўная мяккасць свісцячых **[с], [з]** перад плаўным **[н’]**. Так, з дваццаці чатырох зафіксаваных слоў з дадзенымі спалучэннямі толькі тры былі вымаўлены без памякчэння: *намé[сн’]ік, [зн’]егáльнай, [зн’]есапрáўднай.* Перад плаўным **[л’]** сустракаем разнабой у вымаўленні адных і тых жа слоў рознымі дыктарамі: *да[с’л’]éдаванні* і *да[сл’]éдаванняў, па[с’л’]я́* і *па[сл’]я́.* Без памякчэння былі вымаўлены словаформы *пра[сл’]éдавання, акрэ́[сл’]іў, ра[зл’]і́чвае* і *[зл’]івáць.*

Мяккі **[з’]** вымаўляўся перад **[й]** і ў межах аднаго слова: *[з’йа]ўля́ецца, [з’йэ́]зда, ра[з’йэ́]халіся* (на пісьме – *з’яўляецца, з’езда, раз’ехаліся*), і на стыку прыназоўнікавага **[з]** з іменнымі часцінамі мовы, што пачынаюцца на ётаваныя галосныя: *[з’йа]кóй, [з’йу]рыды́чнымі* (на пісьме – *з якой, з юрыдычнымі*).

Адным са спрэчных момантаў беларускай арфаэпіі ў галіне кансанантызму з’яўляецца перадача асімілятыўнай мяккасці санорнага **[н]** перад наступнымі мяккімі **[дз’]**, **[ц’]**, **[з’]**, **[с’]**. Нездарма ж, як слушна заўважае А. І. Падлужны, «асіміляцыйную мяккасць *нь* на пісьме ніколі не перадавалі» [19]. У адпаведнасці з правіламі літаратурнага вымаўлення [н] заўжды павінен змякчацца перад мяккімі афрыкатамі [дз’] і [ц’]. Гэтае патрабаванне пераважна выконваецца ў маўленні дыктараў і радыёкарэспандэнтаў: *Валя[н’ц’]і́на, электрама[н’ц’]ё́раў, арге[н’ц’]і́нскую, дакумé[н’ц’]е, камá[н’дз’]е.* Дзве словаформы былі ўжыты без памякчэння: *з Валя[нц’]і́най, Канста[нц’]і́наўна.* Што ж да адлюстравання асімілятыўнай мяккасці [н] перад свісцячымі [з’] і [с’], то ў даведачнай літаратуры няма адзіных рэкамендацый. Параўн.: «Цвёрды пярэднеязычны [н] перад мяккімі пярэднеязычнымі гукамі [н’], [ц’], [дз’], [з’], [с’], [л’] і сярэднеязычным [й], як правіла, выступае як [н’]: бяссэ[н’с’]іца, ве[н’з’]ель, гама[н’л’]івы, ка[н’с’]ервы, ма[н’ц’]ёр, му[н’дз’]ір» [20]. Іншыя даследчыкі рэкамендуюць у дадзенай фанетычнай пазіцыі вымаўляць [н] цвёрда [21; 22]. Звернемся да Слоўніка беларускай мовы (1987), які да сённяшняга часу застаецца адзіным найбольш буйным і аўтарытэтным даведнікам па беларускай арфаэпіі. Бачым, што тэндэнцыя да змякчэння [н] тут перадаецца непаслядоўна. У складзе двухкампанентных кансанантных спалучэнняў [н+с’] асімілятыўнае памякчэнне адлюстроўваецца: *ка[н’с’]éрвы, ка[н’с’]і́ліум, ка[н’с’]істэ́нцыя, пé[н’с’]ія.* У трохкампанентных жа спалучэннях [нс’п’], [нс’й], [нс’л’] памякчэнне не зафіксавана: *ка[нс’п’]éкт, ка[нс’п’]іравáцца, манпа[нс’й]é, ка[нс’й]éрж, тра[нс’л’]я́цыя.* Непаслядоўна перадаецца асімілятыўнае змякчэнне [н] перад мяккім [з’]: *прэтэ́[н’з’]ія, гартэ́[н’з’]ія,* але *вé[нз’]ель, бе[нз’]і́н, бе[нз’]і́л.* У мове дыктараў [н] перад [з’] вымаўлялася цвёрда: *ліцэ[нз’]і́йнай, з Пé[нз’]енскай.* Спалучэнне [н+с’] сустрэлася толькі адзін раз і вымаўлялася мякка: *Ха[н’с’]ю́* (востраў).

Як бачым, сітуацыя з перадачай у вымаўленні дыктарамі і радыёкарэспандэнтамі асімілятыўнай мяккасці зычных супярэчлівая. З аднаго боку, назіраецца тэндэнцыя да яе пашырэння: рэгулярна змякчаецца [с] перад [ф’]. З другога, у многіх пазіцыях вельмі моцна праяўляецца варыянтнае вымаў-

ленне. Гэтую з’яву нельга ігнараваць. Адной з прычын такога становішча з’яўляецца той факт, што ўжо ў 1990-я гады беларускую мову пачалі ўжываць людзі, якія выраслі ў двухмоўным асяроддзі і ў якіх зыходная артыкуляцыйная база – небеларуская. Таму ў вусным беларускім маўленні ўзмацняюцца гукавыя варыянты іншамоўнага (рускага) паходжання.

Дыктары паслядоўна прытрымліваюцца правіла асіміляцыі свісцячых да шыпячых. У маўленні зафіксаваны наступныя спалучэнні свісцячых з шыпячымі ўнутры слова і на стыках слоў: **з+ч→[шч], з+ж→[ж:], з+дж→[ждж], с+ш→[ш:]**. Ва ўсіх выпадках назіраецца прыпадабненне папярэдняга свісцячага да наступнага шыпячага: *[шч]эмпіё́нам*, *[шч]о́рнага, [ж:]анчы́най, [ж:]урналі́стамі*, *прыя[ждж]а́ў*, *нера[ш:]ыфрава́ным*; на пісьме – *з чэмпіёнам, з чорнага, з жанчынай, з журналістамі, прыязджаў, нерасшыфраваным*.

Адваротная сітуацыя выяўляецца пры адлюстраванні асіміляцыі шыпячых да свісцячых у кансанантных спалучэннях **ж+ц, ш+ц, ж+с.** Нарматыўным з’яўляецца вымаўленне *на даро́[сц]ы, у дзе́[сц]ы*; на пісьме – *на даро***жц***ы, у дзе***жц***ы*. Аднак у даведачнай літаратуры пры поўным стылі вымаўлення прапануецца захоўваць **[ш]** без асіміляцыі: *на но́[шц]ы, у лы́[шц]ы, на до́[шц]ы* [23; 24]. У прааналізаваным намі матэрыяле варыянт з прыпадабненнем адзначаны толькі адзін раз: *перамо́[сц]аў.* Астатнія словаформы вымаўляліся без асіміляцыі: *перамо́[шц]ы, з нарве́[шц]амі, стры́[шц]ы, нарэ́[шц]е, памі[ш] сабо́й*; на пісьме – *пераможцы, з нарвежцамі, стрыжцы, нарэшце, паміж сабой*. Гэта пацвярджае імкненне дыктараў выкарыстоўваць поўны стыль вымаўлення.

Спалучэнні зычных **д+ч, т+ч** паслядоўна перадаюцца як **[ч:]**: *па[ч:]а́с, зага́[ч:]ык, дасве́[ч:]анасці, газе́[ч:]ыкаў, у ма́[ч:]ы, а[ч:]ува́льная, а[ч:]ы́неных*; на пісьме – *падчас, загадчык, дасведчанасці, газетчыкаў, у матчы, адчувальная, адчыненых.* Спалучэнне каранёвага **д** з суфіксальным **с** вымаўляецца як **[ц]**: *грама́[ц]кіх, гара[ц]кі́мі, ніжагаро́[ц]кая, насенявó[ц]тва*, *судаво́[ц]тва.* На стыку прыстаўкі і кораня заўважаны варыянты вымаўлення: *пра[цс]таўнікі́, пра[цс]таўні́цтва, па[ц’с’]вятле́нне* і *пра[тс]та́ўлены, а[тс]та́юць, а[тс]тупле́ннем;* на пісьме – *прадстаўнікі, прадстаўніцтва, падсвятленне* і *прадстаўлены, адстаюць, адступленнем*. Спалучэнні **д+ц, т+ц** перадаюцца як **[ц:]** альбо **[ц’:]**: *па[ц’:]ягну́ць, а[ц’:]е́ннямі, наўра́[ц’:]і, на ме́[ц:]ы;* на пісьме – *падцягнуць, адценнямі, наўрад ці, на метцы.*

Выяўленыя фанетычныя варыянты ў маўленні арфаэпічна падрыхтаваных носьбітаў беларускай літаратурнай мовы – дыктараў і карэспандэнтаў беларускага радыё – сведчаць пра несупадзенне рэальнага моўнага узусу і ідэальнай кадыфікаванай арфаэпічнай нормы. Таму ёсць патрэба ў стварэнні апісальнай нарматыўнай фанетыкі, якая будзе змяшчаць аналіз маўлення ЭСМІ, акцёраў тэатра, пісьменнікаў, мовазнаўцаў, іншых носьбітаў беларускай літаратурнай мовы і стане асновай для ўдакладнення арфаэпічнай кадыфікацыі сучаснай беларускай мовы.

## Літаратура


1. Выгонная, Л. Ц. Беларускае літаратурнае вымаўленне / Л. Ц. Выгонная // Najnowsze dzieje języków słowiańskich: Беларуская мова / пад рэд. А. А. Лукашанца [і інш.]. – Opole: Uniwersitet Opolski; Instytut Filologii Polskiej, 1998. – С. 105.
2. Фанетыка слова ў беларускай мове / Л. Ц. Выгонная, А. І. Падлужны, П. В. Садоўскі [і інш.]; рэд. А. І. Падлужны. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – С. 99.
3. Выгонная, Л. Ц. Беларускае літаратурнае вымаўленне. – С. 145.
4. Русак, В. П. Сучасны стан і праблемы функцыянавання беларускай мовы / В. П. Русак // Сучасны стан і дынаміка норм беларускай літаратурнай мовы: матэрыялы Міжнар. навук. канф., Мінск, 24–25 кастр. 2006 г. / Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. – Мінск: Права і эканоміка, 2006. – С. 31.
5. Шкраба, І. Р. Варыянтнасць у сучаснай беларускай мове / І. Р. Шкраба. – Мінск: ТАА «Асар», 2004. – С. 6.
6. Падлужны, А. І. Арфаэпія / А. І. Падлужны // Фанетыка беларускай літаратурнай мовы / І. Р. Бурлыка [і інш.]; рэд. А. І. Падлужны. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – С. 317.
7. Падлужны, А. І. Арфаэпія. – С. 327.
8. Коньков, В. И. Язык СМИ: современное состояние и тенденции развития / В. И. Коньков, А. Н. Потсар, С. И. Сметанина // Современная русская речь: состояние и функционирование: сб. аналитических материалов / под ред. С. И. Богданова [и др.]. – СПб.: Филол. фак. СПбГУ, 2004. – С. 68.
9. Фанетыка слова ў беларускай мове. – С. 21.
10. Фанетыка слова ў беларускай мове. – С. 102.
11. Выгонная, Л. Ц. Беларускае літаратурнае вымаўленне. – С. 137–139.
12. Падлужны, А. І. Нормы беларускага літаратурнага вымаўлення / А. І. Падлужны // Сучасная беларуская мова (Пытанні культуры мовы). – Мінск: Навука і тэхніка, 1973. – С. 20.
13. Фанетыка слова ў беларускай мове. – С. 111.
14. Крывіцкі, А. А. Фанетыка беларускай мовы: вучэб. дапам. / А. А. Крывіцкі, А. І. Падлужны. – Мінск: Вышэйш. шк., 1984. – С. 50.
15. Падлужны, А. І. Мяккія зычныя ў беларускай мове (працяг, пачатак у вып. 44) / А. І. Падлужны // Беларуская лінгвістыка. – 1996. – Вып. 45. – С. 7.
16. Фанетыка слова ў беларускай мове. – С. 107.
17. Падлужны, А. І. Мяккія зычныя ў беларускай мове (працяг, пачатак у вып. 44). – С. 6.
18. Падлужны, А. І. Арфаэпія. – С. 324.
19. Падлужны, А. І. Мяккія зычныя ў беларускай мове / А. І. Падлужны // Беларуская лінгвістыка. – 1994. – Вып. 44. – С. 8.
20. Выгонная, Л. Ц. Спалучэнні гукаў у межах слова // Фанетыка беларускай літаратурнай мовы / І. Р. Булыка [і інш.]; рэд. А. І. Падлужны. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – С. 182.
21. Падлужны, А. І. Арфаэпія. – С. 325.
22. Каляда, А. А. Беларускае літаратурнае вымаўленне: практыкум па дыкцыі і арфаэпіі / А. А. Каляда. – Мінск: Тэхналогія, 2006. – С. 70.
23. Падлужны, А. І. Арфаэпія. – С. 327.
24. Выгонная, Л. Ц. Інтанацыя. Націск. Арфаэпія / Л. Ц. Выгонная. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – С. 212.


## Summary

The article is devoted to the problem of phonetic variation that is analyzed basing on pronunciation samples of Belarusian radio announcers. The regularities in functioning of orthoepic variants were detected; factors that contribute to their occurrence were depicted.

*Інстытут мовы і літаратуры*
*імя Якуба Коласа*
*і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*29.06.2011 г.*

*УДК 801.3*

*Н. В. ЛАЎРЫНОВІЧ*

# СІНАНІМІЯ І ВАРЫЯНТНАСЦЬ У СІСТЭМЕ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЗААЛАГІЧНАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

Крытэрыі, якія звычайна акрэсліваюць пры вызначэнні тэрміна, па сутнасці, выключаюць патэнцыяльную магчымасць узнікнення ў тэрмінасістэме сінонімаў, дублетаў і варыянтаў. Мова навукі павінна вызначацца яснасцю і чысцінёй і не змяшчаць у сабе ніякіх лішкавых уключэнняў. Аднак, як адзначае В. П. Красней, «у рэальных тэрмінасістэмах з'явы полінайменнасці і варыянтнасці, калі для намінацыі і дэфініцыі навуковага і тэхнічнага паняцця існуе некалькі тэрміналагічных адзінак і іх варыянтаў, не такія ўжо і рэдкія» [1].

З улікам наяўнасці ці адсутнасці адрозненняў паміж сінонімамі ў агульналітаратурнай мове існуюць наступныя віды ўзаемаадносін, заснаваных на сэнсавых адценнях лексічнага значэння слоў – ідэаграфічная сінанімія; на стылістычных адценнях лексічнага значэння слоў – стылістычная сінанімія; на сэнсавых і стылістычных адценнях – сэнсава-стылістычная сінанімія; на адсутнасці якіх-небудзь адценняў у лексічным значэнні слоў – абсалютная, ці дублетная, сінанімія; на адрозненнях у спалучальнасці слоў – дыстрыбутыўная сінанімія.

У тэрміналогіі назіраецца зусім іншы характар узаемаадносін паміж членамі полінайменных радоў, што звязана з адрозным разуменнем з'явы сінаніміі.

Р. З. Загідулін адзначае, што «сінанімія ў шырокім значэнні гэтага паняцця ўяўляе сабой наяўнасць двух ці некалькіх слоў, якія валодаюць адным ці некалькімі тоеснымі ці амаль тоеснымі значэннямі, з'яўляюцца ўзаемазамяняльнымі, але пры гэтым адрозніваюцца сваім марфемным складам, адценнямі значэння» [2].

Значная частка вучоных прытрымліваецца больш вузкага разумення сінаніміі. Адны ўключаюць у яе склад словы тоесныя і амаль тоесныя па сваім значэнні, іншыя – толькі тоесныя. Э. А. Натансон, Д. С. Лотэ ў тэрміналогіі выдзяляюць «адносныя сінонімы, значэнне якіх супадае часткова, абсалютныя, значэнне якіх супадае поўнасцю, і мнімыя сінонімы, калі адно слова памылкова лічаць сінанімічным іншаму» [3]. Погляды гэтых вучоных падзяляюць таксама і такія лінгвісты, як Р. Ю. Кобрын, Б. Н. Галавін, толькі паняцце абсалютнай сінаніміі замяняюць на паняцце тэрміналагічнай

дублетнасці, пад якой яны разумеюць «словы або спалучэнні слоў, якія аб’яднаны паміж сабой тэрміналагічнай суаднесенасцю з адным і тым жа навуковым паняццем і аб’ектам рэчаіснасці» [4].

В. П. Даніленка лічыць, што ў тэрміналогіі ў асноўным рэалізуецца семантычная разнавіднасць сінаніміі з характэрнымі для яе функцыямі замяшчэння і ўдакладнення, а стылістычныя сінонімы, у адрозненне ад агульналітаратурнай лексікі, у меншай ступені ўласцівы тэрміналагічнай лексіцы (хоць поўнае адмаўленне іх неправамерна) [5].

Сінанімію ў тэрміналогіі зусім адмаўляе А. М. Талікіна: «Тое, што звычайна лічыцца тэрміналагічнай сінаніміяй, уяўляе сабой з’явы дублетнасці, якія сустракаюцца і ў літаратурнай мове. Паміж дублетамі няма тых адносін, якія арганізуюць сінанімічны рад, няма эмацыянальна-экспрэсіўных ці стылістычных апазіцый, а паміж сабой яны ніяк не суаднесены» [6]. Як дублетнасць разглядае тэрміналагічную сінанімію В. С. Ахманава. «Нельга называць сінаніміяй у тэрміналогіі з’яву супадзення значэнняў некалькіх разнастайна аформленых тэрмінаў» [7]. Так лічыць і беларуская даследчыца С. У. Шахоўская, якая, як і А. М. Талікіна, сцвярджае: «Тэрміны з розным моўным афармленнем і аднолькавай семантыкай не маюць стылёвых і сэнсавых адрозненняў, што дае падставу выкарыстоўваць для абазначэння такіх тэрмінаў тэрмін дублеты» [8].

Супрацьлеглага погляду прытрымліваюцца С. М. Аніськова [9], А. А. Брагіна [10], Н. З. Кацялова, Л. М. Мінакова [11] і іншыя. Н. З. Кацялова сцвярджае, што тэрмінам уласціва сінанімія і гэта функцыянальна апраўдана. Тэрміны-сінонімы могуць быць выкарыстаны для называння блізкіх паняццяў, а таксама са стылістычнай мэтай. На думку даследчыцы, тэрміны – адзін з асноўных разрадаў слоў, якія сінанімізуюцца [12].

У сваю чаргу, І. Р. Шкраба сцвярджае, што «ўзважаны падыход да вызначэння з’явы сінаніміі, які ўлічвае сігніфікатыўны, дэнататыўны і дыстрыбутыўны фактары ў сукупнасці, дае падставы вылучаць сярод тэрмінаў ідэаграфічныя і абсалютныя (лексічныя дублеты) сінонімы» [13].

На аснове аналізу поглядаў розных даследчыкаў адносна праяўлення з’явы сінаніміі ў тэрміналогіі і з улікам характару семантычных адносін паміж заалагічнымі полінайменнымі тэрмінамі вылучаюцца ідэаграфічныя сінонімы (18% ад агульнай колькасці зафіксаваных тэрмінаў-сінонімаў) і тэрміны-дублеты (82%).

Ідэаграфічныя сінонімы характарызуюцца тым, што, абазначаючы адно і тое ж паняцце, яны адрозніваюцца паміж сабой адценнямі (дыферэнцыяльнымі прыкметамі) у канцэптуальнай частцы лексічнага значэння. Напрыклад:

*ніжні сіфон, уводны сіфон* – «вада ў мантыйную поласць пастурае ззаду, праз шчылінападобную адтуліну, акружаную аксаміцістай абляшоўкай мантыі. Адтуліна называецца ніжнім, або ўводным, сіфонам» [14].

У сінанімічнай пары *ніжні сіфон і ўводны сіфон* паняцце *ўводны сіфон* уключае прыкметы паняцця *ніжні сіфон* (месца, праз якое паступае вада ў мантыйную поласць) і разам з тым мае дадатковыя семантычныя прыкметы (семы). Калі *ніжні сіфон* указвае больш на месца, праз якое паступае вада, то *ўводны сіфон* – на функцыянальную прыкмету (уводзіць ваду ў мантыйную поласць).

Ідэаграфічнымі сінонімамі з'яўляюцца такія заалагічныя тэрміны, як *мускулісты страўнік, жавальны страўнік; верхні сіфон, вывадны сіфон; копчык, хвасцец; узбуджальнасць, раздражняльнасць; ротавыя лопасці, губныя шчупальцы; серпаваты адростак, серпападобны вырас; жоўцевы пухір, капшучок; яйцаправод, матачная труба; залоза падстраўнікавая, залоза астраўковая; зародкавыя лісты, зародкавыя пласты.*

У сістэме заалагічных тэрмінаў тэрміны-дублеты ў параўнанні з тэрмінамі-сінонімамі ў сваім паняційным змесце не маюць ніякіх сэнсавых адрозненняў. Яны выяўляюць адносіны абсалютнай тоеснасці і могуць узнікаць у выніку паралельнага ўжывання слоў, якія запазычаны з розных моў. Напрыклад:

*арнітафаўна* (гр.), *авіфаўна* (лац.) – 'фаўна птушак';

*гармоны* (гр.), *інкрэты* (лац.) – 'фізіялагічна актыўныя рэчывы, якія вылучаюцца ў кроў і лімфу залозамі ўнутранай сакрэцыі';

*дысіміляцыя* (лац.), *катабалізм* (гр.) – 'адзін з працэсаў абмену рэчываў, разбурэнне ў арганізмах складаных арганічных рэчываў з пераўтварэннем іх у больш простыя і вызваленнем энергіі і прадуктаў дысіміляцыі, якія паступаюць у навакольнае асяроддзе';

*інбрыдзінг* (англ.), *інцухт* (ням.) – 'скрыжаванне блізкароднасных паводле паходжання арганізмаў';

*корыю* (лац.), *дэрма* (гр.) – 'ніжні пласт скуры; тое, што дэрма' і інш.

Нязначную колькасць сінонімаў-дублетаў складаюць тэрміны, якія ўзніклі ў межах адной якой-небудзь мовы ў выніку іх паралельнага ўжывання, напрыклад:

*ідыяадаптацыя* (гр.), *аламарфоз* (гр.) – 'прыватнае прыстасаванне арганізмаў да пэўных умоў жыцця ў канкрэтным знешнім асяроддзі. Звычайна ідыяадаптацыя вядзе да пашырэння арэала групы арганізмаў, падзелу яе на вялікую колькасць роднасных сістэм-адзінак';

*геміметамарфоз* (гр.), *геміметабалізм* (гр.) – 'няпоўнае пераўтварэнне пры развіцці';

*мезадэрма* (гр.), *мезабласт* (гр.) – 'сярэдні зародкавы лісток, які размяшчаецца паміж экта- і энтадэрмай у мнагаклеткавых жывёл (акрамя губак і кішачнаполасцевых)';

*філагенетыка* (гр.), *біягенеалогія* (гр.) – 'вучэнне аб паходжанні і шляхах эвалюцыі асобных відаў і сістэматычных груп, а таксама арганічнага свету ўвогуле; навука аб філагенезе' і інш.

Даволі часта ў аналізуемай сістэме тэрмінаў сустракаецца паралельнае ўжыванне ўласнабеларускага і іншамоўнага тэрмінаў:

*пакаленне* (бел.), *генерацыя* (лац.) – 1) ‘нараджэнне, узнаўленне; разавае патомства адной групы або папуляцыі асобін’, 2) ‘усё непасрэднае патомства асобін папярэдняга пакалення’, 3) ‘перыяд жыцця чалавека, жывёлы (або расліны) ад пачатку яго развіцця да палаваспелага стану’;

*заднепраходная адтуліна* (бел.), *анальная адтуліна* (лац.) – ‘неператраўленыя рэшткі ежы выдзяляюцца праз анальную, ці заднепраходную адтуліну’;

*двухполыя* (бел.), *гермафрадыты* (гр.) – ‘жывёлы, у арганізме якіх ёсць адначасова і жаночыя, і мужчынскія органы размнажэння’;

*цёрка* (бел.), *радула* (лац.) – ‘асобы апарат у глотцы большасці малюскаў, якi служыць для раздраблення ежы’;

*семяннікі* (бел.), *тэстыкулы* (лац.) – ‘мужчынскія палавыя залозы, у якіх утвараюцца сперматазоіды і палавыя гармоны, пераважна тэстастэрон і інш. мужчынскія палавыя гармоны (андрагены), а таксама жаночыя палавыя гармоны (эстрагены)’;

*надхрасточніца* (бел.), *перыхондр* (гр.) – ‘тонкі паверхневы злучальны слой храстка’;

*выдзяленне* (бел.), *экскрэцыя* (лац.) – ‘працэс выдзялення з арганізма канечных прадуктаў абмену рэчываў’;

*жывасячэнне* (бел.), *вівісекцыя* (лац.) – ‘аперацыя на жывёлах для вывучэння функцый арганізма, уздзеянне на яго розных рэчаў, выяўленне прычын захворванняў’;

*зародак* (бел.), *эмбрыён* (гр.) – ‘арганізм у раннім перыядзе развіцця – ад апладнення яйка да з’яўлення здольнасці самастойна харчавацца і актыўна перамяшчацца’;

*жыўчык* (бел.), *сперматазоід* (гр.) – ‘спелая гаплоідная мужчынская палавая клетка жывёл’.

Зазначым, што неапраўданым у аналізуемай тэрмінасістэме з’яўляецца паралельнае ўжыванне ўласнабеларускіх тэрмінаў, адзін з якіх у тлумачальным слоўніку падаецца з паметай *разм.*, напрыклад: *зеў/зяпа* (разм.) [15]. Аналагічная з’ява назіраецца і з тэрмінамі-дублетамі *брушка/чэрава* (разм.) [16].

У заалагічнай тэрміналогіі назіраецца роднасная сінаніміі з’ява – варыянтнасць. У навуковай літаратуры гэтыя паняцці вельмі часта змешваюцца. Аднак наяўнасць адрозных фармальных і семантычных прыкмет дазваляе правесці паміж імі выразную мяжу.

«Варыянтнасць – з’ява, калі для абазначэння аднаго і таго ж паняцця выкарыстоўваюцца розныя варыянты аднаго і таго ж тэрміна. Варыянты – разнавіднасці таго самага тэрміна, якія адрозніваюцца паміж сабой фанетычнымі і словаўтваральнымі элементамі ці сродкамі выражэння граматычных значэнняў, але не маюць ніякіх семантычных адценняў і поўнасцю супадаюць сваім значэннем» [17].

У тэрміналогіі сустракаюцца фанетычныя, арфаграфічныя, марфалагічныя і словаўтваральныя варыянты тэрмінаў.

Калі фанетычныя, арфаграфічныя і марфалагічныя варыянты не выклікаюць асаблівых цяжкасцей у іх вызначэнні, то словаўтваральныя варыянты нярэдка называюцца аднакаранёвымі сінонімамі. Як адзначае В. П. Красней, «у агульналітаратурнай мове сапраўды цяжка размежаваць варыянты слова і аднакаранёвыя словы-сінонімы. Напрыклад, словы *сталовая – сталоўка, адзенне – адзетак, ліса – лісіца* ў агульналітаратурнай мове ўтвараюць сінанімічныя рады аднакаранёвых слоў, якія аб’ядноўваюцца паміж сабой агульным значэннем, але адрозніваюцца стылістычнай афарбоўкай (*адзетак* і *сталоўка* – словы вусна-размоўнага стылю), эмацыянальнай афарбоўкай (слова *лісіца* больш эмацыянальнае). Ва ўсіх гэтых выпадках не захоўваецца тоеснасць слова, таму падобныя аднакаранёвыя лексічныя адзінкі з’яўляюцца аднакаранёвымі сінонімамі, а не словаўтваральнымі варыянтамі аднаго слова» [18].

У тэрміналагічнай лексіцы, у адрозненне ад агульналітаратурнай, такіх цяжкасцей у размежаванні варыянтаў і аднакаранёвых сінонімаў няма, паколькі «аднакаранёвыя намінатыўна-тэрміналагічныя адзінкі, якія адрозніваюцца паміж сабой асобнымі гукамі, арфаграмамі, прыстаўкамі, суфіксамі, сродкамі выражэння граматычных значэнняў не маюць ніякіх семантычных адрозненняў, стылістычных, эмацыянальна-экспрэсіўных адценняў значэння, характарызуюцца аднолькавай спалучальнасцю з іншымі словамі, г. зн. поўнасцю супадаюць сваім значэннем» [19]. Такім чынам, аднакаранёвыя тэрміналагічныя адзінкі не парушаюць тоеснасці слова. Яны з’яўляюцца living рознымі мадыфікацыямі аднаго і таго ж тэрміна (г. зн. фанетычнымі, арфаграфічнымі, словаўтваральнымі, марфалагічнымі варыянтамі).

З’ява варыянтнасці ў заалагічнай тэрміналогіі рэпрэзентавана 85 спецыяльнымі найменнямі, якія адрозніваюцца паміж сабой фанетычнымі (42%) і словаўтваральнымі элементамі (58%). Напрыклад:

*гаманомнасць, гаманомія* – ‘раўнацэннасць сегментаў у розных частках цела членістаногіх жывёл гаманомнасць асабліва выяўлена ў некаторых чарвякоў, мнаганожак’;

*гаметагенез, гаметагенія* – ‘працэс утварэння і развіцця палавых жаночых (аагенез) і мужчынскіх (сперматагенез) клетак – гамет’;

*гетэраномнасць, гетэраномія* – ‘розная будова сегментаў у розных частках цела членістых жывёл’;

*генетычная інжынерыя, генная інжынерыя* – ‘раздзел малекулярнай біялогіі, звязаны з мэтанакіраваным канструяваннем новых спалучэнняў генаў, якіх няма ў прыродзе’;

*дамінуленты, дамінулы* – ‘дамінанты мікрацэнозаў’;

*дыферэнцыяцыя, дыферэнцыроўка* – ‘працэс спецыялізацыі, у выніку якога спачатку аднародныя часткі арганізма набываюць магчымасць выкон-

ваць строга пэўныя функцыі і пастаянна ўсё больш адрозніваюцца адзін ад аднаго па форме і дзейнасці';

*залозы пахкія, залозы пахучыя* – 'залозы, якія вылучаюць пахкія рэчывы. З'яўляюцца вытворнымі потавых, тлушчавых і інш. залоз ці іх камбінацыяй';

*індывід, індывідуум* – 'асобны экзэмпляр (асобіна), элементарная адзінка жыцця';

*інкапсуляцыя, інкапсуліраванне* – 'утварэнне шчыльнай абалонкі са злучальнай тканкі вакол іншародных для арганізма рэчываў';

*катаробы, катаробіёнты, катаробіі* – 'арганізмы, якія жывуць у чыстых халодных прэсных водах з вялікай колькасцю раствoранага кіслароду. Характэрны для вадаёмаў, размешчаных у высакагорных або паўночных раёнах – некаторых азёрах, хуткацякучых рэках і ручаях';

*сапрабіёнты, сапробы* – 'жывыя арганізмы, якія жывуць у забруджаных арганічнымі рэчывамі вадаёмах. Сапробы – біялагічныя індыкатары ступені забруджанасці вадаёма';

*філагенез, філагенія* – 'працэс гістарычнага развіцця арганізмаў, графічна выяўлены ў выглядзе філагенетычнага дрэва, дзе асобныя групы арганізмаў пададзены галінамі рознай таўшчыні, мінімальны адрэзак філагенезу – працэс утварэння новага віду';

*фіна, фінка* – 'лічынка стужачнага чарвяка' і інш.

Прыведзеныя тэрміны з'яўляюцца варыянтамі, паколькі ўсе яны адрозніваюцца толькі марфемным складам (структурай), але пры гэтым абазначаюць адно паняцце, што дазваляе аднесці іх да словаўтваральных варыянтаў.

Сярод заалагічнай тэрмінасістэмы сустракаюцца і фанетычныя варыянты, якія адрозніваюцца толькі паводле свайго вымаўлення і напісання:

*акцелерацыя, акселерацыя* – 'паскоранае фарміраванне арганізма ці асобных яго частак';

*габітус, хабітус* – 'вонкавы выгляд жывёлы';

*гаметаганія, гаметагамія* – 'палавое размнажэнне ў прасцейшых';

*нейраглія, неўраглія* – 'тканка нервовай сістэмы, у якой размяшчаюцца целы нервовых клетак і іх вырасты. Выконвае галоўную апорную і абарончую функцыі';

*нейрон, неўрон* – 'нервовая тканка з адросткамі; асноўны структурны і функцыянальны элемент нервовай сістэмы';

*шызаганія, схізаганія* – 'шматлікае бясполае размнажэнне ў прасцейшых і некаторых водарасцей';

*шызонт, схізонт* – 'стадыя падрыхтоўкі да шызаганіі ў некаторых прасцейшых'.

Такім чынам, па ступені сінанімічнасці ў заалагічнай тэрміналогіі вылучаюцца дзве групы тэрмінаў: ідэаграфічныя тэрміны-сінонімы (18% ад агульнай колькасці зафіксаваных тэрмінаў-сінонімаў): *узбуджальнасць* –

*раздражняльнасць; ротавыя лопасці – губныя шчупальцы; серпаваты адростак – серпападобны выраст; жоўцевы пухір – капшучок; яйцаправод – матачная труба*; тэрміны-дублеты (82% ад агульнай колькасці зафіксаваных тэрмінаў-сінонімаў): *семяннікі – тэстыкулы, радула – цёрка, генерацыя – пакаленне.* Варыянтнасць (роднасная сінаніміі з'ява) у заалагічнай тэрміналогіі прадстаўлена двума тыпамі: фанетычныя варыянты (42%) і словаўтваральныя (58%).

Тэрміналогія як семіятычная сістэма з узаемаадназначнымі суадносінамі знака і абазначаемага не дапускае ўласна знакавыя сістэмныя адносіны (полісеміі, сінаніміі, аманіміі). Наяўнасць сінонімаў, варыянтаў у тэрміналогіі парушае адзін з важнейшых яе прынцыпаў – прынцып дакладнасці. Значыць, у працэсе ўніфікацыі і рацыяналізацыі тэрміналогіі неабходна пазбаўляцца ад варыянтаў і ў пэўнай меры абмяжоўваць сінанімію і дублетнасць.

## Літаратура


1. Красней, В. П. Аб сінонімах, дублетах і варыянтах у тэрміналогіі / В. П. Красней // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 4, Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія. – 1995. – № 1. – С. 25.
2. Загидуллин, Р. З. Синонимия и гипонимия в терминологической лексике / Р. З. Загидуллин // Вопросы лексики английского языка : сб. науч. тр. / Моск. гос. пед. ин-т иностр. яз.; редкол.: Г. Ю. Князева (отв. ред.) [и др.]. – М., 1980. – Вып. 160. – С. 4.
3. Брагина, А. А. Синонимы и термины (о возможной полифункциональности терминов) / А. А. Брагина // Рус. яз. в шк. – 1976. – № 6. – С. 87–93.
4. Головин, Б. Н. Лингвистические основы учения о терминах: учеб. пособие / Б. Н. Головин, Р. Ю. Кобрин. – М., 1987. – С. 54.
5. Даниленко, В. П. Русская терминология: опыт лингвистического описания / В. П. Даниленко; Акад. наук СССР, Ин-т рус. яз. – М., 1977. – С. 78.
6. Толикина, А. М. Некоторые лингвистические проблемы изучения термина / А. М. Толикина // Лингвистические проблемы научно-технической терминологии: материалы совещ., Ленинград, 30 мая–2 июня 1967 г. / АН СССР, Ин-т рус. яз., Ленингр. отд-ние ин-та языкознания; редкол.: С. Г. Бархударов (отв. ред.) [и др.]. – М., 1970. – С. 61.
7. Ахманова, О. С. Словарь лингвистических терминов / О. С. Ахманова. – М., 1966. – С. 8.
8. Шахоўская, С. У. Дублетнасць у беларускай фізічнай тэрміналогіі / С. У. Шахоўская // Культура речи в условиях билингвизма: состояние, перспективы, инновационные технологии: материалы II Междунар. науч. конф., Минск, 3–4 нояб. 2005 г. / Белорус. гос. пед. ун-т; редкол.: В. Д. Стариченок [и др.]. – Минск, 2005. – С. 175.
9. Аніськова, С. М. Сінанімія ў тэрміналогіі воднага транспарту / С. М. Аніськова // Изв. Гомел. гос. ун-та. – 2002. – № 1. – С. 57–61.
10. Натансон, П. А. Требования, предъявляемые к научным и техническим терминам / П. А. Натансон // Науч.-техн. информ. – 1966. – № 1. – С. 24.
11. Мінакова, Л. М. Сінанімія, дублетнасць і варыянтнасць у навукова-тэхнічнай тэрміналогіі (на матэрыяле лексікі аўтамабільнага транспарту) / Л. М. Мінакова // Слова і час: навук. чытанні, прысвеч. памяці праф. У. В. Анічэнкі: зб. навук. арт.: у 2 ч. / Гомел. дзярж. ун-т; адк. рэд. А. А. Станкевіч. – Гомель, 2003. – Ч. 2. – С. 79–88.
12. Котелова, Н. З. К вопросу о специфике термина / Н. З Котелова // Лингвистические проблемы научно-технической терминологии. – С. 123.
13. Шкраба, І. Р. Мовазнаўчыя тэрміны ў аспекце сінанімічных і варыянтных адносін / І. Р. Шкраба // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 4, Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. – 1997. – № 1. – С. 27.

14. Камлюк, А. В. Біялогія: вучэб. дапам. / А. В. Камлюк, А. С. Шапялёнак, А. Р. Александровіч; пад рэд. А. С. Шапялёнак; пер. з рус. м. М. Г. Вінаградавай. – 2-е выд. – Мінск, 2005. – С. 56.
15. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства; пад агул. рэд. К. К. Атраховіча (К. Крапівы). – Мінск, 1978. – Т. 2. – С. 524.
16. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т.– 1983. – Т. 5. – С. 337.
17. Красней, В. П. Аб сінонімах, дублетах і варыянтах у тэрміналогіі. – С. 27.
18. Красней, В. П. Аб сінонімах, дублетах і варыянтах у тэрміналогіі.
19. Красней, В. П. Аб сінонімах, дублетах і варыянтах у тэрміналогіі.

## Summary

Phenomena of synonymy, doublets and variants are considered in the article. Different views on the problem of synonymy in terminology and the character of semantic relations between zoological terms are analysed. Differentiation of synonymous terms, terms-doublets and variants is grounded.

*Інстытут мовы і літаратуры*
*імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*29.06.2011 г.*

УДК 811.161.3'373.2

*А. І. ЖЫШКЕВІЧ*

# НАЙМЕННІ ГРЫБОЎ І ЯГАД НА КАРТАХ АТЛАСАЎ І Ў ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЕ

З шырокім увядзеннем у навуковы зварот даных лінгвістычных атласаў – шматмоўных і нацыянальных – з'явілася ўнікальная крыніца вывучэння лексіка-словаўтваральных і фанетыка-граматычных адметнасцей сучасных славянскіх моў і іх дыялектаў. Трынаццаць выпускаў «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа» (АЛА) ахопліваюць усе ярусы моўнай сістэмы – фаналогію, лексіку, словаўтварэнне, семантыку, сінтаксіс – вялікай групы роднасных моў. Шэсць выпускаў лексіка-словаўтваральнай серыі прадстаўляюць тэрытарыяльнае распаўсюджанне на прасторах terra Slavia лексічных найменняў жывёльнага і расліннага свету, жывёлагадоўлі, прафесій і грамадскага жыцця, дамашняй гаспадаркі і прыгатавання ежы, знешніх і ўнутраных якасцей чалавека [1]. Дзякуючы АЛА стала магчымай «пашпартызацыя» многіх моўных адзінак і высвятленне іх лінгвістычнай значнасці на славянскай тэрыторыі. На картах найбольш поўнага ў айчынным мовазнаўстве «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак» (ЛАБНГ) адлюстраваны матэрыялы розных прадметна-тэматычных груп лексікі: расліннага і жывёльнага свету, сельскай гаспадаркі і транспарту, побыту вясковых людзей і жыццядзейнасці чалавека [2]. У межах картаграфуемых моўных тэрыторый выдзяляюцца арэалы лексіка-семантычных моўных з'яў розных маштабаў і канфігурацый. Большасць з іх адносіцца да агульнай праславянскай асновы, некаторыя ж складаюць спецыфіку беларускага моўнага арэалу. Вывучэнне тэрытарыяльнага вар'іравання лексікі ў плане супастаўлення яе з данымі акаляючых дыялектаў роднасных моў адкрывае новыя магчымасці для даследаванняў у галіне арэальнай і тыпалагічнай лінгвістыкі.

Лінгвістычныя атласы і карты прыцягваюць да сябе ўвагу перш за ўсё як кампактныя крыніцы моўнай інфармацыі. Традыцыйна яны ўспрымаюцца ў двух планах: як рэпертуар прадстаўленых моўных адзінак і як арэал распаўсюджання прадстаўленых на карце адзінак. Лексічныя матэрыялы атласаў з'яўляюцца надзейнай базай пры даследаванні гісторыі слоў розных лексічных пластоў. У сучасным мовазнаўстве разам са стварэннем новых атласаў асаблівае значэнне набываюць праблемы вызначэння інфармацыйных магчымасцей карт, пошукі адказаў на канкрэтныя пытанні: што даюць

лінгвістычныя карты для пазнання мовы, дыялектнага драблення яе рэгіёнаў, станаўлення літаратурных норм, гісторыі этнаса і інш.

Пытанні ўстанаўлення агульных тэндэнцый і ўзаемаадносін паміж традыцыйнымі гаворкамі, як асноўнай крыніцай дыялектнай асновы беларускай літаратурнай мовы, і адваротным уплывам кадыфікаванай нормы на дыялектную мову застаюцца актуальнымі для мовазнаўства. Усебаковае вывучэнне розных лексічных адзінак дазваляе больш глыбока зразумець тыя агульныя працэсы, якія адбываліся ў слоўнікавым складзе беларускай мовы на працягу ўсяго гістарычнага перыяду яго развіцця. На думку вучоных «існуе залежнасць паміж узроўнем унармаванасці літаратурнай мовы і характарам яе арэальнай базы. Чым больш унармаваная літаратурная мова (меншая варыянтнасць нормы, больш з'яў розных узроўняў ахоплена нормай), тым больш акрэсленая яе вузкая арэальная база, і, наадварот, чым менш унармаваная літаратурная мова (большая варыянтнасць нормы, меншы ахоп нормай інавацыйных з'яў розных узроўняў), тым больш шырокая і неакрэсленая яе арэальная база» [3].

Вывучэнне моўных ландшафтаў, прадстаўленых на суадносных картах АЛА і ЛАБНГ праведзена на матэрыяле мікалагічнай і ягаднай лексікі ў двух аспектах: паказаны асаблівасці словаўтваральнай структуры і тэрытарыяльнага вар'іравання лексем у асноўных дыялектах, а таксама суадносіны паміж дыялектным абазначэннем грыбоў, ягад і ягадных кустоў і агульнапрынятай назвай/тэрмінам у літаратурнай мове.

Словаўтваральная структура мікалагічнай наменклатурнай групы ўяўляе сабой шэраг раўназначных найменняў, якія непасрэдна суадносяцца з канкрэтнымі назвамі грыбоў і іх уласцівасцямі: *gribъ* // *fúngus edulis*: *borovikъ*, *dobrъ gribъ*, *bělъ gribъ, dobra gǫba, bela gǫba* // *fúngus venenatus*: *vъ͜lčinъ gribъ*, *jědojty gribъ*, *poganьna gǫba* // *fúngus parasitici*: *b'arosavы γrыp*, *dyryvjanyj hryb*, *drevesna gǫba*, *gǫbina*.

Даныя этымалагічных слоўнікаў паказваюць, што прасл. **grib* і *goba* звязаны па паходжанні і '*губа*' выводзіцца з '*грыб*'. У літаратуры слав. **goba* параўноўваюць з літ. *gumbas* – 'гуз, жаўлак, нарасць' [4; 5].

Самы высокакаштоўны ядомы грыб з светла- ці цёмна-карычневай шапкай і белай тоўстай ножкай – *баравік* ці *белы грыб*. Навуковая назва *Boletus edulis* азначае 'галоўны грыб' і складаецца з лацінскіх слоў *boletus* – 'сцябло, ствол', *edulis* – 'ядомы' грыб. Нездарма *баравік* лічыцца самым высокакаштоўным грыбам. Даўней з *баравікоў* рыхтавалі экстракт, якім вылечвалі самыя цяжкія абмаражэнні, а ў апошні час устаноўлена, што *баравік* утрымлівае рэчывы, якія падаўляюць развіццё рака скуры [6].

Даследаванне структурнай арганізацыі найменняў гэтага каштоўнага грыба паказала, што ў большасці абследаваных населеных пунктаў на беларускай тэрыторыі (73% па сетцы АЛА) і (91% па сетцы ЛАБНГ) ужываецца аднаслоўная назва: *borovikъ*[1] (АЛА, к. 55) ці *баравік* (фанетычныя

[1] У артыкуле захавана транскрыпцыя АЛА, якая заснавана на лацінскім алфавіце.

варыянты: *быравік*, *боровік*, *біравік*, *барвяк*, *бъравік* і інш.) (ЛАБНГ, к. 279). Найбольш ужывальная, распаўсюджаная на беларускай тэрыторыі назва *баравік* замацавана ў якасці літаратурнай формы. Мяркуюць, што паходжанне назвы *баравік* ідзе ад слова *бор* – 'грыб сасновых лясоў, бароў'. Гэта найменне лакалізавана на ўсходнеславянскай і польскай тэрыторыі. На беларускай тэрыторыі сустракаюцца такія аднаслоўныя сінанімічныя найменні *баравіка* як *грыб*, *дабрак*, *добрык*, *праўдзівік*, *праўдзівец*. Астатнія найменні з'яўляюцца апісальнымі, для якіх характэрны ўстойлівы парадак слоў у словаспалучэннях: *добры грыб*, *праўдзівы грыб*, *справядлівы грыб*, *шчыры грыб*, *харошы грыб*, *настаяшчы грыб*, *белы грыб*, *чысты грыб*.

Апісальная двухкампанентная назва *bělъ gribъ* сустракаецца на нязначнай тэрыторыі Беларусі (7%), а на тэрыторыі Расіі (44%) і Украіны (40%) гэта назва не толькі пашырана, але і замацавана як літаратурная форма. З якога часу ўжываецца намінацыя *белы грыб* дакладна не вядома. Аднак устаноўлена, што ў XVI – XIX стст. існавала ўстойлівае супрацьпастаўленне: *белы грыб – чорны грыб*. Вядома, што «белым» гэты грыб назвалі ў параўнанні з менш каштоўным «чорным» трубчатым грыбам (ці абабкам) з-за таго, што мякаць яго не змяняецца на зрэзе і не цямнее пры высушванні [7]. Гэта ўласцівасць *баравіка* адлюстравана і ў сінанімічных назвах: *bělьanъka*, *bělьakъ*, *běla gǫba*, *bělъ obabъkъ*, якія сустракаюцца на тэрыторыі Расіі і Украіны. Усе двухкампанентныя найменні складаюцца з родавага паняцця, выражанага назоўнікам і відавога – выражанага прыметнікам. З апісальных назваў бачна, што славяне ўжо з даўніх часоў выявілі каштоўнасць гэтага грыба і вылучалі яго сярод іншых відаў грыбоў.

На тэрыторыі Славіі легенда ядомых грыбоў (АЛА, к. 54) налічвае 18 пазіцый, але найбольш распаўсюджанымі назвамі з'яўляюцца дзве: *grib-* (*gribъ*, *griba, gribъkъ, grzyb*) і *gǫb-* (*gǫba*, *gǫbina, gǫbьakъ*). Назва з коранем *grib* – найбольш ужывальная форма на тэрыторыі Беларусі (93%), Расіі (91%), Украіны (78%), Польшчы (92%), Лужыцы (100%) і замацавана ў якасці літаратурнай формы. Найменне ж *gǫba* (*jedla houba*, *jedla huba*) з'яўляецца найбольш ужывальным у Славеніі (80%), Чэхіі (93%) і замацавана ў гэтых мовах у якасці літаратурнай формы. Такім чынам, міконімы *grib* і *gǫba* ў дачыненні да ядомых грыбоў дзеляць лінгвістычны ландшафт Славіі на два арэалы. Цікава адзначыць, што па сетцы АЛА на тэрыторыі Літвы, Латвіі і Эстоніі абследаваліся населеныя пункты (525, 526, 527), які знаходзяцца на памежжы з беларускімі і рускімі тэрыторыямі, і ў гэтых мясцовасцях таксама зафіксаваны назвы *gribъ* і *borovikъ*.

Легенды карт з назвамі ядавітых, неядомых грыбоў здаюцца лексічна перагружанымі: легенда АЛА ўтрымлівае 85 пазіцый, якія фіксуюць у кожнай славянскай мове да дзясятка сінанімічных лексем; закартаграфаваныя карані назваў неядомых грыбоў ЛАБНГ налічваюць 20 адзінак. Такая колькасць варыянтных назваў можа сведчыць пра тое, што намінацыя 'ядавіты грыб' з'ўляецца старажытнай, але не замацаванай за пэўным відам грыбоў.

Амаль на ўсёй славянскай тэрыторыі, акрамя Лужыцы, ужываецца лексема *gǫb-* (*gǫba*, *gǫbina*), але яна сустракаецца ў большасці краін як эксклюзіўная назва ядавітага грыба. Можна прасачыць суадноснасць сінанімічных варыянтаў намінацыі ‘ядавіты грыб’ з жывёльным светам: *pьsьakъ*, *pьsьanъka*, *pьsьikъ*, *p̥ъsьika*, *pьsьakina gliva*, *sabačьnьakъ*, *žabina*, *žabinъka*, *m̥ъšьakъ*, *myšьakъ*, *myšinъ*, *vьl̮čьakъ*, *vьl̮činъ gribъ*, *vьl̮čьjь gǫbьakъ*; паўзунамі: *ǫžaka*, *ǫžačьka*, *ǫžovъka*, *gadьačьka*, *ǫžačьja // воўчыя, ваўчакі, сабачнікі, мышакі, мышыныя, вужоўкі, вужовікі* і інш. У метафарычных намінацыях адлюстраваны міфалагічны светапогляд славян на прыроду. Распаўсюджаная на тэрыторыі Беларусі назва *воўчы грыб* (36%) замацавана ў якасці літаратурнай формы.

Лексема *gǫba* распаўсюджана на славянскай тэрыторыі таксама пры называнні дрэвавага грыба-паразіта (АЛА, к. 57). Яна шырока ўжываецца на тэрыторыі Харватыі (31%), Чэхіі (48%), Украіны (21%), Расіі (16%), а на тэрыторыі Славеніі (88%), Славакіі (62%), Польшчы (62%), Беларусі (78%; акцэнталагічныя варыянты *гу́ба* і *губа́*) з’яўляецца найбольш распаўсюджанай і літаратурнай.

Як бачна, пры намінацыі грыбоў улічваліся розныя ўнутраныя якасці, знешнія прыметы, умовы росту, сувязь з міфалогіяй. Называнне па «знешніх прыметах», «месцы», «якасцях» шырока прадстаўлена ў разгледжанай тэматычнай групе найменняў. Гэта сведчыць пра тое, што ў працэсе намінацыі такія прыметы былі актуальнымі для суб’ектаў, якія давалі назву грыбам, паколькі аб’ектыўна з’яўляюцца найбольш адрознівальнымі якасцямі рэалій абазначэння. Карты атласаў дазваляюць устанавіць не толькі матывацыйныя прыметы ў моўнай прасторы той ці іншай культуры, але і правесці сэнсавую рэканструкцыю метафарычных вобразаў, устанавіць тэрытарыяльную распаўсюджанасць, структурную ўстойлівасць народных назваў, замацаванасць у літаратурнай мове.

У адрозненне ад назваў грыбоў назвы ягад на славянскай тэрыторыі утвараюць невялікую, лексічна закрытую групу. Да іх ліку адносяцца назвы: *маліны*, *брусніцы*, *чарніцы*, *суніцы*, *ажыны*, якія як і ў беларускай мове ўжываюцца для абазначэння не толькі раслін (Rubus idaeus, Vaccinium vittis idaea, Vaccinium myrtillis, Fragaria, Rubus caesius), але і іх пладоў.

Словаўтваральная структура ягаднай наменклатурнай групы ўяўляе сабой шэраг раўназначных найменняў, якія непасрэдна суадносяцца з назвамі канкрэтных ягад. Агульная структура называння ягад наступная: *jagodы // jagodы*: *brusnicy*, *sunicы*, *čarnicы*, *borou̯nice, zeml’anika, pozemka, malina, ažыna // červeni jagodi, čarne jagodi, modre jagodi, lisovi jagodi, čern’owa malina*.

Найбольш вядомая славянскім дыялектам назва *malina/malyny* фіксуецца амаль на ўсёй славянскай тэрыторыі: беларускія, рускія, украінскія, славенскія, сербскія, харвацкія, баснійскія, чэшскія, славацкія, польскія, верхнялужыцкія дыялекты. Выключэнне складаюць харвацкія чакаўскія

гаворкі, дзе ўжываюцца назвы *ostruga* і *višńa* (н. п. 24 і 42, 44), а таксама македонскія – з назвай *sirka* (н. п. 108) [8]. У большасці краін, акрамя Чэхіі, Лужыцы і Беларусі назва *malina* – гэта літаратурная форма. На тэрыторыі Беларусі літаратурная форма – *маліны* (23%), хаця форма назоўнага склону адзіночнага ліку *malina* ўжываецца значна часцей (71% ). На значнай славянскай тэрыторыі адзін плод *маліны* (АЛА, к. № 40) называецца *malina*. Гэта і літаратурная і самая пашыраная форма. А вось на тэрыторыі Украіны літаратурная форма – *malinina*, на тэрыторыі Македоніі – *malinъka*.

Праславянскае слова *malina* мае корань *mel-*, *melə* са значэннем розных адценняў колеру, галоўным чынам цёмных [9]. Цікава адзначыць, што адвар лісця маліны з паташом (які атрымліваюць з попелу ці прыродных солей) афарбоўвае валасы ў чорны колер [10].

Наступная па распаўсюджанасці на славянскай тэрыторыі назва ягады *čarnika* // *čarnica* адзначаецца на беларускай, рускай, украінскай, польскай, славенскай, славацкай, чэшскай тэрыторыях. На тэрыторыі Беларусі літаратурная назва ягады – *čьrnicy*, яна ж з'яўляецца і найбольш ужывальнай формай (76%). Ва ўсіх славянскіх краінах, акрамя Расіі адзін плод чарніц мае назву *čьrna jagoda*. У Расіі – *čьrnika*. На тэрыторыі Беларусі і Украіны літаратурная і найбольш ужывальная формы супадаюць – *čьrnica*.

У супрацьлегласць першым двум найменням ягад (*malina, čarnika*), як характэрная толькі дыялектам усходнеславянскіх моў, фіксуецца назва *zeml'anika*, пашыраная на рускай тэрыторыі і вядомая сумежным беларускім і ўкраінскім дыялектам. За межамі ўсходнеславянскіх моў матэрыяламі АЛА падобная назва наогул не зафіксавана. На тэрыторыі Беларусі літаратурная і найбольш пашыраная назва ягады – *суніцы*/*sunicy* (59%). Але пад уплывам рускай мовы на ўсходняй і паўднёва-ўсходняй тэрыторыі Беларусі зафіксавана назва *земляніка*/*zeml'anika* і вытворныя ад яе *земляніцы*, *землянікі*. На тэрыторыі Брэстскай, Гродненскай абласцей пад уплывам польскай мовы адзначаецца назва *пазёмкі/pozemъky/pozemъka,* якая мае арэал распаўсюджання далей па лініі н. п. Баравікоўшчына, Рудня, Адрубак, Валынцы Мінскай і Віцебскай абласцей, якія не суседнічаюць тэрытарыяльна з польскай. Назва аднаго плода ягад на тэрыторыі Беларусі і Украіны супадае – *sunica*. На тэрыторыі Расіі – гэта *zemjanika*, у Польшчы – *pozemъka*. Самай жа распаўсюджанай назвай аднаго плода *суніц* на славянскай тэрыторыі з'яўляецца *jagoda*. Яна сустракаецца ва ўсіх краінах, акрамя Лужыцы (к. 46).

Распаўсюджанасць назвы Vaccinium vitis idaea '*brusnicы'* ва ўсіх групах славянскіх моў (бел. *brusnicы,* рус. *brusnika,* укр. *brusnyci;* пол. *bruśńice,* луж. *brusnice,* славац. *brusnica,* чэшск. *brusniči;* славен. *brusnica,* харв. *brusnica)* дае падставы гаварыць аб яе праславянскім паходжанні і аднавіць форму **brusiti* > літ. *braũkti* > *brusьna* > *brusьnica* > *brusnica*. Вядомыя этымалагічныя слоўнікі славянскіх моў звязваюць корань слова *brusnika* з коранем *brus-/bros-* семантычна ўказваючы на тое, што спелыя ягады лёгка зрываюцца з ветак, 'сдергиваются, сбрасываются' [11].

Другая назва, якая выкарыстоўваецца для называння Vaccinium vitis idaea (*брусніцы*) – *borovica* мае меншае распаўсюджанне па славянскіх мовах, і значэнне яе не такое ўстойлівае, бо назва абазначае розныя ягады, якія растуць у бары [12]. Гэта ягадная расліна і яе плады ў рускай і ўкраінскай мовах маюць адну назву: у рускай мове *brusьnika* – 'назва ягады і аднаго плода', ва ўкраінскай мове *brusьnica* – 'назва ягады і аднаго плода'. У беларускай мове *brusьnicy* – 'назва ягады' і *brusьnica* – 'назва аднаго плода' [13]. Прычым назва аднаго плода ягад – *brusьnica* – сустракаецца на ўсёй тэрыторыі Славіі, акрамя Македоніі, а ў Славеніі, Славакіі, Лужыцы, Беларусі, Украіне з'яўляецца літаратурнай і найбольш ужывальнай формай.

Шмат варыянтаў назвы мае ягада Rubus caesius – рус. *ежевика*. На тэрыторыі Беларусі ў якасці літаратурнай формы замацавана назва *ажыны*, хаця яна ўжываецца толькі ў 24% абследаваных населеных пунктах па сетцы АЛА. Выказваецца меркаванне, што праславянскае **ežina* як назва калючай расліны магло быць звязана са словам **ežь* – 'ёж', а магло быць і незалежным утварэннем ад кораня **egh*' – 'калоць', якое пазней зблізілася са словам **ežь* і пачало ўспрымацца не толькі як 'калючая', але і як 'ежовая' ягада [14]. «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак» фіксуе самыя разнастайныя назвы гэтай ягады: *важыны*, *яжыны*, *ажавіны*, *жавіны*, *сербаліны*, *сурмаліны*, *чорная маліна*, *мыдвэдыны*, *ягада ажэўніка* (ЛАБНГ, к. 222). Вялікую колькасць варыянтаў назвы можна растлумачыць тым, што, нягледзячы на распаўсюджанасць і наяўнасць больш за 300 культурных сартоў гэтай расліны, плады яе на тэрыторыі Беларусі не карысталіся належным попытам, а перавага аддавалася і аддаецца маліне.

Такія ж назвы ягад, як *маліны*, *брусніцы*, *чарніцы* не толькі распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі Беларусі, але маюць цэнныя плады, якія выкарыстоўваюцца ў якасці народных лекаў, шырока вядомых насельніцтву. Таму на лексічным узроўні варыянтнасць назваў падобных раслін і іх пладоў нязначная. Трэба адзначыць, што лексемы, якія з найменшай варыянтнасцю прадстаўлены ў беларускай дыялектнай мове, валодаюць той жа ўстойлівай адназначнасцю і ў іншых славянскіх мовах: *ягада*, *маліна*, *брусніка*. Лінгвагеаграфічны аналіз цэлай тэматычнай групы найменняў ягад і іх пладоў у славянскім дыялектным кантынууме паказвае, што з праславянскага перыяду характэрна існаванне на ўсёй тэрыторыі такіх лексем, як **agoda*, **malina*, **brusьnica*. Да больш позніх утварэнняў, не атрымаўшых шырокай распаўсюджанасці, адносяцца лексемы **sunica*, **ežina*.

Такім чынам, «Агульнаславянскі лінгвістычны атлас» і «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак» утрымліваюць агромністы матэрыял для дэталёвага вывучэння таго пласта беларускай лексікі, які важны для гісторыі мовы і яе сучаснага стану. Сумешчаны разгляд матэрыялаў, выбраных з аднайменных карт атласаў, прынцыпова мяняе іерархію з'яў, якія складаюць спецыфіку асобных моў і іх дыялектаў. Тое, што ў нацыянальным атласе з'яўляецца пастаяннай рысай і не ўваходзіць у склад дыялектных

адрозненняў, у маштабах АЛА становіцца кампанентам дыялектных асаблівасцей, паколькі той жа фрагмент дыялектнай сістэмы ў іншых мовах прадстаўлены па-іншаму. Акрамя таго, з'яўляецца магчымасць дэталізаваць узаемаадносіны і ўстанавіць, у якіх выпадках можна гаварыць аб лакальных (і, верагодна, адносна позніх) запазычаннях, а ў якіх – у залежнасці ад тэрыторыі распаўсюджання тых ці іншых з'яў – аб дастаткова старажытных. Рэкартаграфаванне прааналізаваных матэрыялаў дазволіць стварыць прасторавы малюнак «занальных згрупаванняў мясцовых гаворак» з абазначэннем цэнтра і перыферыі моўных з'яў [15]. Мэтазгоднасць далейшага супастаўляльнага вывучэння матэрыялаў вызначаецца магчымасцю ў шэрагу выпадкаў, з аднаго боку, дапоўніць лінгвістычныя звесткі, змешчаныя ў АЛА, за кошт большай колькасці абследаваных населеных пунктаў у нацыянальным атласе, з другога боку, паказаць нацыянальны ландшафт у сям'і хаця і блізкароднасных, але істотна адрозных па сваёй будове моў.

## Літаратура


1. Общеславянский лингвистический атлас. Сер. лексико-словообразовательная. – Мінск, 2000. – Вып. 3: Растительный мир.
2. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. / Г. У. Арашонкава [і інш.]. – Мінск, 1993. – Т. 1: Раслінны і жывёльны свет. – 440 с.
3. Цыхун, Г. А. Арэальныя аспекты фарміравання славянскіх літаратурных моў / Г. Цыхун. – Мінск, 1993. – С. 14.
4. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Мінск, 1978–2010. – Т. 1–13.
5. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка / М. Фасмер. – М., 1964–1973.
6. Сержанина, Г. И. Грибы: краткий справочник / Г. И. Сержанина. – Минск, 2002. – С. 14.
7. Происхождение термина «белый гриб» [Электронный ресурс]. – Режим доступа: htpp://ru.wikipedia.org/wiki.
8. Русак, В. П. Лінгвагеаграфія славянскіх марфаналагічных з'яў у матэрыялах агульнаславянскага лінгвістычнага атласа / В. П. Русак // Мовазнаўства. Літаратуразнаўства. Фалькларыстыка: XIV Міжнар. з'езд славістаў. – Мінск, 2008. – С. 206.
9. Меркулова, В. А. Очерки по русской народной номенклатуре растений / В. А. Меркулова. – М., 1967. – С. 212.
10. Касякова, Л. Е. Растения-целители: справочник по народной и практической фитотерапии / Л. Е. Касякова. – Ярославль, 1993. – С. 227.
11. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка. – Т. 1.
12. Меркулова, В. А. Очерки по русской народной номенклатуре растений. – С. 215.
13. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. – Мінск, 1977–1984.
14. Меркулова, В. А. Очерки по русской народной номенклатуре растений. – С. 219.
15. Крывіцкі, А. А. Фанетыка беларускай мовы / А. А. Крывіцкі, А. І. Падлужны. – Мінск, 1984. – С. 255, 261.


## Summary

The problem of areas of mushrooms and berries nominations distribution on the linguistic maps in atlases is considered in the article. Approval of corresponding nominations as a literary norm is analyzed.

*Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка*

*29.06.2011 г.*

*УДК 811.161.3:398.23(=161.3)*

*Н. В. ФАМІЧОВА*

# МОЎНЫЯ СРОДКІ ВЫРАЖЭННЯ КАМІЧНАГА Ў БЕЛАРУСКІМ ГУМАРЫСТЫЧНЫМ ФАЛЬКЛОРЫ

Гумарыстычны фальклор займае важнае месца сярод іншых жанраў вуснай народнай творчасці. Яго адметнай рысай з'яўляецца наяўнасць унікальнага ўзаемадзеяння пэўных элементаў мастацкага мыслення, якое выяўляецца праз моўныя структуры, што з'яўляюцца асновай стварэння камічнага эфекту.

Аналіз корпуса гумарыстычных тэкстаў (выбарка з 200 тэкстаў, якія адносяцца да пачатку XX ст.) [1–3] дазволіў выявіць тыя сродкі мовы, якія прайшлі выпрабаванне часам як найболей эфектыўныя для стварэння камічнага эфекту. Агульнапрызнанымі лідарамі сярод сродкаў камічнага з'яўляюцца аманімія і полісемія (34% тэкстаў), бо яны дазваляюць злучаць несумяшчальныя паняцці, а праз іх і сітуацыі*. Супрацьпастаўленні, найбольш характэрныя для сельскага гумару пачатку XX ст., датычацца сферы высокага і нізкага, сферы духоўнага і паўсядзённага (70% тэкстаў). Яркім прыкладам з'яўляецца гумарэска пра набожную жанчыну, якую не толькі абакралі, але яшчэ і пасмяяліся над ёй (*«Божа, ачысці мяне ад грахоў» – «ачышчу, ачышчу» – адказвае нехта з-пад лавы.*) Слова *ачысціць* ужываецца тут у двух процілеглых сэнсах, што і нараджае камічны эфект. Народная моўная інтуіцыя падказвае, што калі два словы гучаць аднолькава, значыць паміж імі ёсць нешта агульнае. Існаванне высокага і нізкага ўнутры аднаго слова – вось асноўная апазіцыя, якая прысутнічае ў большасці прадстаўленых у выбарцы ўзораў вербальнага гумару.

Фанетычнае падабенства рознакарэнных слоў, вядомае ў стылістыцы як паранамазія (24% тэкстаў), таксама паспяхова выкарыстоўваецца для стварэння камічнага эфекту. Яркім прыкладам выкарыстання паранамазіі ў камічным дыскурсе з'яўляецца серыя анекдотаў, якую можна ўмоўна назваць «пра глухога», дзе герой прыкідваецца глухім і адказвае на пытанні недарэчы. Як правіла, адказы рыфмуюцца з пытаннямі:

– *Чалавечку, чый гэта двор?*

– *Гэта, пані, мой чорны вол.*

---

* Найбольш прадуктыўнай нам здаецца тэорыя В. Раскіна і С. Аттарда [4; 5], паводле якой камічны эфект засноўваецца на пераключэнні паміж скрыптамі, змешчанымі ў апазіцыйных адносінах, пры дапамозе трыгера – механізма семантычнай рэкурсіі, які рэалізоўваецца ў тэксце ў выглядзе моўнай гульні.

*– Ды я пытаюся, чый гэта паліварак?*

*– Гэта, пане, мая саха і падпалак.*

Камічны эфект дасягаецца пры дапамозе парушэння максім Грайса. Адказы дадзены недарэчы, але яны нараджаюць асацыяцыі. Гэта непазбежна: калі атрымліваецца незразумелы адказ, чалавек адразу шукае імплікатуру і звычайна яе знаходзіць нават у самых нечаканых месцах. Гэта і становіцца агульнай часткай пытання і адказу, якія ў нашым выпадку і ўяўляюць сцэнарную апазіцыю:

*Ксёндз : Колькі есць багоў?*

*Хлопец: Было ў нас крышку бобу, а тата павесіў у гумне і ніяк не дастаць.*

У дадзеным анекдоце сутыкаюцца два сусветы − духоўны і матэрыяльны, прычым гэта параўнанне ўяўляецца як выпадковае, удзельнік дыялогу як бы «недачуў».

Паранамазія таксама служыць мэтам травестыроўкі (7%), напрыклад, некаторых рэлігійных рытуалаў (набажэнства, споведзь, малітва):

*Дзяк: Пасматрыце на тую гару, украў поп караву. Госпадзі памілуй.*

*Поп: Дзяча, дзяча, багата не вяча, каравіна-ялавіна будзе і табе палавіна-а-а!*

Магчымасць адначасовага сумяшчэння двух семантычных планаў робіць фразеалагізмы добрай глебай для моўнай гульні. Актуалізацыя літаральнай семантыкі складовых частак фразеалагізма часта выкарыстоўваецца ў аналізаванай выбарцы (9%):

*– Дык пані вінаваціць мужа ў тым, што ён на паню падняў руку?*

*– Не, рэч ідзе аб тым, што муж наўперад падняў руку, а потым яе на мяне апусціў.*

Прыём моўнай маскі (5%) дапамагае перадаць фанетычныя асаблівасці гаворкі аб’екта анекдота ў гіпербалізаваным выглядзе, што нараджае камічны эфект (акцэнт немца ці паляка вачамі беларускага селяніна, картавасць):

*Было ў шляхты тры дочкі. Яны брыдкую вымову мелі. Раз мелі прыехаць да іх сваты. Дык маці кажа:*

*– Вы, дачушкі, нічога не гаварыце. Я за вас усё буду гаварыць.*

*Ну, добра. Яны паселі. Анно ж прыязджаюць сваты. Маці гаворыць, гаворыць, а потым выйшла, а кот малако давай піць. Так найстарша кажа:*

*– Апстрык!*

*А сярэдняя:*

*– А то ж табе маці казала, каб ты мірчала!*

*А найменша, ужо знябожыўшыся, кажа:*

*– А я мірчу!*

*– Хай вас, – кажа, – ліхо пабярэ, не мы будзем браць. Да й параз’язджаліся. От табе і намаўчалі доўга. Праўду людзі кажуць, што шыла ў мяху не ўтоіцца.*

Акрамя вышэйпералічаных спецыфічных сродкаў камічнага ў фальклорным дыскурсе таксама шырока распаўсюджаны неспецыфічныя сродкі, характэрныя для негумарыстычнага фальклору.

Паўторы, акрамя традыцыйнай для фальклору функцыі «падкрэслення сэнсу, заключанага ў слове» [6], функцыянуюць у гумарыстычным тэксце гэтак жа, як і спецыфічныя сродкі камічнага, г. зн. з’яўляюцца носьбітамі падвоенай семантыкі, злучаюць процілеглыя сцэнарыі, прадстаўленыя ў завязцы і развязцы анекдота (6%):

*Пайшлі два яўрэя да рабіна жаліцца адзін на другога. Першы прыйшоў раней і прынёс з сабой гусака. Выслухаўшы скаргу рабін заключыў:*

*– Твая праўда.*

*Усцешаны яўрэй выйшаў. Неўзабаве прыходзіць другі і таксама прыносіць гусака.*

*І яму рабін кажа:*

*– Твая праўда.*

*Калі «пакрыўджаны» пакінуў хату, рабінава жонка пачала ўшчуваць мужа, што не можна так рабіць. Супакойваючы яе рабін сказаў:*

*– Ша, жонка, ша, і твая праўда.*

Характэрнай асаблівасцю беларускага сельскага гумару пачатку ХХ ст. з’яўляецца вялікая колькасць слоў з жартаўлівай і ацэнкавай семантыкай, якія ці наўрад можна сустрэць у сучасных анекдотах (46% тэкстаў). Сёння апавядальнік «выстрэльвае» нечаканай фіналлю, якая прадугледжвае нейтральнае асяроддзе, а раней слухач падрыхтоўваўся да яе ўжо ў завязцы:

*Ішоў сабе раз мужык да месца на кірмаш. Ішоў ён, ведама, босы, а боты свае з дзеда-прадзеда нанізаў на кій, і нясе на плячах. Ды так загледзеўся, разявака, што, трэба ж няшчасце, надта моцна ўдарыўся нагою аб камень, ажно злупіў сабе з пальца наназе кіпаць. Хоць кроў цячэ і баліць, але ён, узіраючыся на сваю рану, кажа: «Вось шчасце, што я ішоў босы, а не ў гэтах, а то цэлага бота зусім расхвастаў бы».*

Яшчэ адной адметнай рысай сельскага гумару з’яўляецца наяўнасць дыялектнай лексікі. Дыялектызмы дазвалялі кожнай групе носьбітаў дыялекту адлучаць сябе ад іншых груп, ствараць свой гумар, мішэнню якога часта былі суседзі. Характэрна, што дыялектызмы сустракаюцца часцей за ўсё ў тых тэкстах (73% дыялектызмаў), дзе мішэнню з’яўляюцца не-носьбіты дыялекту.

Паланізмы, германізмы і іншыя словы замежнага паходжання выкарыстоўваюцца, як правіла, разам з прыёмам моўнай маскі (87% выпадкаў). Гэтыя словы з’яўляюцца трыгерамі анекдота і ў развязцы тлумачацца «няправільна», у духу народнай этымалогіі. Вельмі папулярным з’яўляецца сюжэт, у якім мужык не ўчуў ці не зразумеў «высакароднае» слова (звычайна паланізм). Ён знаходзіць для яго беларускі «эквівалент» зусім з іншай семантыкай, што і нараджае гумарыстычны эфект:

*Зайшоў мужык да пана, а тэй:*

*– Ідз за джві і замыкай!*

*А той прычыніў дзверы, усунуў галаву і кажа:*

*– Панок, му-у!*

Такія тэксты, на наш погляд, з'яўляюцца метафарычнымі − чужародны польскі і нямецкі ўплыў на беларускай зямлі не прымаецца. Распараджэнні палякаў ігнаруюцца і знарок тлумачацца няправільна − селянін усё робіць па-свойму, «пакорліва» не падпарадкоўваецца.

Двухпланавы характар камічнага як нельга лепш рэалізуецца ў метафары. Аб'ектамі метафарычнага збліжэння з'яўляюцца, як правіла, мішэні анекдотаў, якія належаць да групы «чужых» (паны, папы). Па той ці іншай адмоўнай прыкмеце яны параўноўваюцца з жывёлай (11% тэкстаў). З прагматычнага пункта гледжання апавядальнік як бы «помсціць» тым, хто стаіць вышэй за яго на сацыяльных усходах у рэальным жыцці. Пры гэтым параўнанне можа быць як эксплiцытным, так і скрытым:

*Зайшоў селянін да пана, а той якраз паеў і парожнюю міску перавярнуў. Селянін і пытае:*

*– Пане, а чаму вы як паелі, то перавярнулі міску?*

*– Гэта значыць, што я наеўся.*

*– Вось яно што! А я ўсё думаў, было, чаго гэта мая свіння як толькі паесць, дык і перавяртае карыта?*

У вышэйпрыведзеным тэксце параўнанне чалавек/жывёла выражана эксплiцытна. Агульнай прыкметай для двух аб'ектаў параўнання (пан і свіння) з'явіўся спосаб прыняцця ежы (перагортванне міскі/карыта пасля ежы).

Больш тонкая тэкставая метафара, вельмі характэрная для фальклору наогул, пабудавана на аманіміі:

*Мяснік(да свайго хлопца): Ну што, занёс ты прыставу яго цялячую галоўку?*

*Хлопец: Занёс.*

*Мяснік: Дык вазьмі цяпер адсячы заднюю нагу палкоўніцы Панамарскай, павесь папоўскую тушу на кручок, а вучыцелевы трыбухі злажы ў карзінку: сам прыдзе і возьме, не вялікі пан.*

*Ага! Вось яшчэ трэба перамяніць мазгі таму тоўстаму пану, што жыве на рагу вуліцы, бо тыя ў яго ўжо пратухлі.*

Гэты прыклад выкарыстання аманіміі вельмі характэрны для фальклорнага дыскурсу: у тэксце відавочна выяўлены толькі адзін план, указанні на наяўнасць другога плана-сцэнарыя адсутнічаюць, дваістасць ствараецца вылучна дзякуючы наяўнасці ўстойлівых асацыяцый у апавядальніка і слухача. Камічны эфект нараджаецца адначасовай рэалізацыяй двух сэнсаў: туша жывёлы, якая належыць папу, і туша, як частка цела папа. У апошнім значэнні слова мае відавочную дэрагатыўную афарбоўку.

Тэкставая метафара жывёла/чалавек была рэалізавана ў 3% тэкстаў выбаркі:

*– Ну, як наш новы паліцэйскі сабака? – пытае паліцэйскі у сышчыка.*

*– Вельмі добры... Ужо пазнаў усіх мясцовых злодзняў і ўсім сходзіць з дарогі.*

Апроч відавочных выпадкаў, дзе паны, паліцыянты і іншыя параўноўваюцца са свіннёй, сабакам і г. д., метафара ў тэксце анекдота мае больш глыбокую кагнітыўную сутнасць. Прынцып камічнага ў яго сучаснай трактоўцы [7; 8] ляжыць у сутыкненні двух сцэнараў, у пераключэнні з аднаго сцэнара на іншы, нечаканы. Гэта пераключэнне адбываецца ў вербальнай разнавіднасці гумару амаль заўсёды пры дапамозе моўных сродкаў, якія пазначаюцца тэрмінам «трыгер». Трыгер − гэта той «спускавы курок», пры націску якога ўзнікае камічны эфект. З іншага боку, трыгер – гэта тая ўласцівасць, тая субстанцыя, той агульны назоўнік, які аб’ядноўвае нечаканыя рэчы і сітуацыі. Прычым такое параўнанне адбываецца не толькі на ўзроўні ўнутрытэкставай сітуацыі, але і на ўзроўні знешней сітуацыі распавядання анекдота, калі кантэкст гутаркі злучаецца па нейкай прыкмеце з тэкстам анекдота. Такім чынам, анекдот − гэта тэкставая метафара, прататыпічны тэкст, з якім мы злучаем рэальную жыццёвую сітуацыю. Анекдотасістэма − гэта тая прызма, праз якую мы глядзім на навакольны свет. Гэта дазваляе выказаць здагадку, што насуперак традыцыйнаму меркаванню пра разбураючую, наватарскую функцыю гумару, анекдоты не руйнуюць стэрэатыпы [7–9], а наадварот, навязваюць іх нам, пацвярджаюць іх, як бы кажучы: «Так, жонкі змяняюць, багатыя дурныя і г. д.».

З пункту гледжання структуры і кампазіцыі тэксту, беларускія сельскія анекдоты і жарты пачатку XX ст. з’яўляюцца меней кароткімі ў параўнанні з сучаснымі прадстаўнікамі жанру, іх завязка даўжэйшая, мае шмат дэталяў і ўдакладненняў. На наш погляд, гэта можна растлумачыць асаблівасцямі паходжання і прагматыкі жанру. Анекдот, як вядома, бярэ свой пачатак ад бытавой казкі. Шматлікія тэксты ў прадстаўленай выбарцы сапраўды цяжка адрозніць ад казкі, бо даўжыня пераважнай большасці тэкстаў (90%) перавышае стандартны памер у 5–6 радкоў, дасягаючы ў некаторых выпадках памеру 1–2 старонак (10%). Тым не менш фармаванне жанру ўжо пачалося – аднасюжэтнасць, нечаканасць развязкі з’яўляюцца неад’емнымі прыкметамі сучаснага жанру анекдота. З прагматычнага пункта гледжання варта ўлічваць, што анекдоты, прадстаўленыя ў складанках, маюць крыніцай збіральніка фальклору, а не яго носьбіта, апавядальніка. Апавядальнік, безумоўна, разумеў, што слухач-збіральнік «не з нашых» і дадаваў да апавядання неабходныя для разумення дэталі і ўдакладненні. Для збіральніка фальклору гэта ўласцівасць гумару (апавядальнік павінен ідэнтыфікаваць слухача як «свайго» (сітуацыя, акцэнт і г. д.)) вельмі важна. Менавіта таму ў фальклорных архівах так мала гумарыстычных твораў. Самі збіральнікі кажуць, што рэспандэнты больш «жаляцца на сваю горкую долю», чым «жартуюць». Пажаліцца можна і чужому, а вось пасмяяцца толькі са сваім (бо смяюцца над чужымі). Ды і сам эфект гумару разлічаны на агульнасць асацыяцый, камічны эфект губляецца пры тлумачэнні, ён цалкам імплі-

цытны. Таму некаторая колькасць прадстаўленых у складанцы анекдотаў, на наш погляд, не сведчыць пра прымітыўнасць пачуцця гумару ў сялян таго часу, а хутчэй за ўсе пра нашу чужароднасць як сацыяльную, так і часавую. Нават параўнальна нядаўняя эпоха дзевяностых, якая нарадзіла цэлы анекдатычны рух у краінах былога Савецкага Саюза, малазразумелая цяперашняму пакаленню дваццацігадовых. Яны не разумеюць анекдоты пра халодную вайну, дэфіцыт і Гарбачова.

Такім чынам, моўныя сродкі, выкарыстаныя ў беларускіх фальклорных жанрах жарта, анекдота і гумарэскі маюць шмат агульнага з іншымі камічнымі нефальклорнымі жанрамі (аманімія, палісемія, дэфразеалагізаванне, моўная маска). З іншага боку, апроч агульных механізмаў стварэння камічнага, у даследаваных тэкстах былі выяўлены прыёмы, характэрныя для беларускага негумарыстычнага фальклору (рыфма, паўторы, дыялектызмы, народная этымалогія і інш.). Дадзеныя вынікі дазваляюць зрабіць выснову пра наяўнасць як спецыфічных сродкаў выразу камічнага, так і неспецыфічных сродкаў, чый характар вызначаецца асаблівасцямі дыскурсу, у рамках якога існуе жанр.

## Літаратура

1. Сержпутовский, А. К. Сказки и рассказы белорусов-полешуков / А. К. Сержпутовский. – СПб., 1911. – 188 с.

2. Жарты, анекдоты, гумарэски / Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; склад. А. С. Фядосік. – Мінск, 1984. – 438 с.

3. Federowski, M. Lud bialoruski na Rusi Litewskiej: у 3 т. / M. Federowski. – Krakow, 1897–1903. – Т. 3.

4. Raskin, V. Semantic Mechanisms of Humor / V. Raskin. – Dordrecht, Boston; Lancaster, 1985. – 284 p.

5. Attardo, S. Linguistic Theories of Humor / S. Attardo. – Berlin; New-York, 1994. – 426 p.

6. Гилевич, Н. Паэтыка беларускай народнай лирыки / Н. Гилевич. – Минск, 1975. – С. 56.

7. Панина, М. А. Комическое и языковые средства его выражения: дис. ... канд. филол. наук / М. А. Панина. – М., 1996. – 144 л.

8. Месропова, О. М. Структурные, прагматические и содержательные аспекты текстотипов «анекдот» и «шутка» (на материале амер. текстов): автореф. дис. ... канд. филол. наук / О. М. Месропова. – СПб., 1999. – 18 с.

9. Лендваи, Э. Прагмалингвистические механизмы современного русского анекдота: дис. ... д-ра филол. наук: 10.02.01 / Э. Лендваи. – М., 2001. – 376 л.

## Summary

The article examines language means used in Belarusian folk humor texts of the beginning of the 20th century. Besides traditional means of expressing humor such as homonymy, polysemy, paronomasia, the author discusses non specific means presented in the sample that are common to folk discourse. A comparative analysis of the 20-century humor text and contemporary joke is made. Special attention is paid to metaphor and its function in a humorous text.

*Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт* *15.12.2010 г.*

*УДК 811.161.3’36+811.161.3’37*

*Н. К. АРХІПАВА*

# АСАБОВЫЯ АДСУБСТАНТЫЎНЫЯ НАЗВЫ СА ЗНАЧЭННЕМ ‘ЖЫХАР’ У СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

У сучаснай дэрываталогіі напісана нямала прац па персанальных найменнях: Г. А. Арцямёнак, В. А. Бекіш, В. Л. Вarановіч, П. В. Вярхоў, Б. І. Касоўскі, С. С. Клундук, М. А. Паўленка, П. У. Сцяцко, В. Б. Хацкевіч і іншыя. Між тым нельга сказаць, што асноўныя пытанні, звязаныя з утварэннем назоўнікаў са значэннем асобы, вырашаны з дастатковай ступенню паўнаты і канкрэтнасці. Як правіла, рамкі даследаванняў абмежаваны пэўнымі тыпамі, спосабамі, катэгорыямі. Таму комплекснае вывучэнне назоўнікаў са значэннем асобы з’яўляецца актуальнай праблемай у сучаснай беларускай мове.

У артыкуле разглядаецца семантыка і словаўтварэнне адназоўнікавых назваў асобы паводле месцапражывання ці месцазнаходжання. Матэрыялам для даследавання паслужылі матываваныя назоўнікі адназоўнікавага ўтварэння са значэннем ‘жыхар’, атрыманыя шляхам суцэльнай выбаркі з Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы [1] і Беларуска-рускага слоўніка [2] (далей ТСБМ і БРС).

У ТСБМ і БРС зафіксавана каля 730 адназоўнікавых назваў асобы па адносінах да тэрыторыі, месцазнаходжання, месцапражывання. Дадзеная лексіка-словаўтваральная група характарызуецца аднароднасцю паводле дэрывацыйнага значэння, але з’яўляецца дастаткова складанай з пункту погляду суаднесенасці з семантыкай матывавальнага назоўніка. У складзе разглядаемай групы можна вылучыць падгрупы і рады слоў рознай ступені семантычнай абагульненасці і класіфікаваць іх па прынцыпе ступеньчатага супадпарадкавання. На першым кроку класіфікацыі ўсе адназоўнікавыя намінацыі са значэннем ‘жыхар’ дзеляцца на дзве няроўныя па аб’ёме тэматычныя групы, якія супрацьпастаўляюцца на аснове адрознення іх рэферэнтнай аднесенасці: 1) ‘назвы рэальных асоб’, члены якой характарызуюцца аднесенасцю да аб’ектаў рэальнай сапраўднасці і 2) ‘назвы выдуманых чалавекападобных істот, міфалагічных, рэлігійных вобразаў, казачных персанажаў’, для якіх прадметам абазначэння з’яўляецца канструяваны вобраз неіснуючага аб’екта. Гэта, з аднаго боку, вытворныя словы тыпу *вадзянік, ваўкалак, грамавержац, снягурка* і інш., з другога – невытворныя найменні: *вампір, вельзевул, волат, д’ябал, кашчэй, сатана, ундзіна* і інш. [3].

А. С. Белавусава лічыць, што падставай для ўключэння гэтых слоў у клас найменняў асобы служаць іх моўныя характарыстыкі. Найменні тыпу *багіня, асілак* разам з назвамі чалавека ўваходзяць у разрад адушаўлёных назоўнікаў: яны азначаюць ‘істота, здольная да мыслення’; яны супрацьпастаўляюцца па прыкмеце полу (*чараўнік–чараўніца*); іх валентнасныя ўласцівасці супадаюць з валентнаснымі ўласцівасцямі назваў рэальных асоб.

Характэрнай семантычнай асаблівасцю слоў другой групы з’яўляецца адсутнасць рода-відавых сувязей паміж кампанентамі. У гэтай групе мы вылучаем чатыры адназоўнікавыя назвы асобы паводле месцапражывання ці месцазнаходжання: *вадзянік* ‘у народных павер’ях уладар вадаёмаў, які жыве ў вадзе’, *дамавік* ‘у народных павер’ях злы або добры дух, які жыве ў кожным доме’, *лясун* ‘у славянскай міфалогіі – жыхар лесу, лясны дух’, *палявік* ‘у старажытнай беларускай міфалогіі – гаспадар поля’. Адназоўнікавыя субстантывы гэтай групы па словаўтваральнай структуры суфіксальныя (*вада → вадз**янік**, дом → дам**авік**, лес → ляс**ун**, поле → пал**явік***). Яны матываваны агульнымі неасабовымі назоўнікамі мужчынскага, жаночага і ніякага роду. Далучэнне словаўтваральных афіксаў да матывавальнай асновы выклікае марфаналагічныя пераўтварэнні: чаргаванне галосных і зычных фанем, змену месца націску.

На думку Б. І. Касоўскага, найменні *дамавік, палявік* нельга адносіць да адназоўнікавых утварэнняў, у гэтых словах мэтазгодна выдзяляць суфікс **-ік**, а папярэднія гукі адносіць да асновы прыметніка (*дамавы → дамав**ік**, палявы → паляв**ік***). В. Б. Хацкевіч жа сцвярджае, што «суфікс **-авік** утварыўся ў выніку перараскладання асноў з прыметнікавага суфікса *-ав(ы)* і суфікса назоўнікаў *-ік* …, што пры дапамозе суфікса **-авік** сустракаюцца ўтварэнні ад асноў назоўнікаў» [4]. Мы ж лічым, што найменні *дамавік, палявік* можна адносіць і да адпрыметнікавых, і да адназоўнікавых утварэнняў.

Наступны крок семантычнай класіфікацыі адназоўнікавых назваў асобы па адносінах да тэрыторыі, месцазнаходжання, месцапражывання звязаны з выдзяленнем падгруп і радоў у тэматычнай групе ‘назвы рэальных асоб’. Дастаткова выразна вылучаюцца тры падгрупы: 1) агульныя назвы (*зямляк, зямлячка, імігрантка, метыска, мулатка, правінцыял, правінцыялка* і інш.); 2) назвы па часовым месцапражыванні, месцазнаходжанні *(кватарант, кватарантка, лагернік, лагерніца, санаторнік, санаторніца* і інш.); 3) назвы па адносінах да пастаяннага месцапражывання (*гасконец, гасконка, іспанец, іспанка, крыцянін, крыцянка* і інш.). Першыя дзве падгрупы (‘агульныя назвы’ і ‘назвы па часовым месцапражыванні, месцазнаходжанні’) нешматлікія па колькасці (70 слоў), а вось трэцяя – шматлікая (прыкладна 657 слоў). У яе складзе ўмоўна выдзяляюцца наступныя рады слоў: а) жыхар(ка) планеты (*зямлянін, зямлянка, марсіянін, марсіянка*); б) жыхар(ка) кантынента (*азіят, азіятка, амерыканец, амерыканка* і інш.); в) жыхар(ка) часткі сушы (*астраўлянін, астраўлянка, стэпавік, стэпавічка* і інш.);

г) жыхар(ка) пэўнай тэрыторыі, мясцовасці (*каўказец, каўказка, сібірак, сібірачка* і інш.); д) жыхар(ка) краіны (*візантыец, візантыйка, егіпцянін, егіпцянка, эфіоп, эфіопка* і інш.); е) жыхар(ка) адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі (*каталонец, каталонка, тувінец, тувінка, якут, якутка* і інш.); ж) жыхар(ка) населенага пункта (*вясковец, вяскоўка, гараджанін, гараджанка, станічнік, станічніца* і інш.); з) жыхар(ка) прыватных паселішчаў (*дзедзіч, памешчыца, фермер, фермерка* і інш.). Некаторыя з названых радоў з'яўляюцца ўзаемаперасякальнымі. Адны і тыя ж лексемы могуць адначасова ўключацца ў склад двух радоў. Напрыклад, *ісландзец* ('жыхар пэўнай тэрыторыі (вострава)' і 'жыхар краіны'); *аўстраліец* ('жыхар кантынента' і 'жыхар краіны'); *філіпінец* ('жыхар пэўнай тэрыторыі (астравы)' і 'жыхар краіны' і інш.

Па словаўтваральнай структуры субстантывы падгрупы 'назвы рэальных асоб' падзяляюцца на суфіксальныя, прыставачныя, прыставачна-суфіксальныя, прыставачна-нульсуфіксальныя, нульсуфіксальныя і ўтвараюцца ў межах мутацыйнага словаўтварэння. Мы прытрымліваемся меркавання А. А. Лукашанца, што словаўтваральная катэгорыя 'жыхар' уключаецца ў разрад мутацыйных назваў з агульным значэннем 'носьбіт прадметнай прыметы' [5].

**Мужчынскія намінацыі** (прыкладна 320 слоў). Самым прадуктыўным спосабам пры ўтварэнні мужчынскіх адназоўнікавых назваў асобы па адносінах да тэрыторыі, месцазнаходжання, месцапражывання з'яўляецца суфіксацыя. Найбольш распаўсюджаны ў сучаснай беларускай мове найменні з фармантам **-ец** (прыкладна 135 слоў). Яны размяркоўваюцца па наступных семантычных падгрупах і радах: 1) назвы жыхароў кантынентаў (*Аўстралія → аўстраліец*); 2) назвы жыхароў пэўных тэрыторый ці мясцовасцей (*Кубань → кубанец, Тыбет → тыбецец* і інш.); 3) назвы жыхароў краін (*Іран → іранец, Малаві → малавіец, Філіпіны → філіпінец* і інш.); 4) назвы жыхароў адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак *(Андалузія → андалузец, Дагестан → дагестанец* і інш.). Матывавальнымі асновамі для намінацый, утвораных пры дапамозе суфікса **-ец**, выступаюць нематываваныя асновы неасабовых, уласных назоўнікаў мужчынскага, жаночага, ніякага роду і множналікавых назоўнікаў (pluralia tantum).

Праз некалькі семантычных груп рэалізуюцца субстантывы, утвораныя пры дапамозе суфіксаў **-ац, -анец**. Яны называюць жыхароў кантынентаў (*Афрыка → афрыканец, Амерыка → амерыканец*), частак сушы (*горы → горац*), пэўных тэрыторый і мясцовасцей (*Ява → яванец* і інш.), жыхароў краін (*Алжыр → алжырац, Перу → перуанец* і інш.), адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак (*Кашмір → кашмірац, Корсіка → карсіканец* і інш.), жыхароў прыватных паселішчаў (*хутар → хутаранец*). Матывавальнымі асновамі з'яўляюцца нематываваныя агульныя і ўласныя, асабовыя і неасабовыя назоўнікі мужчынскага, жаночага, ніякага роду і множналікавыя назоўнікі.

Аўтары Беларускай граматыкі разглядаюць утварэнні з суфіксамі **-ец (-эц, -ац), -анец, -інец,** якія абазначаюць асоб па адносінах да тэрыторыі, мясцовасці, краіны, як адпрыметнікавыя (ад асноў адносных прыметнікаў з суфіксам *-ск-: абхаз* ад *абхазскі*). З назоўнікамі ўтварэнні такога тыпу звязаны ўскосна, апасродкавана, праз прыметнік, які, у сваю чаргу, утвораны ад назоўніка (*абхазскі* ад *Абхазія*) [6]. Мы ў сваім даследаванні кіруемся меркаваннем Б. В. Хацкевіч, што «пры дапамозе суфікса *-ец* утвараюцца назоўнікі ад асноў назоўнікаў. Калі ўтваральны назоўнік абазначае пэўную мясцовасць, краіну … то ўтвораны назоўнік будзе абазначаць жыхара пэўнай мясцовасці: *Украіна → украінец, Урал → уралец* і інш.» [7].

Назоўнікі з суфіксамі **-ін, -анін(-янін)** таксама рэалізуюць некалькі семантычных груп: 1) агульныя назвы жыхароў (*грамадзяне → грамадзянін*); 2) назвы жыхароў па часовым месцапражыванні, месцазнаходжанні (*катарга → катаржанін*); 3) назвы жыхароў планет (*Зямля → зямлянін, Марс → марсіянін*); 4) назвы жыхароў частак сушы (*астраўляне → астраўлянін, памаране → памаранін*); 5) назвы жыхароў пэўных тэрыторый ці мясцовасцей (*Крым → крымчанін, Русь → русін* і інш.); 6) назвы жыхароў краін (*Грузія → грузін, Ізраіль → ізраільцянін* і інш.); 7) назвы жыхароў адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак (*Англія → англічанін, Лацыум → лаціянін, Мардовія → мардвін* і інш.); 8) назвы жыхароў населеных пунктаў (*гараджане → гараджанін, сяло → селянін, сяльцо → сяльчанін*); 9) назва жыхароў прыватных паселішчаў (*хутар → хутаранін*). Выходнымі асновамі для названага тыпу дэрыватаў служаць нематываваныя асновы асабовых ці неасабовых, уласных і агульных назоўнікаў мужчынскага, жаночага, ніякага роду. У словах *англічанін і марсіянін* прапануюць вылучаць суфіксы *-ічанін, -іянін* [8]. Мы ж мяркуем, што ў гэтых словах назіраецца такая марфаналагічная змена ўтваральнай асновы, як нарашчэнне і адпаведна вылучаем суфіксы *-анін* і *-янін.*

Нязначная колькасць адназоўнікавых асабовых назоўнікаў мужчынскага роду са значэннем ‘жыхар’ утворана пры дапамозе суфікса **-нік** *(дача → дачнік, катарга → катаржнік, скіт → скітнік* і інш.). Намінацыі ўтвораны ад нематываваных асноў агульных неасабовых назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду і з’яўляюцца назвамі жыхароў па часовым месцазнаходжанні, месцапражыванні, назвамі жыхароў населеных пунктаў і прыватных паселішчаў, назвамі жыхароў частак сушы. Суфікс **-нік**, як вядома, утварыўся ад прыметнікавага суфікса **-н-** і назоўнікавага **-ік**, таму некаторыя названыя намінацыі можна разглядаць як адпрыметнікавыя ўтварэнні з суфіксам **-ік** (*курортны → курортн**ік**, лагерны → лагерн**ік**, таежны → таежн**ік*** і інш.) [9].

Невялікімі групамі слоў мужчынскага роду прадстаўлены ў сучаснай беларускай мове тыпы з суфіксамі: **-ак(-як)** (*зямля → зямляк, Сібір → сібірак* і інш.). Суфікс **-ак(-як)** мае аналагічны ў рускай мове (*аўстрыяк–австрияк, паляк–поляк, турак–турок* і інш. (у выніку акання мы маем

суфікс *-ак (-як)* у тых выпадках, дзе ў рускай мове ненаціскны суфікс *-ок*)) [10]; **-алец (-ялец)** (*Praванс → правансалец* і інш.); **-ант(янт)** (*рэпатрыяцыя → рэпатрыянт* і інш.). Суфікс іншамоўнага паходжання **-ант(-янт)** выкарыстоўваецца ў словах з запазычанай асновай [11]; **-овец** (*вёска → вясковец* і інш.); **-авік** (*лес → лесавік, стэп → стэпавік*). Найменні *лесавік* і *стэпавік* можна ўтвараць ад прыметнікаў *лесавы* і *стэпавы* і выдзяляць суфікс *-ік* (пазіцыя Б. І. Касоўскага); **-ал(-ял)** (*правінцыя → правінцыял, Камчатка → камчадал*); **-інец** (*Куба → кубінец* і інш.); **-ын** (*Балгарыя → балгарын* і інш.); **-алезец** (*Конга → кангалезец* і інш.); **-ыец** (*Руанда → руандыец* і інш.); **-ер** (*пансіён → пансіянер* і інш.). Субстантывы матываваны ўласнымі ці агульнымі неасабовымі назоўнікамі мужчынскага, жаночага, ніякага роду і абазначаюць агульныя назвы жыхароў, назвы жыхароў па часовым месцазнаходжанні, ураджэнцаў краін, адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, мясцовасцей, тэрыторый, населеных пунктаў або прыватных паселішчаў.

Адзінкавымі прыкладамі прадстаўлены суфіксальныя назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць жыхароў краін: **-уз** (*Францыя → француз*), **-ыёт** (*Кіпр → кіпрыёт*); жыхароў прыватных паселішчаў: **-іч** (*дзед → дзедзіч*), **-ар** (*пасэсія → пасэсар*), **-атар** (*плантацыя → плантатар*); жыхароў кантынентаў: **-ят** (*Азія → азіят*), **-еец** (*Еўропа → еўрапеец*); жыхароў пэўнай тэрыторыі, мясцовасці: **-от** (*Ніл → нілот*), **-чак** (*Крым → крымчак*); жыхароў населеных пунктаў: **-іст** (*калонія → каланіст*). Дэрываты матываваны нематываванымі асновамі агульных ці ўласных, асабовых і неасабовых назоўнікаў.

Іншыя спосабы ўтварэння адназоўнікавых назоўнікаў катэгорыі ‘жыхар’ прадстаўлены адной **прыставачнай** лексічнай адзінкай (*грамадзянін → **су**грамадзянін*), адной **прыставачна-нульсуфіксальнай** (*мора → **па**мор*), шасцю **прыставачна-суфіксальнымі** (*айчына → **су**айчын**нік**, хаціна → **бес**хацін**ец**, хата → **бяс**хат**нік**, дом → **бяз**дом**нік**, дом → **бяз**дом**ак**, прытулак → **бес**прытуль**нік***) і дастаткова вялікай групай слоў **нульсуфіксальнага** ўтварэння (*Абхазія → абхаз, Грэцыя → грэк, Карэлія → карэл, Манголія → мангол, Славакія → славак, Чэхія → чэх* і інш.).

В. Б. Хацкевіч сцвярджае, што найменні *бяздомнік, беспрытульнік* і іншыя ўтварыліся пры дапамозе суфікса *-нік* ад асновы назоўніка з прыназоўнікам *без* [12]. Мы прытрымліваемся пазіцыі аўтараў ССБМ, якія разглядаюць гэтыя найменні як утварэнні ад асноў назоўнікаў пры дапамозе прыстаўкі *-бес (-бяз)* і суфікса *-нік* ці як адпрыметнікавыя ўтварэнні з суфіксам *-ік* [13].

Асобную праблему складае пытанне аб уключэнні ў склад адназоўнікавых дэрыватаў са значэннем ‘жыхар’ лексічных адзінак, утвораных нульсуфіксальным спосабам, якія традыцыйна разглядаюцца як невытворныя. Аднак з пазіцый строга сінхроннага падыходу гэтыя назвы ўступаюць у тыя ж матывацыйныя адносіны, што і відавочна вытворныя назвы, напрыклад: *Аргенціна → аргенцінец, Асецыя → асецін, Алтай → алтаец* і адпаведна *Калмыкія → калмык, Румынія → румын, Скандынавія → скандынаў* і інш.

Таму мы лічым, што найменні тыпу *бурат, сван, таджык, харват, узбек, швед, эфіоп, якут* і іншыя можна аднесці да вытворных і ўключыць у састаў адсубстантыўных найменняў асобы. Дэрываты, утвораныя нульсуфіксальным спосабам, называюць жыхароў тэрыторый, мясцовасцей, краін, адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак і матывуюцца асновамі агульных ці ўласных, асабовых і неасабовых назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду.

У адназоўнікавых субстантываў, што называюць асобу адносна тэрыторыі, месцазнаходжання, месцапражывання, далучэнне словаўтваральных афіксаў да матывавальнай асновы выклікае пэўныя марфаналагічныя змены ўтваральнай асновы: нелінейныя: 1) **змена месца націску** (*Азія → азіят, стэп → стэпавік, Ява → яванец* і інш.); 2) **чаргаванне фанем у сярэдзіне ўтваральнай асновы:** а) галосных (*вёска → вясковец* (адначасова мена месца націску), *Еўропа → еўрапеец* (адначасова мена месца націску і чаргаванне зычнага ў фіналі асновы), *Марока → мараканец* (адначасова мена месца націску), *пансіён → пансіянер* (адначасова мена месца націску і чаргаванне зычнага ў фіналі асновы) і інш.). Вакалічныя чаргаванні, якія залежаць ад месца націску рэалізуюцца праз два тыпы і адну альтэрнацыю ў кожным тыпе: <о ~ а>, <е ~ а>; б) галоснай з нулём гука (*Літва → літовец* (адначасова мена месца націску і чаргаванне зычнага ў фіналі асновы), *Мардовія → мардвін* (адначасова мена месца націску і ўсячэнне асновы) і інш.). Намі выяўлены тры варыянты чаргавання галоснага з нулём гука: <ø ~ о>, <о ~ ø>, <ø ~ а> ; 3) **чаргаванні зычнага ў фіналі асновы** (*Аргенціна → аргенцінец, Беларусь → беларус, будка → будачнік* (адначасова чаргаванне галоснай з нулём гука ў сярэдзіне асновы), *Гвадэлупа → гвадэлупец, катарга → катаржнік, Каўказ → каўказец, Куба → кубінец, Ірак → іракец, начлег → начлежнік, Панама → панамец, станіца → станічнік, Тува → тувінец, Туніс → тунісец, Сенегал → сенегалец, Тайланд → тайландзец, Тыбет → тыбецец*) і інш.). Самы шматлікі тып кансанантных чаргаванняў – чацвёрты (чаргаванне цвёрдага зычнага з мяккім). Ён рэалізуе адзінаццаць альтэрнацый: <б ~ б’>, <п ~ п’>, <в ~ в’>, <м ~ м’>, <л ~ л’>, <н ~ н’>, <д ~ дз’>, <т ~ ц’>, <с ~ с’>, <з ~ з’>, <к ~ к’>. Першы тып (чаргаванне заднеязычнага зычнага з шыпячым) прадстаўлены двума альтэрнацыямі: <г ~ ж>, <к ~ ч>, другі (чаргаванне свісцячага зычнага з шыпячым) – адной: <ц ~ ч> і пяты (чаргаванне мяккага зычнага з цвёрдым) – адной: <с’~с>; лінейныя: 1) **усячэнне матывавальнай асновы** (*Зімбабве → зімбабвіец* (адначасова мена месца націску і нарашчэнне асновы), *Камчатка → камчадал* (адначасова мена месца націску і чаргаванне зычнай у сярэдзіне асновы), *Польшча → паляк* (адначасова мена месца націску і чаргаванне галоснай у сярэдзіне асновы), *Ямайка → ямаец* і інш.); і 2) **нарашчэнне асновы** (*Англія → англічанін* (адначасова мена месца націску і ўсячэнне асновы), *Крым → крымчанін* (адначасова мена месца націску), *мансі → мансіец, Марс → марсіянін* (адначасова мена месца націску і чаргаванне зычнага ў фіналі асновы) і інш.).

У дэрыватаў *кангалезец, мараканец, нікарагуанец, тагалезец, танганец* назіраецца налажэнне першага гука суфікса на апошні гук утваральнай асновы (*Конг**а**+**алезец** → канг[а-лезец]-(ø), Марок**а**+**анец** → марак[а-нец](ø), Нікарагу**а**+**анец** → нікарагу[а-нец]-(ø), Тог**а**+**алезец** → таг[а-лезец]-(ø), Тонг**а**+**анец** → танг[а-нец]-(ø)*).

Некаторыя назоўнікі мужчынскага роду са значэннем ‘жыхар’, адзначаныя ў ТСБМ і БРС, маюць сінанімічныя адпаведнікі з рознымі суфіксальнымі фармантамі (*аўстрыец – аўстрыяк, балкар – балкарац, венгр – венгерац, мардовец – мардвін, скандынаў – скандынавец* і інш.).

**Жаночыя намінацыі.** Сярод адсубстантыўных назваў асобы па адносінах да тэрыторыі, месцазнаходжання, месцапражывання ў сучаснай беларускай мове значнае месца займаюць назоўнікі жаночага роду. У ТСБМ і БРС зафіксавана каля 400 жаночых адназоўнікавых назваў асобы са значэннем ‘жыхарка’. Па сваёй словаўтваральнай структуры гэта толькі суфіксальныя ўтварэнні. Такія назоўнікі спалучаюць мутацыйнае значэнне ‘асоба паводле месцапражывання ці месцазнаходжання’ – ‘жанчына да таго, хто названы матывавальным словам’ і мадыфікацыйнае значэнне ‘жаночасці’ – ‘асоба жаночага полу’. Аднак гэтыя дэрывацыйныя значэнні ўключаюцца ў семантыку матываванага слова паслядоўна на кожным наступным кроку дэрывацыі (*Еўропа → еўрапеец* (мутацыйнае значэнне) *→ еўрапейка* (мадыфікацыйнае значэнне)).

У лінгвістычных працах сустракаюцца розныя меркаванні па пытанні вытворнасці назоўнікаў са значэннем асобы жаночага полу. Напрыклад, П. У. Сцяцко лічыць, што назвы асоб жаночага полу маюць два шляхі ўтварэння: ад асноў асабовых назоўнікаў мужчынскага роду (*чэмпіён → чэмпіён-ка*) і мужчынскія і жаночыя намінацыі ад адной словаўтваральнай базы (*школа → школь-нік* і *школь-ніца*). Мы ў сваім даследаванні будзем прытрымлівацца пазіцыі В. Л. Варановіча, што «ўтварэнне назваў асобы жаночага полу ад карэляцыйных назваў асобы мужчынскага полу ў беларускай мове з’яўляецца правілам» [14].

Самым прадуктыўным для ўтварэння адназоўнікавых жаночых намінацый катэгорыі ‘жыхарка’ з’яўляецца фармант **-к-а** (прыкладна 342 словы). Зыходнымі выступаюць: а) матываваныя асновы асабовых назоўнікаў мужчынскага роду на **-ак(-як)** (*аўстрыяк → аўстрыячка, сібірак → сібірачка* і інш.), **-ант(-янт)** *(кватарант → кватарантка, рэпатрыянт → рэпатрыянтка*), **-ал(-ял)** (*камчадал → камчадалка, правінцыял → правінцыялка*), **-ін(-ын)** (*дунганін → дунганка, татарын → татарка* і інш.), **-ец** *(іарданец → іарданка, нагаец → нагайка* і інш.), **-ер** (*пансіянер → пансіянерка* і інш.), **-анін(-янін)** (*датчанін → датчанка, селянін → сялянка* і інш.), **-ят** (*азіят → азіятка*), **-ац** (*заірац → заірка* і інш.), **-анец(-янец)** (*італьянец → італьянка, яванец → яванка* і інш.), **-ыец** (*мальтыец → мальтыйка* і інш.), **-еец** (*еўрапеец → еўрапейка*),**-інец** (*кубінец → кубінка* і інш.), **-ыёт** (*кіпрыёт → кіпрыётка*), **-алезец** (*кангалезец → кангалезка* і інш.),

**-алец** (*правансалец → правансалка*), **-авік** (*лесавік → лесавічка* і інш.), **-іст** (*каланіст → каланістка*), **-ø** (*сван → сванка, чуваш → чувашка, якут → якутка* і інш.), **-чак** (*крымчак → крымчачка*), **-от** (*нілот → нілотка*); б) нематываваныя асновы асабовых назоўнікаў мужчынскага роду (*індус → індуска, кет → кетка, ніўх → ніўхка, фін → фінка, яўрэй → яўрэйка* і інш.). Намінацыі абазначаюць агульныя назвы жыхароў, назвы жыхароў па часовым месцазнаходжанні, характарызуюць асоб паводле іх пражывання ці знаходжання на планетах, кантынентах, частках сушы, пэўных тэрыторыях, у краінах, адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінках, населеных пунктах або прыватных паселішчаў.

Дэрываты, утвораныя пры дапамозе суфіксаў **-іц-а, -ніц-а, -анк-а (янк-а), -оўк-а** (усяго 35 слоў), абазначаюць асобу жаночага полу (*абшарнік → абшарніца, бразілец → бразільянка, бяздомнік → бяздомніца, вясковец → вяскоўка, таежнік → таежніца, чэркес → чэркешанка* і інш.) і суадносяцца з нематываванымі і матываванымі асновамі асабовых назоўнікаў мужчынскага роду.

Адзінкавымі прыкладамі суфіксальных назоўнікаў жаночага роду са значэннем ‘жыхарка’ прадстаўлены тыпы з фармантамі: **-онк-а** (*баск → басконка*); **-шчыц-а** (*зімоўшчык → зімоўшчыца*); **-ыцянк-а** (*негр → негрыцянка*); **-чыц-а** (*памешчык → памешчыца*); **-ачк-а** (*сібірак → сібірачка*); **-ыйк-а** (*угандзец → угандыйка*); **-энк-а** (*ураджэнец → ураджэнка*); **-ых-а** (*фермер → фермерыха*); **-ійк-а** (*эвенк → эвенкійка*). Матывавальнымі выступаюць нематываваныя і матываваныя асновы асабовых назоўнікаў мужчынскага роду.

У жаночых намінацый са значэннем ‘жыхарка’, далучэнне словаўтваральных афіксаў да матывавальнай асновы выклікае пэўныя марфаналагічныя змены ўтваральнай асновы: 1) **змена месца націску** (*армянін → армянка* (адначасова чарგаванне зычнай у сярэдзіне асновы і ўсячэнне асновы), *баск → басконка, бразілец → бразільянка* (адначасова чаргаванне нуля гука з зычнай у сярэдзіне асновы і ўсячэнне асновы), *кітаец → кітаянка* (адначасова ўсячэнне асновы), *угандзец → угандыйка* (адначасова чаргаванне зычнай у сярэдзіне асновы) і інш.); 2) **чаргаванне фанем у сярэдзіне ўтваральнай асновы:** а) галосных: *горац → гаранка* (адначасова мена месца націску і ўсячэнне асновы), *грэк → грачанка* (адначасова мена месца націску, чаргаванне зычнага ў фіналі асновы і ўсячэнне асновы), *індзеец → індыянка* (адначасова мена месца націску, чаргаванне зычнай у сярэдзіне асновы і ўсячэнне асновы), *селянін → сялянка* (адначасова мена месца націску, чаргаванне зычнай у сярэдзіне асновы і ўсячэнне асновы) і інш.; б) галоснага з нулём гука: *венгр → венгерка* (адначасова мена месца націску); 3) **чаргаванне зычнага ў фіналі асновы:** *зямляк → землячка, лях → ляшка, француз → француженка, чэркес → чэркешанка, эвенк → эвенкійка* (адначасова мена месца націску) і інш.; 4) **усячэнне матывавальнай асновы:** *зыранін → зыранка* (адначасова чаргаванне зычнай у сярэдзіне асновы),

*іжорац → іжорка, памешчык → памешчыца, сібірак → сібірачка, уругваец → уругвайка* і інш.; 5) **нарашчэнне матывавальнай асновы:** *маўр → маўрытанка* (адначасова мена месца націску)*, перс → персіянка* (адначасова мена месца націску і чаргаванне зычнага ў фіналі асновы) і інш.

Некаторыя назоўнікі жаночага роду, адзначаныя ў ТСБМ і БРС, маюць сінанімічныя адпаведнікі: а) з адным і тым жа суфіксальным фармантам (*аўстрый**к**а – аўстрыяч**к**а, крымчан**к**а – крымчач**к**а, мардоў**к**а – мардвін**к**а, поль**к**а – паляч**к**а, сербіян**к**а – серб**к**а*); б) з рознымі суфіксальнымі фармантамі (*катаржн**іц**а – катаржан**к**а, негрытос**к**а – негр**ыцянк**а, фермер**к**а – фермер**ых**а*).

Цікавасць уяўляюць намінацыі *абхазка, балкарка, імерэцінка, сінгалка, скандынаўка, табасаранка* і інш. Такія назоўнікі маюць дзве матывавальныя назоўнікавыя асновы, а словаўтваральны фармант адзін (*венгерац → венгер**к**а* і *венгр → венгер**к**а*, *мінгрэлец → мінгрэлка* і *мінгрэл → мінгрэлка, хутаранец → хутаранка* і *хутаранін → хутаранка* і інш.), ці два (*маўрытанец → маўрытан**к**а* і *маўр → маўр**ытанк**а, персіянін → персіян**к**а* і *перс → перс**іянк**а* і інш.).

Такім чынам, словаўтваральную катэгорыю ‘назвы асоб паводле месцапражывання ці месцазнаходжання’ складаюць назоўнікі мужчынскага і жаночага роду, якія рэалізуюцца ў межах пяці граматычных мадэлей (граматычная мадэль – гэта схема ўтварэння слова з улікам часцінамоўнай прыналежнасці і класіфікацыйных граматычных катэгорый матывавальнага і матываванага слоў [15]): N. неадуш. ж. → N. адуш. м., N. неадуш. м. → N. адуш. м., N. неадуш. с. → N. адуш. м., N. неадуш. Pl. t. → N. адуш. м., N. адуш. м. → N. адуш. ж. і дастаткова вялікай колькасцю словаўтваральных фармантаў. Сярод іх выразна выдзяляюцца суфіксы **-ец, -ац, -анец, -ін, -анін(-янін), -к-а.** Тыпы найменняў з **-ец** і **-к-а** прадуктыўныя ў сучаснай беларускай мове.

## Літаратура

1. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. – Мінск: БелСЭ, 1977–1984.

2. Беларуска-рускі слоўнік: у 2 т. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. К. К. Атраховіч (Кандрат Крапіва). – 2-е выд., перапрац. і дап. – Мінск: БелСЭ, 1988 – Т. 1. – 813 с.; 1989. – Т. 2. – 748 с.

3. Гак, В. Г. К типологии лингвистических номинации / В. Г. Гак // Языковая номинация. Общие вопросы. – М.: Наука, 1977. – С. 253, 254.

4. Хацкевіч, В. Б. Суфіксальнае словаўтварэнне назоўнікаў, якія абазначаюць асобу мужчынскага полу ў сучаснай беларускай мове / В. Б. Хацкевіч // Даследаванні па беларускай і рускай мовах. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1958. – С. 176.

5. Лукашанец, А. А. Граматычны аспект славянскага словаўтварэння / А. А. Лукашанец. – Мінск, 1998. – С. 10.

6. Беларуская граматыка: у 2 ч. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. М. В. Бірыла, П. П. Шуба. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985. – Ч. 1: Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. – С. 234.

7. Хацкевіч, В. Б. Суфіксальнае словаўтварэнне назоўнікаў, якія абазначаюць асобу мужчынскага полу ў сучаснай беларускай мове. – С. 181.

8. Беларуская граматыка. – С. 229.
9. Хацкевіч, В. Б. Суфіксальнае словаўтварэнне назоўнікаў, якія абазначаюць асобу мужчынскага полу ў сучаснай беларускай мове. – С. 177.
10. Хацкевіч, В. Б. Суфіксальнае словаўтварэнне назоўнікаў, якія абазначаюць асобу мужчынскага полу ў сучаснай беларускай мове. – С. 186.
11. Хацкевіч, В. Б. Суфіксальнае словаўтварэнне назоўнікаў, якія абазначаюць асобу мужчынскага полу ў сучаснай беларускай мове. – С. 191.
12. Хацкевіч, В. Б. Суфіксальнае словаўтварэнне назоўнікаў, якія абазначаюць асобу мужчынскага полу ў сучаснай беларускай мове. – С. 178.
13. Бардовіч, А. М. Словаўтваральны слоўнік беларускай мовы / А. М. Бардовіч, М. М. Круталевіч, А. А. Лукашанец. – Мінск: Беларус. навука, 2000. – С. 54, 61.
14. Варановіч, В. Л. Словаўтварэнне назоўнікаў у беларускай мове / В. Л. Варановіч; пад рэд. П. У. Сцяцко. – Гродна: ГрДУ, 2005. – С. 67.
15. Лукашанец, А. А. Граматычны аспект славянскага словаўтварэння. – С. 10.

## Summary

The article deals with semantics and word-formation from nouns denoting a person’s residence or location.

*Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт*
*імя П. М. Машэрава*

*7.09.2011 г.*

## *ЭТЫМАЛАГІЧНЫЯ НАТАТКІ*

### Бел. *ВЫЛЬДАМОРКА*

*Выльдаморка* ‘невялікая гітара’ [1]*. Параўн. пол. (рэдка ўжывальнае) *wildamor* masc. ‘музычны інструмент, звычайна сяміструнны, від віёлы’ [2], *wildamora* fem. ‘тс’ [3], *amorka* ‘тс’ [4]. Ад фр. *viola d’amour* – старадаўні струнны смычковы інструмент, рус. *виола* «па памеры яна крыху большая за альт; мае ад 6 да 7 струн, пад якімі такая ж колькасць металічных струн, наладжаных ва ўнісон ці актаву з верхнімі» [5]).

### Бел. *ДЗЫНГІЛЬ*

*Дзынгиль* ‘?’ [6]. Параўн. укр. *дзи́нгель* 1. ‘птушка шчыглік, Fringilla carduelis’; 2. ‘расліна дуднік, Angelica silvestris’ [7]. Украінская назва расліны дудніка звязваецца з запазычанай з польскай мовы назвай дзягелю *дзе́нгель* ‘Archangelica officinalis’. Атаясамленню абедзвюх раслін спрыяла іх знешняе падабенства. Паходжанне ж назвы птушкі прызнаецца цьмяным [8]. У іншых беларускіх крыніцах форма *дзынгиль* для абазначэння дудніка лекавага не сустракаецца (адзначаюцца толькі *дзягіль*, *дзягель*, *дзягаль* і да т. п. [9]), таксама як і для называння шчygліка.

### Бел. *КУРАНТ*

*Кура́нт* ‘камень, якім труць фарбы’ [10]. Параўн. укр. *курант* ‘тс’ [11], рус. *кура́нт* ‘тс’ [12] («У лексікон рускіх мастакоў уваходзіць з XVIII ст.,

---

* «Собрания слов...» Ф. С. Шымкевіча бясспрэчна ўяўляе каштоўную крыніцу для даследавання гісторыі беларускай мовы. Гэта адна з нямногіх і пры тым адна з найбуйнейшых лексікаграфічных прац па беларускай мове першай паловы XIX ст. Тым больш прыкра, што да гэтага часу яна не была як след ацэнена айчыннамі мовазнаўцамі. Прынамсі, дагэтуль не існуе моўна-статыстычнага апісання яго зместу, падобнага таму, што склаў выдавец помніка ўкраінскі даследчык Б. Галас для аналагічнага вакабулярыя ўраінскай лексікі. Між тым такое апісанне дазволіла б лепей ацаніць моўны матэрыял слоўніка з пункту гледжання яго дыялектнай аднесенасці і, магчыма, праліць святло на пытанне крыніц, якімі карыстаўся аўтар пры яго складанні.

Нашу ўвагу, у прыватнасці, прыцягнуў даволі прыкметны пласт запазычанняў і слоў тэрміналагічнага характару са сферы мастацтва, тэхналогіі і да т. п., якія суседнічаюць у слоўніку з лексікай жывой народнай мовы. Паходжанне большасці такіх запазычанняў асветлена ў беларускім этымалагічным слоўніку, у слоўніку іншамоўных слоў і слоўніку даўніх запазычанняў беларускай мовы, разам з тым некаторыя з іх засталіся па-за разглядам альбо без указання іншамоўнай крыніцы. У дадзеным выпуску «Этымалагічных нататак» прыводзім некаторыя з іх.

у дакументах XVII ст. [курант] называецца каменем для расцірання фарбаў» [13]), пол. *kurant* 'тс' (ням. *Reidestein*, *Farbenstein*') [14]. Ад фр. *courant* даслоўна 'бягучы, які бяжыць'.

### Бел. *КУПЕРШТЫХ*

*Куперштúх* 'гравіраваная карціна' [15]. Параўн.: пол. *kupersztych* = *kopersztych* 'гравюра на медзі, яе адбітак' з ням. *Kupferstich* 'тс' [16].

*А. М. Ушакевіч (Мінск)*

### Літаратура


1. Собрание слов литовско-русского (белорусского) наречия // Б. К. Галас. Ф. С. Шимкевич як лєксикограф і українськє словникарство (кінєць XVIII – початок XX ст.) / Б. К. Галас. – Ужгород, 1995. – С. 151.
2. Karłowicz, J. Słownik języka polskiego: 8 t. / J. Karłowicz, A. Kryński, W. Niedźwiedzki. – Warszawa, 1919. – T. 7. – S. 608.
3. Doroszewski, W. Słownik języka polskiego: 11 t. / red. naczelny W. Doroszewski. – Warszawa, 1969. – T. 9. – S. 1100.
4. Encyklopedyja powszechna. – Warszawa, 1903. – T. 15. – S. 80.
5. Энциклопедический словарь / изд.: Ф. А. Брокгауз, И. А. Ефрон. – СПб., 1891. – Т. 12. – С. 618.
6. Собрание слов литовско-русского (белорусского) наречия. – С. 153.
7. Словарь української мови / уклад. Б. Гринченко. – Київ, 1907. – Т. 1. – С. 379.
8. Етимологічний словник української мови: 5 т. / склад.: Р. В. Болдирев [та ін.]; редкол.: О. С. Мельничук (голов. ред.) [та ін.]. – Київ, 1985. – Т. 2. – С. 57, 59.
9. Раслінны свет: тэматычны слоўнік / склад. В. Дз. Астрэйка [і інш.]. – Мінск, 2001. – С. 147–148.
10. Собрание слов литовско-русского (белорусского) наречия. – С. 159.
11. Бибик, С. П. Словник іншомовних слів / С. П. Бибик, Г. М. Сюта. – Харків, 2006. – С. 330.
12. Толковый словарь живого великорусского языка Владимира Даля. – 3-е изд., испр. и доп. – СПб., 1905. – Т. 2. – С. 568.
13. Филатов, В. В. Словарь изографа / В. В. Филатов. – М., 1997. – С. 120.
14. Linde, M. S. B. Słownik języka polskiego: 6 t. / M. S. B. Linde. – Warszawa, 1808. – T. 1 (2). – S. 1187.
15. Собрание слов литовско-русского (белорусского) наречия. – С. 159.
16. Karłowicz, J. Słownik języka polskiego: 8 t. – T. 2. – S. 465.

## *КУЛЬТУРА МОВЫ*

# ПУНКТУАЦЫЙНАЕ АФАРМЛЕННЕ ЎСТАЎНЫХ КАНСТРУКЦЫЙ

Да ўстаўных канструкцый адносяцца словы, словазлучэнні і сказы, якія служаць для дадатковага ўдакладнення ці тлумачэння таго, пра што гаворыцца ў сказе. Яны прызначаны для павелічэння змястоўна-інфарматыўнага сэнсу сказа: каменціруюць яго змест ці змест асобных яго членаў, перадаюць розныя дадатковыя звесткі адносна гэтага зместу, разрываючы і парушаючы яго адзінства. У сказе ўстаўныя канструкцыі выконваюць аб'ектыўна-паяснялыную функцыю і ўводзяцца ў яго структуру з дапамогай інтрадуктыўнай сувязі*: *Яна (вуліца) упіраецца прама ў цёмна-сіні заліўчык возера* (І. Мележ); *Ад яе працы (любая мамачка!) вее ў сэрца цёплай радасцю* (М. Гарэцкі); *Валерыя Мікалаеўна (так звалі тэлефаністку) мела прыемны голас* (Х. Шынклер). У маўленні ўстаўныя канструкцыі афармляюцца паскораным тэмпам, нізкім тонам і працяглымі паўзамі на стыку з астатняй часткай сказа. Гэтым паўзам на пісьме адпавядае пастаноўка дужак, працяжнікаў або зрэдку косак з працяжнікамі: *Хлопчык спяшаўся (бег) дадому* (З. Бядуля); *Па прозвішчу яго – а быў ён Івановым – ніхто звычайна не клікаў* (М. Лынькоў); *Змрокам купальскім, – год дакладна не ведаем мы, – кветку шчасця свайго ў лесе панскім бачыў ён, як вяртаўся з карчмы* (А. Куляшоў).

Некаторым сінтаксічным канструкцыям таксама характэрна ўласцівасць набываць дадатковае значэнне ўстаўкі. Найбольш часта такую ўласцівасць выяўляюць аднародныя члены сказа з абагульняльным словам, якое выражана назоўнікам. Аднародныя члены з абагульняльным словам-назоўнікам, як правіла, размяшчаюцца ў сярэдзіне сказа, набываюць характар дадатковага ўдакладнення ці тлумачэння і выдзяляюцца з двух бакоў працяжнікамі на пісьме: *У лесе кожная мясцінка – лужок, палянка, баравінка – асобны твар і выраз мае* (Я. Колас); *Маладыя дрэўцы – вішні, грушы, слівы – вяночкам акружалі сядзібу* (Р. Мурашка); *Марысіны дочкі – Верка, Зося і Нінка – збіраюць жалуды* (Я. Колас). У тых выпадках, калі значэнне ўстаўкі пераважае, аднародныя члены, размешчаныя пасля абагульняльнага слова-назоўніка ў сярэдзіне сказа, бяруцца ў дужкі: *Сашы зрабілася крыўдна і балюча за такі здзек з хлеба, які людзі (яна, Поля, Лялькевіч) здабывалі потам і крывёю* (І. Шамякін); *Усе прадукты (сала, рыба, алей, крупы, цукар і інш.)*

---

* Бурак, Л. І. Сучасная беларуская мова. Сінтаксіс. Пунктуацыя / Л. І. Бурак. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1987. – С. 210.

*разам з талонам на прамтавары развезлі проста на кватэры* (Х. Шынклер). Дадатковае значэнне ўстаўкі таксама могуць набываць аднародныя члены пры абагульняльным слове-назоўніку, якія размешчаны ў канцы сказа. На пісьме яны аддзяляюцца працяжнікам: *Пацягнуўся лес сцяною – ельнік, дуб і хваіна* (Я. Колас); *Ля машын натоўпам дзеткі – і дзяўчаткі, і хлопцы* (К. Крапіва); *Шпак прывёз да склада цэлыя драбіны дабра – плуг, акучнік, вагу, пружыноўку...* (Я. Брыль).

Значэнне ўстаўкі пры абагульняльным слове-назоўніку часам атрымліваюць аднародныя члены сказа, выражаныя ўласнымі назоўнікамі, якія знаходзяцца ў канцы сказа. На пісьме яны аддзяляюцца працяжнікам: *Дзяўчаты былі ў горадзе – Уліта і Марфа* (І. Шамякін); *Кожны дзень сюды наведваліся нашы хлопцы – Сымон або Мікіта* (К. Чорны).

Назоўнікі, якія выконваюць функцыю абагульняльнага слова пры аднародных членах сказа, з'яўляюцца паўназначнымі і здольныя самастойна перадаваць пэўную інфармацыю. Таму аднародныя члены сказа пры такіх абагульняльных словах нярэдка могуць атрымліваць характар дадатковага ўдакладнення, дапаўняюць або пашыраюць асноўнае паведамленне, што выражана абагульняльным словам-назоўнікам. На характар удакладнення ўказвае і інтанацыя, якой афармляюцца падобныя аднародныя члены. Яны вымаўляюцца паскораным тэмпам, нізкім тонам і аддзяляюцца працяглымі паўзамі на стыку з астатняй часткай сказа. Паводле структуры яны суадносяцца з устаўнымі словамі, якія ўтвараюць бяззлучнікавыя аднародныя рады.

Значэнне дадатковага тлумачэння могуць набываць аднародныя члены сказа, якія адносяцца да абагульняльнага слова, выражанага азначальным займеннікам. Такія аднародныя члены часцей за ўсё знаходзяцца ў канцы сказа і аддзелены ад абагульняльнага слова іншымі членамі сказа: *Усё прамокла наскрозь – абутак, адзежа, дрэва і, бадай, жалеза* (П. Пестрак); *Усё цвіло – яблыні, вішні* (І. Грамовіч). Зрэдку такія аднародныя члены могуць размяшчацца ў сярэдзіне сказа непасрэдна за абагульняльным словам: *Усіх – і добрых, і злых – кліча да сябе шлях* (П. Галавач). У такіх выпадках асноўная ўвага ў паведамленні сканцэнтравана на дзеянні, а не на аб'екце дзеяння. На пісьме падобныя канструкцыі аддзяляюцца ці выдзяляюцца з дапамогай працяжнікаў.

Дадатковае значэнне ўстаўкі могуць атрымліваць аднародныя члены сказа, якія адносяцца да абагульняльнага слова, выражанага прыслоўем: *Усюды – у горадзе і ў вёсцы – праца рупная ідзе* (М. Чарот); *Ніколі дзед з кажухом не расставаўся – ні зімой, ні летам* (Я. Колас). У такіх выпадках асноўная ўвага ў паведамленні надаецца дзеянню, а не акалічнасці дзеяння.

Дадатковае значэнне ўстаўкі могуць набываць некаторыя адасобленыя члены сказа, у прыватнасці, адасобленыя прыдаткі, развітыя і неразвітыя: *Ёсць тут беламорскі лунны камень (лабрадор)* (П. Галавач); *На возе ляжаў*

*жалезны і чыгунны лом – утыль-сырэц* (К. Чорны); *Лукаш Суравец (Сяргееў бацька) не крыўдзіцца на тое, што ў яго кузні работы шмат* (К. Крапіва). Такія прыдаткі размешчаны пасля азначаемага слова ў канцы сказа (неразвітыя прыдаткі) або ў сярэдзіне сказа (развітыя прыдаткі). Прыклады паказваюць, што значэнне ўстаўкі атрымліваюць прыдаткі, выражаныя назоўнікамі ці назоўнікавымі словазлучэннямі, якія ўжыты ў прамым значэнні, не нясуць вобразнай характарыстыкі прадмета, названага азначаемым словам. На пісьме яны бяруцца ў дужкі або аддзяляюцца працяжнікам.

Іншы раз значэнне ўстаўкі развіваецца ў адасобленых паясняльных азначэннях, якія ўдакладняюць азначэнні, выражаныя лексічна паўназначнымі прыметнікамі або азначальнымі займеннікамі, што не патрабуюць абавязковага тлумачэння: *Мільён купін з каржакаватымі (нязграбнымі) хвойкамі рассыпаліся па балоце* (Я. Колас); *Нам кожнаю назвай (вялікай і дробнаю) патрэбна, як імем сваім, даражыць* (П. Панчанка). Сустракаюцца выпадкі, калі значэнне дадатковага ўдакладнення могуць атрымліваць некаторыя даданыя часткі складаназалежных сказаў, у прыватнасці, даданыя ўступкі, умовы, мэты, месца: *Мне не лёгка расставацца з табою (хоць даўно ўжо мінуў аўдыенцыі час)* (М. Танк); *У полі (хаця ў ім, праўда, яшчэ ляжаў снег) ужо чулася скорая вясна* (Б. Мікуліч); *На зямлі ляжаў кавалачак паперы, на якім друкаваным ладам (каб не пазнаць было рукі) штосьці напісана* (К. Чорны); *Часам (калі няма нагрузкі) пара мінут аддаецца на асабістую размову* (Х. Шынклер); *Для Юркі паездкі – калі бацька браў яго з сабою – былі цэлым святам* (І. Мележ); *На ўзлеску (дзе цішэй) яны спыніліся і расклалі касцёр* (З. Бядуля). Паведамленне, змешчанае ў такіх даданых частках, не з'яўляецца абавязковым у дачыненні да асноўнай інфармацыі, якая падаецца ў сказе.

Такім чынам, прааналізаваны фактычны матэрыял дае магчымасць сцвярджаць, што значэнне ўстаўкі могуць набываць некаторыя аднародныя члены сказа пры абагульняльным слове, некаторыя адасобленыя прыдаткі і азначэнні, а таксама некаторыя часткі складаназалежных сказаў – сінтаксічныя канструкцыі, блізкія паводле сваёй семантыкі і функцыі да ўстаўных слоў, словазлучэнняў ці сказаў. Калі такія аднародныя члены сказа пры абагульняльным слове, адасобленыя прыдаткі і азначэнні, некаторыя даданыя часткі складаназалежных сказаў трапляюць у пэўныя граматычныя ўмовы, дадатковае значэнне ўстаўкі ў іх узмацняецца, а ў некаторых выпадках нават становіцца асноўным, і яны могуць пераходзіць ва ўстаўныя канструкцыі, што на пісьме адлюстроўваецца пастаноўкай адпаведных знакаў прыпынку – працяжніка ці дужак. Улік гэтых уласцівасцей вышэйназваных сінтаксічных канструкцый пашырае магчымасці іх пунктуацыйнага афармлення і спрыяе развіццю культуры пісьмовай формы мовы.

*І. Л. Бурак (Мінск)*

# АСАБЛІВАСЦІ КАНЧАТКАЎ НАЗОЎНІКАЎ ЖАНОЧАГА РОДУ НА *-а (-я)* МНОЖНАГА ЛІКУ Ў РОДНЫМ СКЛОНЕ

Назоўнікі жаночага роду на *-а (-я)* множнага ліку ў родным склоне ў залежнасці ад характару асновы маюць нулявы канчатак, канчатак *-аў (-яў)*, *-эй (-ей)*.

З нулявым канчаткам ужываюцца:

1) назоўнікі, аснова якіх заканчваецца на зычныя *г, к, х: вяха – вех, дарога – дарог, дуга – дуг, кніга – кніг, крыга – крыг, лёха – лёх, навука – навук, нага – ног, панчоха – панчох, піка – пік, рака – рэк, рука – рук, страха – стрэх, фабрыка – фабрык; паваг, біклаг, трывог, падлог, заслуг, пуг, акруг, дзяруг, атак, уцех, каваліх, бусліх.* Напрыклад: [Дар'я Гуштын] *не любіць кансерватыўных супрацоўнікаў **бібліятэк** і музеяў* (Маладосць. 2009. № 10. С. 107); *Украінская Папялушка засталася без **ног** з-за запушчанай вятранкі* (Беларуская думка. 2006. № 6. С. 170). Формы з канчаткам *-аў* у гэтай групе назоўнікаў сустракаюцца рэдка і з'яўляюцца адхіленнем ад літаратурнай нормы: *... тэксты ранейшых **хронікаў*** (Спадчына. 1996. № 5. С. 55); *... у далінах вялікіх **рэкаў*** (Спадчына. 1995. № 2. С. 205); *Памяншаецца колькасць беларускіх школаў, беларускіх часопісаў і газетаў, **кнігаў*** (Спадчына. 1996. № 6. С. 283); *... тут будуць тэрміны дзвюх **навукаў**: фізікі і геаграфіі* (Полымя. 1996. № 7. С. 298);

2) назоўнікі са збегам зычных у канцы асновы, апошнім з якіх з'яўляецца *к*, пры гэтым у форме множнага ліку роднага склону паміж *к* і папярэднім зычным паяўляецца беглы галосны *а* або *е: каробка – каробак, пробка – пробак, губка – губак, вырубка – вырубак, галоўка – галовак, думка – думак, булка – булак; кветак, вёсак, сцежак, гутарак, дочак, рэек, баек, казак, птушак, скрынак, суседак, вішанек, сведак, жменек, бутэлек, хвоек, камізэлек, загадак, кадак, аладак, кладак, прыказак, жонак, леек, фуфаек, палак, елак, цадзілак, іголак, пасылак, лічылак*;

3) пераважная большасць назоўнікаў з асновай на адзін зычны, у прыватнасці ўсе назоўнікі з асновай на губныя *б, в, м, п*: *вуда – вуд, бяда – бед, поза – поз, зіма – зім, з'ява – з'яў, хата – хат, мяжа – меж, жменя – жмень, куля – куль, настаўніца – настаўніц, карова – кароў, перспектыва – перспектыў, бяроза – бяроз, праграма – праграм, дзяжа – дзеж, шафа – шаф; асоб, спраў, сістэм, сфер, мінут, марфем, газет, удач, моў, груп, жаб, драм, рам, фанаграм,* але *роля – роляў, пядзя – пядзяў; паляў, цаляў, доляў, шаляў.* Напрыклад: *...парад неафіцыйных **пераможніц** і прызёрак* (Полымя. 2009. № 6. С. 26); *Японскія фірмы... маюць магчымасць хутка прыстасоўвацца да інвестыцыйных рынкавых **перамен*** (Маладосць. 2009. № 10. С. 107); *Уласна літаратурная тэхніка А. Філіповіча вельмі развітая, асабліва на ўзроўні стылёвых мікраэлементаў – тропаў і **фігур*** (Полымя. 2008. № 7. С. 121); *Яны* [пошукі] *у большасці выпадкаў прыводзяць паэта да **ўдач***

(Полымя. 2009. № 1. С. 35); *Гэты вельмі ўрачысты момант усхваляў да* ***слёз*** (Полымя. 2008. № 12. С. 112).

Трэба адзначыць, што ў вышэйназванай групе назоўнікаў у моўнай практыцы назіраецца варыянтнасць канчаткаў. У «Граматыцы беларускай мовы» (1962) у заўвазе ўказваецца, што ў мове мастацкай літаратуры пад уплывам некаторых мясцовых гаворак назоўнікі з адным зычным часта ўжываюцца з канчаткам *-аў (-яў),* які з'яўляецца адхіленнем ад літаратурнай нормы [1]. «Беларуская граматыка» (1985) назоўнікі гэтай групы падае толькі з нулявым канчаткам, а формы з канчаткам *-аў (-яў)* не фіксуюцца [2]. П. П. Шуба зазначае: «Імкненне пашырыць кола назоўнікаў з канчаткам *-аў (-яў)* за кошт форм з нулявым канчаткам, якое наглядалася ў 1960–1970-я гады, не знайшло актыўнай падтрымкі ў літаратурнай мове. Такія словаформы, як *хатаў, хмараў, моваў* і пад., уласцівыя паўночна-заходнім беларускім гаворкам, засталіся вузкадыялектнай асаблівасцю» [3].

Аднак у моўнай практыцы з 90-х гг. XX ст. пад уплывам некаторых сацыяльна-эканамічных і палітычных прычын і экстралінгвістычных фактараў ужыванне словаформаў у родным склоне з канчаткам *-аў (-яў)* пашырылася. Так, аўтарамі падручніка «Курс беларускай мовы» (1996) адзначаецца: «У апошні час назіраецца тэндэнцыя да ўжывання з канчаткамі *-оў (ёў) // -аў (-яў)* і назоўнікаў жаночага роду, якія традыцыйна ўжываліся з нулявым канчаткам: *гадзінаў, краінаў, хатаў, песняў* і г. д. Такія варыянты дапусцімыя, аднак перавага павінна аддавацца чыстай аснове» [4]. У «Кароткай граматыцы беларускай мовы» (2007) канстатуецца: «У сучаснай моўнай практыцы назіраецца тэндэнцыя да пашырэння канчаткаў *-аў (-яў)* у формах роднага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду і замацаванне іх у якасці нарматыўных» [5].

Многія перыядычныя выданні ў назоўніках з асновай на адзін зычны аддаюць перавагу формам з канчаткам *-аў (-яў)*:

1) часопіс «Полымя» (1996–2009): *адзнакаў, аздобаў, асобаў, аўтамашынаў, ахвяраў, бэраў, водаў, выставаў, гарматаў, гасцініцаў, грушаў, душаў, жабаў, забаронаў, задачаў, заляў, заўвагаў, зімаў, зменаў, зонаў, з'яваў, ініцыятываў, калошаў, каляінаў, кашуляў, крамаў, лексемаў, межаў, мізансцэнаў, мінаў, моваў, мэтаў, мясцінаў, навелаў, навукаў, ніваў, падставаў, папераў, пераменаў, перашкодаў, пікаў, плітаў, плыняў, праблемаў, прыгодаў, прыкметаў, прыладаў, прычынаў, пустыняў, пчолаў, рамаў, ранаў, рысаў, сістэмаў, слёзаў, спінаў, спробаў, страваў, стратаў, стрэлаў, сфераў, таполяў, трубаў, уладаў, флягаў, хатаў, хваляў, хвілінаў, хмараў, цэнаў, школаў, шпалаў, ямаў*;

2) часопіс «Спадчына» (1995–1997): *анкетаў, асобаў, газетаў, граматаў, групаў, датаў, дзяржаваў, дырэктываў, забудоваў, заяваў, змоваў, ініцыятываў, кабетаў, камендатураў, камераў, кнігаў, крыніцаў, культураў, магілаў, мараў, моваў, мэтаў, пастановаў, падставаў, пабудоваў, пакутаў, папераў, пасадаў, патрэбаў, праблемаў, правілаў, прычынаў, размоваў,*

*раслінаў, рысаў, сілаў, соваў, справаў, спробаў, сякераў, уладаў, умоваў, установаў, хвілінаў, эмблемаў*;

3) газета «Звязда» (1997–2007): *анкетаў, ахвяраў, базаў, бедаў, блузаў, бураў, вежаў, восаў, глебаў, дозаў, думаў, забаваў, засухаў, зімаў, зменаў, касаў, козаў, крамаў, ліпаў, лісаў, мераў, мэтаў, навінаў, нядзеляў, працаў, прыгодаў, прычынаў, святыняў, сілаў, справаў, траваў, уладаў, фазаў, фараў, хатаў, хваляў, хваробаў*;

4) газета «Літаратура і мастацтва» (1995–2000): *ахвяраў, бедаў, бярозаў, вышыняў, выяваў, вяргіняў, душаў, зімаў, імпрэзаў, касетаў, каструляў, краінаў, мараў, межаў, міляў, музаў, пакутаў, патрэбаў, праблемаў, праяваў, прыладаў, прычынаў, расаў, раслінаў, ружаў, руінаў, рыбаў, рысаў, свабодаў, сілаў, скрыняў, спакусаў, справаў, спробаў, стратаў, структураў, струнаў, сустрэчаў, сфераў, сценаў, сякераў, таямніцаў, трубаў, трунаў, тэмаў, узнагародаў, уладаў, ускраінаў, установаў, хваляў, хваробаў, цыгарэтаў, цытатаў, школаў, шуфлядаў, шпалаў, эстафетаў*;

5) газета «Наша Ніва» (2009): *асобаў, гадзінаў, крыніцаў, культураў, перадачаў, пераменаў, прапановаў, сілаў, сістэмаў, справаў, тысячаў, умоваў, хвілінаў, цэнаў*;

6) «Настаўніцкая газета» (1997): *моваў, мэтаў, патрэбаў, правоў, рысаў, уладаў.*

Аналіз матэрыялу і вышэйпрыведзеныя прыклады паказваюць, што моцнае ўздзеянне на пашыранасць канчаткаў *-аў (-яў)* мае пазіцыя той ці іншай рэдакцыі, або пазіцыя того ці іншага аўтара.

З нулявым канчаткам ужываюцца назоўнікі на *-ея (-эя), -ія (-ыя),* большая частка якіх запазычана з лацінскай і грэчаскай моў: *алея – алей, катэгорыя – катэгорый, лінія – ліній, сесія – сесій; аблігацый, арганізацый, канцэпцый, манаграфій, стыхій, тэорый, калізій, батарэй, асамблей, арый, арыентацый.* У групе назоўнікаў на *-ея (-эя), -ія (-ыя),* асабліва ў мове мастацкай літаратуры, таксама назіраецца тэндэнцыя ўжывання словаформаў з канчаткам *-аў (-яў)*: *Але каб я ведаў, што* ***рэпрэсіяў*** *не будзе, я б так, як выступаў, не выступаў бы* (А. Лойка); *Аўтар пачынаў з асэнсавання знаёмых, перажытых* ***рэаліяў*** (П. Васючэнка); *Каскад чароўных* ***мелодыяў*** (ЛіМ. 1999. № 27. С. 11); *Колькі* ***надзеяў*** *і колькі смугі, колькі абдымкаў і здрады* (В. Зуёнак); *Тры разы да месца* ***падзеяў*** *пад'язджаў аўтобус з гасцямі* (ЛіМ. 2000. № 38. С. 10).

Яшчэ прыклады з сучаснага перыядычнага друку: *акадэміяў, акацыяў, акцыяў, арганізацыяў, артэрыяў, батарэяў, гільдыяў, гімназіяў, дывізіяў, дыскусіяў, дэкарацыяў, дэлегацыяў, дэфініцыяў, ідэяў, ілюзіяў, інтанацыяў, калізіяў, калоніяў, камбінацыяў, камісіяў, кампазіцыяў, камунікацыяў, канструкцыяў, кантрыбуцыяў, канфесіяў, копіяў, лекцыяў, лілеяў, лоджыяў, мелодзіяў, навацыяў, натацыяў, нацыяў, пазіцыяў, пародыяў, партыяў, прафесіяў, прэміяў, псеўдатэорыяў, публікацыяў, рэаліяў, рэзалюцыяў, рэлігіяў, секцыяў, сітуацыяў, станцыяў, стыпендыяў, стыхіяў, традыцыяў,*

*тэндэнцыяў, тэрыторыяў, тэхналогіяў, уніяў, фаміліяў, філіяў, цывілізацыяў, цырымоніяў, экспедыцыяў.*

У лексікаграфічных даведніках беларускай мовы паслядоўна падаюцца формы назоўнікаў на *-ея (-эя), -ія (-ыя)* толькі з нулявым канчаткам, а выкарыстанне канчатка *-аў (-яў)* з’яўляецца адхіленнем ад літаратурнай нормы. Толькі «Слоўнік беларускай мовы» (1987, далей СБМ) назоўнікі *шыя, рэя* ў родным склоне падае варыянтныя формы *шый* і *шыяў, рэй* і *рэяў.*

Нулявы канчатак маюць назоўнікі, у якіх гістарычна выдзяляецца суфікс *-ьй: ладдзя (лад-ьй-а) – ладзей, пападдзя (папад-ьй-а) – пападзей, свіння (свін-ьй-а) – свіней, сям’я (сям-ьй-а) – сямей.*

З канчаткам *-аў (-яў)* ужываюцца:

1) назоўнікі з падоўжаным зычным у канцы асновы: *ванна – ваннаў, панна – паннаў, келля – келляў, ткалля – ткалляў, свацця – сваццяў; пралляў, эскадрылляў, мадоннаў, ілгунняў;*

2) назоўнікі са збегам зычных: *адозва – адозваў, бітва – бітваў, кузня – кузняў, просьба – просьбаў, багна – багнаў; клятваў, прытчаў, кегляў, выжлаў, бутляў, кацельняў, выдраў, паверхняў, вербаў, лядоўняў, галубятняў, мышцаў, саламандраў, астраў, іскраў, люстраў, ноздраў, доўбняў, кайстраў, службаў, ведзьмаў, сектаў, рэформаў, коўдраў, промняў, абоймаў.*

У «Граматыцы беларускай мовы» дапускаецца паралельнае ўжыванне нулявога канчатка і канчатка *-аў (-яў)* у формах некаторых назоўнікаў са збегам зычных у канцы асновы [6]. У «Беларускай граматыцы» адзначаецца, што ў формах назоўнікаў з асновай на збег зычных лёгкіх для вымаўлення, або калі паміж зычнымі паяўляецца беглы галосны, ужываюцца формы з нулявым канчаткам і з канчаткам *-аў (-яў)* [7]. У «Кароткай граматыцы беларускай мовы» ўказваецца, што назоўнікі са збегам зычных маюць канчатак *-аў (-яў)*, «аднак у выпадках, калі паміж гэтымі зычнымі можа паяўляцца беглы галосны, у родным склоне дапускаецца і форма з нулявым канчаткам» [8]. Як вынікае з апошняй граматыкі, варыянтнасць існуе пры паяўленні беглага галоснага.

Лексікаграфічныя даведнікі беларускай мовы шырока прадстаўляюць словаформы як з нулявым канчаткам, так і з канчаткам *аў (-яў)*, дзе беглы галосны не паяўляецца. Напрыклад, у СБМ засведчаны шматлікія такія назоўнікі: *клумба – клумб* і *клумбаў, фалда – фалд* і *фалдаў, прызба – прызб* і *прызбаў, бомба – бомб* і *бомбаў, спазма – спазм* і *спазмаў, чарга – чэрг* і *чэргаў, шахта – шахт* і *шахтаў, кафедра – кафедр* і *кафедраў, легенда – легенд* і *легендаў, ферма – ферм* і *фермаў, секта – сект* і *сектаў, рэформа – рэформ* і *рэформаў, форма – форм* і *формаў, флейта – флейт* і *флейтаў, тайна – тайн* і *тайнаў; фарб* і *фарбаў, норм* і *нормаў, фірм* і *фірмаў, траўм* і *траўмаў.* У СБМ таксама зафіксаваны назоўнікі са збегам зычных з паралельным выкарыстаннем формаў там, дзе паяўляецца беглы галосны: *лядоўня – лядовень* і *лядоўняў, кнігарня – кнігарань* і *кнігарняў, вішня – вішань* і *вішняў, цыстэрна – цыстэран* і *цыстэрнаў, чарэшня – чарэшань* і *чарэшняў, сотня – соцень* і *сотняў*; *сосен* і *соснаў, вёсен* і *вёснаў, баразён*

і *барознаў, сясцёр* і *сёстраў, майстэрань* і *майстэрняў, друкарняў* і *друкарань.* Толькі ў слоўніку зафіксаваны формы *карт, песень, кропель,* але, як і шматлікім назоўнікам са збегам зычных, на нашу думку, ім уласцівы яшчэ і формы *картаў, песняў, кропляў*, якія маюць высокую частотнасць ужывання: *Пражане даўно прывыклі да рускіх, украінскіх* ***песняў*** (ЛіМ. 1997. № 27. С. 14); *...змешчана* [у энцыклапедыі] *994 каляровыя і чорна-белыя ілюстрацыі, з якіх – 230 партрэтаў, 80* ***картаў*** (ЛіМ. 1997. № 9. С. 14); *Яна* [восень] *можа быць... і «нуднай мелодыяй няспынных балбатлівых* ***кропляў****»* (ЛіМ. 1998. № 33. С. 6); *Хор выканаў «Беларускую марсельезу», цыкл вясельных* ***песняў****, якi надта спадабаўся слухачам* (Спадчына. 1997. № 1. С. 107).

Назіранні над моўным матэрыялам даюць падставу сцвярджаць, што словаформы з канчаткам *-аў (-яў)* і нулявым канчаткам (там дзе яны лёгка вымаўляюцца або паяўляецца беглы галосны) з'яўляюцца нарматыўнымі: *...на паліцах* ***кнігарняў*** *з'явіўся папулярны энцыклапедычны даведнік* (Полымя. 1995. № 9. С. 283); *Шкада, няможна спяваць свецкіх* ***песень****, нават задушэўных* (Полымя. 1997. № 4. С. 35); *Зазірнуць у некалькі* ***кнігарань*** (Полымя. 2008. № 12. С. 160); *У гэтым вясёлкавым пераліве* ***фарб*** (Полымя. 2009. № 1. С. 35); *...на разліковых рахунках падстаўных* ***фірмаў*** *арыштавана каля 700 тысячаў даляраў* (Наша Ніва. 04.02.2009); *Ёсць некалькі* ***легенд*** *на гэты конт* (Полымя. 2008. № 11. С. 185).

З націскным канчаткам *-эй* ужываюцца назоўнікі *бахча – бахчэй, каланча – каланчэй.*

Такім чынам, выкарыстанне таго або іншага канчатка ў формах назоўнікаў жаночага роду на *-а (-я)* множнага ліку ў родным склоне залежыць ад характару апошняга зычнага асновы. Паралельнасць выкарыстання канчатка *-аў (-яў)* і нулявога канчатка наглядаецца, калі паміж зычнымі паяўляецца беглы галосны, або абедзве формы лёгкія для вымаўлення.

*Н. А. Чабатар (Мінск)*

## Літаратура

1. Граматыка беларускай мовы: у 2 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства; рэд.: К. К. Атраховіч (Крапіва), М. Г. Булахаў. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1962. – Т. 1: Марфалогія. – С. 72.

2. Беларуская граматыка: у 2 ч. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства; рэд.: М. В. Бірыла, П. П. Шуба. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985. – Ч. 1: Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. – С. 91.

3. Шуба, П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія / П. П. Шуба // Марфалогія: вучэб. дапам. – Мінск: Універсітэцкае, 1987. – С. 70.

4. Сямешка, Л. І. Курс беларускай мовы / Л. І. Сямешка, І. Р. Шкраба, З. І. Бадзевіч. – Мінск: Універсітэцкае, 1996. – С. 316.

5. Кароткая граматыка беларускай мовы: у 2 ч. / навук. рэд. А. А. Лукашанец. – Мінск: Беларус. навука, 2007. – Ч. 1: Фаналогія. Марфаналогія. Марфалогія. – С. 152.

6. Граматыка беларускай мовы. – С. 73.

7. Беларуская граматыка. – С. 92.

8. Кароткая граматыка беларускай мовы. – С. 152.

## *ХРОНІКА*

# МІЖНАРОДНАЯ НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ «ТЫПАЛОГІЯ ЎЗАЕМАСУВЯЗЕЙ БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОЎ І ПРАБЛЕМЫ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ САМАІДЭНТЫФІКАЦЫІ»

19–20 красавіка 2011 г. у Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя «Тыпалогія ўзаемасувязей беларускай і рускай моў і праблемы нацыянальнай самаідэнтыфікацыі», прысвечаная актуальным праблемам функцыянавання і ўзаемадзеяння блізкароднасных моў ва ўмовах дзяржаўнага двухмоўя ў нашай краіне. На абмеркаванне быў вынесены шэраг праблем: беларуска-рускае двухмоўе пачатку XXI ст.; нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў супастаўляемых мовах і праблемы моўнай ідэнтыфікацыі; падабенства і адрозненні ў лексічных сістэмах блізкароднасных моў на сучасным этапе; дэрывацыйныя працэсы ў беларускай і рускай літаратурных мовах канца XX – пачатку XXI ст.; праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі; пытанні двухмоўнай лексікаграфіі; міжмоўнае ўзаемадзеянне і культура мовы; праблемы перакладу і інш.

У канферэнцыі прынялі ўдзел вучоныя з самых розных айчынных дзяржаўных і навучальных устаноў Мінска, Брэста, Віцебска, Гродна, Гомеля, Баранавіч, а таксама г. Дрэздэна (Германія).

Канферэнцыю адкрыў старшыня аргкамітэта дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, член-карэспандэнт, доктар філалагічных навук, прафесар А. А. Лукашанец.

У сваім пленарным дакладзе «Русский язык в условиях государственного белорусско-русского двуязычия: статус и проблемы исследования» А. А. Лукашанец засяродзіў увагу ўдзельнікаў канферэнцыі на статусе і праблемах даследавання рускай мовы ва ўмовах дзяржаўнага беларуска-рускага двухмоўя, адзначыўшы, што ў параўнанні з другім кампанентам двухмоўнай сітуацыі ў нашай краіне (беларускай мовай) яна мае сваю пэўную спецыфіку, свае асаблівасці функцыянавання ў Беларусі. У дакладзе былі вызначаны сферы дамінуючага выкарыстання рускай мовы, сферы большага выкарыстання беларускай мовы і сферы, у якіх дзяржаўныя мовы канкуруюць. У сваім выступленні А. А. Лукашанец намеціў дыяпазон і прыярытэты будучых даследаванняў нацыянальнай русістыкі ў краіне.

Іншыя навуковыя даклады пленарнага пасяджэння былі прысвечаны розным моўным праблемам: пытанням сутнасці шматмоўя (к. ф. н. М. Ф. Гуліцкі

«Шматмоўе: навуковая сутнасць і гістарычная рэальнасць»), вызначэнню перспектыў беларускага мовазнаўства ў XXI ст. (д. ф. н. В. П. Русак «Аб перспектывах беларускага мовазнаўства»), праблемам складання сучасных двухмоўных руска-беларускіх і беларуска-рускіх слоўнікаў (к. ф. н. В. М. Нікалаева «Кантрастыўная лінгвістыка і праблемы двухмоўных лексікаграфічных крыніц (з вопыту складання сучаснага руска-беларускага слоўніка)»), пытанням кантрастыўнага аналізу індывідуальна-аўтарскіх эпітэтаў рускай і беларускай моў (к. ф. н. Н. У. Ждановіч «Контрастивный анализ индивидуально-авторских эпитетов русского и белорусского языков (на материале словарей эпитетов)»), а таксама тэарэтычным і метадычным аспектам выкладання рускай мовы на факультэце беларускай філалогіі (к. ф. н. А. М. Гарагляд «Теоретические и методические аспекты изучения раздела «Фразеология русского языка» на факультете белорусской филологии»).

Падчас канферэнцыі працавала сем секцый, на пасяджэннях якіх былі заслуханы і абмеркаваны даклады, прысвечаныя разнастайным тэарэтычным і практычным праблемам рознаўзроўневага ўзаемадзеяння блізкароднасных моў як на сінхронным, так і на дыяхранічным зрэзах.

На секцыі «Граматычны склад сучасных беларускай і рускай моў (словазмяненне, марфаналогія, сінтаксіс)» вялікую цікавасць выклікалі даклады, прысвечаныя важным пытанням марфаналогіі (к. ф. н. Н. М. Гардзей «О роли морфонологических данных в типологическом исследовании славянских языков») і сінтаксісу (к. ф. н. Г. І. Кулеш «Тыпы граматычных трансфармацый канструкцый з вытворнымі прыназоўнікамі пры перакладзе (на матэрыяле заканадаўчых тэкстаў 1920-х гадоў)», Т. М. Маракуліна «Спецыфіка безасабовых сказаў у мове газеты «Наша Ніва» (1906–1915 гг., 1920 г.)»).

На секцыйным пасяджэнні «Лексічныя працэсы ў блізкароднасных мовах» у дакладах к. ф. н. Л. В. Рычковай («Заимствованные акронимы в современных русскоязычных текстах»), к. ф. н. А. А. Акуленка («Развитие семантики японизмов в русском и белорусском языках») і к. ф. н. В. І. Уласевіч («Лексічныя працэсы ў беларускай і рускай мовах канца XX – пачатку XXI ст.») асвятляліся актуальныя пытанні асаблівасцей функцыянавання запазычанай лексікі ў абедзвюх мовах; у дакладзе к. ф. н. А. А. Кірдун («Стан вывучэння тэмпаральнай лексікі ў рускай і беларускай мовах») – пытанні вывучэння рускай і беларускай тэмпаральнай лексікі. Пытанням вывучэння батанічнай і заалагічнай наменклатуры ў літаратурнай і дыялектнай мовах былі прысвечаны даклады к. ф. н. Л. П. Кунцэвіч («Да праблемы анамасіялагічнай характарыстыкі беларускай і рускай батанічнай наменклатуры») і к. ф. н. Т. А. Грачыхі («Наменклатура рыб у дыялектнай і літаратурнай мовах»). Зацікаўленую дыскусію выклікалі даклады к. ф. н. В. Б. Пераход «Номинации «правда» и «истина» в русской языковой картине мира» і А. М. Ушакевіча «Беларуска-рускія семантычныя інавацыі сярод кампанентаў ЛСГ жыць ‘*vīvere*’ і жыць ‘*habitāre*’».

Кантрастыўнаму даследаванню словаўтваральных з'яў у блізкароднасных мовах былі прысвечаны даклады ўдзельнікаў секцыі «Дэрывацыйныя працэсы ў сучасных беларускай і рускай мовах». У прыватнасці, к. ф. н. І. У. Ялынцава ў сваім дакладзе «Русские и белорусские наречия-композиты (словообразовательный аспект)» адзначыла не толькі падабенства і адрозненні ў структуры прыслоўяў-кампазітаў у сучасных рускай і беларускай мовах, але і асаблівасці функцыянавання, а таксама прадуктыўнасць афіксаў, пры дапамозе якіх утвараецца дадзены тып дэрыватаў у названых блізкароднасных мовах. Аб выніках параўнальнага даследавання дзеясловаў з фармантамі -*ну*-, -*ану*-, якія ў сістэме ўнутрыдзеяслоўнага суфіксальнага словаўтварэння абедзвюх моў займаюць значнае месца, гаварылася ў дакладзе к. ф. н. А. У. Андрэевай («Глаголы с суффиксами -*ну*-, -*ану*- в русском и белорусском языках (специфика словообразования и значения)»). У дакладзе к. ф. н. Г. В. Пальянавай «Система аналитических и синтетических глагольных номинаций в современных белорусском и русском языках» разглядаліся пытанні аб характэрных тэндэнцыях блізкароднасных моў у сістэме аналітычных і сінтэтычных дзеяслоўных намінацый. Аб выніках даследавання актуальных і складаных праблем у сучаснай дэрываталогіі – вызначэння сутнасці меж словаўтваральнай аманіміі ў дзвюх мовах, а таксама ўстанаўлення міжмоўнай лексіка-словаўтваральнай карэляцыі рускіх і беларускіх адыменных дзеясловаў – паведамілі ў сваіх выступленнях Т. П. Кугейка і А. Г. Ванкевіч.

Шматаспектныя пытанні двухмоўнай лексікаграфіі абмяркоўваліся на секцыі «Двухмоўныя слоўнікі і праблемы перакладу». Ажыўленае абмеркаванне выклікалі даклады к. ф. н. А. М. Астапчук («Праблемы беларускарускага мастацкага перакладу: міжмоўная аманімія»), к. ф. н. І. У. Будзько («Да паняццяў *мяшаная* і *гібрыдная мовы* ў кантынууме перакладаў Бібліі на старабеларускую мову»), У. А. Кошчанкі (суаўтары к. ф. н. І. Л. Капылоў і к. ф. н. Д. У. Січынава) («Корпусныя супастаўляльныя даследаванні рускай і беларускай моў і распрацоўка паралельных электронных корпусаў»).

Актуальныя пытанні фразеалогіі абмяркоўваліся на секцыйным пасяджэнні «Праблемы супастаўляльнай фразеалогіі і культуралогіі». Цікавасць выклікалі даклады Л. Я. Агеевай «Этноним «славяне» в контексте сравнительной этнографии и лингвистики», А. А. Занкавец «Особенности соматической фразеологии русского и белорусского языков» і Ю. М. Трухан «Ментальные фразеологизмы как результат вторичной номинации в русском и белорусском языках».

На секцыі «Інтэрферэнцыя як вынік міжмоўнага ўзаемадзеяння. Метадычныя пытанні моўнай адукацыі» разглядаліся пытанні інтэрферэнцыі ва ўмовах руска-беларускага двухмоўя, якая выяўляецца на ўсіх моўных узроўнях – фанетычным, лексіка-семантычным, граматычным, сінтаксічным. Так, у дакладзе Н. П. Еўсіевіч былі ахарактарызаваны некаторыя фактары, што ўздзейнічаюць на маўленне беларуса-білінгва і паказаны найбольш

тыповыя формы інтэрферэнцыі ў рускім маўленчым акце. Пытанню методыкі выкладання рускай мовы быў прысвечаны даклад А. Я. Долбік «Реализация дифференциально-систематического принципа при изучении предлогов в школьном курсе русского языка».

На пасяджэнні секцыі «Беларуска-рускае двухмоўе і праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі» з дакладам «Выкарыстанне элементаў лацінскага і рамана-германскага паходжання ў беларускай тэрміналогіі» выступіў старшыня Рэспубліканскай тэрміналагічнай камісіі пры НАН Беларусі д. ф. н. чл.-кар. А. М. Булыка. Цікавымі і карыснымі былі даклады М. Ю. Трыфанава («Белорусская терминология для оценочной деятельности: начало») і С. В. Ліпніцкай («Праблемы міжмоўнай перадачы ўласных геаграфічных назваў») аб праблемах фарміравання беларускамоўнай тэрмінасістэмы і сістэмы найменняў. Аб надзённых задачах тэрмінаграфічнай работы гаварылі ў сваіх дакладах А. І. Багдзевіч («Да вывучэння праблемы адлюстравання тэрміналагічнай лексікі ў агульнафілалагічных слоўніках (на матэрыяле рускай і беларускай моў)») і А. І. Калечыц («Адносна фіксацыі і функцыянавання некаторых лінгвістычных тэрмінаў»). Пэўныя тэарэтычныя аспекты беларускай тэрміналогіі закраналіся ў дакладзе Н. В. Лаўрыновіч («Дакладнасць як адзін з ключавых прынцыпаў у тэрміналогіі»).

У рамках канферэнцыі быў праведзены Круглы стол «Праблемы беларуска-рускага двухмоўя», на якім, у прыватнасці, быў заслуханы даклад к. ф. н. Марыны Шарлай (г. Дрэздэн, Германія) «Семіятычны аналіз беларуска-рускага двухмоўя». Даследчыца зрабіла цікавы вывад аб тым, што без унутранай канкурэнцыі паміж сістэмамі мовы, а таксама без адначасовага суіснавання з іншай сістэмай рускай мовы немагчымы быў бы беларускі дыскурс у тым варыянце, у якім ён існуе цяпер.

Міжнародная навуковая канферэнцыя «Тыпалогія ўзаемасувязей беларускай і рускай моў і праблемы нацыянальнай самаідэнтыфікацыі» яшчэ раз пацвердзіла значную цікавасць лінгвістаў да праблемы ўзаемадзеяння дзвюх блізкароднасных моў, якая патрабуе пастаяннага даследавання як у тэарэтычным, так і ў практычным плане. Дадзеная канферэнцыя пасадзейнічала высвятленню пэўных пытанняў, звязаных з узаемаадносінамі дзвюх дзяржаўных моў на сучасным этапе, а таксама вызначэнню напрамкаў далейшых даследаванняў у галіне як беларускай, так і рускай лінгвістыкі.

Матэрыялы выступленняў удзельнікаў Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Тыпалогія ўзаемасувязей беларускай і рускай моў і праблемы нацыянальнай самаідэнтыфікацыі» апублікаваны асобным аднайменным зборнікам, у які ўключана 88 дакладаў 94 аўтараў (асобныя даклады ў суаўтарстве).

*І. У. Ялынцава (Мінск)*

## РУПЛІВЫ ДАСЛЕДЧЫК РОДНАЙ МОВЫ

### (да 100-годдзя з дня нараджэння Ю. Ф. Мацкевіч)



Імя Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч добра вядома не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі, а каб сёння стаць вядомым вучоным, мала проста самааддана працаваць, трэба ўнесці ў навуку важкі ўклад, нешта новае, што зрабіць не так проста. Доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (адзіная жанчына сярод беларускіх моваведаў), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, заслужаны дзеяч навукі БССР. Толькі пералік гэтых званняў гаворыць пра тое, што гутарка ідзе пра аўтарытэтнага і дасведчанага чалавека, нястомнага працаўніка і шырокавядомага спецыяліста.

Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч нарадзілася 27 ліпеня 1911 г. у вёсцы Ухлё Чашніцкага раёна ў беднай сялянскай сям'і. Яна рана засталася сіратой, і яе ўзяў на выхаванне старэйшы брат, які жыў у Шклове. Дзяўчына скончыла сямігодку і паступіла ў Магілёўскі педагагічны тэхнікум, пасля заканчэння якога два гады працавала настаўніцай пачатковых класаў. У 1934 г. яна паступіла на факультэт мовы і літаратуры Мінскага педагагічнага інстытута, які закончыла ў 1938 г. Здольная да навуковых даследаванняў студэнтка па рэкамендацыі вядомага беларускага мовазнаўцы К. І. Гурскага паступіла ў аспірантуру Інстытута мовы і літаратуры Акадэміі навук БССР, дзе пад навуковым кіраўніцтвам прафесара Я. С. Істрынай (Ленінград) спецыялізавалася па гісторыі беларускай мовы. Але навучанне ў аспірантуры было перарвана вайной. Муж Юзэфы Фларыянаўны ў верасні 1941 г. загінуў пад Ленінградам, яна засталася адна з двума дзецьмі. У час Вялікай Айчыннай вайны Юзэфа Фларыянаўна знаходзілася ў вёсцы Слабада Смалявіцкага раёна, дзе ўносіла свой пасільны ўклад у барацьбу з ворагам: была сувязной партызанскай брыгады.

У 1945 г., як толькі даведалася, што навукова-даследчыя ўстановы Акадэміі навук пачалі аднаўляць сваю работу, Ю. Ф. Мацкевіч вярнулася

ў Мінск, дзе была прынята на працу ў сектар мовы, якім кіраваў у той час К. К. Атраховіч (К. Крапіва). У 1946 г. Юзэфа Фларыянаўна паспяхова абараніла кандыдацкую дысертацыю «Літоўскі статут 1529 г. як помнік беларускай літаратурнай мовы XV – пачатку XVI стагоддзя» і актыўна ўключылася ў работу па ўкладанні «Руска-беларускага слоўніка», які быў апублікаваны ў 1953 г.

Пасля працяглага перапынку ў Беларусі аднавіліся дыялекталагічныя даследаванні, і гэтая галіна беларускага мовазнаўства стала асноўным аб'ектам навуковых інтарэсаў даследчыцы. З яе імем звязана станаўленне і развіццё дыялекталагічных даследаванняў у другой палове XX ст. у рэспубліцы. Асвятляючы творчы шлях Ю. Ф. Мацкевіч, трэба гаварыць не толькі пра яе асабістыя навуковыя распрацоўкі, але і пра дасягненні ўсёй навуковай галіны, у якой яна доўгі час працавала.

Першачарговай задачай беларускіх дыялектолагаў у першыя пасляваенныя гады было стварэнне «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы». Юзэфа Фларыянаўна з самага пачатку актыўна ўдзельнічала ў арганізацыі працы па здзяйсненні гэтага грандыёзнага на той час лінгвагеаграфічнага праекта.

У 1950 г. яна ўзначаліла сектар дыялекталогіі, якім нязменна кіравала да 1986 г., а фактычна і ўсю дыялекталагічную работу, што вялася ў рэспубліцы. Разам з іншымі супрацоўнікамі сектара яна наладжвала цесныя сувязі з расійскімі, украінскімі, літоўскімі і польскімі дыялектолагамі, рыхтавала да збірання дыялектных матэрыялаў выкладчыкаў мовазнаўчых кафедраў вышэйшых навучальных устаноў, настаўнікаў і студэнтаў. «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963) з'яўляецца буйнейшым і вельмі значным выданнем беларускіх моваведаў у пасляваенны час. Створаны на аснове франтальнага абследавання гаворак Беларусі ДАБМ упершыню ў славянскім мовазнаўстве прадстаўляе дыялектную мову беларускага народа як цэлае, раскрывае яе фанетычную сістэму, марфалагічную будову, лексічныя асаблівасці і сінтаксічную структуру. Гэта быў першы атлас асобнай нацыянальнай мовы сярод славянскіх народаў. У даволі сціслыя тэрміны гэты навуковы праект быў выкананы ў першую чаргу дзякуючы намаганням Ю. Ф. Мацкевіч. Яна раней за ўсіх прыходзіла на работу і пазней за ўсіх адыходзіла, па некалькі разоў на год выязджала ў дыялекталагічныя экспедыцыі, рэдагавала сабраныя матэрыялы і карты, рыхтавала тэарэтычныя і даведачныя раздзелы.

Працягам Атласа і спробай абагульнення яго даных з'яўляецца калектыўная праца «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968–1969), падрыхтаваная па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам Р. Аванесава і Ю. Мацкевіч. За комплекс гэтых прац у 1971 г. Ю. Ф. Мацкевіч і ўсяму аўтарскаму калектыву была прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР.

У гэтыя ж гады напружанай працы супрацоўнікі аддзела дыялекталогіі падрыхтавалі «Хрэстаматыю па беларускай дыялекталогіі» (1962) і «Нарысы

па беларускай дыялекталогіі» (1964), якія і сёння адыгрываюць важную ролю ў навучальным працэсе. Адметнай з'явай у беларускім мовазнаўстве стала асабістая манаграфія Ю. Ф. Мацкевіч «Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове», на аснове якой была падрыхтавана і абаронена ёю ў 1963 г. доктарская дысертацыя.

З 1960 г. пад кіраўніцтвам Ю. Ф. Мацкевіч і пры яе непасрэдным удзеле быў распачаты збор беларускіх дыялектных матэрыялаў для складання «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа», выданне якога ажыццяўляецца нацыянальнымі камісіямі ўсіх славянскіх краін. Беларуская нацыянальная камісія АЛА ў 2000 г. апублікавала 3-ці выпуск лексіка-словаўтваральнай серыі Атласа «Раслінны свет». Гэты выпуск атрымаў высокую ацэнку навуковай грамадскасці ва ўсім славянскім свеце.

З 1960-х гг. даследаванні беларускіх дыялектолагаў былі накіраваны на вывучэнне лексічнага складу беларускіх народных гаворак. Пад кіраўніцтвам Ю. Ф. Мацкевіч разам з літоўскімі і польскімі калегамі быў падрыхтаваны пяцітомны «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (1979–1986), які займае адметнае месца сярод дыялектных лексікаграфічных даведнікаў. Слоўнік змяшчае больш за 40 тысяч слоўнікавых артыкулаў, у ім упершыню прадстаўлена лексіка буйной тэрытарыяльнай адзінкі – дыялектнай зоны, вызначанай на падставе этналінгвістычных даных.

У навуковай дзейнасці вядомай даследчыцы важнае месца займала праца па стварэнні «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак», работа над якім вялася з 1970 па 1985 г. Апублікавана пяць тамоў Атласа: «Жывёльны і раслінны свет» (1993), «Сельская гаспадарка» (1994), «Чалавек» (1996), «Побыт» (1997), «Семантыка. Словаўтварэнне. Націск» (1998). Лексічны атлас беларускіх народных гаворак – гэта першы найбольш поўны лінгвістычны атлас у айчынным мовазнаўстве. Ён мае важнае культурнагістарычнае значэнне. Атлас уяўляе сабой унікальную сістэму лінгвістычных карт, якія дэталёва адлюстроўваюць заканамернасці тэрытарыяльнага і дыялектнага размеркавання каля 35 тысяч слоў беларускіх народных гаворак у славянскім дыялектным кантынууме. На картах Лексічнага атласа прадстаўлена лексіка розных прадметна-тэматычных груп беларускай дыялектнай мовы, а таксама змяшчаюцца новыя цікавыя даныя па акцэнталогіі, словаўтварэнні і семантыцы. Збор новай інфармацыі ў такім аб'ёме паўтарыць ужо нельга з-за таго, што людзі выселены з многіх населеных пунктаў Беларусі пасля Чарнобыльскай аварыі, іх гаворкі разбурыліся, а з цягам часу знікнуць зусім.

У 2000 г. аўтарскі калектыў на чале з Ю. Ф. Мацкевіч за стварэнне Лексічнага атласа быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь у галіне фундаментальных навуковых даследаванняў.

Як буйнейшы спецыяліст у галіне беларускай дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі, аўтар шматлікіх грунтоўных навуковых прац і ініцыятыўны

арганізатар навуковай работы Ю. Ф. Мацкевіч у 1968 г. была абрана членам-карэспандэнтам АН БССР, а ў 1978 г. ёй было прысвоена ганаровае званне заслужанага дзеяча навукі Рэспублікі Беларусь.

Грамадская і навуковая дзейнасць Юзэфы Фларыянаўны Мацкевіч адзначана і высокімі ўрадавымі ўзнагародамі: ордэнам Дружбы народаў і медалём «За доблесную працу».

У Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі доктар філалагічных навук Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч працавала да 1991 г. Усё сваё жыццё яна прысвяціла даследаванню роднай мовы. Была вельмі адказным, сціплым, працаздольным супрацоўнікам, тактоўным, добрым і спагадлівым чалавекам. Памерла Юзэфа Фларыянаўна 23 лістапада 2002 г.

*Л. П. Кунцэвіч (Мінск)*

## ГЕНАДЗЬ АПАНАСАВІЧ ЦЫХУН

**(да 75-годдзя з дня нараджэння)**



30 кастрычніка 2011 г. адзначае свой юбілей галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі, ганаровы доктар Сафійскага ўніверсітэта, акадэмік Македонскай акадэміі навук і мастацтваў, выдатны беларускі славіст і балканіст Генадзь Апанасавіч Цыхун.

Г. А. Цыхун нарадзіўся ў 1936 г. у вёсцы Кунцаўшчына Гродзенскага раёна ў сям'і настаўніка і краязнаўцы Апанаса Цыхуна. Закончыўшы ў 1953 г. сярэднюю школу, паступіў вучыцца на славянскае аддзяленне Ленінградскага (цяпер Санкт-Пецярбургскага) універсітэта. Дыпломную працу ва ўніверсітэце выканаў па тэме «Рэпрыза іменнага дапаўнення ў балгарскай і македонскай мовах». Па заканчэнні ўніверсітэта ў 1958 г. працаваў у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР. У 1959–1961 гг. вучыўся ў аспірантуры Ленінградскага ўніверсітэта пад навуковым кіраўніцтвам прафесара Ю. С. Маслава. У 1961–1963 гг. стажыраваўся ў Сафійскім універсітэце пад кіраўніцтвам прафесара Стойка Стойчава. У 1966 г. абараніў у Ленінградскім універсітэце кандыдацкую дысертацыю на тэму «Сінтаксіс займеннікавых клітык у балгарскай і македонскай літаратурных мовах». У маладыя гады фарміраваўся і характар будучага таленавітага навукоўца: вядома, што пры папярэднім абмеркаванні будучай тэмы кандыдацкай дысертацыі Г. А. Цыхуна да яе з пэўным недаверам паставіўся тагачасны карыфей савецкай славістыкі С. Б. Бернштэйн, аднак аспірант настаяў на сваім выбары. У маі 1966 г. падчас абароны афіцыйны апанент С. Б. Бернштэйн ужо не пярэчыў супраць канцэпцыі маладога даследчыка, але адназначна яе падтрымаў.

Пасля навучання ў аспірантуры і замежнай стажыроўкі ў 1963 г. Г. А. Цыхун вярнуўся на працу ў Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

АН БССР, ва ўстанову, з якой звязаны ўвесь жыццёвы лёс і прафесійная кар'ера юбіляра. У Мінску ў 1968 г. была надрукавана яго падрыхтаваная на аснове кандыдацкай дысертацыі манаграфія «Сінтаксіс займеннікавых клітык у паўднёваславянскіх мовах (Балканаславянская мадэль)». У ёй з прыцягненнем вялікага фактычнага матэрыялу Г. А. Цыхун па-новаму прааналізаваў праблемы тыпалагічнага сыходжання і разыходжання паўднёваславянскіх моў, што належаць да балканскага моўнага саюза. З 1974 г. Г. А. Цыхун – старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства. У 1975–1976 гг. па стыпендыі ЮНЕСКА ён стажыраваўся ў старэйшых польскіх універсітэтах – Варшаўскім і Ягелонскім. На працягу 1991–2005 гг. юбіляр кіраваў аддзелам славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства Інстытута мовазнаўства. У 1981 г. надрукаваў манаграфію «Тыпалагічныя праблемы балканаславянскага моўнага арэала», за якую ў 1982 г. атрымаў вучоную ступень доктара філалагічных навук. У гэтай працы вучоны-балканіст вылучыў балканаславянскую лінгвістычную праблематыку як пэўную цэласнасць на фоне славянскіх моў, вывучаў шляхі і напрамкі распаўсюджвання найбольш важных балканскіх інавацый, паспяхова спалучаючы лінгвагеаграфічны і дыяхранічны падыходы. Тут упершыню былі вызначаны цэнтры і напрамкі пашырэння балканізмаў, прааналізаваны іх першаснасць і другаснасць, хроналагічная суаднесенасць, размяшчэнне ў межах балканаславянскага арэала, паказаны роля асобных гаворак у працэсе балканізацыі паўднёваславянскага дыялектнага кантынуума, чым зроблены вялікі ўклад як у асэнсаванне праблемы фарміравання балканскага моўнага саюза, так і заканамернасцей утварэння моўных саюзаў увогуле. Манаграфія атрымала высокую ацэнку ў працах айчынных і замежных славістаў; напрыклад, у адной з рэцэнзій сцвярджалася, што ў галіне тыпалогіі славянскіх моў кніга Г. А. Цыхуна ў многіх адносінах мела «выключна піянерскі характар», што яна належыць да ліку «нямногіх існуючых сінтэтычных прац па балканістыцы, якую можна аднесці да здабыткаў еўрапейскага мовазнаўства» (Весн. БДУ. Сер. 4. 1983. № 3. С. 62).

Навуковыя інтарэсы Г. А. Цыхуна характарызуюцца разнастайнасцю і шырынёй, яны ўключаюць балканістыку, арэальную лінгвістыку, тыпалагічныя даследаванні, этымалогію, тэорыю літаратурнай мовы, гісторыю славістыкі, кампаратывістыку, месца беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў, лінгвістычную бібліяграфію. У канцы 1960-х – першай палове 1970-х гг. юбіляр ініцыяваў арганізацыю беларуска-балтыйскага і беларуска-іншаславянскіх сімпозіумаў, якія праводзіліся ў Інстытуце мовазнаўства; ад пачатку падрыхтоўкі шматтомнага «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» да сённяшняга дня актыўна працуе над выкананнем гэтай фундаментальнай калектыўнай працы. Дзякуючы палескім палявым даследаванням 1960-х гг., што праводзіліся спачатку пад кіраўніцтвам акадэміка М. І. Талстога, а затым у рамках планавай тэматыкі Інстытута мовазнаўства АН БССР, у Г. А. Цыхуна сфарміраваўся ўстойлівы інтарэс

да дыялекталогіі, які суправаджае яго праз усё жыццё. Гэтая цікавасць сярод іншага ўвасобілася ў падрыхтаваным сумесна з А. А. Крывіцкім і І. Я. Яшкіным пяцітомным «Тураўскім слоўніку» (1982–1987).

Г. А. Цыхуну характэрна заўсёднае жаданне пашыраць і паглыбляць свой метадалагічны варштат і навуковы інструментарый, уласцівае сапраўдным вучоным імкненне не стаяць на месцы, быць мабільным і адказваць на тыя пытанні, якія ставіць перад беларускай і славістычнай навукай жыццё. Такімі былі і ёсць дыялекталагічныя працы юбіляра, выкананыя на хвалі росквіту беларускай дыялекталогіі, шматлікія этымалагічныя даследаванні. Кантакты з М. І. Талстым і іншымі расійскімі, украінскімі і замежнымі навукоўцамі спрыялі доўгатэрміноваму інтарэсу Г. А. Цыхуна да беларуска-паўднёваславянскіх моўных сувязей. Супрацоўніцтва з польскімі калегамі стымулявала шэраг даследаванняў мовы беларуска-польскага памежжа, а таксама вывучэнне мовы Адама Міцкевіча.

У другой палове 1980-х гг. Г. А. Цыхун удзельнічаў у дыскусіі, якая разгарнулася вакол «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы», пры гэтым вучоны абгрунтоўваў аргументы, зыходзячы са сваёй славістычнай кваліфікацыі. Праца ў рамках Тэрміналагічнай камісіі пры Міністэрстве адукацыі і ў Скарынаўскім цэнтры дала вынікам даследаванне ў галіне тэрміналагічных слоўнікаў. У 1990-я гг. Г. А. Цыхун рэагаваў на ўзнікненне цікавасці да яцвяжскай праблемы ў беларуска-польскіх моўных кантактах. Тады ж ён напісаў шэраг прац у галіне фарміравання беларускай літаратурнай мовы з асаблівай увагай да знешніх фактараў, што ўплывалі на яе развіццё. Патрэбы беларускага грамадска-культурнага развіцця выклікалі да жыцця дзейнасць Г. А. Цыхуна ў галіне перакладной іншаславянска-беларускай лексікаграфіі, пад яго рэдакцыяй быў падрыхтаваны «Польска-беларускі слоўнік», які на працягу кароткага часу вытрымаў два выданні. Неабходнасць у сцвярджэнні беларускай мовы як дзяржаўнай станоўча паўплывала на фарміраванне навуковых інтарэсаў Г. А. Цыхуна, звязаных з асэнсаваннем праблем беларуска-рускага двухмоўя, развіццём сучаснай беларускай літаратурнай мовы, падрыхтоўкай яе корпуса, вывучэннем яе месца сярод іншых славянскіх моў у святле экалінгвістыкі. Юбіляр валодае відавочным прыярытэтам у вывучэнні такога новага напрамку, як беларускае змешанае вуснае маўленне, – напрамку, які паступова распрацоўваецца беларускімі і замежнымі лінгвістамі. Шырока зразумелым агульным грамадскім даброи, імкненнем служыць патрэбам славістыкі і вялікай колькасці навукоўцаў абумоўлены шматгадовы ўдзел Г. А. Цыхуна ў падрыхтоўцы беларускай часткі славянскай лінгвістычнай бібліяграфіі, а таксама ў падрыхтоўцы беларуска-балгарскай бібліяграфіі. У пэўнай меры водгукам на інтэнсіфікацыю публікацый па гісторыі славістыкі за межамі Беларусі і арганізацыйную актыўнасць у гэтай галіне з'явіўся шэраг прац юбіляра, прысвечаных гісторыі беларускай славістычнай навукі.

Дынаміку, адкрытасць, незакансерваванасць навуковых інтарэсаў Г. А. Цыхуна можна паказаць і на прыкладзе тэматыкі яго дакладаў, прадстаўленых на міжнародных з’ездах славістаў, у якіх ён удзельнічае з 1968 г. У дакладах юбіляра на з’ездах 1960-х – першай паловы 1980-х гг. была прадстаўлена балканаславянская праблематыка ў значнай ступені ў яе этнагенетычнай інтэрпрэтацыі («Энкліза і пракліза ў структуры славянскага сказа» – 1968, «Тыпалогія сінтаксічных адрозненняў у балканаславянскім арэале» – 1978, «Паўднёваславянска-ўсходнеславянскія моўныя сувязі. Да праблемы славянскага ўкладу ў балканскі моўны саюз» – 1983). У дакладах канца 1980-х – пачатку 2000-х гг. на першы план усё больш вылучаецца спецыфіка фарміравання літаратурных славянскіх моў, спачатку ў ракурсе арэальных даследаванняў («Арэальная тыпалогія славянскіх моў. Прынцыпы і напрамкі даследавання» – 1988; «Арэальныя аспекты фарміравання славянскіх літаратурных моў» – 1993), пазней – у плане вывучэння анталагічных праблем «малых» славянскіх літаратурных моў і спецыфікі міжславянскага ўзаемадзеяння («Славянскія мовы ў святле экалінгвістыкі» – 1998; «Міжславянскае моўнае ўзаемадзеянне (сацыякультурны аспект)» – 2003). У дакладзе «Балканаславянскі моўны тып» на XIV з’ездзе славістаў у Охрыдзе (2008) Г. А. Цыхун вярнуўся да ранейшай праблематыкі, абагульніўшы некаторыя вынікі сваіх папярэдніх даследаванняў па вывучэнні балканаславянскага моўнага арэала, датычныя поліцэнтрычнасці фарміравання гэтага арэала і разнанакіраванасці пашырэння асноўных балканскіх інавацый у яго межах.

Асаблівыя і агульнавядомыя заслугі Г. А. Цыхун мае ў галіне міжнароднага навуковага супрацоўніцтва. На працягу доўгага часу ён з’яўляецца членам Беларускага камітэта славістаў, а з 1993 г. таксама членам Міжнароднага камітэта славістаў. Падчас заснавання ў 1991 г. Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Г. А. Цыхун быў навуковым сакратаром асацыяцыі, пазней яе віцэ-прэзідэнтам, па сённяшні дзень з’яўляецца адным з найбольш аўтарытэтных членаў камітэта асацыяцыі. Юбіляр удзельнічаў і ўдзельнічае ў вялікай колькасці замежных навуковых канферэнцый, годна прадстаўляючы на іх беларускую лінгвістыку. Дасягненні Г. А. Цыхуна ў міжнародным навуковым супрацоўніцтве, а таксама ў канкрэтных навуковых галінах належным чынам ацэнены. Напрыклад, у адной з нядаўніх замежных публікацый сцвярджаецца, што «ўсёй сваёй навуковай, выкладчыцкай, арганізацыйнай і грамадскай дзейнасцю прафесар Генадзь Цыхун унёс значны ўклад у развіццё славянскага і балканскага мовазнаўства, папулярызацыю балгарскай мовы за межамі, паглыбленне беларуска-балгарскіх навуковых і культурных узаемасувязей» (Българска реч. Год. 11. 2005. Кн. 2. С. 82).

Пры тым, што шматлікім працам Г. А. Цыхуна ўласцівы высокі акадэмізм, ён не абмяжоўваецца строгімі, навукова дакладнымі даследаваннямі, але і ўдзельнічае ў грамадскім жыцці, кантактуе з беларускімі грамадскімі

і культурнымі дзеячамі, дае інтэрв'ю газетам і часопісам, змяшчае свае асобныя публікацыі ў папулярным друку, выступае на радыё, адгукаецца на розныя ініцыятывы аматараў беларускай мовы. Ад часу заснавання Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Г. А. Цыхун актыўна ўдзельнічае ў працы таварыства, найперш па тых напрамках, дзе патрабуецца навуковая кваліфікацыя. Так, у самы разгар правапісных спрэчак у пачатку 1990-х гг. юбіляр узначальваў адпаведную камісію таварыства, складзеную як з лінгвістаў, так і з неспецыялістаў. На сваіх пасяджэннях камісія выпрацавала рэкамендацыі, скіраваныя на ўдасканаленне беларускай арфаграфіі, якія пазней былі ўлічаны пры ўнясенні зменаў у сучасны правапіс. На працягу шэрагу гадоў Г. А. Цыхун з'яўляўся старшынёй рады Таварыства «Беларусь – Балгарыя».

Юбіляр займаецца таксама выкладаннем, уносіць вялікі ўклад у падрыхтоўку навуковых кадраў. З 1966 г. Г. А. Цыхун працуе на кафедры тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, вядзе заняткі па балгарскай мове, з 1983 г. – па македонскай мове, чытае студэнтам спецыяльны курс «Балканскі моўны саюз». На працягу доўгага часу Г. А. Цыхун быў членам Спецыялізаванага савета па абароне дысертацый пры Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа, падрыхтаваў шэраг кандыдатаў навук. У апошнія гады ўваходзіць у склад экспертнага савета па мовазнаўстве пры Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Рэспублікі Беларусь.

З аднаго боку, шчасліваму навуковаму лёсу юбіляра не ў малой ступені спрыялі знешнія акалічнасці, зносіны з вялікай колькасцю таленавітых настаўнікаў і калег. З другога боку, відавочна і тое, што юбіляр належыць да кагорты людзей, якія паслядоўна і мэтанакіравана «зрабілі сябе самі». Без шматгадовых намаганняў, без пэўнага роду самаахвяравання такія высокія навуковыя вяршыні адолець, відавочна, было б немагчыма.

Беларускія і замежныя сябры, калегі і вучні ведаюць Генадзя Апанасавіча як далікатнага, тактоўнага, добразычлівага чалавека з неаспрэчным аўтарытэтам, гатовага да заўсёднай кваліфікаванай кансультацыі і парады. Шчыра віншуем дарагога Юбіляра, жадаем яму моцнага здароўя, асабістага шчасця, паслядоўнага ўвасаблення ўсіх творчых задум. Ad multos annos!

*С. М. Запрудскі (Мінск)*

## *РЭЦЭНЗІІ*

### BRASŁAWSZCZYZNA. PAMIĘĆ I WSPÓŁCZESNOŚĆ. T. II: SŁOWNICTWO DWUJĘZYCZNYCH MIESZKAŃCÓW REJONU (SŁOWNIK BRASŁAWSKI) / ZESPÓŁ AUT.: I. BUDŹKO, O. GUSZCZEWA, H. KAZANCEWA, E. SMUŁKOWA; RED. NAUKOWY E. SMUŁKOWA. – WARSZAWA, 2009. – XXVIII + 765 s.

Другі том двухтомнага выдання, прысвечанага гістарычна-лінгвістычнаму даследаванню Браслаўшчыны, выйшаў раней першага тома, дзе павінны знайсці адлюстраванне гісторыя, сацыялінгвістычная сітуацыя і сведчанні жыхароў гэтага рэгіёна пра іх жыццё ва ўмовах частых змен улад за апошняе стагоддзе: у Расійскай імперыі, пры акупацыі нямецкімі войскамі ў Першую сусветную вайну, пасля ўключэння ў склад Польшчы паводле Рыжскай дамовы 1921 г. і вяртання ў склад БССР пасля 1939 г., у час акупацыі фашысцкай Германіяй у 1941–1944 гг., пры савецкай уладзе да 1991 г. і ва ўмовах цяперашняга рэгіянальнага статусу ў межах самастойнай Беларусі. Зразумела, што памяць пра гэтыя падзеі адклалася не толькі ў свядомасці жыхароў Браслаўшчыны, але і ў іх мове. Названы том якраз найбольш ярка паказвае ўплыў на іх мову гэтых экстралінгвістычных фактараў, што знайшло непасрэднае і поўнае адлюстраванне перш за ўсё ў лексіцы. Апошняя прадстаўлена ў некалькіх раздзелах кнігі ў выглядзе тэматычнага рэестра, што нагадвае ідэяграфічны слоўнік з ілюстрацыямі, алфавітнага індэкса слоў тэматычнага рэестра і класічнага дыферэнцыяльнага дыялектнага слоўніка («цяжкіх для разумення слоў») Браслаўшчыны. Трэба прызнаць, што такое прадстаўленне лексічнага матэрыялу, часткова перанятае з чэшскай дыялектнай лексікаграфіі, здаецца вельмі ўдалым, асабліва з пункту погляду канцавых мэт даследавання рэгіёна ў гэтым праекце.

На думку аўтараў, такі спосаб падачы матэрыялу павінен найлепшым чынам паказаць моўную сітуацыю, якую яны акрэсліваюць як «пэўны этап раскладання дзвюх суіснуючых сістэм: беларускай і польскай, з даўніх часоў інтэрфіруючых паміж сабой». Паводле Э. Смулковай, гэты працэс пры ўдзеле рускай мовы зайшоў настолькі далёка, што можна гаварыць пра змешаны характар мовы, якой кожны дзень карыстаюцца яе носьбіты (с. 11). Праблема «змешанай мовы» як асобнай («трэцяй») сістэмы на беларуска-польска-літоўскім пагранічны дыскутуецца ўжо даўно, аднак прыйсці да агульных высноў да гэтага часу не ўдалося. Некаторыя польскія

лінгвісты ў якасці такой сістэмы разглядалі так званую простую мову – азначэнне, якім мясцовыя жыхары карыстаюцца, каб вызначыць іх гаворку ў адносінах да польскай, рускай або беларускай як больш «культурных» у іх уяўленні (бо іх выкарыстоўвалі «паны», «начальнікі» ці яны выкладаюцца ў школе, гучаць па радыё або тэлебачанні). Тут будзе дарэчы прывесці цытату з працы добрага знаўцы моўнай сітуацыі на паграніччы В. Чэкмана, які ў адказ на такую інтэрпрэтацыю «простай мовы» пісаў наступнае: «З моўнага пункту гледжаньня «простая мова» – гэта звычайны заходнебеларускі дыялект. Кажучы «звычайны», мы хочам падкрэсліць, што вывады неспецыялістаў паводле характару «простай мовы», маўляў, гэта мяшаны польска-беларускі дыялект, – безпадстаўныя. Ступень іхняга «зьмешаньня» не розьніцца ад таго, якое мы назіраем у паўночна-заходніх беларускіх гаворках на суседняй Гародзеншчыне. Роўна ў Літве, як і ў Беларусі, трапляецца шмат палянізмаў у мове мясцовага насельніцтва. Аднак сама моўная сістэма адрозьніваецца ад польскай: мовазнаўца ў стане акрэсьліць, якою моваю размаўляе дадзены чалавек»*. Гэта добра разумелі і самі носьбіты «простай мовы», якія яшчэ раней тлумачылі гэты феномен польскім экспларатарам (зразумела, па-польску ў межах іх магчымасцей): «prosty język – nie biełaruski, nie rosyjski, tak jak i u was w Polsce, tam i te Ślązaki i te Kaszuby, i te Mazury, o jakie ich rozmowy. Tak i u nas tutaj – prosty»**.

Зразумела, мы не можам закрываць вочы на сучасны стан дыялектнага маўлення. На Браслаўшчыне, як і ў іншых мясцовасцях, шмат дзе ўжо не існуе дыялектнай мовы ў яе класічным разуменні з адпаведным узусам, які аўтаматычна падтрымліваўся ва ўмовах адноснай ізаляванасці ад знешняга свету. У значнай ступені сучаснае апісанне гаворкі з'яўляецца рэканструкцыяй яе папярэдняга стану. Зрэшты, гэта не спецыфіка дыялектнай мовы ў Беларусі. Падобныя, часам яшчэ больш прасунутыя дэструктыўныя працэсы назіраюцца ў дыялектным маўленні шмат якіх еўрапейскіх краін***. Пытанне толькі ў тым, ці ва ўмовах Браслаўшчыны гутарка ідзе пра нейкую «змешаную» беларуска-польскую моўную сістэму, ці ўсё ж пра змешанае маўленне ва ўмовах большага ці меншага валодання размоўцам дзвюма сістэмамі. Падаецца ўсё ж, што ў большасці выпадкаў мы маем справу з запісамі спантаннага маўлення паводле зададзенага (польскага ці беларускага) моўнага кода, пры якім назіраецца слаба кантраляваны гаворачым працэс узаемадзеяння дзвюх сістэм, адна з якіх з'яўляецца поўнай (прымарнай), а другая – дэфектнай (другаснай). Першую з іх можна атаясамліваць з так званай простай мовай, а другую – з засвоенай у рознай ступені і ў розных умовах (у сям'і, у даваеннай польскай школе, у касцёле і інш.) так званай

---

* Чэкман, В. Над этнічнай і моўнай мапай Паўднёва-Ўсходняй Літвы / В. Чэкман // Беларусы Балтыі. – Вільня, 1998. – С. 20.

** Grek-Pabisowa, I. Bohatyrowicze sto lat później / I. Grek-Pabisowa, K. Handke, M. Ostrówka, A. Zielińska. – Warszawa, 1998. – S. 178.

*** Параўн. апісанне сітуацыі: Trudgill, P. Dialects in contact / P. Trudgill. – Oxford, 1986.

пальшчызнай крэсовай, якую часта называюць «культурным дыялектам» польскай мовы. Пры гэтым могуць узнікаць і кантамінаваныя формы, пра якія часта ўспамінаюць аўтары кнігі. Зрэшты, і сам працэс узаемадзеяння сістэм нагадвае кантамінацыю, пра што мы ўжо пісалі, абмяркоўваючы ў якасці аб’екта даследавання так званую трасянку. Спецыфікай Браслаўшчыны, як і некаторых іншых рэгіёнаў, з’яўляецца тое, што на змешанае беларуска-польскае маўленне накладаецца яшчэ і ўздзеянне рускай мовы, што робіць канчатковы прадукт такога маўлення суб’ектыўна абумоўленым і малапрадказальным, бо ён залежыць ад многіх знешніх фактараў (узросту размоўцаў, ступені валодання той або іншай сістэмай, канкрэтных умоваў камунікацыі і г. д.), пра што сведчаць і самі інфарманты: *us'"o rau̯n'o ńe3'"e słowa u̯ torkńeš svaj'o r'odnaje* (с. 742).

Спецыяльна трэба адзначыць аб’ектыўны і навукова абгрунтаваны спосаб прадстаўлення лексічнага матэрыялу, незалежна ад яго паходжання: «Гэта слоўнік «мовы пагранічча», спроба прадэманстраваць узаемнае пранікненне дзвюх, а нават трох моў, спроба фіксацыі і прадстаўлення працэса іх інтэграцыі, а не апісанне кожнай лексічнай сістэмы асобна, як гэта практыкавалася дагэтуль» (с. 17). Такі спосаб сапраўды дазваляе вызначыць статус кожнай з моў ва ўзаемадзеянні. У прыватнасці, амаль поўная адсутнасць у тэматычным рэестры польскіх назваў дзіцянят звяроў і птушак, а таксама адпаведных памяншальных назваў пры наяўнасці большасці такіх назваў у беларускай моўнай частцы, параўн. *kaz"l'ata, kaz"l'onak, vau̯čańaty, barsučaty, v'ožyčk'i s'ovuška, kukušonak, šč'ygłačk'i, bac"ińaty, bac"ińata*, вельмі паказальная. Тое ж датычыць рознага тыпу экспрэсіўных слоў, параўн., напрыклад, экспрэсіўныя дзеясловы гаварэння *g'iv'agac", 3"iu̯c"i, kałd'ekajec", g"ardečuc", 3"ardec"iš* і інш., што, як нам здаецца, сведчыць аб другасным характары пальшчызны крэсовай у гэтым узаемадзеянні і захаванні першаснай народнай асновы «простай мовы», магчыма, сфарміраванай на балцкім субстраце. Наогул, гэта датычыць усёй «перыферыі» лексічнай сістэмы, дзе пры няведанні імфармантамі неабходных польскіх назваў аўтаматычна адбываецца пераход да простамоўных адпаведнікаў, часам з мінімальнай іх фанетычнай адаптацыяй паводле вядомых інфармантам тыповых уласцівасцей пальшчызны крэсовай, параўн., напрыклад, *kęsty* з *кусты*. Фактычна да такой «перыферыі» ў большасці належыць лексіка, прадстаўленая ў «Алфавітным слоўніку цяжкіх для разумення слоў», пазначаных у тэматычным рэестры зорачкай. Гэты слоўнік мае выключную каштоўнасць, бо змяшчае побач з неалагізмамі, узнікшымі ў выніку міжмоўнага кантакту (гл., напрыклад, *urodzimka* ‘народжаная ў гэтай вёсцы’), шэраг архаізмаў, што захаваліся на краях беларускай моўнай тэрыторыі. Параўн., напрыклад, назву дзьмухаўца *bahatka,* адносна паходжання якой да гэтага часу існуюць розныя версіі*. Ілюстрацыі, якія

* Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Мінск, 1978. – Т. 1. – С. 261–262.

даюцца ў слоўніку (*Bahatku łožac' p'erat Janam. Jes'l'i rasp'us''c''ica, tad'y u̯žo ʒ''eu̯ka vyjʒ''ec'' zamuš*), несумненна сведчаць на карысць старажытнай матывацыі, звязанай з **bogъ* 'доля'. Параўн. назву іншай расліны з Глыбоччыны – *багатыркі* («Маленькія, пушыстыя расьлі на пяшчаных узгор'ях. Прынесеныя ў хату, па пэўным часе расьцьвіталі без вады; з іх на Купальле дзяўчаты варажылі»*). Актуальнымі застаюцца праблемы адаптацыі простай мовай і пальшчызнай крэсовай балтыйскіх субстратных уключэнняў на Браслаўшчыне, высвятленне паходжання шэрагу з іх у кнізе кансультавала Ніёла Біргель. Праўда, для некаторых з іх існуюць паралельныя, больш пераканальныя версіі паходжання, як, напрыклад, для *s'kanaczki* 'мучныя вырабы, смажаныя ў алеі' (вытворныя ад **скаць* 'раскатваць цеста', параўн. *сукаць* 'тс')**. Цікавым, але неадзначаным у кнізе як балтызм з'яўляецца *wejsło* ў выразе *zostawiać na wejsło* 'пакідаць на разплод, на племя' (< літ. *veĩslė* 'парода'). Відаць, балтыйскім уплывам тлумачыцца семантыка дэрыватаў *panudać, v'ynudać* 'знішчыць, вынішчыць' на фоне *прыну́дзіць* 'прымусіць', серб. *пòнуда* 'прапанова' і інш.

Падводзячы вынікі разгляду, варта адзначыць прадуманую кампазіцыю, акуратную падачу матэрыялу, добрае тэхнічнае афармленне кнігі. Аднак галоўнае дасягненне аўтарскага калектыву – разгляд моўнай рэальнасці Браслаўшчыны ў плане шматмоўнасці і міжкультурных сувязей, што адпавядае прынцыпам Я. Бадуэна дэ Куртэнэ, якія ён упершыню сфармуляваў і ажыццявіў на практыцы пры апісанні славенскіх гаворак у Італіі. Можна толькі выказаць спадзяванне, што такі падыход да даследавання «мовы памежжа» будзе прыняты іншымі даследчыкамі так званых кантактных зон у Беларусі і за яе межамі.

*Г. А. Цыхун (Мінск)*

## BOČEK V. STUDIE K NEJSTARŠÍM ROMANISMŮM VE SLOVANSKÝCH JAZYCÍCH. – PRAHA: LIDOVÉ NOVINY, 2010. – 180 s.

Манаграфія чэшскага лінгвіста Віта Бочэка ўяўляе адаптаваную для шырокага кола чытачоў версію дысертацыі, якую ён паспяхова абараніў на філасофскім факультэце Масарыкава ўніверсітэта ўвосень 2009 г. У сваім даследаванні аўтар засяродзіўся на вывучэнні этымалогіі шэрагу раманскіх запазычанняў у славянскіх мовах.

Пры адборы матэрыялу даследчык, акрамя іншага, кіраваўся часавым і геаграфічным крытэрыямі. У прыватнасці, ён засяроджваецца на раманскіх

* Стома-Сініца, В. Маё мястэчка / В. Стома-Сініца // Полымя. – 1998. – № 12. – С. 202.
** Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Т. 12. – С. 111.

лексічных элементах, што патрапілі на славянскую глебу ў другой палове першага тысячагоддзя нашай эры, г. зн. у час, калі адбывалася дыялектная дыферэнцыяцыя праславянскай мовы, як, зрэшты, і станаўленне асобных раманскіх дыялектаў. Даследаванне адпавядае сучасным тэндэнцыям у вывучэнні прадмета: у адрозненне ад сваіх папярэднікаў, аўтар прыняў у разлік тую акалічнасць, што носьбіты славянскіх гаворак часцей за ўсё ўспрымалі раманскую лексіку з жывых нелітаратурных моўных утварэнняў. Па гэтай прычыне ў якасці непасрэднай крыніцы запазычання даследчык у першую чаргу разглядаў матэрыял раманскіх дыялектаў (а не сведчанні класічнай лацінскай мовы), карыстаючыся пры гэтым этымалагічнымі і тлумачальнымі слоўнікамі сучасных раманскіх моў і рэканструюючы гіпатэтычную раманскую праформу, якая служыла непасрэднай крыніцай для пераймання. Аналагічным чынам на матэрыяле ўсіх сучасных славянскіх моў і мовы старaславянскай для мэт даследавання рэканструяваліся і праславянскія формы адпаведных раманскіх запазычанняў, прычым у форме больш старажытнай, чым прынята пры традыцыйным запісе дапісьмовага стану славянскай лексікі (напрыклад, **ăkĭtŭ* пры звычайным **осьtъ* ‘воцат’, **păgānŭ* – звычайна **poganъ* ‘паганец, язычнік’ і г. д.).

Іншым абмежаваннем пры спецыфікацыі аб’екта даследавання было патрабаванне непасрэднага рамана-славянскага запазычання, г. зн. такога, якое адбывалася без іншамоўнага (напрыклад, германскага) пасрэдніцтва.

Паколькі раманізмы складаюць значны пласт у славянскай лексіцы, акрамя названых крытэрыяў, пры адборы матэрыялу аўтар кіраваўся яшчэ і практычнымі меркаваннямі і звярнуўся да этымалагічнага даследавання такіх запазычаных лексем, якія, па яго трапным выражэнні, «зрабілі кар’еру» (с. 17) у славянскіх мовах, г. зн. распаўсюдзіліся па ўсёй славянскай тэрыторыі, а таксама лексем, у этымалагічным тлумачэнні якіх усё яшчэ застаюцца нявысветленыя пытанні перш за ўсё ў дачыненні да шляху запазычання і рэфлексаў асобных раманскіх гукаў і гукавых спалучэнняў у мове старажытных славян. У выніку аб’ект працы склалі 24 запазычаныя лексемы: **осьtъ, *ocělъ, *ban’a, *črěbul’a, *košul’a, *čerša, *kъmetъ, *kъmotra, *kuma, *kъmpotrъ, *kr’ižь, *žakъ, *dъska, *biskupъ, *istъba, *židovъ, *lot’t’ika, *misa, *mьša, *poganъ, *pěrsk-, *brosky, *sobota, *sǫbota*.

Раздзелы, прысвечаныя этымалагічнаму даследаванню паасобных слоў, маюць у большасці аднастайную структуру. У першую чаргу падаецца матэрыял славянскіх моў, пачынаючы з найстарэйшых сведчанняў старaславянскай (альбо царкоўнаславянскай) мовы, астатнія славянскія формы прыводзяцца ў паслядоўнасці паўднёва- – заходне- – усходнеславянскія мовы. Такі парадак, акрамя іншага, указвае на найбольш верагодны напрамак міжславянскіх запазычанняў. Затым прыводзіцца агляд літаратуры, у якой адпаведнае слова ў свой час разглядалася як раманскае запазычанне, і матэрыял раманскіх моў і дыялектаў, на падставе якога рэканструюецца раманская праформа ў тым выглядзе, у якім яна верагодней за ўсё была

ўспрынята славянамі. Потым разбіраюцца нюансы, звязаныя з фанетычнымі чаргаваннямі, якія зазнала раманская лексема пры засваенні на славянскай глебе, і праводзіцца крытычны агляд іншых этымалагічных інтэрпрэтацый адпаведнай славянскай формы, што зыходзяць з магчымасці пасрэдніцтва «трэцяй» мовы ў працэсе запазычання альбо з уласнаславянскага характару данага слова. Завяршаецца раздзел аналізам семантычных змен, якія адбыліся з адпаведнай лексемай у тым ці іншым раманскім дыялекце, што паслужыў крыніцай запазычання, у параўнанні з класічнай лацінай, а таксама змен, што зазнала семантыка запазычанага слова ў славянскіх мовах.

У выніку праведзенага этымалагічнага даследавання аўтару ўдалося ўдакладніць храналагічныя і геаграфічныя акалічнасці запазычання разгледжаных слоў. Аднак галоўным практычным здабыткам працы стала ўстаноўленая сістэма гукавых субстытуцый (для ўсяго кансанатычнага і вакалічнага спектру), уласцівых раманскім запазычанням пры іх адаптацыі славянскімі мовамі. Дадзеная сістэма адкрывае новыя перспектывы для даследавання раманскага лексічнага матэрыялу (перш за ўсё старэйшых запазычанняў), які, як ужо згадвалася, прадстаўлены ў славянскіх мовах больш чым шырока. Акрамя практычнага значэння для рэканструкцыі праславянскага лексічнага складу, гістарычнай лексікалогіі і этымалогіі асобных славянскіх моў, устаноўленая сістэма мае вялікую вартасць і для даследчыкаў фаналагічнага развіцця позніх стадый народнай лацінскай мовы (ці ранніх раманскіх дыялектаў). У прыватнасці, адным з вынікаў даследавання стала ўдакладненне храналогіі квантытатыўных змен у ранняраманскай вакалічнай сістэме.

Праца Віта Бочэка будзе карыснай для этымолагаў і даследчыкаў у галіне гістарычнай лексікалогіі яшчэ і ў плане метадалогіі даследавання прадмету, якая паспяхова можа быць прыменена пры вывучэнні старажытных узаемадачыненняў паміж рознымі (генетычна блізкімі ці далёкімі) моўнымі фармацыямі.

*А. М. Ушакевіч (Мінск)*

## САДОЎСКАЯ А. Л. ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ З КАМПАНЕНТАМ-АРНІТОНІМАМ У БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ: ЭТНАЛІНГВІСТЫЧНЫ АСПЕКТ. – МІНСК: БДУ, 2011. – 271 с.

Аналіз лексічнага складу фразеалагізмаў у беларускай лінгвістыцы яшчэ толькі пачынаецца, хоць сама гэта праблема акрэслілася раней. Яшчэ ў 1971 г. на Самаркандскім фразеалагічным сімпозіуме вучонымі былога Савецкага Саюза выказвалася думка пра магчымасць і неабходнасць вывучэння слоўніка кампанентаў фразеалагізмаў. Важнасць такога вывучэння неаднаразова падкрэслівалі вядомыя прадстаўнікі рускай і ўсходнесла-

вянскай фразеалагічнай навукі У. П. Жукаў і В. М. Макіенка. Надзённасць згаданай праблемы ўзмацняецца і патрэбамі вывучэння мовы на новым узроўні – этналінгвістычным. І гэта не столькі даніна модзе, колькі неабходнасць пазнання і самапазнання сённяшняга чалавека на фоне шматвяковых духоўных традыцый. Мова выступае не толькі сродкам камунікацыі, але і акумулюе ў сабе практычны і культурны вопыт людзей, выпрацаваны на працягу тысячагоддзяў. Асаблівае месца ў гэтым плане займаюць фразеалагізмы – мікракантэксты, якія закансервавалі фрагменты народных традыцый і лепш за іншыя адзінкі вызначаюць нацыянальную спецыфіку мовы.

У рэчышчы сказанага бачыцца актуальнасць тэмы манаграфіі А. Л. Садоўскай, дзе ўпершыню даецца сістэмнае этналінгвістычнае апісанне беларускіх фразеалагізмаў з кампанентам-арнітонімам. Да гэтага ніводнае тэматычнае аб’яднанне слоў, што ўваходзіць у кампанентную структуру фразеалагізмаў, не было ў беларусістыцы прадметам спецыяльнага манаграфічнага апісання з этналінгвістычнага пункту гледжання.

Зварот да вывучэння арнітонімаў не выпадковы. Назвы птушак, як і назвы жывёл наогул, выступаюць істотным фразеаўтваральным элементам, што дыктуецца значнасцю адпаведных рэалій у практычным і духоўным жыцці чалавека.

Непасрэднаму аналізу фразеалагізмаў у манаграфіі папярэднічае шырокі агляд агульных пытанняў этналінгвістыкі, супастаўленне навуковых кірункаў, асновавызначальных пазіцый розных этналінгвістычных школ (рускай, польскай, сербскай, румынскай і інш.). На шырокім славянскім і неславянскім фоне ўпершыню асвятляюцца пытанні беларускай этналінгвістыкі як самастойнай навукі. Разглядаючы розныя дыскусійныя моманты, А. Л. Садоўская прапануе сваё разуменне этналінгвістыкі як комплекснай, інтэграцыйнай дысцыпліны, якая даследуе і гістарычныя, і сучасныя моўныя факты праз прызму духоўнай культуры.

Асвятленне агульных этналінгвістычных пытанняў дазволіла падысці да праблем этнафразеалогіі. Вызначаецца асобае месца і роля фразеалагічнага матэрыялу ў этналінгвістыцы, які ствараецца народам не столькі для намінацыі, колькі для культурнай інтэрпрэтацыі свету.

Аўтарам сістэматызаваны і ўдакладнены тэрміналагічны інструментарый этналінгвістычнага апісання: акрэслена сутнасць такіх паняццяў, як этнакультурны кампанент, нацыянальная і нацыянальна-культурная спецыфіка, нацыянальна-культурная канатацыя фразеалагізмаў, архетып, фонавыя веды, канцэпт і г. д.

Грунтоўная тэарэтычная аснова і багаты фактычны матэрыял (каля 1100 адзінак), сабраны з розных крыніц, садзейнічалі паспяховай рэалізацыі задач навуковага апісання. Упершыню акрэслена і сістэматызавана група ўзнаўляльных устойлівых адзінак з кампанентам-арнітонімам. Даказана важнае палажэнне, што літаральнае значэнне арнітонімаў у фразеалагізмах

адыходзіць на другі план, а на першым плане аказваецца этнакультурная семантыка, матываваная старажытнымі міфамі, вераваннямі, абрадамі, звычаямі і традыцыямі беларусаў.

Свежымі з'яўляюцца аргументы і вывады пра механізмы стварэння нацыянальна-культурнай канатацыі арнітонімаў. Вылучаны асноўны лагічны прыём фарміравання сімвалічнага значэння – аналогія, а заадно прасочваюцца светапоглядныя арыентацыі і стэрэатыпы беларусаў у адносінах да навакольнай прыроды.

У навуковай літаратуры спарадычна выказвалася меркаванне пра з'яву полісеміі ў адносінах да асобных сімвалаў. А. Л. Садоўская на канкрэтным сістэмным матэрыяле паказала, што большасць беларускіх арнітаморфных сімвалаў, сапраўды, шматзначныя і поліфункцыянальныя і што гэта выклікана множнасцю аналогій, прымеркаваных да пэўных з'яў рэчаіснасці.

Палажэнне пра ўзаемадзеянне двух працэсаў – антрапамарфізму і арнітамарфізму – пралівае святло на розныя спосабы фарміравання беларускай арнітафразеалогіі, раскрывае тыпалогію вобразных пераносаў са свету птушак на свет людзей і наадварот.

Этналінгвістычнае апісанне фразеалагізмаў з кампанентамі-назвамі «нячыстых» (варона, крумкач, сарока, верабей, сава, зязюля) і «чыстых» (бусел, салавей, журавель), а таксама свойскіх (курыца, певень) птушак, праведзенае ў манаграфіі, акунае чытача ў канкрэтыку беларускай народнаэтычнай традыцыі, паказвае сувязь семантычных тыпаў фразеалагізмаў з рэканструяванымі мадэлямі паводзін і ўяўленняў старажытнага беларуса.

Паспяховаму вырашэнню пастаўленых у манаграфіі задач спрыяла канструктыўная методыка даследавання, выпрацаваная ў этналінгвістыцы і ўдакладненая А. Л. Садоўскай згодна з канкрэтным фразеалагічным матэрыялам. Выкарыстанне ўласна лінгвістычных метадаў і метадаў сумежных навук дазволіла правесці навуковае даследаванне высокай якасці, прыйсці да аргументаваных і аб'ектыўных высноў. Абгрунтаванасць, дакладнасць палажэнняў, вывадаў і рэкамендацый пацвярджаецца шматлікім фактычным матэрыялам, а таксама канкрэтнымі статыстычнымі паказчыкамі.

Этналінгвістычнае даследаванне апраўдвае мэтазгоднасць шырокага разумення аб'ёму фразеалогіі, паколькі нацыянальна-культурная семантыка праяўляецца аднолькава, невыбіральна ва ўстойлівых зваротах рознага характару, аб'яднаных агульнымі фармальнымі прыметамі. Аднак пры выкарыстанні вялікай колькасці крыніц фактычнага матэрыялу (у спісе адлюстравана 103 назвы) не ўлічаны чамусьці асобныя абласныя фразеаграфічныя працы: з гаворак Магілёўшчыны – фразеалагічны слоўнік Г. Ф. Юрчанкі ў трох кнігах «І сячэ і паліць», «І коціцца і валіцца», «Слова за слова», з гаворак Гродзеншчыны – «Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны» М. А. Даніловіча, з гаворак Брэстчыны – фразеалагічныя падборкі ў слоўніках і дыялекталагічных зборніках У. У. Барысюка, А. Ф. Зайкі, С. С. Клундук, М. І. Пашкевіча. Калі б гэтыя працы былі выкарыстаны,

то этналінгвістычная прэзентацыя фразеалагізмаў і фразеалагічных гнёздаў стала б яшчэ багацейшай і цікавейшай.

Праца А. Л. Садоўскай мае несумненнае тэарэтычнае і практычнае значэнне. Роля яе для развіцця навуковай фразеалогіі ў тым, што, дзякуючы ёй, асвоены цэлы пласт фразеалагізмаў з кампанентам-арнітонімам, даюцца шматлікія культурна-гістарычныя звесткі, вельмі каштоўныя для фразеалагічнай этымалогіі. Праца з'яўляецца значным укладам у развіццё беларускай этнафразеалогіі – навукі, якая зарадзілася нядаўна і многія праблемы якой яшчэ чакаюць свайго вырашэння. Тэарэтычныя напрацоўкі аўтара, факталагічная частка манаграфіі маюць самае непасрэднае дачыненне і да такіх навук, як лінгвакультуралогія, кагнітыўная лінгвістыка, лінгвакраіназнаўства, этналогія, гісторыя. Матэрыялы манаграфіі можна выкарыстаць пры выкладанні беларускай мовы і сумежных з ёй дысцыплін у вышэйшай і агульнаадукацыйнай школе, пры складанні даведнікаў і дапаможнікаў адпаведнага профілю. Манаграфія А. Л. Садоўскай можа стаць узорам і стымулам вывучэння іншых аб'яднанняў фразеалагізмаў, з іншымі лексічнымі кампанентамі.

*М. А. Даніловіч (Гродна)*

## БЕЛАРУСКА-ЛАТЫШСКІ, ЛАТЫШСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК. = BALTKRIEVU-LATVIEŠU, LATVIEŠU-BALTKRIEVU VĀRDNĪCA: КАЛЯ 40 ТЫС. СЛОЎ / УКЛАД. М. АБАЛА; ГАЛ. РЭД. І. І. ЛУЧЫЦ-ФЕДАРЭЦ. – РЫГА: САЮЗ БЕЛАРУСАЎ ЛАТВІІ, 2010. – 543 с.

Беларуска-латышскія культурныя кантакты ніколі не былі інтэнсіўнымі, аднак ніколі і не спыняліся поўнасцю. Не будзе лішнім нагадаць, што частка беларускіх і частка латышскіх зямель у Сярэднія вякі ўваходзілі ў Полацкае княства, а пазней – больш за сто гадоў у Віцебскую губерню (1802–1917), якая займала значную тэрыторыю – да лініі Екабпілс (Якабштат; Jēkabpils) – Ліпна (Liepna). У XX ст. культурай Беларусі цікавіўся і вялікі латвійскі паэт Яніс Райніс, які нарадзіўся каля горада Екабпілса і з дзяцінства сябраваў з беларусамі. Пазней як дэпутат латвійскага парламента ён абараняў у ім і інтарэсы беларускай меншасці. На пасадзе міністра адукацыі (1926–1928) спрыяў адкрыццю каля 50 беларускіх школ. У 1926 г. Я. Райніс наведаў Мінск і ўдзельнічаў у Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (яго выступленне гл. у [1]).

Кантакты беларускай і балтыйскіх моў асвятляў яшчэ Я. Карскі [2], але ў плане лексікаграфіі беларуская і латышская ўпершыню апынуліся побач, відаць, у 1918 г., у «Сямімоўным слоўніку» ([3]; падрабязней пра яго гл. [4]). Потым доўгі час беларуская і латышская мова супастаўляліся толькі з вельмі спецыяльнай, вузка навуковай мэтай (гл. [5]). У 2008 г. невялікая

частка лексікі гэтых моў увайшла ў «Еўраслоўнік» [6]. І вось нядаўна быў зроблены яшчэ адзін крок да збліжэння беларускага і латышскага народаў, да лепшага пазнання культуры суседзей.

Летась завяршылася дваццацігадовая праца – пад адной вокладкай свет убачылі беларуска-латышскі і латышска-беларускі слоўнікі Мірдзы Абалы (1923–2007), шматгадовай супрацоўніцы Інстытута мовы і літаратуры Латвійскай акадэміі навук, нястомнай даследчыцы і папулярызатара беларуска-латышскіх культурных сувязей*. Яна не толькі вывучала літаратуры абодвух народаў, але і перакладала апавяданні Якуба Коласа і Уладзіміра Караткевіча, разам з беларускім паэтам Сяргеем Панізнікам склала анталогію латышскай паэзіі [7]. З 1991 г. М. Абала з’яўлялася старшынёй Латвійскай асацыяцыі беларусістаў. У 2001 г. «за вялікі асабісты ўклад у развіццё беларуска-латвійскіх культурных сувязей» яна была ўзнагароджана медалём Францыска Скарыны [8].

Давесці да публікацыі слоўнік (праца над якім пачалася ў 1990 г. – гл. нататку [9]), Мірдза Абала, на жаль, не паспела. Клопат пра выданне ўзяў на сябе Саюз беларусаў Латвіі (старшыня В. А. Піскунова), навуковае рэдагаванне ажыццявіў І. І. Лучыц-Федарэц (Інстытут мовы і літаратуры НАН Беларусі), які таксама поўнасцю склаў вакабулы адсутнай у аўтарскіх матэрыялах літары «М» беларуска-латышскай часткі слоўніка і дапоўніў літару «К» латышска-беларускай часткі.

Рагледжанае выданне з’яўляецца першым агульнамоўным слоўнікам для дадзенай пары моў. Гэта абумоўлівае яго каштоўнасць і бясспрэчнае месца ў гісторыі лексікаграфіі. Аднак паспешлівасць, з якой слоўнік быў выпушчаны ў свет, адмоўна адбілася на яго якасці.

На тытульным аркушы зазначана: «Слоўнік мае каля 40 000 слоў», у прадмове – «каля 40 000 загалоўных слоў» (с. 4, 6). Між тым праведзеныя намі падлікі даюць іншыя лічбы – каля 27 тысяч (12 тыс. бел.-лат. частка і 15 тыс. лат.-бел. частка). Цяжка сказаць, чым тлумачыцца гэтая неадпаведнасць, але яна мімаволі наводзіць на сумныя думкі пра магчымае пранікненне таннай рэкламы ў навуковыя выданні.

У слоўніках нярэдка змяшчаюць карысныя спісы геаграфічных назваў, асабовых імёнаў, скарачэнняў і г. д. – у разгледжаным выданні гэтага, на жаль, няма.

Уступная частка слоўніка складаецца з прадмовы, якая знаёміць з гісторыяй яго падрыхтоўкі, са звестак пра падачу матэрыялу і кароткай біяграфіі Мірдзы Абалы. Усё гэта пададзена па-беларуску і па-латышску, праўда,

---

* Выкарыстоўваецца традыцыйнае напісанне прозвішча даследчыцы (варыянт *Абола* гл. у [8]). Яно, аднак, дакладна не адлюстроўвае ні напісанне, ні вымаўленне арыгінала: па-латышску *Ābola* [‘a:buola]. Варыянт *Абала* ўзнік на базе рускай транслітэрацыі *Абола* і аўтаматычнай перадачы рускага ненаціскнога [о] беларускім [а]. Можна меркаваць, што выпрацоўка правіл прамой, без рускага пасрэдніцтва, перадачы латышскіх уласных імёнаў – актуальная задача беларусістыкі.

латышскі тэкст досыць каструбаваты, месцамі нагадвае падрадкоўнік з беларускай і часам адступае ад правіл культуры маўлення (с. 6: «piedāvājamā vārdnīca», «vārdnīcu iztrūkums», «vārdi, kas ir līdzīgi vai vienādi ar krieviem», «izturēt... pieeju»; с. 7: «pēc nepieciešamības seko atšķirīgas norādes»; с. 8: «vairāk kā», «garus gadus nodarbojās», «pārstāja pukstēties ... sirds» і інш.).

У прадмове шчыра сказана пра недахопы слоўніка. Асобныя з іх абумоўлены аб'ектыўнымі прычынамі, але некаторыя, на нашу думку, усё-такі належала ліквідаваць пры падрыхтоўцы матэрыялаў М. Абалы да публікацыі. Так, няясна, што перашкаджала даваць граматычную інфармацыю больш сістэмна (у прыватнасці, пра чаргаванні зычных пры скланенні латышскіх назоўнікаў). Незразумелая, напрыклад, і заўвага пра тое, што «ўказанні на род назоўнікаў у латышскай частцы у асноўным даюцца ў тых выпадках, калі беларускі адпаведнік ужываецца (як правіла) толькі ў форме мужчынскага роду (напр., *прафесар, загадчык*)» (с. 4): слова *прафесар* няма ні ў беларуска-латышскай, ні ў латышска-беларускай частцы, а пры словах *загадчык* і *pārzinis* у абедзвюх частках слоўніка даюцца і іх адпаведнікі жаночага роду – *загадчыца*, *pārzine*.

Раздзел «Пабудова слоўніка» (с. 5) таксама ўтрымлівае некаторыя няясныя фармулёўкі. Занадта катэгарычным з'яўляецца сцвярджэнне, што «кожнае слова падаецца ў выглядзе самастойнага слоўнікавага артыкула» – у слоўніку ў гнёзды аб'яднаны пары слоў, якія адрозніваюцца родам, напрыклад, *abat/s, ~e* (на першым месцы, праўда, даецца то слова мужчынскага, то слова жаночага роду, параўн. *absolvent/e, ~s*), незваротныя і зваротныя дзеясловы, некаторыя іншыя цесна звязаныя вытворныя, а таксама, як заўважае сам рэдактар, «раўназначныя загалоўныя словы даюцца побач (са злучнікам *i*)». Пры гэтым адзначана, што «лёгкаўтваральныя вытворныя словы прадстаўлены за рэдкім выключэннем» – верагодна, павінна быць «не прадстаўлены»; параўн. лтш. пераклад: «sniegti retos gadījumos» (с. 7). Нягледзячы на правільнае ўказанне, уключанае ў раздзел «Пабудова слоўніка», у суседнім прыкладзе і ў корпусе слоўніка сінонімы, якія тлумачаць значэнне загалоўнага слова, нярэдка набраныя не курсівам у дужках, а прамым шрыфтам, часам прамым паўтлустым: «**абабраць**... 3. абакрасці apzagt, izputināt» – слова *абакрасці* даецца светлым прамым шрыфтам ва ўступе да слоўніка (с. 5), але паўтлустым у самім слоўніку (с. 11). У латышскай версіі «Пабудовы слоўніка» тэрмін «прыслоўе» памылкова перакладзены як «divdabis» 'дзеепрыметнік', што робіць фразу «Divdabji, kas ir izveidojami no īpašības vārdiem…» абсурднай – 'Дзеепрыметнікі, якія ўтвараюцца ад прыметнікаў…'

Дасведчанаму чытачу незразумела, чаму «ў латышскіх словах націск падаецца вельмі рэдка». Трэба было патлумачыць гэта падрабязней, сказаць, што націск ставіцца толькі ў тых выпадках, калі ён падае не на першы склад, як у пераважнай большасці латышскіх слоў (у слоўніку, аднак, гэтая асаблівасць не адзначана ў многіх частых слоў, напрыклад, *nékad* 'ніколі',

*paldies* ‘дзякуй’, *pávisam* ‘1. усяго; разам; 2. зусім’, *puśotra* ‘паўтара; паўтары’, *vieńalga* ‘усё адно, усё роўна, абыякава’ і інш.). З другога боку, зусім не ўсе «беларускія словы (апрача курсіўных) маюць націскі» (с. 5): у беларуска-латышскай частцы націск паказаны толькі ў загалоўным слове слоўнікавага артыкула, але не ў прыкладах (набраных тлустым шрыфтам).

Прынцып замяшчэння загалоўнага слова яго першай літарай у тэксце слоўнікавага артыкула тлумачыцца двойчы з інтэрвалам у тры радкі. Пры гэтым шматлікія тэхнічныя памылкі суправаджаюць выкарыстанне знакаў касяка, які аддзяляе нязменную частку загалоўнага слова, і тыльды, якая замяняе гэтую частку ўнутры слоўнікавага артыкула, напрыклад: *беларус, ~са, ха/луй, ~луя, хакей, хакея, калій, ~ю, капыт, ~це, каларыт/ ~у, каньяк ~ку, канюк ~а, карак, ~рка, каралі, ~яў, карал/ ~а, літовец, ~ўца, капуста, ~еце, мастацтва/, манеўр/; abhāz/s … ~e … ~šu* (трэба: *abhāz/s … ~iete … ~iešu); ābol/s … ābols no ~es tālu nekrīt* (трэба: *ā. no ābeles tālu nekrīt*); *acumirkl/i … vienā ~lī* (трэба: *acumirkl/is … vienā ~ī*); *ādain/s* – рыска непатрэбная, бо прыкладаў іншых формаў у артыкуле няма; *adīt … ~tas zeķes* (трэба: *~as zeķes*) і інш.

Няясны і прынцып падачы факультатыўных элементаў перакладу: «факультатыўныя (неабавязковыя) словы даюцца ў круглых дужках, рэдка – у квадратных» – чым абумоўленая гэтая розніца? Амонімы, як звычайна, абяцана змяшчаць у асобных артыкулах, але гэта не заўсёды так у тэксце слоўніка: гл. *aizšaut*, *aiztikt* (с. 317) і інш.

Нататку «Пабудова слоўніка» добра было б скончыць тлумачэннем выкарыстаных у слоўніку памет і скарачэнняў (*грам., ласк., зб., кул., с.-г., царк., dsk, ar ko, u tml., sar* і інш.). Большасць іх, напэўна, можна зразумець па кантэксце, але ўсё ж культура лексікаграфічнай працы патрабуе лепшага клопату пра чытача.

Крыўдная памылка дапушчана ў жыццяпісе М. Абалы (с. 8): пераблытаны пол і няправільна запісана прозвішча яе калегі і суаўтара Дзінтры Віксны (Dzintra Vīksna), якая таксама зрабіла важкі ўнёсак у вывучэнне гісторыі і культурных кантактаў латышоў і беларусаў.

У слоўнік увайшла і агульнастылёвая сучасная лексіка, і ўстарэлыя, але звязаныя з народнай культурай словы, і невялікая колькасць навуковых тэрмінаў. Пададзены асноўны лексічны фонд абедзвюх моў, у тым ліку такія важныя словы, без якіх немагчыма беларуская літаратура, як *спагада, спачуванне, бусел, валошка, воля, вясёлка, хата, хараство, праца*.

Даводзіцца, аднак, сказаць, што лексіка адбіралася не вельмі сістэмна. Як адзначана ў прадмове, першапачатковай ідэяй аўтара было стварэнне слоўніка дыферэнцыйнага тыпу (г. зн. уключыць толькі спецыфічныя беларускія словы, не падобныя да рускіх), але пазней ад гэтага прынцыпу яна адмовілася; рэдактар жа імкнуўся дапоўніць слоўнік «шырокаўжывальнымі словамі і фразеалагічнымі выразамі» (с. 4) (змешчаны словы *fabrika, miljonārs, ministrs, элегія, экалогія*). Падаецца немэтазгодным уклю-

чэнне ў слоўнік такога аб'ёму слоў тыпу *крэп-жаржэт* і *крэп-сацін*, *меццасапрана* (самога слова *сапрана* няма) і інш. І пры гэтым адсутнічаюць такія важныя і частотныя словы, як *вёска, сям'я, сястра, тата, свабода*. Няма шэрагу лічэбнікаў: *шэсць, сем, адзінаццаць, пятнаццаць, шаснаццаць, сямнаццаць, пяцьдзясят, шэсцьдзясят, семдзесят, пяцьсот, шэсцьсот, семсот*. Адсутнічаюць словы *зіма*, *гадзіна* (слова *гадзіннік* ёсць)*, секунда, чэрвень*; як назву пятага месяца можна было ўключыць не толькі *май*, але і *травень*: яго прызнаюць не ўсе беларусазнаўцы, але яно часта сустракаецца ў тэкстах.

Шэраг прыкладаў састарэў, што робіць сумніўным мэтазгоднасць іх прывядзення: *у часы сацыялізму* (с. 94), *забяспечваць мір ва ўсім свеце* (с. 95), *брычка ляцела з вялікай хуткасцю* (с. 159; прыклад для дзеяслова *ляцець*), *пры Сталіне* (с. 217; прыклад для прыназоўніка *пры*). Таксама дадзены (вельмі рэдкі) назоўнік *югаслаў*, але адсутнічаюць *серб* і *харват*.

У цэлым жа М. Абала прадэманстравала добрае веданне беларускай лексікі, уключыла багата слоў, спецыфічных для беларускай мовы і каштоўных для разумення тэкстаў на ёй і ўвогуле культуры (*акравак*, *братавая, брыль, вырай, здарожаны, прыгон, шал, ятроўка* і інш.). З традыцыйных латышскіх слоў адзначым *daina* 'народня песня (латышская, літоўская)', *dzintars* 'бурштын, янтар', *līgot* 'спяваць песні «ліга»', *sakta* 'сакта (прыналежнасць латышскага нацыянальнага касцюма)', *villaine* '(вялікая ваўняная хустка, элемент нацыянальнага касцюма) хустка'.

У слоўніку прадстаўлена і такая цяжкая для лексікаграфіі сфера мовы, як фразеалогія, параўн. характэрныя прыклады: *пакуль жаніцца, загаіцца; даць гасла; біць бібікі, ліць ваду на чый-н. млын*; у латышска-беларускай частцы: *kakla tiesa* 'права «жыцця і смерці» прыгоннага', *peras kā pliks pa nātrēm* 'б'ецца як рыба аб лёд' і інш. Праўда, можна было б абысціся без калькаванага з рускай выразу *як вашыя справы?* (варыянт перакладу латышскага *kā klājas?* на с. 400), які не раз крытыкавалі і прапаноўвалі замяніць пытаннем *як маецеся?*; апошняе спалучэнне справядліва і адлюстраваў І. І. Лучыц-Федарэц у беларуска-латышскай частцы слоўніка (с. 169).

На жаль, у слоўніку нямала тэхнічных хібаў і абдрукаў. Так, пры слове *здавальняць* (с. 60) даецца адсылка да *здаволіць*, якое адсутнічае. Перад перакладам словам *капуста* пазначана лічба 2 (с. 127), якая, відаць, указвае на другое значэнне ('страва'), але лічбы 1 і адпаведна першага значэння ('расліна') няма. Артыкул *acumirkli(s)* паўтораны двойчы (с. 312). Побач са словамі *глухі, грамавы, грамада, грызня, губны, гусці* надрукавана зорачка *, значэнне якой няясна (магчыма, яна ўзнікла на месцы знака націску). Прапушчаны дзеяслоў у латышскім тэксце *uz kādu baltām acīm* (так вынікае з перакладу «сярдзíта (*злосна*) утарóпіцца (*на каго-н.*)», с. 312). Іншыя абдрукі: *чыіаць кнігу* (с. 94), *фіранкуі да т. п.* (с. 21), *глядзець, як баран на новя вароты* (с. 31) і г. д.

Загалоўныя словы суправаджаюцца граматычнай інфармацыяй (пра род, лік, трыванне, кіраванне дзеясловаў і прыназоўнікаў). Даводзіцца, аднак, канстатаваць пэўную непаслядоўнасць у падачы гэтых звестак. Так, у беларуска-латышскай частцы форма Д.-М. адз. назоўнікаў ж. р. суправаджаецца то паметай «Д., М.», то паметай «Д., М. адз.», то даецца без памет, то не даецца (нават пры наяўнасці чаргавання).

Беларуска-латышская частка ўсё-такі адрэдагавана дасведчаным мовазнаўцам з вялікім вопытам лексікаграфічнай работы І. І. Лучыцам-Федарцом, а вось на латышска-беларускай частцы адсутнасць прафесійнага філолага-летаніста адбілася вельмі негатыўна: яна хутчэй нагадвае матэрыялы да слоўніка, як бы надрукаваную картатэку – без належнай рэдактарскай праўкі, з мноствам тэхнічных і нават зместавых памылак. Складваецца ўражанне, што латышскую частку рыхтавалі спецыялісты, маласнаёмыя з латышскай мовай, а карэктары Гінта Порыеце і Лігіта Ліепа паставіліся да сваёй працы без увагі.

Абсалютна незразумела, чаму слоўнік настойвае на нелітаратурных формах Р. адз. слоў *akmens*, *asmens*: *akmeņa*, *asmeņa*. Іншыя словы гэтага тыпу альбо не маюць ніякіх памет пра асаблівасці змянення (*rudens*, *sāls*, *zibens*), альбо маюць няправільную памету *ūdens* (Р. адз. ~*ņu*), і толькі слова *mēness* суправаджаецца ўказаннем на правільны родны склон (які супадае з назоўным). Пры гэтым форма *akmeņa* даецца, напрыклад, і ў артыкуле слова *aizķerties*: «*kāja ~ķērās aiz akmeņa*», але ў самім артыкуле *akmens* пасля ўказання памылковага «Р. адз. ~*ņa*» прыводзіцца прыклад «*a. laikmets*» – з правільным родным склонам...

Няма ніякай патрэбы падаваць родны склон слоў на *-us*: ён адназначна вызначаецца ўжо самой пачатковай формай. А вось у слоў на *-s* ж. р. (традыцыйнае 6-е скланенне) такая памета неабходная – для адрознівання іх ад слоў м. р. (1-га скланення): побач без усякіх памет у слоўніку стаяць *sals* ‘сцю́жа, вялікі маро́з’ (1-е скланенне, Р. адз. *sala*) і *sāls* ‘соль’ (6-е скл., ці 2-е скланенне, Р. адз. *sāls*). Няма патрэбных памет і ў іншых слоў 6-га скланення: *klints*, *ļaudis*, *acs* (але ў *uzacs* Р. адз. пазначаны правільна), *auss* (але ў *nāss* ёсць Р. адз. *nāss*), *balss* (але *debess* у парадку)...

Пры такой непаслядоўнай і няпоўнай граматычнай характарыстыцы назоўнікаў ці варта здзіўляцца, што асноўных формаў дзеяслова слоўнік М. Абалы не прыводзіць зусім (адзінае выключэнне – дзеяслоў *būt* ‘быць’ у латышска-беларускай частцы)? Гэтым працягваецца агульная заганная традыцыя, што сыходзіць да тых часоў, калі латышска-замежныя і беларуска-замежныя слоўнікі ствараліся ў асноўным для латышоў і беларусаў, якія засвойвалі замежную мову, а не для іншаземцаў, зацікаўленых у латышскай ці беларускай. Іменнае словазмяненне значна прасцейшае за дзеяслоўнае, – ці не дзіўна прыводзіць формы назоўніка, але не даваць асноўных формаў дзеясловаў?..

Як можна бачыць, слоўнік атрымаўся вельмі аўтарскім, павінен разглядацца як важны помнік лексікаграфіі, як помнік доктару Мірдзе Абале.

Сёння беларуская мова перажывае цяжкі час. Вельмі прыемна, што ў цяперашнюю эпоху экспансіі англійскай, іспанскай, кітайскай культур знайшліся самаадданыя людзі, якія ахвяравалі сілы для работы не над папулярнымі і эканамічна прывабнымі лінгвістычнымі праектамі, а для высакароднай задачы развіцця нашых, родных моў. М. Абала і І. І. Лучыц-Федарэц працавалі над слоўнікам не адзін год, але ў свет ён выйшаў, на жаль, не ў самым лепшым выглядзе, хаця, безумоўна, аблегчыць разуменне беларускіх і латышскіх тэкстаў, а таксама зможа паслужыць базай у далейшым удасканаленні слоўнікаў і размоўнікаў.

Сакрат заклікаў: «Загавары – каб я цябе пабачыў». Раней беларусы і латышы нярэдка былі вымушаны глядзець адзін на аднаго скрозь прызму рускай мовы. Цяпер бачыць суседзяў мы будзем лепш, але да дасягнення поўнай яснасці мае быць зроблена яшчэ шмат.

*А. В. Андронаў (Санкт-Пецярбург), М. В. Супрунчук (Мінск)*

## Літаратура

1. Працы Акадэмічнае Конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. – Менск, 1927. – С. 23–25.

2. Карский, Е. К вопросу о влиянии литовского и латышского языков на белорусское наречие / Е. Карский // Русский филологический вестник. – 1903. – Т. 49, № 1–2. – С. 1–23.

3. Sieben-Sprachen-Wörterbuch: Deutsch-Polnisch-Russisch-Weißruthenisch-Litauisch-Lettisch-Jiddisch. – Leipzig, 1918. – 420 s.

4. Любецкая, К. П. З гісторыі нямецка-беларускай, беларуска-нямецкай лексікаграфіі і тэрмінаграфіі / навук. рэд. Г. Цыхун. – Мінск, 2002. – 131 с.

5. Лаучюте, Ю. А. Словарь балтизмов в славянских языках / АН СССР, Ин-т языкознания. – Л., 1982. – 211 с.

6. Баршчэўскі, Л. П. ЕўраСлоўнік = EuroThesaurus: 28 моў: каля 100 000 адзінак перакладу / Л. П. Баршчэўскі. – Мінск, 2008. – 700 с.

7. Латышская савецкая паэзія: анталогія: у 2 т. / рэдкал.: М. Абала і інш.; уклад. М. Абала, С. Панізнік; прадм. М. Чаклайса; рэд. Р. Барадулін. – Мінск, 1984. – Т. 1. – 254 с.; Т. 2. – 270 с.

8. Аб узнагароджанні М. Э. Абола медалём Францыска Скарыны: Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2 мая 2001 г. № 224 [Электронны дакумент]. – Рэжым доступу: http://www.pravo.by/webnpa/text.asp?RN=P30100224. – Дата доступу: 26.02.2011.

9. Абала, М. Пачатак працы над беларуска-латышскім і латышска-беларускім слоўнікамі / М. Абала // Беларуская мова: шляхі развіцця, кантакты, перспектывы: матэрыялы III Міжнар. кангр. беларусістаў / гал. рэд. Г. А. Цыхун. – Мінск, 2001. С. 261–262 [Беларусіка = Albaruthenica, 19].

## ЖЫВЁЛЬНЫ СВЕТ: ТЭМАТЫЧНЫ СЛОЎНІК / РЭД. А. А. КРЫВІЦКІ, Л. П. КУНЦЭВІЧ. – МІНСК: БЕЛАРУС. НАВУКА, 1999. – 239 с. РАСЛІННЫ СВЕТ: ТЭМАТЫЧНЫ СЛОЎНІК / РЭД. А. А. КРЫВІЦКІ, Л. П. КУНЦЭВІЧ. – МІНСК: БЕЛАРУС. НАВУКА, 2001. – 635 с. ЧАЛАВЕК: ТЭМАТЫЧНЫ СЛОЎНІК / РЭД. А. А. КРЫВІЦКІ, Л. П. КУНЦЭВІЧ. – МІНСК: БЕЛАРУС. НАВУКА, 2006. – 573 с. СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА: ТЭМАТЫЧНЫ СЛОЎНІК / РЭД. В. М. КУРЦОВА, Л. П. КУНЦЭВІЧ. – МІНСК: БЕЛАРУС. НАВУКА, 2010. – 527 с.

Першае дзесяцігоддзе XXI ст. для супрацоўнікаў аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адзначана выдатным дасягненнем: у 2010 г. выдавецтва «Беларуская навука» завяршыла выданне серыі тэматычных слоўнікаў беларускай народна-дыялектнай мовы пад агульнай назвай «Беларуская народная тэрміналогія і наменклатура». Серыя складаецца з чатырох выпускаў, якія паасобна ўяляюць сабой завершаныя лексікаграфічныя працы: «Жывёльны свет» (1999), «Раслінны свет» (2001), «Чалавек» (2006), «Сельская гаспадарка» (2010). У рабоце над слоўнікамі прынялі ўдзел усе акадэмічныя дыялектолагі: А. А. Крывіцкі, Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцова, Ф. Д. Клімчук, Т. М. Трухан, А. І. Шаблоўскі, В. Д. Астрэйка, М. А. Ісачанкава, Н. В. Сівіцкая, Н. М. Бунько, А. У. Ксяндзова, Ю. В. Маліцкі. Навуковымі рэдактарамі серыі выступілі А. А. Крывіцкі, Л. П. Кунцэвіч і В. М. Курцова.

Серыя тэматычных слоўнікаў стала першай і вельмі значнай працай у рэалізацыі задумы па комплексным вывучэнні лексікі беларускіх народных гаворак. Актуальнасць такога даследавання ў беларускім мовазнаўстве наспявала паступова, па меры фіксацыі, накаплення і ўпарадкавання інфармацыі аб слоўнікавым складзе і распаўсюджанні лексікі беларускай народна-дыялектнай мовы, народнай фразеалогіі, па меры аналітычнага вывучэння лінгвагеаграфіі і паходжання паасобных прадметна-тэматычных груп гэтай лексікі.

Слоўнікі серыі «Беларуская народная тэрміналогія і наменклатура», у якіх аўтары імкнуліся ўлічыць па магчымасці ўвесь назапашаны лексічны матэрыял, вызначаюцца шырынёй і паўнатой яго ахопу. У даследаванні акумуляваны даныя такіх фундаментальных выданняў, як «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963) і «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак» у пяці тамах (1993–1998), матэрыялы для Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа (архіў па населеных пунктах Беларусі сеткі атласа), лексіка «Слоўніка беларускай мовы» І. І. Насовіча (перавыд. 1983 г.) і «Смоленского обласного словаря» У. М. Дабравольскага (1914), дыялектных

слоўнікаў (М. І. Каспяровіча, М. В. Шатэрніка, І. К. Бялькевіча, П. А. Растаргуева, А. Варлыгі, Ф. М. Янкоўскага, Г. Ф. Юрчанкі, П. У. Сцяцко, Т. Ф. Сцяшковіч, А. П. Цыхуна, Л. Ф. Шаталавай, Т. С. Янковай, М. А. Жыдовіч, Е. С. Мяцельскай і іншых), у тым ліку двух грунтоўных акадэмічных слоўнікаў народна-дыялектнай лексікі – «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» і «Тураўскага слоўніка», дыялекталагічных зборнікаў XX ст., матэрыялы апытання носьбітаў народных гаворак падчас спецыяльных экспедыцыйных выездаў, матэрыялы беларуска-рускага слоўніка Я. Станкевіча (1990). Выкарыстаны пры складанні слоўнікаў таксама некаторыя зборы фальклору і этнаграфічныя працы XIX – першай трэці XX ст. Пры рабоце над серыяй тэматычных слоўнікаў аўтарамі была ўлічана навуковая інфармацыя з даследаванняў па прыродазнаўчых і сацыяльна-гуманітарных навуках, што значна павялічвае навуковую вартасць працы, аб’ектыўнасць звестак, змешчаных у рэцэнзуемым выданні.

Слоўнік «Жывёльны свет» (1999) змяшчае лексіку, якая абазначае традыцыйныя паняцці і ўяўленні беларусаў, звязаныя з жывёламі. У слоўніку «Раслінны свет» (2001) змешчаны мясцовыя назвы раслін і грыбоў, а таксама лексіка, якая характарызуе іх жыццядзейнасць. Вялікі па аб’ёме слоўнік «Чалавек» (2006) ахоплівае назвы чалавека паводле сацыяльнага становішча, роду заняткаў, фізічных і псіхалагічных характарыстык, паводзін. У слоўнік уключана таксама эмацыянальна-экспрэсіўная і ацэначная лексіка. Урэшце, слоўнік «Сельская гаспадарка» складае лексіка, звязаная з традыцыйнай сельскагаспадарчай дзейнасцю беларуса-селяніна: апрацоўкай зямлі, доглядам пасеваў, зборам і захаваннем ураджаю. Слоўнік уключае найменні зямельных участкаў, палеткаў, прылад працы і падручных сродкаў, назвы гаспадарчых пабудоў і іх частак, намінацыі асноўных сродкаў перамяшчэння (воз, сані) і збруі, народных мераў вагі і вымярэння, лексіку з’яў нежывой прыроды.

Лексічны матэрыял у слоўніках падаецца па тэмах. У аснову тэматычнага падзелу лексікі пры гэтым пакладзены або традыцыйныя народныя ўяўленні аб той ці іншай сферы рэчаіснасці і дзейнасці чалавека (пераважна ў 1-й ч. сл. «Жывёльны свет», «Раслінны свет», «Сельская гаспадарка»), або навуковыя сістэматызаваныя веды (ва ўсіх слоўніках). Паколькі традыцыйнае народнае ўсведамленне рэчаіснасці не заўсёды ўтрымлівае ў сабе сістэматызаваную, завершаную канцэпцыю апошняй ва ўсіх яе складніках, то такі падыход да класіфікацыі лексічнага матэрыялу цалкам апраўданы, паколькі дазваляе сумясціць народны досвед і строгую навуковую карціну свету.

У тэматычных падборках слоўнікавыя артыкулы размешчаны ў алфавітным парадку па загалоўным слове. Загалоўным з’яўляецца слова літаратурнай мовы, што выступае ў якасці наймення адпаведнага ўтвараючага паняцця. Толькі пры адсутнасці адпаведнага паняццю літаратурнага слова

ў якасці загалоўнага выкарыстоўваецца «найбольш пашыранае ў мясцовым ужыванні рэгіянальнае слова»[*].

Слоўнікавыя артыкулы арганізаваны па прынцыпе анамасіялагічных комплексаў. Іх утвараюць словы або спалучэнні слоў з розных арэалаў беларускай народна-дыялектнай мовы, якія з'яўляюцца тоеснымі або блізкімі па значэнні слову загалоўнаму.

Словы ў артыкулах працы ўпарадкаваны не па алфавіце, а з улікам іх пашырэння ў гаворках беларускай мовы: ад агульнапашыраных – да лексем ці іх варыянтаў адзінкавай фіксацыі, а таксама з улікам утваральнай сувязі слоў па корані (гл. у артыкуле **Хлеў** 'памяшканне для жывёлы і хатніх птушак': *хлеў – хлевушок – хлеўчык – хляўчучок – хлявец – хляўчак – хляўчук – хлявок – закутак – закута – закутка – сарай – сарайчык – стадол* і г. д.[**]). У многіх слоўнікавых артыкулах, па неабходнасці, да таго ж вылучаюцца дадатковыя анамасіялагічныя групоўкі слоў з адрозненнем па значэнні ад загалоўнага ці вылучаюцца асобныя словы з адценнямі значэння. Так, у артыкуле **Жанчына** 'асоба, па полу супрацьлеглая мужчыну', акрамя асноўнай, вылучаны наступныя анамасіялагічныя групоўкі: «Ласкавыя звароты да жанчыны», «Дзяўчына», «Маладзіца», «Пажылая ці старая жанчына, бабка»[***].

У слоўніку не адлюстроўваюцца рэгулярныя змяненні слоў (напр., аканне, уканне і інш.) – «мясцовыя словы падаюцца ва ўніфікаваным абагульненым выглядзе ў літаратурным беларускім вымаўленні і арфаграфічным запісе»[****]. Разам з тым нерэгулярныя, г. зн. неўласцівыя для дадзенай тэрыторыі пашырэння, змяненні слоў, а таксама індывідуальныя і непаслядоўныя фанетычныя асаблівасці мясцовай лексікі захоўваюцца.

Прыняты парадак арганізацыі артыкулаў забяспечвае, з аднаго боку, строгую навуковасць і кампактнасць размяшчэння слоў, што для любога слоўніка немалаважна, а з другога, самае галоўнае, – падобная згрупаваная панарамна-выверaная падача матэрыялу робіць лексічны матэрыял больш бачным, асягальным для яго наступнага даследчыка. Гэта цалкам адпавядае задуме комплекснага, усебаковага вывучэння слоўнікавага складу народна-дыялектнай мовы, у кантэксце якой і ажыццяўлялася навуковая праца над выданнем.

Варта адзначыць, наогул, што ўсе чатыры тэматычныя слоўнікі серыі «Беларуская народная тэрміналогія і наменклатура» вызначаюцца падрабязнасцю, дэталёвасцю. Гэта выяўляецца не толькі ў змястоўным плане, паўнаце, усебаковасці ахопленага матэрыялу, але і ў яго атрыбуцыі. Анамасіялагічныя падгрупы лексікі ў слоўнікавых артыкулах падаюцца з дадатковым тлумачэннем адцення лексічнага значэння; неабходнымі лексіка-

[*] Жывёльны свет: тэматычны слоўнік. – С. 7.
[**] Сельская гаспадарка: тэматычны слоўнік. – С. 236–239.
[***] Чалавек: тэматычны слоўнік. – С. 24–28.
[****] Жывёльны свет: Тэматычны слоўнік. – С. 8.

семантычнымі тлумачэннямі пазначаюцца таксама асобныя адметныя словы ці спалучэнні слоў. Кожнае слова ў артыкуле суправаджаецца акцэнтнымі, граматычнымі паметамі (род, прыналежнасць да часціны мовы), указаннем тэрыторыі і характару пашырэння, у дужках скарочана называецца інфармацыйная крыніца (слоўнік або іншая крыніца рэгістрацыі). Так, у артыкуле **Трава** ‘расліна з аднагадовымі зялёнымі неадзеравянелымі парасткамі і сцяблом’ у анамасіялагічнай падгрупе «Дрэнная трава, бадылле» лексіка-семантычныя, а таксама іншыя заўвагі маюць наступныя словы і спалучэнні слоў: *аржы́шча* н. ‘з іржышча’ – Смарг. (СПЗБ), *ві́ша* ж. ‘няскошаная да марозаў’ – Слуцк. (Н. сл-сць), *ві́ша* ж. ‘высахлая на корані’ – Слуцк. (З нар. сл.), *не́кась* ж. ‘позняя, асенняя’ – Мядз. (НС), *па́рыніна* ж. ‘на папары’ – Мсцісл. (Юрчанка), *разака́* ж. ‘асака’ – Гродз. (ЖНС), *мяку́ха* ж. ‘мяккая’ – Ушацк. (НЛ), *байда́к* м. ‘застарэлая’ – Мёр. (ЖС), *паплаву́шка* ж. ‘лісты плаваюць паверху’ – Драг. (ЖНшС), *рабая́ трава́* ‘шаўковая’ – Навагр. (ЖНС), *ко́ская* прым. ‘добра косіцца’ – Жлоб. (Н. сл-сць), *жа́рый* прым. ‘з чырванаватым адценнем’ – Кам. (ЖНшС), *асукава́ты* прым. ‘падобны на асаку’ – Круп. (НС), *папа́рні* прым. ‘папарны’ – Валож. (ЖС)*.

Значнымі дапаможнікамі ў рабоце са слоўнікамі з’яўляюцца змешчаныя ў канцы кожнага выпуска алфавітныя індэксы. Пры слове ў такім паказальніку пазначана старонка, на якой можна яго адшукаць у той ці іншай тэматычнай групе лексікі.

Такім чынам, серыю тэматычных слоўнікаў пад агульнай назвай «Беларуская народная тэрміналогія і наменклатура» трэба разглядаць як цэласнае навуковае даследаванне лексікі беларускіх народных гаворак. ***У беларускім мовазнаўстве ўпершыню ажыццёўлена комплекснае вывучэнне народнай тэрміналогіі і наменклатуры, якая звязана з матэрыяльнай і духоўнай культурай, традыцыйнымі заняткамі насельніцтва***.

Звяртае на сябе ўвагу ***грунтоўная, прапрацаваная навуковая канцэпцыя серыі слоўнікаў***. Тэматычныя слоўнікі, будучы комплексным абагульненнем лексічнага складу беларускай народна-дыялектнай мовы, па задуме аўтараў, заяўленай у Прадмове да першага слоўніка «Жывёльны свет» (1999), павінны стаць прыступкай да складання зводнага слоўніка беларускіх народных гаворак, але, адначасова, і гатовай часткай гэтага слоўніка. Аўтары Прадмовы А. А. Крывіцкі і Л. П. Кунцэвіч указваюць, што ў кантэксце рэалізацыі актуальнай для сучаснай дыялектнай лексікаграфіі задачы абагульнення назапашаных звестак і матэрыялаў па лексіцы беларускіх народных гаворак і стварэнні зводнага слоўніка як поўнага слоўніка народна-дыялектнай мовы, даведніка аб слове, які б садзейнічаў распрацоўцы этымалогіі лексікі беларускай мовы, служыў для развіцця і нарматыўнага ўпарадкавання слоўнікавага складу літаратурнай мовы, «не менш важнай практычнай задачай» дыялектнай лексікаграфіі з’яўляецца і стварэнне тэматычных лексічных даведнікаў, «таму што пры даследаванні прадметна-

* Сельская гаспадарка: тэматычны слоўнік. – С. 167.

тэматычных фрагментаў слоўніка гаворак ды і паасобных яго лексіка-семантычных структур, а таксама пры распрацоўцы тэрміналогіі і наогул пры карыстанні рэгіянальнай лексікай у маўленні галоўным практычным клопатам з'яўляюцца пошукі адпаведнага слова або слоў»; у дыялектнай лексікаграфіі гэта можа быць забяспечана праз складанне тэматычных слоўнікаў як даведнікаў па народнай тэрміналогіі, сінаніміі і інш.*

У выніку задума аўтараў аказалася не толькі выкананай, але і перавыкананай, паколькі рэцэнзуемае выданне ўяўляе сабой не проста лексічны даведнік, а значнае аналітычна-сінтэтычнае лексікаграфічна-лексікалагічнае даследаванне, у якім тэматычныя пласты слоўнікавага складу беларускай народна-дыялектнай мовы вывучаюцца як бы на апярэджанне, яшчэ да з'яўлення зводнага слоўніка гаворак.

Змешчаны ў серыі тэматычных слоўнікаў беларускай народна-дыялектнай мовы матэрыял прадстаўляе цікавасць не толькі для мовазнаўцаў. Ён ***можа быць выкарыстаны ў народазнаўчых даследаваннях, у вывучэнні сучасных праблем прыродазнаўчых, філасофскіх і сацыяльна-гуманітарных навук*** (сацыялогіі, паліталогіі, рэлігіязнаўства, культуралогіі). Назва таго ці іншага паняцця або ўяўлення, як вядома, утрымлівае ў сабе адначасова характарыстыку гэтага паняцця, уяўлення.

У рэцэнзуемых тэматычных слоўніках адлюстраваны слоўныя рэаліі па сутнасці з усіх сфер традыцыйнай жыццядзейнасці беларусаў, выяўлены свет чалавека, жывёльны і раслінны свет, на ўзроўні лексікі праілюстраваны асноўныя заняткі земляроба, сельскагаспадарчыя клопаты, уяўленні аб стане прыроды. ***Па ідэйна-канцэптуальных паказчыках, паўнаце, дэталёвасці, выпісанасці лексічнага матэрыялу, усебаковасці тэматычныя слоўнікі серыі «Беларуская народная тэрміналогія і наменклатура» прадстаўляюць цэласную карціну светабачання беларускага народа, прэтэндуючы на званне лексічнай энцыклапедыі Беларусі***. Несумненна, гэта грунтоўны, знакавы ўнёсак не толькі ў беларускую навуку, але і ў духоўнае адраджэнне Беларусі.

*У. М. Сівіцкі (Мінск)*

* Жывёльны свет: тэматычны слоўнік. – С. 6.

# ЗМЕСТ

## НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ



## ЭТЫМАЛАГІЧНЫЯ НАТАТКІ



## КУЛЬТУРА МОВЫ

## ХРОНІКА



## РЭЦЭНЗІІ

# *АНАТАЦЫІ*

*УДК 811.161.1'374.822=161.3*

Н і к а л а е в а В. М., Т р у х а н Т. М. **Двухмоўная лексікаграфія: праблемы складання руска-беларускіх слоўнікаў** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

В статье анализируется специфика переводного двуязычного словаря, отмечаются его основные функции и принципы составления. Представлены результаты наблюдений над языковым материалом существующих русско-белорусских словарей; отмечаются типичные семантические ошибки и недочеты современных переводных словарей, формулируются проблемы составления двуязычных лексикографических источников.

Библиогр. – 20 назв.

*УДК 811.161.3'367*

Ш э м е т Т. Я. **Спосабы выражэння параўнальнага і колькаснага значэнняў у сінтаксічных канструкцыях з кампаратывам** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

В статье рассматриваются вариантные способы выражения сравнительного и количественного значений в синтаксических конструкциях с компаративом, которые функционируют в белорусском языке на современном этапе.

Библиогр. – 13 назв.

*УДК 811.161.1'373.45'342.8*

У л а с е в і ч В. І., Д а ў г у л е в і ч Н. М. **Да пытання аб месцы націску ў новых лексемах англа-амерыканскага паходжання** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

Статья посвящена проблеме постановки ударения в новых лексемах англо-американского происхождения в современном белорусском языке.

Библиогр. – 4 назв.

*УДК 811.161.3'374.26:81*

К а н д р а ц е н я І. У., К у н ц э в і ч Л. П., Н і к а л а е в а В. М., Р ы ч к о в а Л. В. **Праблема сістэматызацыі памет у агульнафілалагічных слоўніках для абазначэння спецыяльнай лексікі** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

В статье анализируется система помет специальной лексики в общефилологических словарях. В существующих лексикографических изданиях наблюдается разнобой в подаче специальных помет, которыми сопровождаются термины и профессиональные слова, в связи с чем, по мнению авторов статьи, назрела необходимость в строгой систематизации этих помет в современных словарях белорусского языка.

Библиогр. – 19 назв.

*УДК 811.161.3’367’35*

Б у р а к І. Л. **Пунктуацыйныя варыянты ў сучаснай беларускай мове** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

В статье рассматриваются причины возникновения пунктуационных вариантов в современном белорусском языке. В середине простого предложения и между предикативными частями сложного предложения пунктуационные варианты обусловлены актуальным членением высказывания, актуализацией дополнительных смысловых оттенков между компонентами предложения, наличием некоторых грамматических факторов (место в предложении, количественный состав, развитость, полнота структуры).

Библиогр. – 2 назв.

*УДК 811.161.3’373.611*

К і р д у н А. А. **Матываваная лексіка ў складзе СГ з зыходным тэмпаральным словам** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

Статья посвящена описанию организации мотивированных единиц белорусского языка в составе словообразовательных гнезд, вершинами которых являются темпоральные слова (объектом исследования послужили 106 СГ с исходным именем существительным, 16 СГ с исходным именем прилагательным и 10 СГ с исходным наречием).

Библиогр. – 5 назв.

*УДК 811.161.3:614.8*

Б у н ь к о Н. М. **Спецыяльная лексіка, звязаная з дзейнасцю выратавальнікаў** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

В статье анализируется корпус терминологической лексики, связанной с профессиональной деятельностью специалистов по предупреждению и ликвидации чрезвычайных ситуаций. Рассматриваются особенности структурно-семантической организации, особое внимание уделяется вопросам словообразования и происхождения данной специальной лексики.

Библиогр. – 8 назв.

*УДК 808.26.316.4:9*

М а р о з В. К. **Паказчыкі нарматыўнасці літаратурнай мовы ў помніках беларускага пісьменства** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

В статье освещаются вопросы, касающиеся изучения истории белорусского литературного языка. Сопоставительный анализ летописных языковых фактов с грамматическими показателями, выступающими в памятниках белорусской письменности в качестве нормативных, позволил определить наиболее устойчивые показатели нормативности белорусского литературного языка древнего периода. Предметная область публикации – теоретический аспект освещения проблемы становления языковой нормы на летописном материале.

Библиогр. – 3 назв.

*УДК 811.161.3'373.6*

У ш а к е в і ч А. М. **Да гісторыі і этымалогіі беларускага слова *хохлік* 'нячысцік' //** Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

В статье обобщаются этнографические и лексикографические сведения о мифическом персонаже белорусской народной культуры *хохлике*, а также предлагается новая гипотеза о происхождении его названия. Бел. *хохлік* могло произойти от ст.-бел. **холхло* 'болотистое место' и первоначально значить 'болотный дух, демон' и лишь впоследствии переосмыслиться под влиянием омонимичного гнезда о.-слав. **хохоlъ* 'хохолок, чубчик'.

Библиогр. – 35 назв.

*УДК 811.161.3'367.622'06*

Ш ч а с н а я К. Д. **Дынаміка словазмяняльнай нормы назоўнікаў у сучаснай беларускай мове** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

В статье затрагивается вопрос развития и динамики языковых норм словоизменения существительных, который рассматривается на основании сравнительной характеристики социолингвистической и общественно-политической ситуации в Беларуси на протяжении XX – начала XXI в.

Библиогр. – 11 назв.

*УДК 811.161.3'373.45+811.172'373.45*

Н і к а н ч у к А. М. **Некаторыя заўвагі аб гісторыі і перспектывах вывучэння беларуска-літоўскіх калек** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

В статье дается краткий анализ научных исследований, посвященных изучению балтизмов в белорусском языке. Основное внимание статьи сконцентрировано на одной из специфических проблем балто-славянских отношений – белорусско-литовских кальках. Автор подробно рассматривает работы, в которых предлагаются критерии по определению белорусско-литовских калек, а также заостряет внимание на анализе уже установленных (около 100) новообразований, которые являются результатом тесных языковых взаимоотношений в приграничных районах Беларуси и Литвы.

Библиогр. – 38 назв.

*УДК 811.161.3'373.72+811.111'373.72*

А р ц ё м а в а В. А. **Беларускія і англійскія фразеалагізмы з прасторавым значэннем у параўнальна-супастаўляльным аспекце //** Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

Статья посвящена контрастивному исследованию категории пространства в белорусском и английском литературных фразеологических фондах, где автор выявляет общие, универсальные черты восприятия данной категории, обеспечивающие понимание между представителями разных лингвокультур, а на их фоне – национально-специфические особенности, которые подчеркивают уникальность пространственных представлений каждого этноса. В перспективе результаты компаративного исследо-

вания категории пространства на материале белорусско-английской фразеологии предоставят важный материал для понимания механизмов образного освоения пространства и выявления тех механизмов, которые лежат в основе ее категоризации и вербализации.

Библиогр. – 21 назв.

*УДК 81:008+81'23+81'27*

Я ч н а я Т. А. **Аналіз асацыятыўнага поля '*маральныя каштоўнасці*' як інструмент даследавання моўнай свядомасці** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

В статье анализируется ядро ассоциативного поля словосочетания '*маральныя каштоўнасці*', построенного в результате цепочечного ассоциативного эксперимента, проведенного среди носителей белорусского языка в трех возрастных группах. Автор прослеживает изменения структуры ассоциативного поля и динамику развития психологически-реального значения исследуемого словосочетания в синхронии. Путем компонентного анализа выделяется интегральная денотативная сема (архисема) всех самых частотных реакций, которая позволяет отнести полученные реакции к лексике морально-нравственного содержания.

Библиогр. – 10 назв.

*УДК 811.161.3'342.42*

М а н д з і к В. А. **Фанетычная вырыянтнасць у галіне кансанантызму (на прыкладзе маўлення дыктараў і карэспандэнтаў Беларускага радыё)** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

Статья посвящена проблеме фонетической вариантности в области консонантизма, которая рассматривается на примере произношения дикторов и корреспондентов белорусского радио. Анализируются комбинаторные изменения согласных звуков, в частности, ассимилятивные явления и произношение отдельных сочетаний согласных. Выявлены закономерности в функционировании орфоэпических вариантов, указаны факторы, влияющие на их возникновение. Это прежде всего уровень подготовки профессиональных дикторов и корреспондентов, обновления лексического состава, усвоения заимствований, динамики фонетических и грамматических норм.

Библиогр. – 13 назв.

*УДК 801.3*

Л а ў р ы н о в і ч Н. В. **Сінанімія і варыянтнасць у сістэме сучаснай беларускай заалагічнай тэрміналогіі** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

В статье рассматриваются такие явления, как синонимия, дублетность и вариантность. На основании анализа взглядов разных исследователей относительно проявления синонимии в терминологии и характера семантических отношений между зоологическими терминами обосновывается закономерность выделения среди терминов-синонимов, терминов-дублетов и вариантов.

Библиогр. – 15 назв.

*УДК 811.161.3'373.2*

Ж ы ш к е в і ч А. І. **Найменні грыбоў і ягад на картах атласаў і ў літаратурнай мове** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

В статье рассматривается вопрос территориального распространения наименований грибов и ягод на картах лингвистических атласов, а также анализируется закрепление соответствующих наименований в качестве литературной формы.

Библиогр. – 12 назв.

*УДК 811.161.3:398.23(=161.3)*

Ф а м і ч о в а Н. В. **Моўныя сродкі выражэння камічнага ў беларускім гумарыстычным фальклоры** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

В статье рассматриваются языковые средства выражения комического в белорусском сельском фольклоре: омонимия, полисемия, парономазия, а также неспецифические средства, чей характер определяется особенностями фольклорного дискурса. Произведен сравнительный анализ юмористического фольклорного текста начала XX в. и современного анекдота. Особое внимание уделено роли метафоры в комическом тексте.

Библиогр. – 9 назв.

*УДК 811.161.3'36+811.161.3'37*

А р х і п а в а Н. К. **Асабовыя адсубстантыўныя назвы са значэннем 'жыхар' у сучаснай беларускай мове** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 67.

В статье на лексическом материале рассматриваются семантическая классификация и грамматические словообразовательные модели отсубстантивных названий лица со значением 'житель' в современном белорусском языке. Прослеживается частотность конкретных средств словообразования, в связи с чем обосновывается их продуктивность/непродуктивность.

Библиогр. – 8 назв.

